**С. В. Марозава     У. А. Сосна     С. В. Паноў**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## Канец XVIII – пачатак XX ст.

**Вучэбны дапаможнік для 9 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання**

Пад рэдакцыяй У. А. Сосны

2-е выданне, дапоўненае і перагледжанае

*Дапушчана Міністэрствам адукацыі
Рэспублікі Беларусь*

Мінск
«Выдавецкі цэнтр БДУ»
2011

УДК 94(476)”17/19”(075.3=161.3)
ББК 63.3(4Беи)5я721
М28

Рэцэнзенты:
кафедра гісторыі Беларусі ўстановы адукацыі
«Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава»
(кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры *В. У. Акуневіч*);
метадыст вышэйшай катэгорыі грамадска-гуманітарнага аддзела
дзяржаўнай установы адукацыі
«Мінскі гарадскі інстытут развіцця адукацыі» *Л. У. Жэрка*;
настаўнік гісторыі і грамадазнаўства вышэйшай катэгорыі
дзяржаўнай установы адукацыі
«Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 160 г. Мінска» *Т. Г. Яшчанка*

Рэцэнзенты
ад Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў
у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы:
кандыдат гістарычных навук, прафесар кафедры гісторыі Беларусі
ўстановы адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт
імя Янкі Купалы» *І. П. Крэнь*;
кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры
ўсходнеславянскай і расійскай гісторыі ўстановы адукацыі
«Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова» *А. А. Вараб’ёў*

**ISBN 978-985-476-914-1**

## Уступнае слова

У 9-м класе вы прыступаеце да вывучэння новага перыяду ў гісторыі Беларусі: ад падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст. да Першай сусветнай вайны ў пачатку XX ст. У гэты час нашы землі ўваходзілі ў склад Расійскай імперыі, у іх адбываўся пераход ад феадальных да буржуазных (капіталістычных) адносін, праходзілі паўстанні і рэвалюцыі, грымелі баявыя дзеянні вайны 1812 г. і Першай сусветнай вайны. Ва ўмовах польскага і расійскага ўплываў ішоў працэс фарміравання беларускай нацыі, выспявалі і афармляліся беларуская нацыянальная ідэя, культурны і палітычны рух.

У пачатку XX ст., характарызуючы гістарычны лёс Радзімы, класікі нашай літаратуры пісалі:

*Брацце мае, беларусы!*
*У той кнізе людскіх спраў*
*Сам лёс, мусіць, для спакусы*
*Гэты край нам адзначаў.*
*Тут схадзіліся плямёны*
*Спрэчкі сілаю канчаць,*
*Каб багата адароны*
*Мілы край наш зваяваць,*
*А нас цяжка ў сэрца раніць,*
*Пад прыгон узяць навек,*
*Нашы скарбы апаганіць,*
*Душу вынесці на здзек,*
*Каб у віры той ашукі*
*Знішчыць нашы ўсе сляды,*
*Каб не ведалі і ўнукі,*
*Хто такія іх дзяды.*
***Якуб Колас***

*Ад прадзедаў спакон вякоў*
*Мне засталася спадчына;*
*Паміж сваіх і чужакоў*
*Яна мне ласкай матчынай...*
***Янка Купала***

Будзем жа спасцігаць урокі нашай мінуўшчыны, авалодваць багатай спадчынай продкаў, каб годна працягваць іх справу ў наш час.

## Як працаваць з вучэбным дапаможнікам

Вучэбны дапаможнік складаецца з двух раздзелаў: першы прысвечаны працэсам і падзеям канца XVIII — сярэдзіны XIX ст., а наступны — другой паловы XIX — пачатку XX ст. Кожны раздзел пачынаецца ўводным параграфам, які ўяўляе сабой кароткую агульную характарыстыку вывучаемага гістарычнага перыяду. Такая характарыстыка адкрываецца рубрыкай «Стужка часу». Яна дае магчымасць першапачаткова азнаёміцца з асноўнымі вывучаемымі гістарычнымі падзеямі, а таксама іх датамі, якія абазначаны ў дадзенай рубрыцы **тлустым шрыфтам** і з’яўляюцца абавязковымі для запамінання. У тэксце ўводнага параграфа падаецца табліца, якая сцісла паказвае асноўныя кірункі развіцця беларускага грамадства. Пры далейшым вывучэнні матэрыялу варта суадносіць канкрэтныя факты з табліцай і вызначаць, які кірунак развіцця беларускага грамадства адлюстроўвае тая ці іншая падзея.

Кожны параграф пачынаецца з фармулёўкі «Вучэбнай задачы», якую трэба выканаць у ходзе засваення яго зместу. А рубрыка «Успомніце» ў пачатку кожнага параграфа паслужыць своеасаблівым «мастком» паміж ужо засвоеным (пройдзеным) і новым вучэбным матэрыялам.

У канцы параграфаў размешчана рубрыка «Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць». Яна змяшчае як паняцці і тэрміны, якія вывучаліся раней па сусветнай гісторыі і гісторыі Беларусі, так і новыя для вас, што абазначаны *курсівам*. Тлумачэнне новых паняццяў першапачаткова даецца непасрэдна ў параграфе, а потым у «Гістарычным слоўніку» ў канцы вучэбнага дапаможніка.

Пасля кожнага параграфа таксама размешчаны пытанні і заданні, неабходныя для самакантролю і замацавання зместу вывучаемага вамі матэрыялу.

У параграфах вы сустрэнеце рубрыкі, якія прадстаўляюць розныя крыніцы ведаў аб нашым мінулым. Рубрыка «Галасы мінулага» — гэта сведчанні відавочцаў, успаміны, пісьмы, мастацкія творы. У рубрыцы «Радком гістарычнага дакумента» прыведзены тэксты афіцыйных і іншых гістарычных дакументаў.

Кожны раздзел вучэбнага дапаможніка завяршаецца ўрокам абагульнення. У ім характарызуюцца асноўныя кірункі развіцця беларускага грамадства ў пэўны перыяд часу. У канцы такога ўрока размешчана рубрыка «Паняцці і тэрміны, якім трэба даць вызначэнне». Праца з пытаннямі і заданнямі да ўрока абагульнення прадугледжвае выкарыстанне пэўных спосабаў дзейнасці. Вам спатрэбяцца ўменні вызначаць у тэксце ключавыя словы, параўноўваць гістарычныя падзеі і раскрываць прычынна-выніковыя сувязі паміж імі, вызначаць ролю гістарычнай асобы, праводзіць доказ, працаваць з гістарычнай ілюстрацыяй, якая ўяўляе сабой загадкавую карцінку. Дапамогуць вам у гэтай справе памяткі, змешчаныя ў раздзеле «Метадычныя парады».

У канцы XVIII — пачатку XX ст. на тэрыторыі Беларусі праводзіліся новыя адміністрацыйныя падзелы, пракладваліся чыгункі, адбываліся баявыя дзеянні. Арыентавацца ў гістарычнай прасторы вам дапамогуць карты на форзацах вучэбнага дапаможніка і картасхемы ў параграфах. Абавязкова знайдзіце на карце месца вашага жыхарства і вызначце становішча свайго краю ў той ці іншы час. Выкарыстоўвайце таксама адпаведны атлас па гісторыі Беларусі.

Гістарычныя даты, абавязковыя для запамінання, першапачаткова прыводзяцца ў агульнай характарыстыцы да кожнага з раздзелаў (у рубрыцы «Стужка часу»), а потым у храналагічнай табліцы ў канцы дапаможніка. Каб суаднесці падзеі ў Беларусі з тымі, якія адбываліся ў іншых краінах, варта карыстацца сінхранічнай табліцай у канцы вучэбнага дапаможніка. Прозвішчы гістарычных дзеячаў і прадстаўнікоў беларускай навукі і культуры, якія трэба запомніць, вылучаны ***асаблівым шрыфтам***.

У дадатковых матэрыялах да параграфаў у рубрыцы «Культурна-гістарычнае асяроддзе» асвятляецца спадчына нашых продкаў, што аднаўляецца ці выкарыстоўваецца сёння. Спасылка на дадатковы матэрыял абазначаецца ў тэксце параграфа дзвюма зорачкамі (**).

У шэрагу параграфаў размешчаны асобныя заданні да ўрока «Наш край», а комплекс такіх заданняў знаходзіцца ў канцы дапаможніка. Гэты ўрок прызначаны для правядзення краязнаўчай работы і прадугледжвае праектную дзейнасць.

Каб глыбей азнаёміцца з гістарычнымі падзеямі і іх удзельнікамі, раім звярнуцца да спіса рэкамендаванай мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры, які змешчаны ў канцы вучэбнага дапаможніка. Ён таксама спатрэбіцца вам пры падрыхтоўцы паведамленняў.

**Умоўныя абазначэнні:**


**галасы мінулага** — сведчанні відавочцаў, успаміны, пісьмы, мастацкія творы;


**радком гістарычнага дакумента** — тэксты афіцыйных і іншых гістарычных дакументаў.

# Раздзел I
# БЕЛАРУСЬ НА ЗЫХОДЗЕ ФЕАДАЛІЗМУ: КАНЕЦ XVIII — СЯРЭДЗІНА XIX ст.

## § 1. СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У КАНЦЫ XVIII — СЯРЭДЗІНЕ XIX ст. АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

**Стужка часу**

| | |
|---|---|
| **1772, 1793, 1795 гг.** | Уключэнне беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі. |
| **1794 г.** | Устанаўленне мяжы яўрэйскай аселасці. |
| **1803 г.** | Рэарганізацыя Галоўнай Віленскай школы ва ўніверсітэт. |
| **1812 г.** | Вайна напалеонаўскай Францыі супраць Расійскай імперыі. |
| **1820-я гг.** | Будаўніцтва першых фабрык на тэрыторыі Беларусі. |
| **1830—1831 гг.** | Паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі. |
| **1831 г.** | Адмена дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага ў Віцебскай і Магілёўскай губернях. |
| **1832 г.** | Закрыццё Віленскага ўніверсітэта. |
| **1839 г.** | Полацкі царкоўны сабор і далучэнне ўніятаў да Рускай праваслаўнай царквы. |
| **1840 г.** | Адмена дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага ў Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губернях. |
| **1840—1857 гг.** | Рэформа П. Д. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы. |
| **1844—1857 гг.** | Правядзенне інвентарнай рэформы ў памешчыцкай вёсцы. |

***Успомніце.*** Калі адбыліся падзелы Рэчы Паспалітай і як склаўся лёс беларускіх зямель, якія ўваходзілі ў яе склад?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць асноўныя кірункі палітыкі самадзяржаўя на беларускіх землях у канцы XVIII — сярэдзіне XIX ст.

**Пачатак новага перыяду ў гісторыі Беларусі.** У 1795 г. адбыўся трэці, апошні падзел Рэчы Паспалітай. У выніку яна як самастойная дзяржава знікла з палітычнай карты Еўропы. Беларускія землі з больш чым трохмільённым насельніцтвам апынуліся ў складзе Расійскай дзяржавы. Гэта падзея стала лёсавырашальнай для Беларусі. Распачаўся новы перыяд у гісторыі

ўсходнеславянскіх народаў — беларускага, украінскага і рускага. Узніклі новыя ўмовы для фарміравання беларускага этнасу, развіцця эканомікі і культуры Беларусі.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай на беларускія землі паслядоўна распаўсюдзіліся расійскія законы, судова-прававая сістэма, тэрытарыяльны і саслоўны падзелы. Разам з тым самадзяржаўе першапачаткова імкнулася ўлічваць асаблівасці, якія гістарычна склаліся на землях Беларусі, прымала меры па стрымліванні польскага і распаўсюджванні расійскага ўплываў. Расійскія ўлады дапускалі кампрамісы ў сваёй палітыцы на далучаных землях, каб атрымаць лаяльнасць новых падданых імперыі.

**Грамадска-палітычнае становішча ў Беларусі.** Традыцыі шляхецкіх вольнасцей і каталіцкае веравызнанне мясцовай шляхты адрознівалі яе ад расійскага дваранства і прывялі да ўзнікнення супярэчнасцей. Частка шляхты спадзявалася на аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., што стала прычынай паўстання 1830—1831 гг. у Польшчы, Літве і Беларусі. Пасля яго падаўлення царскі ўрад узяў курс на ўзмацненне сваіх пазіцый на беларускіх землях. Гэты курс быў рэалізаваны праз актывізацыю «разбору» шляхты, згодна з якім шляхта выключалася з дваранства і пераводзілася ў стан дзяржаўных сялян або мяшчан. На тэрыторыю Беларусі паступова распаўсюджвалася расійскае заканадаўства.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё беларускіх зямель.** Эканоміка беларускіх зямель на мяжы XVIII—XIX стст. мела выразны аграрны характар. У сельскай гаспадарцы панавала буйное памешчыцкае землеўладанне. Панская зямля знаходзілася ў карыстанні прыгонных сялян, якія выконвалі за гэта шэраг павіннасцей перад памешчыкамі. Прымусовая праца прыгонных сялян прымянялася на мануфактурах — прадпрыемствах, заснаваных на ручной працы і яе падзеле. Мануфактуры ў асноўным размяшчаліся ў сельскай мясцовасці, і вытворчасць на іх была скіравана на перапрацоўку сельскагаспадарчай сыравіны. З узнікненнем першых фабрык, якія належалі мясцовым памешчыкам, у Беларусі пачаўся паступовы пераход ад ручной да машыннай вытворчасці.

Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі адбывалася ў той час, калі там пачынаўся працэс разлажэння феадальна-прыгонніцкай сістэмы і зараджэння новых буржуазных адносін. Нарасталі сялянскія пратэсты супраць прыгону. У заходніх губернях сітуацыя ўскладнялася барацьбой шляхты за аднаўленне Рэчы Паспалітай. У гэтых умовах царскі ўрад пайшоў на рэформы, якія прадугледжвалі змякчэнне прыгнёту сялян. Адной з іх была рэформа П. Д. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы. Вынікам гэтай рэформы з’явіліся адмова ад фальваркова-паншчыннай сістэмы гаспадарання і перавод дзяржаўных

сялян з паншчыны на чынш (грашовы аброк). Аднак памешчыцкія сяляне засталіся прыгоннымі, а памешчыцкая ўласнасць на зямлю захавалася.

**Канфесіянальнае становішча і развіццё культуры ў Беларусі.** На мяжы XVIII—XIX стст. беларускае грамадства было шматканфесіянальным. Мясцовыя магнаты і шляхта ў большасці з'яўляліся прыхільнікамі каталіцкай канфесіі. Памешчыкі, якія атрымалі землі ў Беларусі пасля яе далучэння да Расійскай імперыі, былі праваслаўнымі. Большасць беларускіх сялян належала да ўніяцтва, а частка іх — да праваслаўя. У Расійскай імперыі праваслаўе мела статус дзяржаўнай рэлігіі. Уніятаў у Беларусі паступова далучалі да Рускай праваслаўнай царквы. Царскі ўрад узяў курс на ўзмацненне яе ролі і абмежаванне ўплыву каталіцтва, а ўніяцкая царква з цягам часу была скасавана.

Культура Беларусі развівалася ва ўмовах, калі адмаўляліся самабытнасць і адметнасць беларускага народа. Царскі ўрад лічыў беларускую мову дыялектам рускай мовы. На тэрыторыю Беларусі пачала паступова распаўсюджвацца расійская сістэма адукацыі. За ўдзел студэнтаў у паўстанні 1830—1831 гг. быў закрыты Віленскі ўніверсітэт.

Значным дасягненнем у развіцці культуры Беларусі ў першай палове XIX ст. з'явілася ўзнікненне і станаўленне новага навуковага кірунку — беларусазнаўства. Пачалося вывучэнне гістарычнай, культурнай, канфесійнай, моўнай адметнасці і агульнасці беларусаў, іх узаемаадносін з суседзямі і ролі беларусаў у супольнасці народаў. Беларусазнаўства дазволіла паказаць, што беларусы з'яўляюцца самабытным этнасам, якому ўласцівыя такія прыкметы, як арыгінальная культура, мова, самасвядомасць.

**Асноўныя кірункі палітыкі самадзяржаўя на беларускіх землях у канцы XVIII — сярэдзіне XIX ст.**

| | |
|---|---|
| **Грамадска-палітычнае становішча** | Уваходжанне беларускіх зямель у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай у склад Расійскай імперыі.<br>Падаўленне паўстання 1830—1831 гг. у Польшчы, Літве, Беларусі.<br>Правядзенне «разбору» шляхты.<br>Распаўсюджанне на тэрыторыю Беларусі расійскага заканадаўства |
| **Сацыяльна-эканамічнае становішча** | Захаванне памешчыцкага землеўладання.<br>Перавод дзяржаўных сялян з паншчыны на чынш (рэформа П. Д. Кісялёва).<br>З'яўленне першых фабрык |

| | |
|---|---|
| **Канфесіянальнае становішча** | Аб’яднанне ўніятаў з Рускай праваслаўнай царквой. Абмежаванне ўплыву каталіцкай царквы |
| **Стан культуры** | Распаўсюджанне на тэрыторыю Беларусі расійскай сістэмы адукацыі. Узнікненне беларусазнаўства |

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** дзяржава, саслоўе, мяшчане, шляхта, фальварак, паншчына, фальваркова-паншчынная сістэма гаспадарання, чынш, рэформа, мануфактура, фабрыка, этнас, канфесія.

**Пытанні і заданні**

**1.** У выніку якіх гістарычных падзей беларускія землі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі? **2.** З дапамогай слоўніка дайце азначэнні наступных паняццяў: *паншчына, чынш, мануфактура*. **3.** Вызначце, за што выступала мясцовая шляхта. **4.** Растлумачце, у чым заключалася своеасаблівасць канфесіянальнага становішча ў Беларусі на мяжы XVIII—XIX стст. **5.** Ахарактарызуйце, карыстаючыся табліцай, асноўныя кірункі развіцця беларускіх зямель у канцы XVIII — сярэдзіне XIX ст.

## § 2. ПАЛІТЫКА ЦАРСКАГА ЎРАДА Ў БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVIII — ПАЧАТКУ XIX ст.

***Успомніце.*** Што такое саслоўе?
***Вучэбная задача.*** Вызначыць характар саслоўнай палітыкі царскага ўрада і яго сацыяльна-эканамічных мерапрыемстваў на далучаных тэрыторыях.

**Адміністрацыйна-тэрытарыяльнае ўладкаванне беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі.** Да пачатку XIX ст. беларускія землі былі ўключаны ў склад Расійскай імперыі. Яны былі падзелены на Віцебскую, Магілёўскую, Мінскую, Віленскую і Гродзенскую губерні. Гэтыя губерні былі аб’яднаны ў два генерал-губернатарствы: Літоўскае (Віленская, Гродзенская і Мінская губерні) і Беларускае (Віцебская, Магілёўская і Смаленская губерні). Паводле Тыльзіцкага міру 1807 г. паміж Францыяй і Расіяй да Расіі адышла тэрыторыя Беластоцкай акругі, якая была ўключана затым у склад Гродзенскай губерні.

Першапачаткова царскі ўрад быў вымушаны лічыцца з істотнымі адметнасцямі прававога становішча насельніцтва далучаных зямель. У якасці заканадаўства ў судова-прававой сферы ў беларускіх губернях працягваў дзейнічаць Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. Мясцовыя жыхары мелі магчымасць працаваць у губернска-павятовай адміністрацыі. Але пасады губернатараў (начальнікаў губерняў) і асабліва генерал-губернатараў (царскіх намеснікаў на далучаных землях) займалі толькі чыноўнікі, якія верай і праўдай служылі самадзяржаўю.

**Саслоўная палітыка расійскага ўрада.** У сваёй саслоўнай палітыцы расійскі ўрад імкнуўся перш за ўсё задобрыць шляхту. Для гэтага ёй даваліся правы расійскага дваранства. За шляхтай, пры ўмове прынясення прысягі на вернасць Расіі, захоўваліся маёнткі. Яны ўяўлялі сабой памешчыцкія землеўладанні з жылымі і гаспадарчымі пабудовамі, прадпрыемствамі і сялянамі. Клапоцячыся аб захаванні сваіх уладанняў, дваранства і духавенства ў Беларусі ў большасці сваёй адразу прысягнулі Кацярыне II. Ухіляліся ад прысягі толькі буйныя магнаты, якія мелі зямельныя ўладанні і займалі высокія пасады за мяжой.



Пачуцці жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, асабліва шляхты, былі супярэчлівымі. Кіраўнік маёнткамі графа Храптовіча ў Аршанскім і Лепельскім паветах пісаў: «Нам пагражаюць (адчужэннем) маёнткаў у выпадку непрынясення прысягі на працягу месяца, а ў прысязе сказана, што мы добраахвотна, без прымусу хочам і жадаем знаходзіцца пад уладай Расіі».

Нягледзячы на лаяльныя (паблажлівыя) у цэлым адносіны царскага ўрада да пануючага саслоўя ў Беларусі, у шляхты ўсё ж заставаліся прычыны для незадавальнення. Шляхта былога Вялікага Княства Літоўскага марыла пра аднаўленне страчанай дзяржаўнасці.

**Сацыяльна-эканамічныя змены.** Частка беларускага сялянства пасля падзелаў Рэчы Паспалітай трапіла ва ўласнасць рускага дваранства. На тэрыторыі Беларусі расійская імператрыца Кацярына II і імператар Павел I падаравалі ў прыватнае спадчыннае ўладанне больш за 200 тыс. рэвізскіх (мужчынскіх) душ сялян. Да 15 тыс. душ атрымаў у Крычаўскім старостве фаварыт імператрыцы Р. А. Пацёмкін, амаль 17 тыс. — генерал-фельдмаршал П. А. Румянцаў-Задунайскі ў Гомельскім старостве і Пружанскай воласці Брэсцкай эканоміі, 12 тыс. — буйны чыноўнік С. Г. Зорыч у мястэчку Шклоў (**), да 7 тыс. — генерал-фельдмаршал А. В. Сувораў у Кобрынскай воласці Брэсцкай эканоміі.



З распараджэння Кацярыны II ад 1782 г.: «Мы, Кацярына II... аб'яўляем гэтым, што мы ўсяміласціва падаравалі нашай статс-даме княгіні Кацярыне Дашкавай у вечнае і спадчыннае ўладанне з вёсак у Магілёўскай губерні, што знаходзяцца ў казённым ведамстве, мястэчка Круглае з сёламі і вёскамі, якія прыналежаць да яго і ў якіх паводле ведамасці налічваецца дзве тысячы пяцьсот пяцьдзясят чатыры душы мужаска полу...»

Прававы і маёмасны стан дзяржаўных сялян, якіх перадавалі ў памешчыцкую ўласнасць, пагаршаўся. Новыя ўладальнікі маглі іх прадаць, перасяліць у іншае месца, сяляне не мелі права скардзіцца на паноў, маёмасць іх не была абаронена. Прыгонніцтва ў Беларусі ўзмацнялася і пашыралася.

Царскі ўрад доўга не ўмешваўся ва ўзаемаадносіны сялян з прыватнымі ўладальнікамі, практычна аддаючы апошнім поўныя правы на працу, маёмасць і асобу селяніна. Таму ў нечым нязвыклым і нават сенсацыйным з'явіўся маніфест імператара Паўла I ад 5 красавіка 1797 г. аб трохдзённай паншчыне. Сяляне афіцыйна атрымалі права тры дні на тыдзень працаваць на сваіх памешчыкаў, а тры дні — на сябе і адпачываць у нядзелю. Маніфест, відавочна, быў прыняты пад уплывам масавых сялянскіх хваляванняў 1796—1797 гг., што ахапілі акрамя некаторых расійскіх губерняў і Віцебшчыну. Аднак ён насіў рэкамендацыйны характар і меў малое практычнае значэнне.



Аб адносінах Паўла I да сялян сведчыць яго прадпісанне мінскаму губернатару ад 1797 г.: «...У час, калі я спыніўся дзеля начлегу ў в. Начы, жыхары якой у многім ліку мужаска і жаноча полу, сабраўшыся гуртам і змовою, насуперак законам падавалі мне нейкую паперу ва ўласныя рукі. З чал. з гэтага зборышча я загадаў узяць капітану-спраўніку пад варту і адправіць да суда, а вам прадпісваю адсачыць, каб справа імі неадкладна вырашаная была і вінаватыя на страх іншым пакараныя былі на месцы злачынства».

У Беларусі скасоўвалася магдэбургскае права. На гарады, якія яго мелі, і мястэчкі, прызнаныя цэнтрамі паветаў, пашыралася сістэма расійскага гарадскога кіравання (з пэўнымі формамі самакіравання). Жыхары астатніх мястэчак прыраўноўваліся да сялян і нават раздаваліся прыватным уладальнікам.

Уключэнне Беларусі ў агульнарасійскую гаспадарчую сістэму вызначыла кірункі яе далейшай *гаспадарчай спецыялізацыі* на вытворчасці пэўнай прадукцыі. У хуткім часе ўзніклі новыя палатняныя, парусінавыя, канатныя, суконныя мануфактуры. У Крычаве была заснавана суднаверф, дзе будаваліся лёгкія судны для Чарнаморскага флоту. Павялічваліся пасяўныя плошчы, пераважна пад тэхнічныя культуры. Збыт сельскагаспадарчых прадуктаў пад-



*Крычаўская суднаверф*

трымліваўся адменай пошлін на іх продаж, ліквідаваліся ўнутраныя мытні. Пашыраліся гандлёвыя сувязі з рускімі і ўкраінскімі губернямі, павялічваўся вываз тавараў з Беларусі ў расійскія парты на Балтыйскім моры.

Беларускія сяляне, як і іншыя падатковыя саслоўі, цікавілі ўлады Расійскай імперыі перш за ўсё з пункту гледжання папаўнення даходаў казны. У Беларусі замест раней існаваўшага падатку з кожнага двара быў уведзены падушны падатак

*Мяжа яўрэйскай аселасці*

з кожнай душы мужчынскага полу. Першапачаткова з-за слабай плацежаздольнасці сялян ім некаторы час аказвалі льготы па выплаце падушных грошай. Але неўзабаве насельніцтва беларускіх губерняў было падведзена пад агульны тып падатковага абкладання ва ўсёй імперыі. Больш за тое, дзяржаўныя падаткі збіраліся ў Беларусі да 1811 г. не асігнацыямі (папяровымі грашыма), як гэта было ў рускіх губернях, а манетай, рэальны курс якой быў нашмат вышэйшы.

У беларускіх губернях уводзілася невядомая дагэтуль *рэкруцкая павіннасць.* Асоб мужчынскага полу — прадстаўнікоў сялянскага і мяшчанскага саслоўяў сталі прызываць на 25-гадовую вайсковую службу ў расійскую армію па адным чалавеку ад пэўнай колькасці душ (з канца XVIII ст. — ад 200, з 1820 г. — ад 125 душ мужчынскага полу).

**Абмежавальныя законы ў адносінах да яўрэяў.** Для яўрэйскага насельніцтва ў 1794 г. вызначалася *мяжа яўрэйскай аселасці*, якая ўключала беларускія і частку ўкраінскіх губерняў. На іх тэрыторыі дазвалялася пастаяннае пражыванне асобам яўрэйскай нацыянальнасці. У сувязі з тым, што яўрэі мелі права займацца толькі гандлем і рамёствамі, яны пасяляліся пераважна ў гарадах і мястэчках, дзе ў XIX ст. складалі асноўную масу гарадскога насельніцтва Беларусі. У 1860-я гг. на тэрыторыі пяці беларускіх губерняў пражывала 400 тыс. яўрэяў.

**Ваенныя пасяленні.** Каб перавесці расійскае войска на самазабеспячэнне, граф А. А. Аракчэеў стварыў у 1810 г. на базе Бабылецкага староства Клімавіцкага павета першае *ваеннае пасяленне.* Да жніўня 1818 г. ваенныя пасяленні



*Ваеннае пасяленне.*
*Мастак А. Мараваў*

ўзніклі ў шэрагу губерняў Расійскай імперыі, у тым ліку ў Віцебскай і Магілёўскай. Сялян вымушалі здымацца з абжытых месцаў і перасялялі ў Навարасійскі край, а ў іх мясцовасці размяшчалі салдат пяхотных палкоў. Вёскі разбураліся, а на іх месцы з’яўляліся роўныя, як салдацкі строй, вуліцы з агульнымі аднолькавымі хатамі. У гэтых пасёлках устанаўліваўся рэжым жорсткай вайсковай муштры, дробязная апека над сельскагаспадарчымі работамі і асабістым жыццём насельнікаў. Аднак стварэнне ваенных пасяленняў аказалася неэфектыўным. Салдаты былі не ў стане паспяхова сумяшчаць вайсковую службу з земляробчай працай.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** маёнтак, *гаспадарчая спецыялізацыя, рэкруцкая павіннасць, мяжа яўрэйскай аседласці, ваенныя пасяленні.*



*Помнік С. Г. Зорычу ў Шклове*

### Культурна-гістарычнае асяроддзе

**Па ініцыятыве графа Сямёна Гаўрылавіча Зорыча ў Шклове быў заснаваны прыгонны тэатр, які існаваў у 1778—1800 гг. Ён складаўся з балетнай, драматычнай труп, хору, трох аркестраў. Паказы адбываліся ў спецыяльна ўзведзеным будынку. Артысты балета навучаліся ў балетнай школе пры тэатры і вызначаліся высокім прафесійным майстэрствам. Частка іх у 1800 г. была перададзена ў балетную трупу Пецярбургскіх імператарскіх тэатраў, а некаторым акцёрам даравалі вольную.

У паказах прыгоннага тэатра актыўна ўдзельнічалі навучэнцы шляхетнага вучылішча, заснаванага Зорычам для дзяцей збяднелай шляхты. Тут юнакі з 8-гадовага ўзросту навучаліся і адначасова рыхтаваліся да ваеннай службы на працягу 8 гадоў. Гэта навучальная ўстанова ў 1799 г. атрымала найменне «Шклоўскі кадэцкі корпус» і пад рознымі назвамі праіснавала да 1918 г.

### Пытанні і заданні

**1.** Які адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел быў устаноўлены на беларускіх землях, калі яны ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі? Выкарыстайце карту на першым форзацы дапаможніка ці адпаведную карту ў атласе. **2.** Дайце азначэнні наступных паняццяў: *рэкруцкая павіннасць, мяжа яўрэйскай аседласці, ваенныя пасяленні*. **3.** Растлумачце, чаму царскі ўрад імкнуўся задобрыць шляхту былога Вялікага Княства Літоўскага. **4.** Папрацуйце па метадзе клю-

чавога слова (гл. у раздзеле «Метадычныя парады», с. 193) з тэкстам абзаца, які пачынаецца словамі: «Беларускія сяляне, як і іншыя падатковыя саслоўі...». **5.** Папрацуйце па метадзе загадкавай карцінкі з ілюстрацыяй ваеннага пасялення. Выкарыстайце адпаведную метадычную параду. **6.** З дапамогай картасхемы «Мяжа яўрэйскай аселасці» вызначце, у якіх беларускіх губернях пасяліліся яўрэі і чаму яны складалі асноўную масу гарадскога насельніцтва Беларусі. **7.** Раскрыйце прычынна-выніковую сувязь паміж наступнымі гістарычнымі з'явамі: уключэнне беларускіх зямель у агульнарасійскую гаспадарчую сістэму → вызначэнне гаспадарчай спецыялізацыі Беларусі.

## § 3. БЕЛАРУСЬ У ПЕРЫЯД ВАЙНЫ 1812 г.

***Успомніце.*** **1.** У чым заключаліся мэты напалеонаўскіх войнаў? **2.** Што ўяўляла сабой рэкруцкая павіннасць?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць характар удзелу дваранства і сялянства Беларусі ў вайне 1812 г.

**Сітуацыя ў Беларусі напярэдадні вайны.** Пасля перамогі напалеонаўскай арміі ў франка-пруска-рускай вайне 1806—1807 гг. быў падпісаны Тыльзіцкі мір. Паводле яго ўмоў на тэрыторыі прускай часткі Польшчы было створана Княства (Герцагства) Варшаўскае. Шляхта Беларусі і Літвы разглядала гэта ўтварэнне як першы крок да аднаўлення аб'яднанага з землямі былога Вялікага Княства Літоўскага Каралеўства Польскага.

З мэтай не дапусціць падтрымкі Напалеона памешчыкамі заходніх губерняў расійскі імператар Аляксандр I заявіў аб сваім намеры аднавіць пад кіраваннем Расіі Вялікае Княства Літоўскае. Па даручэнні імператара ў 1811—1812 гг. князь ***Міхал Клеафас Агінскі*** падрыхтаваў некалькі памятных «Запісак» і разам з князем Ф. К. Любецкім, графам Л. Плятэрам распрацаваў праект «Палажэння аб праўленні аўтаномным Вялікім Княствам Літоўскім».



*Міхал Клеафас Агінскі. Мастак Ф. К. Фабр. 1808 г.*



У запісцы М. К. Агінскага, пададзенай Аляксандру I, адзначалася: «Частка Польшчы, далучаная да Расійскай імперыі, складала калісьці асобнае самастойнае валоданне — Літву... Жыхары яго

спрадвеку... клапаціліся пра свае правы і былі верныя сваім манархам, адзначаліся мужнасцю і любоўю да Бацькаўшчыны. Гордыя сваім паходжаннем, ліцвіны... захавалі свае звычаі, свой цывільны кодэкс, мясцовае кіраванне, сваё войска, вярхоўны суд... і нават сойм, які збіраўся па чарзе ў Варшаве і Гародні...

Я перакананы, што калі б з часу далучэння да Расіі забраных польскіх зямель была з іх утворана адна правінцыя, захавана імя Літвы і пакінуты яе даўнія правы, і калі б з яе быў створаны асобны край са сваім кіраўніцтвам, але ў якасці злучанай і ўключанай у склад Расійскай імперыі дзяржавы, то тады іншаземны ўплыў пранікаў бы туды з цяжкасцю».

Гэты праект, які прадугледжваў *аўтаномію* — шырокае ўнутранае самакіраванне, што давалася адноўленаму ВКЛ, атрымаў у гісторыі назву *«план Агінскага»* (**1). Аднак ажыццяўленне плана імператарам Аляксандрам I зацягвалася, і ён так і не быў рэалізаваны.

**Баявыя дзеянні летам 1812 г.** 10 чэрвеня 1812 г. Францыя аб'явіла вайну Расійскай імперыі, а 12 чэрвеня 1812 г. армія Напалеона пераправілася цераз Нёман і ўварвалася ў яе межы. Напалеонаўская «Вялікая армія» была самай буйной і баяздольнай арміяй у свеце. Яна мела ў прыгранічны істотную колькасную перавагу над расійскімі войскамі. Напалеонаўская армія складалася з прадстаўнікоў многіх падпарадкаваных Францыі народаў Еўропы. У ёй было шмат ураджэнцаў Літвы і Беларусі, якія ў 1807—1812 гг. перабраліся ў Варшаўскае герцагства і паступілі на ваенную службу. Напрыклад, князь Дамінік Радзівіл за свой кошт выставіў трохтысячны ўланскі полк, які ўжо 16 чэрвеня першым урачыста ўступіў у Вільню.

Расійскае камандаванне планавала спыніць праціўніка на абарончай лініі, якая стваралася ўздоўж рэк Заходняя Дзвіна — Бярэзіна — Дняпро. Таму тут яшчэ да вайны будаваліся крэпасці і ўмацаванні. 1-я і 2-я расійскія арміі, размешчаныя адпаведна каля Вільні і Ваўкавыска, адступалі ад заходніх граніц Расійскай імперыі з мэтай злучэння. У час адступлення расійскія войскі прымянялі так званую «скіфскую тактыку», ці тактыку «выпаленай зямлі». Яе сутнасць заключалася ў тым, што на тэрыторыях, якія пакідаліся праціўніку, знішчэнню падлягалі ўсе харчовыя і іншыя рэсурсы.

Тэрыторыя Беларусі стала арэнай ваенных дзеянняў. У час адступлення ў чэрвені — ліпені расійскія войскі вялі жорсткія баі пад Кобрынам, Мірам, Салтанаўкай, Астроўнам, Полацкам. Першай значнай перамогай расійскіх войскаў у вайне 1812 г. стала бітва пад Клясціцамі каля Полацка. У ёй вызначыўся генерал-маёр ***Якаў Пятровіч Кульнеў*** — адзін з лепшых кавалерыйскіх генералаў расійскай арміі паводле ацэнкі Напалеона. Яшчэ ў 1809 г. Кульнеў быў прызначаны шэфам Беларускага, а потым Гродзенскага гусарскага пал-




*Вайна 1812 г. на тэрыторыі Беларусі. Нашэсце напалеонаўскай арміі*

ка, які ўваходзіў у склад 1-й рускай арміі пад камандаваннем М. Б. Барклая дэ Толі. Паранены ядром, якое адарвала яму абедзве нагі, генерал сарваў з мундзіра ўсе свае ордэны, каб праціўнік не даведаўся аб такой буйной страце. Апошнім намаганнем генерал завярнуўся ў шынель простага салдата, бо пажадаў памерці як просты радавы вялікай расійскай арміі. У гонар заслуг Кульнева яго імя ў 1900 г. было прысвоена Полацкай настаўніцкай семінарыі, а ў 1909 г. — Клясціцкаму гусарскаму палку, які да 1824 г. называўся Гродзенскім.



*Я. П. Кульнеў*

У ліпені 1812 г. у баях каля вёскі Салтанаўка пад Магілёвам здзейсніў легендарны подзвіг генерал ***Мікалай Мікалаевіч Раеўскі***, корпус якога знаходзіўся ў складзе 2-й рускай арміі пад каман-



*Подзвіг салдат Раеўскага пад Салтанаўкай. Мастак М. Самокіш. 1912 г.*

даваннем П. І. Баграціёна. Калі адзін з рускіх палкоў пачаў адступаць, Раеўскі ўзначаліў штыкавую атаку, чым выратаваў становішча.

Чатырохмесячную аблогу напалеонаўскіх войскаў вытрымаў гарнізон Бабруйскай крэпасці. Тут камандуючы 2-й арміяй П. І. Баграціён пасля жорсткіх баёў з непрыяцелем даў за сценамі крэпасці адпачынак салдатам, пакінуў раненых (**2, 3).

1-я і 2-я расійскія арміі змаглі аб'яднацца толькі пад Смаленскам, адкуль пасля бітвы 4—5 жніўня працягвалі адступаць, зберагаючы асноўныя сілы. У баях пад Смаленскам удзельнічала Надзея Дурава — гераіня вайны 1812 г., першая ў Расіі жанчына-афіцэр. У 1806 г., выдаўшы сябе за хлопца, яна паступіла на вайсковую службу. З 1811 г. служыла ў Літоўскім уланскім палку, размешчаным у Гродне. Удзельнічала ў Барадзінскай бітве. Затым непрацяглы час была ардынарцам М. І. Кутузава, які са жніўня 1812 г. з'яўляўся галоў-



*Адно з умацаванняў Бабруйскай крэпасці. Сучасны выгляд*

накамандуючым Заходнімі арміямі. Пасля яго прызначэння было прынята рашэнне аб генеральнай бітве. Нягледзячы на мужнасць расійскіх войскаў у Барадзінскай бітве, тактычны поспех застаўся на баку Напалеона.

Адным са сродкаў барацьбы расійскага камандавання з напалеонаўскай арміяй стала накіраванне невялічкіх вайсковых атрадаў, якія складаліся з лёгкай кавалерыі, на тэрыторыі, падкантрольныя «Вялікай арміі». Такія атрады захоплівалі палонных, спальвалі харчовыя запасы, ініцыявалі стварэнне атрадаў народнай самаахровы сярод мясцовага насельніцтва.

**Палітыка французскіх улад і ўзаемаадносіны з мясцовым насельніцтвам.** Амаль уся тэрыторыя Беларусі, акрамя паўднёва-ўсходніх паветаў, была захоплена французскімі войскамі і кантралявалася французскім ваенным камандаваннем. Напалеон знайшоў тут прыхільнікаў, якія спадзяваліся на аднаўленне з яго дапамогай Рэчы Паспалітай. Шляхта, магнаты, каталіцкае і ўніяцкае духавенства Літвы і Беларусі ўрачыста віталі напалеонаўскія войскі. Беларускія сяляне мелі пэўныя надзеі, што Напалеон скасуе прыгоннае права, як гэта было зроблена ў Княстве Варшаўскім.

19 чэрвеня 1812 г. у Вільні быў створаны Часовы ўрад Вялікага Княства Літоўскага. Ён складаўся з мясцовай знаці і кантраляваўся французскай адміністрацыяй. Ад гэтага ўрада патрабавалася перш за ўсё забяспечваць усім неабходным і нават папаўняць рэкрутамі «Вялікую армію». Агульнавядома патрабаванне Напалеона, якое ён выказаў літоўскай дэлегацыі ў Вільні: «Хлеба, хлеба і хлеба». Гэта не апраўдвала спадзяванняў мясцовай шляхты адносна палітыкі Напалеона. Частка яе працягвала падтрымліваць расійскага імператара Аляксандра I.

На сялянскае і мяшчанскае саслоўі лёг асноўны цяжар наступстваў баявых дзеянняў і забеспячэння ўсім неабходным ваюючых армій. Усё гэта разам з рашэннем Напалеона захаваць прыгоннае права ў Літве і Беларусі да канца вайны выклікала незадавальненне з боку беларускіх сялян. У такіх умовах сяляне сталі адмаўляцца ад выканання сваіх феадальных павіннасцей. Яны пачалі нападаць на мясцовых памешчыкаў, аказваць супраціўленне камандам нарыхтоўшчыкаў з мэтай абароны сваёй маёмасці.

У асобных паветах Віцебскай губерні ствараліся і атрады народнай самаабароны. Адзін з такіх атрадаў быў створаны жыхарамі вёскі Жарцы ў Полацкім павеце, якая апынулася ў зоне баявых дзеянняў паміж расійскімі і напалеонаўскімі войскамі. Калі ўзнікла пагроза вёсцы, дарослае насельніцтва аб'ядналася ў атрад самаабароны на чале з адстаўным салдатам расійскай арміі Максімам Маркавым. Калі да вёскі падышлі напалеонаўскія войскі, узброеныя жыхары пад камандаваннем данскога казака Льва Грушына ўступілі ў бой, нанеслі французам значныя страты і прымусілі іх павярнуць назад.




*Вайна 1812 г. на тэрыторыі Беларусі. Выгнанне напалеонаўскай арміі*

Потым жыхары Жарцаў уліліся ў шэрагі пецярбургскага і наўгародскага апалчэнняў і ўдзельнічалі ў вызваленні Полацка. Яны былі праваднікамі, разведчыкамі, нападалі на напалеонаўскіх салдат. За гэта 22 чалавекі атрымалі апалчэнскія крыжы на шапкі і былі ўзнагароджаны сярэбранымі медалямі на блакітных стужках «На ўспамін аб вайне 1812 года».



*Сцяг 7-га Палявога гусарскага беларускага імя імператара Аляксандра I палка, які ўдзельнічаў у вайне 1812 г.*

**Выгнанне напалеонаўскай арміі. Вынікі вайны для Беларусі.** У кастрычніку 1812 г. Напалеон пакінуў Маскву і быў вымушаны адступаць па старой, спустошанай Смаленскай дарозе. Адначасова перайшлі ў наступленне расійскія войскі на поўначы і поўдні Беларусі. 14—16 лістапада пры пераправе цераз раку Бярэзіну каля вёскі Студзёнка, на поўнач ад Барысава, Напалеон страціў

больш за 20 тыс. чалавек. Далейшае адступленне яго арміі ператварылася ва ўцёкі.

У перамогу Расіі ў вайне 1812 г. зрабілі ўклад і салдаты-рэкруты з беларускіх губерняў. Некалькі дзясяткаў тысяч іх было ў часцях 1-й арміі, асабліва ў дывізіях, што вызначыліся ў Барадзінскай бітве.

Вайна 1812 г. прынесла вялікія спусташэнні Беларусі. Шмат людзей загінула; былі разбураны многія гарады і вёскі; амаль напалову скарацілася колькасць свойскай жывёлы і зменшыліся пасяўныя плошчы. Толькі добрыя ўраджаі пасляваенных 1813 і 1814 гг. выратавалі народ ад масавага голаду.



У заключэнні Мінскай казённай палаты ад 19 красавіка 1813 г. на прашэнне сялян Дзявошыцкага староства Барысаўскага павета адзначалася: «...Паводле палажэння азначанага староства, на гасцінцы, па якім, праходзячы ў мінулым 1812 г., непрыяцельскія войскі з уласцівай ім схільнасцю да грабяжу ўсе цэлага староства сялян пажыткі пераварочвалі ў сваю карысць, як-то: розную рагатую і нерагатую жывёлу, сала ды іншыя харчовыя прыпасы і нават адзенне пазабіралі, коней пазаганялі, што быў тады на палях розны хлеб стравілі, збілі, вуллі з пчоламі і мёдам павыдзіралі, і што толькі ў каго знайсці маглі, пацягнулі, а сельскія крамы паразбіралі, пасля чаго, калі непрыяцель прагананы быў, то, праходзячы каля таго ж староства... расійская армія... усе рэшткі хлеба і жывёлы... пазабіралі і, такім чынам, сяляне, страціўшы ўсе спосабы для пракармлення сябе, і таму адны ад поўнай нястачы памерлі, а іншыя... паразыходзіліся, так што амаль палавіннай часткі цяпер у наяўнасці няма».

Расійскі ўрад і ў гэтых умовах працягваў захоўваць прыгонніцкія парадкі. У царскім маніфесце ад 30 жніўня 1814 г., у якім у сувязі з заканчэннем вайны даравáліся розныя міласці саслоўям, пра сялян было сказана наступнае: «Сяляне, верны нам народ, няхай атрымаюць узнагароду сваю ад Бога». Сяляне вёскі Жарцы пасля вайны сталі лічыць сябе вольнымі і адмовіліся ісці на паншчыну. Тады мясцовы памешчык пакараў іх розгамі, прыгаворваючы: «Вось вам французы, вось вам вольнасць, вось вам крыж». У 1819 г. царскі ўрад выкупіў жыхароў вёскі Жарцы разам з землямі ў вольныя хлебаробы (57 рэвізскіх душ) з умовай спагнання з іх у казну большай часткі гэтай платы. Але ўсе астатнія сяляне засталіся прыгоннымі.

Што датычыць асоб, якія прынялі бок Напалеона ў гэтай вайне, то Аляксандр I схіляўся «да забыцця мінулых памылак». Маніфестам 12 снежня 1812 г. абвяшчалася дараванне тым, хто вярнуўся з-за мяжы на працягу двух месяцаў. Толькі пасля заканчэння гэтага тэрміну іх маёнткі забіраліся на карысць царскай казны.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *аўтаномія, «план Агінскага».*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** Аўтар «плана Агінскага» — Міхал Клеафас Агінскі ў сваёй сядзібе ў вёсцы Залессе на Смаргоншчыне, дзе ён пражыў з 1802 па 1822 г. (за выключэннем 1812 г.), напісаў знакаміты паланэз ля-мінор, які пазней атрымаў назву «Развітанне з Радзімай». Паланэз у пачатку XIX ст. гучаў на прыдворных балях і музычных вечарынах у многіх краінах і ўрэшце стаў адным з найбольш вядомых прыкладаў еўрапейскай музычнай культуры. Сядзіба М. К. Агінскага атрымала паэтычную назву «Паўночныя Афіны». Сёння сядзібна-паркавы ансамбль «Залессе» аднаўляецца.



*Т. Нарбут*

****2.** У 1810 г. на рацэ Бярэзіне пачалося будаўніцтва Бабруйскай крэпасці. Аўтарам праекта крэпасці быў генерал Карл Іванавіч Оперман. У 2002 г. Бабруйская крэпасць уключана ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. У праектаванні і будаўніцтве крэпасці ўдзельнічаў ураджэнец Лідскага павета, капітан расійскай арміі, ваенны інжынер Тэадор Нарбут, у будучым гісторык і археолаг. Ён першы ў Беларусі даў вызначэнне курганам як месцам старажытных пахаванняў. Даследаваў таксама Лідскі замак. Т. Нарбут — аўтар 9-томнай «Гісторыі літоўскага народа», даследавання гісторыі Вялікага Княства Літоўскага да 1569 г. За гэту працу Т. Нарбут быў узнагароджаны расійскім імператарам Мікалаем I пярсцёнкам з брыльянтам.

****3.** У Бабруйску вайна 1812 г. застала ўраджэнца Віцебскай губерні Карла Андрэевіча Шыльдэра, які кіраваў работамі па ўмацаванні крэпасці. Гэта быў выдатны ваенны інжынер. Яго вынаходніцтвы значна апярэдзілі сучасны яму стан тэхнікі. Ён нават ажыццявіў ідэю другога ўраджэнца Беларусі Казіміра Чарноўскага, які ў 1825—1829 гг. распрацаваў праект падводнага карабля цыліндрычнай формы з металічным корпусам і рухомым перыскопам. У 1834 г. Шыльдэр пабудаваў металічную падводную лодку-ракетаносьбіт, якая апярэдзіла «Наўтылус», што згадваецца ў рамане Жуля Верна «20 тысяч лье пад вадой» пад 1870 г. Шыльдэр упершыню ў свеце выкарыстаў электрычны разрад для запальвання пораху. Гэтае вынаходніцтва выкарыстоўваецца і ў нашы дні пры запуску ракет, калі гучыць каманда «Запальванне». А ў гісторыі Шыльдэр, які стаў інжынер-генералам, атрымаў празванне «ракетнага генерала».

### Пытанні і заданні

**1.** Раскажыце, выкарыстоўваючы картасхемы ў вучэбным дапаможніку ці адпаведную карту ў атласе, аб абарончых і наступальных баях расійскай арміі на тэрыторыі Беларусі ў час вайны 1812 г. **2.** Складзіце ў сшытку параўнальную табліцу «Адносіны да напалеонаўскіх войскаў з боку розных пластоў насельніцтва Беларусі».

| Прыкметы для параўнання | Шляхта і магнаты | Сяляне |
|---|---|---|
| Дзеянні ў адносінах да напалеонаўскіх войскаў | | |

**3.** Папрацуйце па метадзе ключавога слова са зместам запіскі М. К. Агінскага, пададзенай Аляксандру І. **4.** Растлумачце паняцце «аўтаномія», выкарыстанае ў праекце «Палажэння аб праўленні аўтаномным Вялікім Княствам Літоўскім». Вызначце, які палітычны разлік меў М. К. Агінскі. **5.** Вызначце прычыны процідзеяння беларускіх сялян французскім войскам. Пры адказе выкарыстайце заключэнне Мінскай казённай палаты. **6.** Аб чым сведчаць словы памешчыка — уладальніка сялян у вёсцы Жарцы: «Вось вам французы, вось вам вольнасць, вось вам крыж»?

## § 4. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ РУХ У ПЕРШАЙ ТРЭЦІ XIX ст.

***Успомніце.*** У чым заключаецца сутнасць тэорый натуральнага права і грамадскага дагавору?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, што ўяўляла сабой дваранская (шляхецкая) плынь грамадска-палітычнага руху ў Беларусі ў першай трэці XIX ст.

**Стварэнне і дзейнасць тайных арганізацый у Беларусі.** Тэорыя французскіх асветнікаў аб натуральным праве, іх ідэя грамадскага дагавору, падзеі вайны 1812 г. значна паўплывалі на развіццё грамадскай думкі. Для выпрацоўкі і дасягнення сваіх грамадскіх і нацыянальных ідэалаў шляхецкая інтэлігенцыя, вучнёўская моладзь у Беларусі сталі аб'ядноўвацца ў гурткі і таварыствы. Удзельнікі гэтых арганізацый былі звязаны з грамадскім рухам у Польшчы, з перадавымі людзьмі Расіі дзеля барацьбы супраць самадзяржаўя.

У 1817 г. па ініцыятыве студэнтаў Віленскага ўніверсітэта Адама Міцкевіча, Тамаша Зана, Яна Чачота было створана Таварыства *філаматаў* — аматараў навук (**1, 2). Яно мела аддзяленні ў Свіслацкай гімназіі і іншых наву-



*Філаматы і філарэты: зверху — Т. Зан, І. Дамейка, у цэнтры — А. Міцкевіч, знізу — А. Адынец, Я. Чачот*

чальных установах. Спачатку сябры таварыства ставілі перад сабой мэту ўдасканалення сваіх навуковых ведаў і літаратурна-мастацкіх здольнасцей, садзейнічання ўсеагульнай асвеце і грамадскай працы на карысць Бацькаўшчыны. На сходах у ваколіцах Вільні яны заслухоўвалі і абмяркоўвалі навуковыя даклады і літаратурныя творы. Філаматы заклікалі «захоўваць бацькоў сваіх карысныя звычаі... маючы ў памяці адвагу і подзвігі продкаў, браць прыклад з іх па меры сіл сваіх і стану». Яны нават сабралі ўзоры хлеба, якім харчаваліся ў галодныя гады сяляне. Краязнаўчая дзейнасць філаматаў паклала пачатак даследаванню фальклору, звычаяў і вераванняў мясцовага насельніцтва.



«Не возьмем мы хцівасць ва ўжытак —
Прэч, сквапнасці, пыхі насенне!
Наш самы высокі набытак —
Айчына, навука, сумленне!»

*Урывак з песні філаматаў*

У 1820 г. утварылася больш масавая арганізацыя — Таварыства *філарэтаў* — аматараў дабрачыннасці. Разам з пашырэннем асветы ў грамадстве філарэты прапагандавалі ідэі роўнасці і свабоды, аж да ліквідацыі прыгоннага права і прадастаўлення народам права незалежнага існавання.

Царскі ўрад убачыў у стварэнні і ідэйна-асветніцкай дзейнасці філаматаў і філарэтаў вялікую небяспеку. У снежні 1821 г. выйшаў указ аб забароне тайных таварыстваў. У 1823 г. пачаліся арышты, да следства было прыцягнута каля 200 чалавек. Ад працы адхілены ідэйныя натхняльнікі моладзі, прафесары Віленскага ўніверсітэта Іаахім Лялевель, Міхаіл Баброўскі, Ігнат Даніловіч. Жыхарам Літвы і Беларусі было забаронена вучыцца ў замежных універсітэтах. У чыноўнікаў бралася падпіска аб няўдзеле ў тайных арганізацыях.

**Дзекабрысцкі рух у Беларусі.** У Расіі на барацьбу супраць самадзяржаўя выступілі дваранскія рэвалюцыянеры-дзекабрысты. З мэтай змены ўлады яны зрабілі спробу падняць узброенае паўстанне ў снежні 1825 г. (адсюль і назва — дзекабрысты). Пачатак іх дзейнасці ў Беларусі звязаны з пераводам сюды з Пецярбурга гвардзейскага корпуса. У ім служылі члены дзекабрысцкага «Паўночнага таварыства». Яго кіраўнік ***Мікіта Мураўёў*** склаў першы, «мінскі варыянт» расійскай канстытуцыі. Гэты варыянт прадугледжваў стварэнне

ў Расіі буржуазнай дзяржавы, заснаванай на эканамічных і грамадзянскіх свабодах, прынцыпах выбарнасці дзяржаўных пасад і падзелу функцый заканадаўчай, выканаўчай і судовай улад. Таксама прадугледжваліся вяршэнства канстытуцыі і роўнасць усіх грамадзян перад законам, свабода слова, недатыкальнасць асобы і прыватнай уласнасці, адмена прыгоннага права і саслоўяў. Аднак гэты варыянт канстытуцыі змяшчаў і абмежаванні правоў грамадзян, абумоўленыя іх маёмасным станам, узростам, абавязковым веданнем рускай мовы.


*М. Мураўёў*

У 1823 г. па ініцыятыве будучага дзекабрыста ***Сяргея Мураўёва-Апостала***, які служыў у раскватараваным у Бабруйскай крэпасці пяхотным палку, быў распрацаваны бабруйскі план паўстання. Ён прадугледжваў арышт імператара Аляксандра I і яго світы ў час агляду войскаў у крэпасці. Аднак з-за непадрыхтаванасці і рознагалоссяў сярод кіраўніцтва паўстаннем бабруйскі план не быў ажыццёўлены. А крэпасць стала месцам зняволення некаторых дзекабрыстаў.

Дзекабрысты з «Паўднёвага таварыства» наладзілі сувязі з польскім «Патрыятычным таварыствам». Члены апошняга ставілі сабе за мэту аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., гэта значыць з уключэннем у яе склад польскіх, беларускіх, літоўскіх і часткі ўкраінскіх зямель. Дзекабрысты ж прызнавалі права на незалежнасць толькі за Польшчай. Пасля цяжкіх перагавораў бакі пагадзіліся на далучэнне да Польшчы тэрыторыі Літвы і Заходняй Беларусі. Паміж двума таварыствамі была заключана дамова аб падрыхтоўцы адначасовага паўстання супраць самадзяржаўя.

У Літоўскім асобным корпусе, размешчаным на Беласточчыне, па ініцыятыве філарэта ***Міхаіла Рукевіча*** ўзнікла тайнае Таварыства ваенных сяброў. Члены таварыства выступалі за вольнасць і асвету для сябе і іншых. 24 снежня 1825 г. «ваенныя сябры» сарвалі цырымонію прысягі на вернасць Мікалаю I у мястэчку Браньск. Аднак выступленне некалькіх рот сапёрнага батальёна не ахапіла ўвесь корпус, а яго арганізатары, у тым ліку М. Рукевіч, капітан К. Ігельстром, паручнік А. Вягелін, падзялілі лёс ссыльных дзекабрыстаў.


*М. Рукевіч*



*І. Лялевель*

Няўдачы першых рэвалюцыянераў дваранска-шляхецкага паходжання тлумачацца іх адарванасцю ад народа. Яны хоць і спачувалі сялянам, але не лічылі іх рэальнай сілай і не абапіраліся на іх у сваёй дзейнасці.

**Прычыны, ход і вынікі паўстання 1830—1831 гг. на беларускіх землях.** Разгром дзекабрыстаў зняў пытанне аб сумесным выступленні рэвалюцыянераў Расіі і былой Рэчы Паспалітай; апошнім прыходзілася разлічваць толькі на ўласныя сілы. У 1830 г. у Варшаве пачалося паўстанне супраць расійскага самадзяржаўя. Галоўнай яго прычынай была незадаволенасць шляхты падзеламі Рэчы Паспалітай. Кіраўнікі паўстання, сярод якіх пераважалі прыхільнікі яго кансерватыўнай плыні на чале з князем ***Адамам Чартарыйскім***, ставілі галоўнай мэтай аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Прадстаўнікі дэмакратычнай плыні на чале з гісторыкам ***Іаахімам Лялевелем*** дабіваліся пашырэння паўстання на землі былога Вялікага Княства Літоўскага. Імі быў вылучаны лозунг «За нашу і вашу свабоду!», які стаў у далейшым сімвалам яднання расійскіх і польскіх рэвалюцыянераў. Беларусь разглядалася ўдзельнікамі паўстання як частка Польшчы.

Вясной 1831 г. у руках паўстанцаў апынуліся Літва і шэраг паветаў Заходняй Беларусі. Паўстанне развівалася нярэдка стыхійна, хоць і быў створаны Віленскі цэнтральны паўстанцкі камітэт. Шляхта кожнага павета выбірала свой урад і вайсковага камандзіра. Гэтыя ўрады прыводзілі насельніцтва да прысягі, аб'яўлялі рэкруцкі набор, выдавалі адозвы.

Сяляне і мяшчане набіраліся ў атрады пераважна пад прымусам і не заўсёды былі зацікаўлены ваяваць. Царскі ўрад асцерагаўся, «каб з польскага бунту не зрабіўся б сялянскі». Сялянам афіцыйна аб'яўлялася памілаванне, калі яны самі пакінуць атрады і вернуцца дахаты. Асобныя царскія камандзіры абяцалі нават вызваленне ад паноў-паўстанцаў. Кульмінацыяй падзей стала бітва за Вільню 19 чэрвеня 1831 г., у якой паўстанцы былі разбіты ўрадавымі войскамі.

Агульная колькасць удзельнікаў паўстання ў Беларусі склала каля 15 тыс. чалавек. Свядома падтрымалі паўстанне шляхта, вучнёўская моладзь, каталіцкае і часткова ўніяцкае духавенства (**3).

Заклікі да барацьбы «за Польшчу, айчыну нашу» не выклікалі энтузіязму ў большасці беларускага насельніцтва. Пытанне аб дзяржаўнасці свайго краю паўстанцамі не ставілася, а сялянскае пытанне фактычна ігнаравалася. Ся-

ляне спадзяваліся на атрыманне волі і ўласнай зямлі. Але найбольшае, што змагла ім паабяцаць шляхта ў асобных паветах, — гэта зніжэнне нормы паншчыны да двух дзён у тыдзень.



Стары селянін-паляшук у размове з паўстанцамі патлумачыў прычыну няўдачы паўстання наступным чынам: «...ёсць адна прычына няўдачы паўстання — гэта адносіны паноў да сялянства. Паны думалі самі зрабіць паўстанне, але забыліся, што іх мала, а мужыкоў столькі, як мурашак. Паны не хацелі вызваліць сялянства, бо, страціўшы паншчыну і падданства мужыкоў, яны страцілі б свае даходы ад мужыка і сваю вагу ў гаспадарстве, дзе яны ўсё, мужык — ніштo... Паншчына ёсць прычына ўпадку паўстання».

Шмат хто з паўстанцаў, якія пакінулі радзіму, удзельнічалі пазней у барацьбе за свабоду ў розных еўрапейскіх краінах.

У 1831 г. паўстанне ў Беларусі і Літве было падаўлена.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *філаматы, філарэты.*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** Гісторыю Таварыства філаматаў адлюстраваў у драматычнай паэме «Дзяды» ўраджэнец Навагрудчыны, класік польскай літаратуры Адам Міцкевіч. У паэме «Пан Тадэвуш» некаторыя раздзелы прысвечаны ўдзелу шляхты беларускіх зямель у вайне 1812 г. Вымушаны ў 1824 г. назаўсёды пакінуць сваю радзіму ў сувязі з асуджэннем па справе Таварыства філаматаў, паэт у Маскве пазнаёміўся з А. С. Пушкіным. Той пры знаёмстве пад уражаннем выступлення Міцкевіча ўсклікнуў: «Які геній! Які свяшчэнны агонь!» Як мяркуюць даследчыкі, магчымым прататыпам галоўнага героя ў аповесці А. С. Пушкіна «Дуброўскі» стаў дробны шляхціц з Ігуменскага павета Мінскай губерні Павел Астроўскі, які меў дачыненне да паўстання 1830—1831 гг.



*Помнік А. Міцкевічу ў Навагрудку*

На радзіме А. Міцкевіча ў Навагрудку, а таксама ў Мінску ўзведзены помнікі ў яго гонар. Сучасныя літаратуразнаўцы называюць паэта «геніем памежжа культур».

****2.** Сярод удзельнікаў Таварыства філаматаў быў блізкі сябра А. Міцкевіча ўраджэнец Навагрудскага павета Ігнат Дамейка. У 14 гадоў ён, дзякую-




*Медаль у гонар І. Дамейкі*

чы ведам, набытым у калегіуме, быў без экзаменаў прыняты на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Ужо праз год пасля паступлення яму прысвоілі ступень кандыдата філасофскіх навук. Пасля ўдзелу ў паўстанні 1830—1831 гг. выехаў за мяжу, з 1838 г. жыў у Чылі. Тут ён арганізаваў шырокае вывучэнне геалогіі і мінералогіі, наладзіўшы шэраг экспедыцый у горы Анды. У Чылі Дамейкам быў створаны этнаграфічны музей, падрыхтаваны праект арганізацыі школьнага навучання, напісаны падручнікі па фізіцы і мінералогіі. Доўгі час ён займаў пасаду рэктара ўніверсітэта ў Сант'яга. У сталіцы Чылі яму пастаўлены помнік з надпісам «Вялікі асветнік». Чылійскі ўрад абвясціў І. Дамейку нацыянальным героем рэспублікі. Яго імем названы шахцёрскі горад у Чылі. Па рашэнні ЮНЕСКА 2002 год быў афіцыйна абвешчаны годам Ігната Дамейкі.

****3.** Адной з найбольш актыўных удзельніц паўстання 1830—1831 гг. была 25-гадовая ўраджэнка Віцебшчыны Эмілія Плятэр, якая захаплялася беларускім фальклорам. Пераапрануўшыся юнаком, яна сабрала і ўзначаліла адзін з паўстанцкіх атрадаў, які складаўся з некалькіх соцень шляхціцаў і сялян. У 1831 г. памерла ад хваробы. У яе гонар А. Міцкевіч напісаў верш «Смерць палкоўніка». Некаторыя даследчыкі параўноўваюць Э. Плятэр з гераіняй французскага народа Жаннай д'Арк.

### Пытанні і заданні

**1.** Складзіце ў сшытку параўнальную табліцу «Грамадска-палітычны рух у Беларусі ў першай трэці XIX ст.» і зрабіце выснову аб тым, якія патрабаванні яго ўдзельнікаў прадугледжвалі пераход да буржуазнага грамадства.

| Арганізацыі | Назвы арганізацый (плыней) і прозвішчы кіраўнікоў | Патрабаванні (мэты) | Метады (тактыка) дзейнасці | Вынікі дзейнасці |
|---|---|---|---|---|
| Тайныя студэнцкія арганізацыі | | | | |
| Арганізацыі дзекабрыстаў | | | | |
| Удзельнікі паўстання 1830—1831 гг. | | | | |

**2.** Ці можна лічыць філаматаў патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны? Пры адказе выкарыстайце ўрывак з песні філаматаў. **3.** У чым заключаліся прычыны няўдач першых рэвалюцыянераў дваранска-шляхецкага паходжання? **4.** Параўнайце адносіны да паўстання 1830—1831 гг. з боку шляхты і большасці беларускага сялянства. **5.** Папрацуйце па метадзе ключавога слова з тэкстам размовы старога селяніна-палешука з паўстанцамі. Ці згодны вы з яго тлумачэннем прычыны няўдачы паўстання? Сваё меркаванне растлумачце. **6.** Вызначце, карыстаючыся адпаведнай картай атласа, наколькі маштабным было ўцягванне беларускіх зямель у паўстанне 1830—1831 гг.

## § 5. ЗМЕНЫ Ў ПАЛІТЫЦЫ РАСІЙСКАГА ЎРАДА Ў БЕЛАРУСІ ў 1830—1840-я гг.

***Успомніце.*** Якую саслоўную палітыку праводзілі царскія ўлады адносна насельніцтва беларускіх зямель пасля іх далучэння да Расійскай імперыі?
***Вучэбная задача.*** Вызначыць, у чым заключаліся змены ўрадавай палітыкі ў адносінах да шляхты беларускіх губерняў пасля паўстання 1830—1831 гг.

**Палітыка расійскага ўрада ў беларускіх губернях пасля паўстання 1830—1831 гг.** Пасля паўстання 1830—1831 гг. царскі ўрад узяў курс на аслабленне польскага ўплыву ў беларускіх губернях. У шляхціцаў — удзельнікаў паўстання канфіскоўваліся маёнткі, асабліва ў Гродзенскай і Віленскай губернях. *Канфіскацыя* — прымусовае і бязвыплатнае адабранне маёмасці, грашовых сродкаў ва ўласнасць дзяржавы. З 1831 па 1848 г. у якасці дарадчага органа пры імператары дзейнічаў Камітэт па справах заходніх губерняў. Цар Мікалай I даручыў яму прыняць меры, каб «губерні, ад Польшчы далучаныя, прыведзены былі да таго парадку, які для кіравання ў іншых расійскіх губернях існуе». Найважнейшым мерапрыемствам стала адмена дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага і ўвядзенне ў 1831 г. расійскага заканадаўства ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, а ў 1840 г. — таксама ў Мінскай, Гродзенскай і Віленскай.



Падводзячы вынікі ўрадавых дзеянняў за 10 гадоў (з 1831 па 1841 г.), віленскі генерал-губернатар Ф. Я. Міркавіч дакладваў Мікалаю I: «...цвёрдасць і рашучасць мер, што прымаліся... паклалі цвёрды падмурак зліццю гэтага краю з Расіяй. Дзесяць гадоў пастаяннай сістэмы дзеянняў пасунулі ўжо рускую народнасць у гэтых губернях на паўстагоддзя. Перавод шляхецтва ў аднадворцаў, знішчэнне многіх каталіцкіх кляштараў, закон, каб пры шлюбах права-

слаўных з іншаверцамі ўсе дзеці выхоўваліся як праваслаўныя, увядзенне рускай мовы ў судаводства і навучальныя ўстановы... скасаванне... Літоўскага Статута застануцца назаўсёды знакамітымі помнікамі цяперашняга каравання».

Галоўнае месца ва ўрадавай палітыцы, якая ажыццяўлялася дзеля прадухілення магчымых шляхецкіх выступленняў, займаў *«разбор» шляхты*. Многія шляхціцы на той час збяднелі і па сваім эканамічным становішчы набліжаліся да сялян, аднак марылі пра аднаўленне Рэчы Паспалітай. У цэлым іх удзельная вага даходзіла да 7—8 % насельніцтва беларускіх губерняў. Бедная шляхта з'яўлялася спрыяльным асяроддзем і асноўнай рухаючай сілай паўстання 1830—1831 гг. Яшчэ Кацярына II абмежавала палітычныя правы шляхты: распускаліся ваяводскія і павятовыя соймікі, забаранялася арганізоўваць свае канфедэрацыі — часовыя палітычныя саюзы шляхты. Распачалася «чыстка» мясцовага дваранскага саслоўя. Кожны шляхціц павінен быў прад'явіць дакументы на дваранскае званне. Паколькі дробная шляхта часта іх не мела, то выключалася з дваранскага саслоўя. Аднак да 1830-х гг. гэтае мерапрыемства праводзілася марудна і непаслядоўна.

Мікалай I дзейнічаў больш рашуча. У 1831 г. выйшаў указ «Аб разборы шляхты ў заходніх губернях і аб уладкаванні гэтага роду людзей». Працэдура «разбору» ўяўляла сабой праверку дакументаў аб дваранскім паходжанні і перавод на гэтай аснове часткі шляхты ў падатковыя сельскія і гарадскія саслоўі. Дваранскага звання пазбаўляліся звычайна дробныя шляхціцы. У выніку яны збліжаліся па сваім становішчы з сялянамі і мяшчанамі. Значную частку былой шляхты здалі ў рэкруты, а таксама перасялілі ў пагранічныя раёны Расійскай імперыі. Многія шляхціцы, як і прылічаны да мінскіх мяшчан дзед Янкі Купалы Ануфрый Дамінікавіч Луцэвіч, доўга, але пераважна беспаспяхова дабіваліся вяртання свайму роду дваранскага стану.

**Дэмакратызацыя грамадскага руху.** Удзельнікі грамадска-палітычнай барацьбы ўлічылі ўрокі паўстання 1830—1831 гг. Іх рух, асабліва ў 1840-я гг., набываў антыпрыгонніцкі характар. У ім удзельнічала ўсё больш прадстаўнікоў інтэлігенцыі, якая імкнулася павесці за сабой сялянскія масы. Ідэі правадыра польскай дэмакратыі І. Лялевеля, які заклікаў праз вызваленне сялян далучыць масы насельніцтва да рэвалюцыі, знаходзілі шмат паслядоўнікаў.



У аглядзе Трэцяга аддзялення імператарскай канцылярыі і корпуса жандараў па заходніх губернях за 1830—1840-я гг. адзначалася: «Самыя разважлівыя з жыхароў... вядуць сябе асцярожна, не прымаюць удзелу ў змыснасцях і не даюць ім яўнага ўхвалення; найгалоўнейшыя ж удзельнікі і кіраўнікі ў змовах ёсць: маладыя дваране, аканомы, дробныя чыноўнікі і іншыя ніжэйшага класа

людзі, якія ці яшчэ не ўмеюць цаніць выгод спакойнага жыцця, ці гэтак мала маюць уласнага багацця, што ў выпадку непарадкаў хутчэй могуць набыць, чым страціць».


*М. Валовіч*

Ураджэнец Слонімшчыны ***Міхаіл Валовіч***, які пасля паўстання 1830—1831 гг. выехаў у Францыю, у 1833 г. тайна вярнуўся на радзіму. Ён стварыў невялікі атрад, у асноўным з сялян уласнай вёскі, які вёў партызанскія дзеянні ў Слонімска-Навагрудскай акрузе. Валовіч выступаў за вызваленне сялян з-пад прыгону і абвяшчэнне Беларусі і Літвы дэмакратычнай рэспублікай. Але атрад быў хутка ліквідаваны ўладамі.

Студэнт Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, сын уніяцкага святара з вёскі Вяляцічы Пінскага павета ***Франц Савіч*** заснаваў у 1836 г. у Вільні «Дэмакратычнае таварыства». У яго ўваходзілі галоўным чынам студэнты-медыкі і мясцовыя рамеснікі, усяго каля 60 чалавек. Яны прапагандавалі ідэі дружбы народаў у барацьбе супраць самадзяржаўя, выступалі за вызваленне сялян і надзяленне іх зямлёй. Праз тры гады актыўных удзельнікаў «Дэмакратычнага таварыства» арыштавалі і саслалі салдатамі ў дзеючую армію на Каўказ. Савіч неаднаразова спрабаваў уцячы за межы імперыі. У апошні раз яму гэта амаль удалося, але ён памёр ад халеры.

Дзейнасць «Дэмакратычнага таварыства» адлюстроўвала фарміраванне дэмакратычнай плыні грамадскага руху ў Беларусі пасля паўстання 1830—1831 гг.

**Уплыў рэвалюцыйных падзей 1848—1849 гг. у Еўропе на грамадска-палітычнае жыццё ў Беларусі.** Буржуазныя рэвалюцыі 1848—1849 гг. у Францыі, Італіі, Аўстрыйскай імперыі, Германіі мелі вялікі ўплыў на развіццё грамадскага руху ў заходніх губернях Расійскай імперыі. На тэрыторыі Беларусі з’явіліся нелегальныя рукапісныя лістоўкі, адозвы, звароты, пісьмы з заклікамі далучыцца да вызваленчай барацьбы еўрапейскіх народаў.


*У. Сыракомля*


Знакаміты краёвы літаратар Уладзіслаў Сыракомля адгукнуўся на рэвалюцыйныя падзеі ў Еўропе сваім беларускім вершам «Добрыя весці»:

«...Здаровыя ж будзьце, эй, добрыя весці!
Там, на Заходзе, праліваюць кроў,
Б’юцца для славы, свабоды і чэсці
І робяць вольных людзей з мужыкоў...» (**).

Каб прадухіліць рэвалюцыйныя выступленні, у заходнія губерні быў накіраваны армейскі корпус. Генерал-губернатарам прадпісвалася прыняць «усе неабходныя для захавання грамадскай бяспекі меры» на выпадак актыўных дзеянняў шляхты супраць урада. Таму масавых выступленняў у Беларусі і Літве не адбылося.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *канфіскацыя, «разбор» шляхты.*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

** Скарочаны варыянт верша У. Сыракомлі «Паштальён» быў пакладзены ў аснову папулярнай рускай народнай песні «Калі я на пошце служыў ямшчыком». Гэты верш пераклаў на рускую мову паэт Л. Трэфалеў, а аўтар музыкі песні застаўся невядомы.

## Пытанні і заданні

**1.** а) Запоўніце ў сшытку параўнальную табліцу «Палітыка царскага ўрада ў адносінах да шляхты беларускіх губерняў».

| Мерапрыемствы царскага ўрада | |
|---|---|
| **да паўстання 1830—1831 гг.** | **пасля паўстання 1830—1831 гг.** |
| | |

б) Зрабіце выснову аб тым, у якім кірунку і чаму змянілася палітыка царскага ўрада ў адносінах да шляхты. **2.** Папрацуйце па метадзе ключавога слова з вытрымкай з даклада віленскага генерал-губернатара Ф. Я. Міркавіча Мікалаю І. Што азначаюць у гэтай вытрымцы наступныя словы: «перавод шляхецтва ў аднадворцаў», «скасаванне... Літоўскага Статута»? Растлумачце, чаму гэтыя падзеі аўтарам даклада прылічаны да «знакамітых помнікаў царавання» Мікалая І у 1831—1841 гг. **3.** Вызначце, якія пласты насельніцтва актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім руху пасля паўстання 1830—1831 гг. Пры адказе выкарыстайце змест агляду Трэцяга аддзялення імператарскай канцылярыі і корпуса жандараў па заходніх губернях за 1830—1840-я гг. **4.** Вызначце, чым мэты грамадска-палітычнага руху ў Беларусі ў 1830—1840-я гг. адрозніваліся ад мэт паўстання 1830—1831 гг. **5.** Растлумачце, у чым заключаецца сэнс назвы верша У. Сыракомлі «Добрыя весці».

# § 6. КАНФЕСІЯНАЛЬНЫЯ АДНОСІНЫ Ў КАНЦЫ XVIII — ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

***Успомніце.*** **1.** Што такое канфесія? **2.** Калі і з якімі мэтамі быў створаны ордэн езуітаў? **3.** Што ўяўляла сабой Брэсцкая царкоўная унія?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, у чым заключаліся змены ў канфесіянальнай палітыцы самадзяржаўя пасля паўстання 1830—1831 гг.

**Становішча канфесій Беларусі пасля далучэння да Расійскай імперыі.** З уключэннем беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі ў Беларусі сталі мяняцца суадносіны паміж рознымі канфесіямі — рэлігійнымі кірункамі (веравызнаннямі) — і іх месца ў грамадскім жыцці. Канфесіянальная сітуацыя складвалася на карысць праваслаўя, якое ў Расійскай імперыі было пануючым веравызнаннем. Яно карысталася падтрымкай царскага ўрада і мела традыцыйна моцныя пазіцыі ва ўсходніх раёнах Беларусі. Афіцыйна каталіцкаму і ўніяцкаму духавенству не дазвалялася схіляць у сваю веру праваслаўных.

Каталіцкі касцёл, які падтрымлівала мясцовае апалячанае дваранства, вызначаўся добрым матэрыяльным забеспячэннем. Духавенства мела высокі узровень адукаванасці. Перамясціўшыся з прывілеяванай у разрад цярпімай веры, каталіцтва змагло прыстасавацца да новых палітычных умоў. У першыя дзесяцігоддзі існавання ў межах Расійскай імперыі яно адыгрывала актыўную ролю ў царкоўным і грамадскім жыцці.

Уніяцтва (аб’яднанне праваслаўнай царквы з каталіцкай пад уладай папы рымскага) у другой палове XVIII ст. значна пацясніла пазіцыі традыцыйных рэлігій і стала самай масавай канфесіяй. Католікі называлі ўніяцкую веру му-



*Жыровіцкі манастыр, які быў адным з цэнтраў уніяцкай (грэка-каталіцкай) царквы ў Беларусі*

жыцкай. У канцы XVIII ст. да трох чвэрцяў вясковага і гарадскога насельніцтва Беларусі былі ўніятамі.

**Першыя спробы пераводу ўніятаў у праваслаўе.** Характэрнымі рысамі рэлігійна-палітычнага жыцця ў Беларусі былі барацьба паміж праваслаўем і каталіцтвам за сферы ўплыву, узаемная варожасць прадстаўнікоў гэтых канфесій. Праваслаўная царква, адчуўшы за сабой сілу, імкнулася пашырыць свой уплыў за кошт уніятаў. Аднак гэтыя спробы да 1830-х гг. стрымліваліся вельмі асцярожнай рэлігійнай палітыкай самадзяржаўя, якое хоць і не давала ў крыўду праваслаўе, але пакуль што не лічыла мэтазгодным пачынаць рашучы наступ на унію. Толькі ў час паўстання Т. Касцюшкі імператрыца Кацярына II палічыла патрэбным умацаваць пазіцыі праваслаўнай царквы на далучаных землях праз агульны перавод уніятаў у праваслаўе, аб чым у 1794 г. быў выдадзены ўказ. У праваслаўе перайшла некаторая частка ўніятаў, але не ўсе вернікі ўніяцкай царквы згаджаліся прыняць праваслаўе.


Адзін з царскіх чыноўнікаў пакінуў свае ўспаміны пра дыялог магілёўскага губернатара і селяніна з Быхаўскага павета, дзе ўніяты адмовіліся прыняць праваслаўе:

«Губернатар: — Чаму вы не паслухалі дырэктара эканоміі? Вера ўсё ж адна, тая ж хрысціянская. Ён вас не яўрэямі хацеў зрабіць.

Мужык: — Добра, ваша, кажаш, што вера ўсё адна, тая ж хрысціянская. А ці, ваша, пахваліў бы за тое, каб я ўзяў адзін крыж у рукі, а другі б кінуў пад ногі?

Губернатар: — Дык чаму ж вам не быць са мною адной веры?

Мужык: — Ты, сам здароў, ведаеш, чалавек ужо не малады! — паказваючы на губернатарскую сівізну. — Каб табе загадалі прыняць нашу веру, а ці захацеў бы ты быць уніятам?»

**Выгнанне езуітаў і абмежаванне ўплыву каталіцтва.** Пасля далучэння ўсходняй часткі Беларусі да Расійскай імперыі Кацярына II была настроена варожа і падазрона ў адносінах да членаў каталіцкага ордэна езуітаў. Аднак езуіты першымі прысягнулі расійскай імператрыцы. Була папы рымскага ад 1773 г. аб скасаванні ордэна езуітаў не была дапушчана ў Расію, і ордэн тут захаваў усю сваю маёмасць.

Пакуль цэнтр ордэна знаходзіўся ў Полацку, яго дзейнасць кантралявалі расійскія ўлады. Сітуацыя змянілася, калі папа рымскі выдаў у 1814 г. пастанову аб аднаўленні «Таварыства Ісуса», якім сталі кіраваць з Рыма. Спаслаўшыся на тое, што езуіты «ўздумалі ўзрушваць... у Царстве нашым праваслаўную грэчаскую веру», імператар Аляксандр I у 1815 г. аб'явіў аб выдварэнні іх



*Полацкі езуіцкі касцёл і калегіум. Малюнак Н. Орды. Другая палова XIX ст. (Будынкі калегіума, які ў 1812 г. пераўтвораны ў езуіцкую акадэмію, адлюстраваны на другім плане малюнка. Цяпер у гэтых адрэстаўраваных будынках вучацца студэнты гісторыка-філалагічнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта.)*

з Пецярбурга. У 1820 г. выйшаў імператарскі ўказ аб высылцы езуітаў за межы Расійскай імперыі.

Пасля паўстання 1830—1831 гг. адным з найважнейшых кірункаў урадавай палітыкі стала барацьба супраць уплыву каталіцкай царквы, якая падтрымала паўстанцаў. Урад ішоў па лініі скарачэння колькасці каталіцкага духавенства і змяншэння яго маёмасці. У 1832 г. з'явіўся ўказ аб ліквідацыі каталіцкіх манастыроў, якія не мелі поўнага складу манахаў, і перадачы іх маёнткаў у разрад казённых. У 1841 г. быў падпісаны шэраг указаў аб прыёме ў дзяржаўную маёмасць усіх населеных маёнткаў вышэйшага праваслаўнага і іншавернага духавенства заходніх губерняў. Да сярэдзіны 1840-х гг. асноўная маса царкоўных зямельных уладанняў была адабрана ў каталіцкага духавенства. Ліквідацыя царквы як буйнога феадала-ўласніка ставіла яе ў большую залежнасць ад дзяржавы.

**Скасаванне ўніяцкай царквы.** Найважнейшай умовай палітычнай стабільнасці ў заходніх губернях царскі ўрад лічыў яднанне дзяржаўнай улады і праваслаўнага насельніцтва з мэтай ізаляцыі паўстанцаў-католікаў. Улады таксама схілілі на свой бок вышэйшае ўніяцкае духавенства. Мерапрыемствы па далучэнні ўніяцкай царквы да Рускай праваслаўнай у 1833—1839 гг. ахапілі ўсіх уніяцкіх вернікаў.



З запісак віцебскага губернатара: «Першы прыступ з іх боку [праваслаўных святароў] заўсёды бывае аднолькавы: да архірэя звычайна з'яўляецца нечакана чалавек з якога-небудзь значнага сялення з просьбай аб жаданні ўсіх быццам бы жыхароў яго звярнуцца да праваслаўнай царквы... усе падобныя шукальнікі былі да гэтага падбухторваныя... Епархіяльнае начальства гэту просьбу заўжды прымае... патрабуе без найменшага прамаруджвання дапус-




*Медаль, прысвечаны далучэнню ўніяцкай царквы да Рускай праваслаўнай царквы з надпісам «Адабраныя сілай (1596), узʼяднаны любоўю (1839)»*

> ціць праваслаўнага святара ў прыходскую ўніяцкую царкву і ўказвае паліцыі прыняць неадкладна пад апеку ўсіх, хто звяртаецца... Праваслаўны святар... прыязджае ў сяленне... уніяцкі святар хаваецца... Двор ужо напоўнены сялянамі, якія большай часткай не маюць не толькі жадання да далучэння, але нават і паняцця, чаго ад іх патрабуюць. Вядома, пры гэтым не можа быць поўнага спакою, іншы раз сустракаецца і супраціўленне...»

*Полацкі царкоўны сабор* у 1839 г. прыняў рашэнне пра далучэнне ўніяцкай царквы да Рускай праваслаўнай. Гэтае рашэнне было зацверджана царом Мікалаем I. Скасаванне ўніяцкай царквы суправаджалася заменай яе культавых атрыбутаў праваслаўнымі, былі страчаны многія старыя кнігі, абразы, скульптуры і інш. Вернікі мелі цяжкасці з прывыканнем да новых іканастасаў, рускіх малітоўных кніг, разуменнем мовы прысланых з Расіі святароў.

Паўтара мільёна ўніятаў у Беларусі сталі лічыцца праваслаўнымі. Пераважная роля цяпер належала рускаму праваслаўю, але многія з былых уніятаў працягвалі тайна трымацца сваіх ранейшых абрадаў.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** канфесія, *Полацкі царкоўны сабор.*

## Пытанні і заданні

**1.** Раскажыце, карыстаючыся рубрыкай «Галасы мінулага», якім чынам адбываўся перавод уніятаў у праваслаўе. **2.** Папрацуйце па метадзе ключавога слова з тэкстам абзаца, які пачынаецца словамі: «Першыя спробы пераводу ўніятаў у праваслаўе». **3.** Якія прычыны абумовілі зʼяўленне царскага ўказа аб высылцы езуітаў за межы Расійскай імперыі? **4.** Растлумачце, чаму каталікі называлі ўніяцкую веру мужыцкай. **5.** Чаму не ўсе ўніяты згаджаліся прыняць праваслаўе? Пры адказе выкарыстайце дыялог магілёўскага губернатара і селяніна з Быхаўскага павета. **6.** а) Запоўніце ў сшытку параўнальную табліцу «Урадавая палітыка ў адносінах да каталіцкай царквы».

| Становішча каталіцкай царквы да паўстання 1830—1831 гг. | Мерапрыемствы царскіх улад у адносінах да католікаў пасля паўстання 1830—1831 гг. |
|---|---|
| | |

б) Зрабіце выснову аб прычынах змены і кірунках урадавай палітыкі ў адносінах да каталіцкай царквы. **7.** Папрацуйце па метадзе загадкавай карцінкі з выявай медаля, прысвечанага далучэнню ўніяцкай царквы да Рускай праваслаўнай. Звярніце ўвагу на надпіс «Адабраныя сілай (1596), уз'яднаны любоўю (1839)».

## § 7. СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА І СТАНОВІШЧА СЯЛЯН У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

***Успомніце.*** **1.** Якімі былі асноўныя павіннасці прыгонных сялян? **2.** Што такое інвентары?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, які характар мела сістэма гаспадарання ў Беларусі ў першай палове XIX ст.

**Новыя з'явы ў гаспадарчым жыцці вёскі.** У першай палове XIX ст. сельская гаспадарка ў Беларусі ўсё больш звязвалася з рынкам, павялічвалася плошча ворных зямель. Паступова вызначалася гаспадарчая спецыялізацыя беларускіх зямель па вырабе пэўнай прадукцыі. Пашыраліся пасевы тэхнічных культур (ільну, канапель), пачала развівацца танкарунная авечкагадоўля, значна павялічылася ўдзельная вага цукровых буракоў і бульбы.



У пачатку XIX ст. уладальнік аднаго з маёнткаў у Віцебскім павеце стаў раздаваць сваім прыгонным сялянам бульбу для вырошчвання. Аднак яе пасевы аказваліся кволымі і рэдкімі, на што сяляне заўважалі: «Ужо як сабе пан хоча, а бульба не родзіць на нашай зямлі». Так цягнулася тры гады, пакуль не вы-



*Беларуская вёска. Сярэдзіна XIX ст.*



*На бульбе. Малюнак А. Кяндзірскага. XIX ст.*

светлілася, што сяляне, пасадзіўшы клубні, ноччу выкопвалі іх і прадавалі. Тады ўладальнік распарадзіўся даваць сялянам не цэлыя, а разрэзаныя бульбіны, якія немагчыма было прадаць. Неўзабаве сяляне сталі атрымліваць добрыя ўраджаі бульбы (**1).

У шэрагу памешчыцкіх гаспадарак пачалі выкарыстоўвацца сельскагаспадарчыя машыны (**2). Прапагандай перадавых метадаў земляробства і жывёлагадоўлі займалася Беларускае вольнае эканамічнае таварыства, што існавала ў 1826—1841 гг. у Віцебску. У 1848 г. у маёнтку Горы-Горкі Магілёўскай губерні быў адкрыты земляробчы інстытут. Акрамя сельскагаспадарчай працы сяляне ўсё больш займаліся промысламі, наймаліся на розныя работы, вялі гандаль. Сярод іх паглыблялася маёмаснае расслаенне: вылучаліся заможныя сяляне.

Памешчыкі з мэтай павелічэння прыбытковасці сваіх маёнткаў пашыралі ўласныя пасевы за кошт сялянскіх надзелаў. Але няўгноеная, дрэнна апрацаваная зямля давала нізкія ўраджаі. За 30 гадоў (з 1820 па 1850 г.) у Віцебскай і Магілёўскай губернях было 10 неўраджаяў. Сяляне ўсё больш бяднелі і не маглі несці павіннасці, якія ўзрасталі. Прыбытковасць памешчыцкіх гаспадарак падала. Аднак большасць землеўладальнікаў, якія распараджаліся дармавой сялянскай працай, не жадалі выдаткоўваць сродкі на набыццё сучаснай тэхнікі і палепшаных прылад працы.

**Сацыяльна-прававое становішча сялянства.** У сярэдзіне XIX ст. сяляне складалі каля 80 % тагачаснага насельніцтва Беларусі. Самай шматлікай і найбольш бяспраўнай часткай беларускага сялянства былі памешчыцкія (панскія) сяляне. Яны самі, іх праца і маёмасць належалі ўладальнікам, якія ўласнаручна ці пры дапамозе арандатараў і адміністратараў чынілі над імі суд і расправу. Прыгонных прадавалі і закладвалі, дарылі і абменьвалі на любую

рэч, ссылалі без суда на катаргу, білі розгамі. Архівы захавалі нямала актаў аб продажы людзей: паасобку і сем'ямі, дарослых і дзяцей, мужчын і жанчын, з зямлёй і без яе. Самавольства памешчыкаў практычна нічым не абмяжоўвалася, бо сялянам забаранялася нават скардзіцца на іх.






«Цяжка ды важка жыць на радзіме,
Цяжка ды важка, як на чужыне,
Свеціць сонейка — ды не нам,
Свеціць яснае — ды панам.
Захавалі долюшку паны,
Без салодкага віна яны п'яны,
Нашай крыві напіліс, як павукі, —
Стогнуць, стогнуць на радзіме мужыкі».

*З народнай песні аб прыгоннай няволі*

Другой па колькасці часткай сельскага насельніцтва Беларусі з'яўляліся дзяржаўныя (казённыя) сяляне. У царскім заканадаўстве яны атрымалі найменне *«вольных сельскіх абывацеляў»*. Тым не менш дзяржаўныя сяляне знаходзіліся ў поўным распараджэнні арандатараў і адміністратараў, прызначаных уладай.

**Нормы і формы павіннасцей.** Прыгонныя сяляне мусілі выконваць на карысць памешчыка розныя павіннасці, замацаваныя ў інвентарах — дакументах, дзе апісваліся памешчыцкія ўладанні і вызначаліся памеры сялянскіх павіннасцей. Інвентары складаліся і рэгулярна пераглядаліся самімі ўладальнікамі. Аб'ём паншчынных работ і плацяжоў дзяржаўных сялян вызначаўся таксама на аснове інвентароў. Перавышэнне нормаў павіннасцей, вызначаных інвентарамі, было паўсюднай з'явай. У выніку становішча дзяржаўных сялян у беларускіх губернях практычна не адрознівалася ад становішча памешчыцкіх прыгонных сялян.



Адзін з наведвальнікаў казённай Слонімскай эканоміі запісаў у 1818 г.: «...страшэнна пакутуюць сяляне... на іх глядзяць як на лімон, які трапіў да вас на хвіліну ў рукі: усякі стараецца выціснуць з яго ўвесь сок...»

У Беларусі пераважала паншчынная сістэма гаспадарання. Да сярэдзіны 1840-х гг. 97 % памешчыцкіх і абсалютная большасць дзяржаўных сялян выконвалі паншчыну. Павіннасці сялян дзяліліся на галоўныя і дадатковыя.



*Жняя. Мастак К. Русецкі. 1845 г.*

Паншчына ці аброк, а таксама згоны і гвалты адносіліся да галоўных. Дадатковымі былі будаўнічыя і рамонтныя работы на панскіх гаспадарчых будоўлях, падтрыманне ў належным стане дарог, мастоў, начная варта і перавозка грузаў. За гэта памешчык дазваляў лавіць рыбу, карыстацца лесам і г. д. Акрамя таго, захоўваліся замацаваныя ў інвентарах «па даўнім звычаі» розныя даніны (ягадамі, грыбамі, мёдам, пражай, палатном і інш.).

Нормы павіннасцей залежалі ад велічыні і якасці зямельных надзелаў, што знаходзіліся ў карыстанні сялян. Калі ў канцы XVIII ст. з адной валокі вызначалася 8 дзён паншчыны ў тыдзень (4 дні мужчынскай і 4 — жаночай працы), то ў сярэдзіне XIX ст. — 12 дзён у тыдзень (па 6 дзён мужчынскай і жаночай працы). У першай палове XIX ст. пераважалі сялянскія гаспадаркі па $^3/_4$ і $^1/_2$ валокі. Адпаведна гэтаму змяншаліся колькасць і памер сялянскіх абавязкаў. Аднак памешчыкі часта самавольна павялічвалі нормы павіннасцей. Пры гэтым паншчына і згоны выконваліся ў самы напружаны час палявых работ, што адрывала сялян ад працы на сваіх надзелах.

Сапраўдным няшчасцем для сялян стала шырока распаўсюджаная прымусовая аддача іх на будаўнічыя работы ў іншыя раёны Расіі. Пры гэтым памешчыкі, якія нічым не забяспечвалі сялян, пасылаючы ў такія «камандзіроўкі», заробленыя імі грошы забіралі сабе.

Трагедыяй для селяніна і яго сям'і была аддача аднаго з сыноў у рэкруцкую (вайсковую) службу на 25 (з 1834 г. — на 20) гадоў. Праз такі працяглы тэрмін, пасля ўдзелу ў войнах (якія ў гэты перыяд здараліся не радзей чым раз у 20 гадоў, і да таго ж пастаянна ішла вайна на Каўказе) салдаты гублялі сувязь з роднымі. А калі і вярталіся дадому, то састарэлымі і інвалідамі.



«Цёпла восень і з дажджом,
Мы ў Расеюшку пайдзём.

Мы набяром малайцоў,
Ад матушкаў, ад атцоў,

Ад жоначак маладых,
Ад детушак маленькіх...

Ох, пайдзем мы на сражэнне,
Станем ў праваму крыле.

Станем ў праваму крыле
На турэцкай на зямле.

А турэцкая зямля —
Многа слёзак праліла».

*З рэкруцкай песні*

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *«вольныя сельскія абывацелі».*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** Калі ў першай палове XIX ст. стравы з бульбы не мелі шырокага распаўсюджання, то з другой паловы XIX ст. бульба паступова стала адным з асноўных прадуктаў харчавання — літаральна «сялянскім хлебам». Даследчык гісторыі і этнаграфіі Беларусі А. Кіркор у 1858 г. пісаў, што бульба для сялян ёсць «найгалоўнейшы прадмет ежы, і яе сяляне часта ўжываюць у звараным выглядзе замест хлеба». Вядомы ў Расійскай імперыі аўтар даследаванняў па гісторыі заходнебеларускіх зямель П. Баброўскі, збіраючы матэрыялы па Гродзенскай губерні, у 1863 г. адзначаў, што «ўраджайнасць бульбы дае самы надзейны сурагат жыта, таму колькасць глебы, што апрацоўваецца пад гэту клубневую расліну, пастаянна ўзрастае». Ураджай яе, сабраны з адной дзесяціны (1,09 гектара), мог пракарміць такую ж колькасць людзей, як з трох дзесяцін пшаніцы. Бульба надзейна ратавала сялян ад галоднай смерці ў неўраджайныя гады.

****2.** Асобным прыкладам дбайнага гаспадарання на зямлі стала дзейнасць ураджэнца Гродзеншчыны Караля Бжастоўскага. У 1819 г. ён увёў у сваім маёнтку самакіраванне, даў сялянам права арэнды зямлі. Для сялян будаваліся кватэры і асобныя дамы. Была наладжана работа касы ўзаемадапамогі для крэдытавання сялян, пабудаваны шкляная мануфактура, піўны, скураны, цагляны, металургічны заводы. На металургічным заводзе была наладжана вытворчасць плугоў, механічных маслабоек і цестамяшалак, прыстасаванняў для ўборкі бульбы. Аднак такія новаўвядзенні не сталі масавай з’явай у гаспадарчым жыцці беларускай вёскі.

## Пытанні і заданні

**1.** Папрацуйце па метадзе ключавога слова з тэкстам абзаца, які пачынаецца словамі «Сацыяльна-прававое становішча сялянства. У сярэдзіне XIX ст. сяляне складалі...». **2.** Чаму бульба паступова стала «сялянскім хлебам»? **3.** Параўнайце становішча памешчыцкіх і дзяржаўных сялян. Прыкметы для параўнання вызначце самастойна. **4.** Падлічыце колькасць дзён паншчыны ў тыдзень, якія трэба было адпрацаваць сялянскай сям’і, што карысталася надзелам у $^1/_2$ валокі зямлі. **5.** а) Запоўніце ў сшытку параўнальную табліцу «Прыкметы захавання феадальных і развіцця капіталістычных адносін у сельскай гаспадарцы ў першай палове XIX ст.».

| Прыкметы захавання феадальных адносін | Прыкметы развіцця капіталістычных адносін |
|---|---|
| | |

б) Вызначце, якія з прыкмет пераважалі ў сельскай гаспадарцы Беларусі ў першай палове XIX ст. **6.** Папрацуйце па метадзе загадкавай карцінкі з выявай карціны «Жняя» мастака К. Русецкага. **7.** Ці можна казённых сялян лічыць «вольнымі сельскімі абывацелямі»? Свой адказ растлумачце.

# § 8. РЭФОРМЫ Ў СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ Ў СЯРЭДЗІНЕ XIX ст.

***Успомніце.*** Што ўяўляла сабой фальваркова-паншчынная сістэма гаспадарання?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць характар рэформаў у сельскай гаспадарцы Беларусі ў першай палове XIX ст.

**Нарастанне сялянскіх выступленняў і іх антыпрыгонніцкі характар.** Узмацненне прыгоннага ўціску сялян выклікала іх супраціўленне. Формамі сялянскага руху былі падача ўладам скаргаў на памешчыкаў, адмова ад паслушэнства ўладальнікам, спыненне выхаду на паншчыну, напады на панскія двары. Сяляне жылі надзеяй на хуткае скасаванне прыгонніцтва, што ўсё часцей адлюстроўвалася ў іх патрабаваннях.



«...—Дзецюкі! Худа нам жыць!
Пакіньма прыгон служыць!
Зробім вольнасць і урэч
Нас ураднік не будзе сеч!..»

*З папулярнай у народзе паэмы Яна Баршчэўскага «Размова (бунт) хлопаў»*

У 1847 г. сярод сялян Віцебскай губерні распаўсюдзіліся чуткі, што за адпрацоўку трох гадоў на будаўніцтве чыгункі Пецярбург — Масква цар даруе ім волю і надзеліць зямлёй ва ўрадлівых паўднёвых губернях. Гэта стала падставай для масавых уцёкаў сялян. Агульная колькасць удзельнікаў гэтага руху дасягнула 10 тыс. чалавек. Урад вымушаны быў увесці войскі ў губерню і адпраўляць сялян назад. Амаль 4 тыс. сялян былі пакараны бізунамі. Усё ж да ўладальнікаў не вярнуліся 800 уцекачоў, з іх амаль $^1/_3$ — жанчыны. Сяляне заяўлялі, што лепш загінуць, чым вярнуцца да памешчыкаў.



*Пакаранне сялян. Малюнак М. Гуціева*

У 1847 г. у маёнтку Смаргонь Ашмянскага павета было распаўсюджана пісьмо з заклікам да ся-

лян, незадаволеных злоўжываннямі мясцовай адміністрацыі, каб яны сумесна з мяшчанамі выразалі ўсіх памешчыкаў, аканомаў і здабылі сабе свабоду.



З адозвы «Да смаргонскіх сялян»: «Нашы пасяляне, ці так званыя сяляне (хлопы), пачалі адыгрываць дужа важную ролю ў цяперашнім свеце; прычыны таму наступныя:

1. Спрадвеку вядома ўсім, што ўсю амаль сілу народа складае клас, званы сялянамі; 2. Земляробства і, значыць, усе спосабы да пракармлення знаходзяцца ў руках сялян; 3. Уся вайсковая сіла складаецца з тых жа сялян... У нас... у многіх месцах пачынаюць сяляне — у згодзе з салдатамі — бунтавацца; трэба толькі аднадушна і раптоўна дзейнічаць...»

Аўтарам «абуральнай адозвы» аказаўся дробны чыноўнік шляхціц ***Юльян Бакшанскі***. Як паказала следства, ён адначасова пасылаў лісты ў некалькі паветаў, збіраўся даць смаргонскім сялянам значную суму грошай для набыцця зброі і пашырыць сялянскі рух аж да Вільні з мэтай забойства губернатара. Распаўсюджванне закліку вымусіла многіх памешчыкаў Ашмянскага, Вілейскага і Дзісенскага паветаў спешна выехаць у Вільню. Губернскія ўлады ўжылі надзвычайныя меры, каб справіцца з сітуацыяй.

Сялянскія выступленні сталі адным з яскравых прыкладаў разлажэння прыгоннай сістэмы. Калі ў першай трэці XIX ст. адбылося 46 буйных сялянскіх хваляванняў, то ў другой трэці XIX ст. — больш за 90. З кожным дзесяцігоддзем памешчыкам і ўладам станавілася ўсё складаней трымаць сялян у паслушэнстве. Гэта вымушала самадзяржаўе ажыццяўляць пэўныя захады па вырашэнні *аграрнага пытання*, якое тычылася ўласнасці на зямлю і яе размеркавання, па рэфармаванні сельскай гаспадаркі.

**Рэформа П. Д. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы.** У 1840—1857 гг. была праведзена рэформа дзяржаўных сялян, якія складалі каля $^1/_5$ усяго сялянства Беларусі. Дзяржаўныя сяляне карысталіся казённымі землямі, а казённыя маёнткі амаль усе здаваліся прыватным асобам у арэнду (часовае карыстанне за вызначаную плату). Таму эканамічнае і прававое становішча дзяржаўных сялян да канца 1830-х гг. практычна не адрознівалася ад становішча памешчыцкіх прыгонных сялян. Царскі ўрад, ажыццяўляючы рэформу ў дзяржаўнай вёсцы, меў на мэце павышэнне даходнасці казённых маёнткаў і разлічваў заваяваць сімпатыі сялянскіх мас.



*П. Д. Кісялёў*

Ініцыятарам і асноўным праваднікам рэформы стаў міністр дзяржаўных маёмасцей Расійскай імперыі граф ***Павел Дзмітрыевіч Кісялёў*** — прыхільнік абмежавання феадальна-прыгонніцкіх адносін.



У запісцы цару ў 1835 г. П. Д. Кісялёў адзначаў: «Ніжэйшы клас, які складаецца з сялян, не з-за шчырай адданасці Расіі, а па нянавісці да ўладальнікаў-католікаў, што наклалі цяжкі на іх прыгнёт... дае сабой важную перавагу на карысць урада. А таму само сабой вынікае, што трэба... зацвердзіць правы, дабрабыт і адданасць да ўрада апошняга».

У ходзе *рэформы П. Д. Кісялёва* было праведзена апісанне дзяржаўных уладанняў, змяншаліся павіннасці сялян і павялічваліся іх зямельныя надзелы. Сяляне казённых маёнткаў пераводзіліся з паншчыны на чынш (грашовы аброк). Спынялася здача казённых маёнткаў у арэнду. Прызнавалася «грамадзянская свабода» дзяржаўных сялян, што выгадна адрознівала іх ад бяспраўных памешчыцкіх падданых. У дзяржаўнай вёсцы ствараліся сельскія грамады — *абшчыны* — з выбарным кіраваннем, якім давяралася самастойнае вырашэнне гаспадарчых, адміністрацыйных і судовых спраў. Праводзілася, хоць і малаэфектыўная з-за недахопу сродкаў, палітыка «апякунства» над дзяржаўнымі сялянамі. Яна прадугледжвала дапамогу ў выпадку неўраджаяў і эпідэмій, арганізацыю пачатковага навучання дзяцей, меры па ахове здароўя.

**Рэформа ў памешчыцкай вёсцы.** Каб крыху аслабіць прыгонніцкія адносіны ў памешчыцкай вёсцы, урад пагадзіўся на правядзенне так званай *інвентарнай рэформы*. Традыцыя складання інвентароў існавала ў Беларусі яшчэ з XVI ст. У іх уладальнікі ўносілі звесткі пра межы маёнтка, даходы насельніцтва, памеры сялянскіх надзелаў і павіннасцей.

Інвентарная рэформа пачала ажыццяўляцца з 1844 г. Яе сутнасць зводзілася да рэгулявання памераў надзелаў і павіннасцей памешчыцкіх сялян, што замацоўвалася ў інвентарах. Інвентары з'яўляліся абавязковымі не толькі для сялян, але і для памешчыкаў. Яны былі ўведзены ў памешчыцкіх маёнтках Заходняй і Цэнтральнай Беларусі і ў частцы маёнткаў Усходняй Беларусі.

Рэформа выклікала супраціўленне памешчыкаў, якія не жадалі ўнармавання сялянскіх павіннасцей, і нараканні сялян там, дзе павіннасці аказаліся завышанымі. Перагляд і выпраўленне інвентароў цягнуліся да 1857 г.



З успамінаў аднаго з губернскіх чыноўнікаў: «... у гэтыя інвентары ўкраліся такія злоўжыванні, што сяляне аказаліся абцяжаранымі работамі і іншымі павіннасцямі на карысць іх уладальнікаў больш, чым яны адбывалі іх да ўвядзення інвентарнай сістэмы».

Абавязковыя інвентары афіцыйна абмяжоўвалі ўладу памешчыкаў і давалі сялянам хоць нейкую магчымасць адстойваць свае інтарэсы. У цэлым жа рэформы 1840-х — першай паловы 1850-х гг. стваралі лепшыя ўмовы для развіцця гаспадарчай ініцыятывы сялян пераважна ў дзяржаўнай вёсцы. Аднак гэтыя пераўтварэнні не знішчылі прыгоннага права, якое з'яўлялася асновай феадальных парадкаў.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *аграрнае пытанне, рэформа П. Д. Кісялёва, абшчына, інвентарная рэформа.*

## Пытанні і заданні

**1.** Вызначце, аб чым сведчыла нарастанне колькасці сялянскіх выступленняў. **2.** Папрацуйце па метадзе ключавога слова з тэкстам адозвы «Да смаргонскіх сялян». Да чаго заклікаў сялян аўтар «абуральнай адозвы» Ю. Бакшанскі? Ці меў ён шанцы на поспех? Свой адказ растлумачце. **3.** Вызначце матывы правядзення рэформы, аб якіх згадваецца ў запісцы П. Д. Кісялёва цару ў 1835 г. **4.** Запоўніце ў сшытку параўнальную табліцу «Рэформы сельскай гаспадаркі Беларусі ў 1840—1850-х гг.».

| План параўнання | Рэформа дзяржаўнай вёскі | Інвентарная рэформа |
|---|---|---|
| Час і месца правядзення | | |
| Прычыны і мэты правядзення | | |
| Праведзеныя мерапрыемствы | | |
| Вынікі рэформы | | |

**5.** У рапарце графа Чапскага міністру ўнутраных спраў у 1853 г. адзначалася: «У час увядзення інвентароў селянін думаў, што хутка ўрад вызваліць яго ад усіх падаткаў і павіннасцей, памешчык жа дрыжаў, прадчуваючы нявыгадныя для яго перамены». Якое становішча склалася на самай справе пры правядзенні інвентарнай рэформы? **6.** Ці можна лічыць рэформу П. Д. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы эфектыўнай? Выкарыстайце паказчыкі павелічэння зямельных надзелаў дзяржаўных сялян і памяншэння іх павіннасцей, змешчаныя на карце «Эканамічнае развіццё Беларусі ў першай палове XIX ст.» у атласе.

## § 9. ПРАМЫСЛОВАСЦЬ, ГАНДАЛЬ, ГАРАДЫ І МЯСТЭЧКІ Ў БЕЛАРУСІ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

***Успомніце.*** **1.** Чым фабрыка адрозніваецца ад мануфактуры? **2.** Што ўяўлялі сабой кірмашы?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць прыкметы выспявання прамысловага перавароту ў Беларусі.

**Формы прамысловай вытворчасці і пачатак прамысловага перавароту.** У першай палове XIX ст. прамысловасць у Беларусі была прадстаўлена рознымі тыпамі прадпрыемстваў: рамеснымі майстэрнямі, мануфактурамі, фабрыкамі. Сярод прамысловых прадпрыемстваў у найбольш выгадным становішчы знаходзіліся тыя, якія належалі дваранам-памешчыкам. Гэта тлумачылася тым, што памешчыкі мелі ва ўласнасці зямлю, яе нетры і лясныя багацці, бясплатную сыравіну і выкарыстоўвалі дармавую рабочую сілу прыгонных сялян. З такімі прадпрыемствамі цяжка было канкурыраваць прадпрыемствам, арганізаваным купцамі і мяшчанамі на ўласныя грошы. Таму купецка-мяшчанская прамысловасць у гарадах была прадстаўлена амаль выключна прадпрыемствамі рамеснага тыпу з ручной вытворчасцю, на якіх не існавала падзелу працы. Да іх адносіліся невялікія майстэрні з колькасцю рабочых не больш за 5 чалавек, уключаючы і самога гаспадара.

Да дробнатаварнай вытворчасці належалі прадпрыемствы, дзе працавала ад 6 да 15 рабочых. Тут ужо гаспадар займаўся толькі арганізацыяй працэсу вырабу і збыту прадукцыі. Яшчэ большая колькасць рабочых (звыш 16) дазваляла падзяліць вытворчы працэс на асобныя аперацыі, што было характэрна для мануфактурнай стадыі прамысловага развіцця.

Новай з’явай у прамысловым развіцці Беларусі ў першай палове XIX ст. стаў пачатак пераходу ад мануфактурнай да фабрычнай вытворчасці, што сведчыла аб пачатку прамысловага перавароту. Першыя ў Беларусі фабрыкі — прамысловыя прадпрыемствы, на якіх існаваў падзел працы і выкарыстоўваліся машыны, былі пабудаваны ў 1820-я гг. у мястэчках Хомск Кобрынскага і Косава Слонімскага паветаў. Фабрыкі, якія выраблялі сукно, належалі буйному землеўладальніку графу ***Войцеху Пуслоўскаму*** — пачынальніку прадпрымальніцкай дынастыі. На Хомскай фабрыцы ў 1823 г. працавала больш за 400 рабочых з ліку прыгонных сялян. На прадпрыемствах Пуслоўскага ўпершыню ў Беларусі былі выкарыстаны паравыя рухавікі. Яны замянялі на фабрыках ручную працу і патрабавалі спецыяльна падрыхтаваных рабочых. Прымусовая дармавая праца прыгонных на памешчыцкіх прадпрыемствах была малавыніковай.



Англійскі падарожнік В. Кокс у сваім дзённіку пакінуў звесткі аб працы прыгонных сялян на гродзенскіх мануфактурах у канцы XVIII ст.: «...Адна з вучаніц, больш бойкая, сказала свайму наглядчыку, які стараўся павысіць выніковасць яе працы: „Якую карысць атрымаю я, калі паслухаюся вашай парады? Якой бы ўмелай я ні стала ў сваім рамястве, я заўсёды буду прыгоннай свайго гаспадара — праца будзе мая, а барыш яго“... Большасць з іх мела на сваім твары выраз такога глыбокага смутку, што маё сэрца надрывалася ад болю, калі я глядзеў на іх. Лёгка было зразумець, што яны працуюць па прымусу, а не па схільнасці».

На дробных прадпрыемствах, якія належалі купцам і мяшчанам, выкарыстоўвалася вольнанаёмная рабочая сіла. Паводле розных падлікаў, наёмныя рабочыя ў Беларусі складалі не менш чым $^1/_3$ ад усіх рабочых. Аднак існаванне прыгоннага права стрымлівала фарміраванне рынку свабоднай рабочай сілы.

У 1860 г. у Беларусі налічвалася 140 мануфактур і 76 фабрык і заводаў. Амаль усе яны належалі памешчыкам. Некаторыя фабрыкі былі даволі буйныя. Так, у мястэчку Гомель на цукровым прадпрыемстве князя І. Ф. Паскевіча працавала больш за 200 чалавек, а ў маёнтку Старынцы Чэрыкаўскага павета на металаапрацоўчым прадпрыемстве графа Бенкендорфа — 600 рабочых.

Прамысловасць у Беларусі была прадстаўлена пераважна прадпрыемствамі па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны: вінакурнымі (па вырабе гарэлкі з бульбы і збожжа), суконнымі, палатнянымі, мукамольнымі і цукровымі (па перапрацоўцы цукровых буракоў). Першая цукровая фабрыка ў Беларусі пачала працаваць у 1830 г. у маёнтку Моладава Кобрынскага павета і належала прадпрымальніку Аляксандру Скірмунту. Фабрыкант упершыню ў сусветнай практыцы вынайшаў устаноўку для паскоранага бесперапыннага




*Фірменны знак суконнай фабрыкі ў мястэчку Альбярцін (цяпер у межах Слоніма), якая належала Пуслоўскім*

выпарвання цукровага сіропу, якое доўжылася толькі 4—5 хвілін замест ранейшых 4—5 гадзін. Скірмунт, зарэгістраваўшы сваё адкрыццё, стаў першым у Расійскай імперыі афіцыйна прызнаным вынаходнікам з Беларусі.

**Развіццё шляхоў зносін і гандлю. Роля кірмашоў.** У канцы XVIII — першай палове XIX ст. праводзіліся работы па паляпшэнні шляхоў зносін. Пачалося будаўніцтва паштовых дарог, а з 1830-х гг. — і шашэйных (з дарожным палатном, абочынамі і кюветамі). З усходу на захад пралягла магістральная шаша Масква — Брэст — Варшава, з поўначы на поўдзень — Пецярбургска-Кіеўская дарога. Падвергліся рэканструкцыі ці былі пабудаваны каналы, што злучылі рэкі басейнаў Чорнага і Балтыйскага мораў: Агінскі (Дняпро і Нёман), Бярэзінскі (Дняпро і Заходнюю Дзвіну), Дняпроўска-Бугскі (Дняпро і Віслу), Аўгустоўскі (Нёман і Віслу) (**1). Па Дняпры, Прыпяці, Заходняй Дзвіне пайшлі параходы. Першы параход магутнасцю 12 конскіх сіл быў пабудаваны англічанінам А. Смітам — механікам гомельскага маёнтка, што належаў графу М. П. Румянцаву, — і прайшоў выпрабаванні на Сажы ў 1824 г. Значна павялічылася колькасць прыстаней, а грузаабарот па галоўных рэках Беларусі за 1844—1860 гг. узрос больш як у 2 разы.

На рынак працавалі галоўным чынам памешчыцкія гаспадаркі. Яны пастаўлялі прадукцыю земляробства і жывёлагадоўлі, лесаматэрыялы. Каля па-




*Шляхі зносін у першай палове XIX ст.*



*Будаўніцтва шашэйнай дарогі*

ловы даходаў памешчыкаў складаў продаж гарэлкі. Рост гарадскога насельніцтва абумоўліваў попыт на сельскагаспадарчую прадукцыю. Прыгоннае сялянства вяло ў асноўным натуральную гаспадарку і амаль не купляла прамысловых тавараў.

Пашыраўся знешні гандаль. З Заходняй Еўропы праз Беларусь ішлі транзітныя грузы ў рускія гарады, а з Расіі — на заходнееўрапейскія рынкі. У вывазе з Беларусі пераважалі лён і льнопрадукты, збожжа, гарэлка, спірт, воўна, сала, лес. У Беларусь прывозілі соль, металы, паравыя машыны і тэхнічнае абсталяванне, тканіны з бавоўны і шоўку, фарфоравы і фаянсавы посуд, тытунь, марскую рыбу, чай, каву.

Арганізатарамі гандлю выступалі купцы. Яны скуплялі ў вытворцаў сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю, сыравіну, дастаўлялі тавары ў гарады і на рачныя прыстані, вывозілі за мяжу. Аднак мясцовыя купецкія



*Віцебск. Параходная прыстань*

капіталы пакуль што былі невялікія. Замежныя купцы ў пачатку XIX ст. прыязджалі ў асноўным з Варшавы, Данцыга (цяпер Гданьск) і іншых заходніх гарадоў. У 1840-я гг. іх выцеснілі купцы з гарадоў Расіі.

Важную ролю ў гандлі да сярэдзіны XIX ст. працягвалі адыгрываць кірмашы. Яны праводзіліся ў мястэчках і гарадах у пэўныя дні, а буйнейшыя доўжыліся тыдзень і болей. Звычайна кірмашы супадалі з царкоўнымі святамі, на іх адбываліся народныя гулянні і тэатралізаваныя прадстаўленні.



З мемуараў графа Л. Патоцкага: «Раз на год у Зэльве адбываліся кірмашы, пераважна конскія. Там можна было ўволю наглядзецца на коней з Сапегавага, Пацеевага, Радзівілаўскага табуноў, на чыстакроўных польскіх коней, парода якіх ужо знікла. Туды дастаўляліся з усходу найпрыгажэйшыя жарабцы. А далёка вакол горада запаўнялі ўсё ўкраінскія табуны. У Зэльву з'язджаліся купцы з Варшавы, з Вільні... з Адэсы, Бухары... персы з Астрахані, збіраліся шматлікія абывацелі з усёй Літвы. Штораніцы са стайняў выводзяць коней, аб'язджаюць, прабуюць, гандлююць, прадаюць альбо купляюць. Пасля абеду ўсе разбрыдаюцца па крамах, вечарам — тэатр, маскарад... або дамоўленыя сходкі па прыватных дамах».

Зэльвенскі кірмаш быў самым значным з усіх 43 у Гродзенскай губерні. У Віцебскай губерні найбольш вядомымі былі Асвейскі і Бешанковіцкі кірмашы, у Магілёўскай — Любавіцкі. Кірмашовы гандаль з цягам часу пачаў звужацца. На змену яму ішоў пастаянны крамна-магазінны гандаль і штотыднёвыя гарадскія базары.

**Гарады і мястэчкі Беларусі.** За перыяд з 1825 па 1861 г. насельніцтва 42 гарадоў Беларусі павялічылася са 151 тыс. да 320 тыс. чалавек. Аднак удзельная вага гараджан сярод жыхароў Беларусі заставалася на ўзроўні 10 %. Сярод іх пераважалі рамеснікі і дробныя гандляры, што ўваходзілі ў склад саслоўя мяшчан. У губернскіх цэнтрах было шмат чыноўнікаў, дваран, духавенства. Купцы і багатыя мяшчане адыгрывалі вырашальную ролю ў гарадскім самакіраванні (**2).

Насельніцтва гарадоў традыцыйна было шматканфесіянальным і шматэтнічным. Большую частку гараджан складалі яўрэі. Гэта тлумачылася існаваннем мяжы яўрэйскай аселасці, а таксама царскай палітыкай прымусовага перасялення яўрэяў з вёсак у мястэчкі і гарады. Горад рос таксама і за кошт павелічэння вайсковых гарнізонаў.

Гарады пашыраліся тэрытарыяльна. Паступова яны страчвалі рысы феадальных гарадоў з іх скучанасцю і цеснатой. Зносіліся валы і сцены. У цэнтры размяшчаліся адміністрацыйныя і культурна-асветныя ўстановы, буй-

ныя магазіны. Тут дамы былі мураваныя, вуліцы брукаваліся і асвятляліся ўначы. Ускраіны забудоўваліся драўлянымі домікамі, дзе сяліліся беднata, рамеснікі і дробныя гандляры.



Павел Шпілеўскі ў сваім «Падарожжы па Палессі і беларускім краі» адзначаў: «Мінск належыць да ліку вялікіх і прыгожых гарадоў Заходняй Расіі... За выключэннем Траецкага прадмесця, Татарскага канца і некаторых глухіх завулкаў па ўскраінах горада, у Мінску ўсе дамы мураваныя і большай часткай вельмі вялікія, а вуліцы даволі гладка выбрукаваны каменем і ўтрымліваюцца вельмі чыста. Раскінуты на гарах і кручах Мінск амаль з усіх трактаў ці ўездаў выглядае цудоўна; але асабліва адкрыты і маляўнічы від ад уезду барысаўскага, пачынаючы ад Камароўкі. Перад вамі распасціраецца панарама некалькіх гор, узгоркаў і крутых абрываў, усланых штучнымі і натуральнымі газонамі, вялікімі садамі, аранжарэямі, раскошнымі кветнікамі, якія абмываюцца водамі Свіслачы, што ўецца як змейка».

Аднак больш-менш прыстойна ўтрымліваліся толькі губернскія цэнтры, у якіх пражывала па некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Больш дробныя, паветовыя гарады сваім знешнім выглядам і ладам жыцця, за асобнымі выключэннямі, недалёка адышлі ад мястэчак — населеных пунктаў пераходнага ад вёскі да горада тыпу. Колькасць мястэчак вырасла да 400 за кошт адкрыцця ў іх кірмашоў і базараў.

Уздоўж гандлёвых шляхоў, на плошчах гарадоў і мястэчак будаваліся корчмы — заезныя дамы і харчэўні, дзе спыняліся, харчаваліся, начавалі падарожныя. На іх аснове сфарміраваліся гасцініцы і паштовыя станцыі.



*Мінск у 30-х гг. XIX ст.*
*Мастак В. Сташчанюк*

### Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** У 1824—1839 гг. у цяжкапраходнай мясцовасці Аўгустоўскай пушчы вялося будаўніцтва канала даўжынёй 101,2 км, каб злучыць Нёман і Віслу. Па пабудаваным канале штогод праходзіла каля 400 суднаў, якія цягнулі пры дапамозе канатаў коні. Канал меў мураваныя шлюзы і добрае тэхнічнае абсталяванне. У 1852 г. К. Бжастоўскі сканструяваў арыгінальны паравы кацёл для печы, у якой адліваліся масіўныя металічныя вароты для шлюзаў канала.

Будаўніцтва чыгункі ў другой палове XIX ст. стала прычынай скарачэння перавозкі грузаў па канале. У 2004 г. у нашай рэспубліцы было прынята рашэнне аб рэканструкцыі часткі канала, якая знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. Гэтыя работы аб'яўлены маладзёжнай будоўляй.



*Будынак адноўленай гарадской ратушы ў Мінску*

****2.** У 1851 г. гарадская дума ў Мінску прыняла рашэнне аб ліквідацыі будынка ратушы, які напамінаў пра магдэбургскае права, атрыманае Мінскам у 1499 г. Імператар Мікалай I налажыў на гэтае рашэнне наступную рэзалюцыю: «Зламаць, а варту перавесці ў будынак прысутных месцаў». У 1857 г. двухпавярховы будынак ратушы з вежаю, звонам і гарадскім гадзіннікам быў разбураны. У 2004 г. ратуша, як архітэктурны элемент гістарычнага цэнтра Мінска, была адноўлена.

### Пытанні і заданні

**1.** Чаму сярод гарадскіх жыхароў Беларусі пераважалі яўрэі? **2.** а) Запоўніце ў сшытку параўнальную табліцу «Тыпы прамысловых прадпрыемстваў, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі ў першай палове XIX ст.».

| **Прыкметы для параўнання** | **Тыпы прадпрыемстваў** | | |
|---|---|---|---|
| | | | |
| Выкарыстанне ручной або машыннай працы | | | |
| Існаванне падзелу працы | | | |
| Колькасць работнікаў | | | |

б) Зрабіце выснову, на якім з тыпаў прадпрыемстваў праца работнікаў была найбольш эфектыўнай. **3.** Чаму праца прыгонных сялян на мануфактурах была неэфектыўнай? Выкарыстайце звесткі англійскага падарожніка В. Кок-

са. **4.** Чаму большасць прамысловых прадпрыемстваў у Беларусі была размешчана ў сельскай мясцовасці, а не ў гарадах? **5.** Дакажыце з дапамогай канкрэтных гістарычных фактаў, што ў Беларусі ў першай палове XIX ст. распачаўся прамысловы пераварот. **6.** Вызначце з дапамогай картасхемы ў параграфе важнасць выкарыстання шляхоў зносін для вывазу і ўвозу тавараў. **7.** Зрабіце апісанне кірмашу, карыстаючыся рубрыкай «Галасы мінулага».

## § 10. АДУКАЦЫЯ І НАВУКА Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

***Успомніце.*** Назвы тайных студэнцкіх арганізацый, створаных у 1817—1823 гг., імёны ўдзельнікаў і іх погляды.

***Вучэбная задача.*** Вызначыць характар урадавай палітыкі ў галіне адукацыі на тэрыторыі Беларусі да і пасля паўстання 1830—1831 гг. і сутнасць беларусазнаўства.

**Змены ў сістэме адукацыі. Тыпы школ. Вышэйшыя навучальныя ўстановы.** У 1803—1804 гг. была праведзена рэформа асветы, у адпаведнасці з якой школы беларускіх губерняў былі ўключаны ў склад Віленскай навучальнай акругі. Цэнтрам адукацыі і навукі з'яўляўся Віленскі ўніверсітэт. Выкладанне ва ўніверсітэце вялося на польскай мове. Сярод студэнцтва заахвочвалася вывучэнне гісторыі і мясцовых традыцый. Папячыцелем (кіраўніком) навучальнай акругі стаў блізкі да расійскага імператара Аляксандра І князь Адам Чартарыйскі. Будучы патрыётам Рэчы Паспалітай, ён зрабіў асвету дзейсным сродкам пашырэння сярод навучэнцаў ідэй адраджэння гэтай дзяржавы.

Пасля падаўлення ўладамі паўстання 1830—1831 гг. асвета пачала будавацца на прынцыпах «праваслаўя, самадзяржаўя і народнасці». Гэта азначала выхаванне і навучанне вучняў у духу вернасці Рускай праваслаўнай царкве і адданасці расійскаму самадзяржаўю. Царскі ўрад не прызнаваў існавання самастойнай беларускай мовы, лічачы яе дыялектам рускай. Адбываўся перавод навучання з польскай на рускую мову.



Генерал-губернатар М. А. Далгарукаў у 1833 г. у справаздачы Мікалаю І аб кіраванні Віленскай і Гродзенскай губернямі і Беластоцкай вобласцю пісаў: «Ва ўсе часы, ва ўсіх краінах свету мова заўжды была і будзе непасрэднай зброяй урада для дасягнення ўсемагчымых відаў і намераў. Усюды пануючая мова дзяржавы, як пануючае веравызнанне... павінна мець перавагу перад мясцовымі гаворкамі аддаленых, прыгранічных ці новадалучаных краін. Агульнае ўжыванне пануючай мовы ў дзяржаве непрыкметна збліжае разнародныя яе плямёны... і нарэшце злівае ўсе чужацкія плямёны ў адзін народ».

У 1819 г. у Гомелі — тагачасным маёнтку графа М. П. Румянцава — была адкрыта першая ў Расійскай імперыі *ланкастэрская школа* ўзаемнага навучання. Гэтыя школы прызначаліся для таннага і хуткага атрымання элементарнай адукацыі па сістэме англійскіх педагогаў Дж. Ланкастэра і А. Бэла. Навучанне дзяцей і дарослых у іх вялося больш падрыхтаванымі вучнямі пад кіраўніцтвам настаўніка.

Сістэма адукацыі была саслоўная. У адпаведнасці з рэформай П. Д. Кісялёва ў 1840-я гг. сталі адкрываць пачатковыя школы для дзяржаўных сялян, настаўнікамі ў якіх часцей за ўсё былі мясцовыя святары. Аднак для ўсяго сялянства адукацыя яшчэ не прадугледжвалася. Сярэднюю адукацыю ў першай палове XIX ст. давалі гімназіі, створаныя ў Мінску, Гродне, Магілёве, Віцебску, Жыровічах, Свіслачы, а таксама езуіцкія калегіумы. Сярод апошніх узроўнем адукацыі вылучаўся Полацкі калегіум, пераўтвораны ў езуіцкую акадэмію, якая дзейнічала ў 1812—1820 гг.

Вышэйшая адукацыя існавала толькі для дзяцей дваран. Еўрапейскую навуковую славу меў Віленскі ўніверсітэт (з 1796 да 1803 г. — Галоўная Віленская школа). Пры ім дзейнічалі добра абсталяваная абсерваторыя, адзін з самых значных у Еўропе батанічных садоў, першы ў Расіі заалагічны музей, багатая бібліятэка. Усё гэта дазваляла студэнтам атрымліваць вышэйшую




*Адукацыйныя ўстановы ў першай палове XIX ст.*

адукацыю на ўзроўні, які не саступаў лепшым універсітэтам Заходняй Еўропы. У 1832 г. Віленскі ўніверсітэт быў закрыты ў сувязі з удзелам яго студэнтаў у паўстанні 1830—1831 гг.

У 1840 г. пачала працаваць Горы-Горацкая земляробчая школа, пераўтвораная пазней у інстытут — першую ў Расіі вышэйшую агранамічную навучальную ўстанову. Тут развівалася аграбіялогія, праводзілася работа па вывядзенні высокапрадукцыйных парод жывёлы і новых сартоў сельскагаспадарчых культур. Напрыклад, у 1853 г. на выстаўцы ў Горы-Горках экспанавалася 28 гатункаў бульбы і розныя прадукты з яе.

**Станаўленне навуковых ведаў пра Беларусь і беларускі народ.** У першай палове XIX ст. адбывалася станаўленне *беларусазнаўства* — навукі, якая вывучае гісторыю, культуру, традыцыі, адметныя і агульныя рысы беларусаў. Шмат у гэтай галіне зрабілі адукаваныя прадстаўнікі мясцовай шляхты. Яны вывучалі гісторыю роднага краю і народную культуру.

Адным з першых даследчыкаў гісторыі, вуснай народнай творчасці і мовы стаў ***Павел Шпілеўскі***. Вядомасць яму прынеслі нарысы «Падарожжа па Палессі і беларускім краі».



П. Шпілеўскаму належыць спроба стварэння слоўніка і граматыкі беларускай мовы. Ён адзначаў: «...беларуская мова такая самастойная... паданні, павер'і і казкі яе такія арыгінальныя... што... становіцца неабходным даследаваць і адшукаць галоўны прыстанак старажытнай рускай славяншчыны і пазнаёміцца выразна з першапачатковымі яе элементамі, што захаваліся ў Беларусі: вывучаючы беларускую мову, паданні, павер'і і казкі беларускага народа, мы вывучаем мову, паняцці і вераванні сваіх продкаў».

Адным з першых збіральнікаў і даследчыкаў беларускага фальклору быў паэт ***Ян Чачот***. Ён выдаў 6 фальклорных песенных зборнікаў (**1). У сваіх вершах і баладах паэт крытыкаваў жорсткасць прыгоннікаў, заклікаў гуманна адносіцца да сялян.



*Я. Чачот*



«Нашым сялянам мы абавязаны тым, — сцвярджаў ад імя перадавой шляхты Я. Чачот, — што яны захавалі старажытныя абрады і песні. Ім і за гэта мы павінны быць удзячныя. Паддаўшыся ўплыву суседніх плямён і цывілізацый Еўропы, мы самі змяніліся хутчэй, чым яны; а таму і забылі мы тыя песні, якія далёкая прапрабабка не ад-

нага з нас, можа, нават у той жа самай вёсцы спявала пры кудзелі разам са сваімі роднымі, нашчадкі якіх ад таго, што не мелі заслуг у краі, засталіся ў становішчы падданых».



К. Тышкевіч

Вялікі ўклад у станаўленне беларусазнаўства зрабілі графы браты ***Канстанцін*** і ***Яўстафій Тышкевічы***. Яны займаліся вывучэннем усходнеславянскай і беларускай археалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі. У 1842 г. Канстанцін заснаваў у родным Лагойску першы ў Беларусі гістарычны музей. Па ініцыятыве Яўстафія ў 1855 г. быў створаны Віленскі музей старажытнасцей. Пры ім дзейнічала археалагічная камісія, якая займалася зборам, даследаваннем і папулярызацыяй гістарычнай і культурнай спадчыны беларусаў. Я. Тышкевіч стаў ганаровым членам Пецярбургскай і Стакгольмскай акадэмій навук, Лонданскага археалагічнага інстытута.



Я. Тышкевіч

Развіццё навуковых ведаў пра Беларусь і беларускі народ у першай палове XIX ст. сведчыла пра абуджэнне цікавасці да гістарычных каранёў роднага краю. Дзеячы культуры разумелі ролю асветы і навукі для развіцця краю і згуртавання яго жыхароў.

У першай палове XIX ст. па ініцыятыве дырэктара Пулкаўскай абсерваторыі В. Я. Струвэ праводзіліся геадэзічныя вымярэнні, у тым ліку і ў Беларусі, для вызначэння памеру і формы Зямлі. Геадэзічная дуга Струвэ разглядаецца як адна з важнейшых падзей у развіцці сусветнай астраноміі (**2).

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *ланкастэрская школа, беларусазнаўства.*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** У Полацку ў 2003 г. узведзены незвычайны помнік — памятны знак літары беларускага алфавіта «Ў». Лічыцца, што яна ўпершыню з'явілася ў беларускіх тэкстах Я. Чачота. Затым стала шырока выкарыстоўвацца ў творах В. Дуніна-Марцінкевіча.

**2. Буйнамаштабныя вымярэнні па лініі Дугі Струвэ, якая праходзіць ад Паўночнага Ледавітага акіяна да Чорнага мора, праводзіліся з 1816 па 1855 г. Праведзеныя вымярэнні дазволілі вызначыць дакладны памер і форму Зямлі. Дуга ўяўляе сабой сетку з 265 геадэзічных пунктаў працягласцю 2820 км, якая праходзіць па тэрыторыі 10 еўрапейскіх краін, у тым ліку 31 пункт у Беларусі (у цяперашні час знойдзена 19 пунктаў, што захаваліся). У 2005 г. Дуга Струвэ як міжнародная трансгранічная намінацыя ўключана ў Спіс Сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА (на тэрыторыі Беларусі гэта 6 аб'ектаў).



*Памятны знак літары «Ў» у Полацку*

## Пытанні і заданні

**1.** Пералічыце розныя тыпы навучальных устаноў, якія існавалі ў Беларусі. Выкарыстайце картасхему ў параграфе і адпаведную карту ў атласе. **2.** Якія змены і па якіх прычынах адбыліся ў палітыцы ўлад у галіне адукацыі пасля 1830—1831 гг.? **3.** Растлумачце, чаму ў цэнтры адукацыйнай палітыкі самадзяржаўя было пытанне аб мове. Для адказу выкарыстайце справаздачу генерал-губернатара М. А. Далгарукава Мікалаю І. **4.** Пачніце запаўненне ў сшытку табліцы «Дасягненні ў развіцці навукі і культуры Беларусі ў першай палове XIX ст.».

| Прозвішча дзеяча навукі і культуры | Уклад у развіццё навукі і культуры |
|---|---|
| | |

**5.** Якія з дасягненняў беларусазнаўства і яго даследчыкаў выклікаюць у вас пачуццё гонару за продкаў? Свой адказ абгрунтуйце.




*Дуга Струвэ*

## § 11. ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

***Успомніце.*** Што такое беларусазнаўства?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, якія гістарычныя сюжэты і асобы айчыннай гісторыі знайшлі адлюстраванне ў творах беларускай літаратуры і мастацтва.

**Польска-беларускія культурныя дзеячы.** Беларускія землі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння да Расійскай імперыі знаходзіліся пад польскім і рускім уплывам. Адметнай з'явай культурнага жыцця першай паловы XIX ст. стала творчасць польска-беларускіх дзеячаў культуры. Найбуйнейшым іх прадстаўніком быў ***Адам Міцкевіч***. Свае творы ён пісаў на польскай мове, а сюжэтамі для іх станавіліся беларускія народныя паданні і гістарычныя падзеі на землях былога Вялікага Княства Літоўскага, а таксама яго рамантычнае каханне (**1). Беларускую мову паэт лічыў «самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш змененай».



*Міцкевіч на скале Аюдаг. Мастак В. Ваньковіч. 1828 г.*

Да ліку польска-беларускіх культурных дзеячаў адносіцца знакаміты літаратар, ураджэнец Міншчыны ***Уладзіслаў Сыракомля***.

У. Сыракомля ацэньваў ролю беларускай мовы так: «...Пекная гэта галіна славянскай мовы... і старая! Бо гэта мова нашага Літоўскага статута і заканадаўства на працягу двух стагоддзяў — XVI і XVII. І пашыраная! Бо смела можна сказаць, што на ёй размаўлялі тры чвэрці даўняй Літвы, народ, шляхта і паны...»

Беларускае сялянства выконвала вялікую культурна-гістарычную місію, зберагаючы родную гутарковую шматдыялектную мову. І сярод мясцовай шляхты не знікла зусім сувязь з роднай зямлёй. Яе патрыятызм звязваўся з былым Вялікім Княствам Літоўскім, і многія з шляхты лічылі сябе ліцвінамі (літвінамі). Жыло, хоць часта і падсвядомае, пачуццё гістарычнай асобнасці, любові да Бацькаўшчыны — *ліцвінскі патрыятызм*. Ён знаходзіў праяўленне і ў цікавасці да гісторыі ВКЛ, якая даследавалася ў Віленскім універсітэце.

Ігнат Дамейка, знаходзячыся за мяжой, называў сябе ліцвінам, маючы на ўвазе, што яго радзіма калісьці ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

У той жа час ён называў сябе палякам як нашчадак Рэчы Паспалітай, але слова «Польшча» пісаў па-беларуску праз «шч», бо мову ведаў з дзяцінства.

Ураджэнец Магілёўскай губерні гісторык і публіцыст Адам Кіркор пісаў: «Ці Літва для таго, каб быць з Польшчай, павінна перастаць быць Літвой? Не! Я ліцвін, — і ніколі гэта пачуццё ўва мне не будзе знішчана. Я люблю сваю радзіму з усім юначым энтузіязмам, з усёй мужчынскай самаахвярнасцю».

**Станаўленне новай беларускай мовы і літаратуры.** У першай палове XIX ст. пачаўся працэс фарміравання новай беларускай літаратурнай мовы. У яе аснову ляглі гаворкі Цэнтральнай Беларусі. Выдатным узорам іх літаратурнай апрацоўкі з’явілася ананімная паэма «Тарас на Парнасе» (найбольш верагодным аўтарам даследчыкі лічаць Канстанціна Вераніцына). Яна разам з ананімнай паэмай «Энеіда навыварат» (аўтарам лічаць Вікенція Равінскага) паклала пачатак новай беларускай літаратуры.

Адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры быў выпускнік Полацкай езуіцкай акадэміі ***Ян Баршчэўскі***, які пісаў і па-беларуску, і па-польску. Ён — аўтар 4-томнага зборніка «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», выдадзенага ў 1844—1846 гг. Сучаснікі параўноўвалі гэты твор са славутым зборам арабскіх казак «Тысяча і адна ноч». Прататыпам галоўнага героя фантастычнай аповесці Баршчэўскага «Душа не ў сваім целе», па меркаванні даследчыкаў, быў Франц Савіч — кіраўнік Дэмакратычнага таварыства.



*Я. Баршчэўскі*

Першым класікам новай беларускай літаратуры стаў ураджэнец Бабруйшчыны шляхціц ***Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч***. У сваіх вершаваных аповесцях і апавяданнях ён адлюстраваў з’явы вясковага жыцця, духоўную прыгажосць і працалюбства сялян. У двухмоўнай камедыі-оперы «Сялянка» («Ідылія») Дунін-Марцінкевіч паказаў тагачаснае жыццё, калі паны размаўлялі па-польску, а мужыкі — па-беларуску. Складанне твораў на «мужыцкай» мове патрабавала немалой мужнасці, бо іх не падтрымлівалі царскія ўлады і варожа сустракалі апалячаныя памешчыкі.



*В. Дунін-Марцінкевіч*



В. Дунін-Марцінкевіч, зрабіўшы мужыка паўнапраўным героем сваіх твораў, смела заявіў апалячанай шляхце:

«...Ваш суд мне не страшны, хай злосна скавыча
У будцы сабака, увагі на пса не звярну я.
Як раіць пясняр Сыракомля, пішу я
Цяпер, як заўсёды, на мове мужычай...».

Прыгонныя сяляне не мелі магчымасці рэалізаваць уласныя пісьменніцкія таленты. Вядома, напрыклад, што пісаў вершы 15-гадовы сялянскі хлопец ***Паўлюк Багрым***. Яго абвінавацілі ў распаўсюджванні забароненых твораў, адабралі два сшыткі ўласных вершаў, а самога аддалі ў рэкруты. Да нас выпадкова дайшоў толькі адзін яго верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...»:

*...Каб я каршуном радзіўся,*
*Я бы без паноў абыўся:*
*У паншчыну б не пагналі,*
*У рэкруты б не забралі...*

Творчасць А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, Я. Баршчэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча з'яўлялася прыкладам літаратуры стылю рамантызму. Рамантызм быў агульным ідэйным і мастацкім кірункам у еўрапейскай літаратуры і мастацтве канца XVIII — першай паловы XIX ст. Для яго былі характэрны ўвага да ўнутранага свету чалавека, ідэалізацыя прыроды і рэчаіснасці, паэтызацыя гераічных асоб.

**Развіццё мастацтва.** Характэрным для развіцця мастацтва ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. стала спалучэнне класіцызму і рамантызму. Апошні грунтаваўся на нацыянальных пачуццях, вуснай народнай творчасці, традыцыях і абрадах.

Бліскучым майстрам партрэтнага жанру ў выяўленчым мастацтве з'яўляўся ***Іосіф Аляшкевіч***, чыя творчасць была звязана з мастацкім жыццём Беларусі, Расіі, Літвы і Польшчы. Ён аўтар партрэта А. Чартарыйскага, «Групавога партрэта» і інш.



*І. Аляшкевіч. Групавы партрэт. 1813 г.*

Шмат карцін гістарычнага жанру стварыў жывапісец ***Ян Дамель***, творчасць якога сфарміравалася пад уплывам класіцызму. Сярод іх — «Смерць магістра крыжаносцаў Ульрыха фон Юнгінгена ў бітве пад Грунвальдам», «Вызваленне Т. Касцюшкі з цямніцы», «Адступленне французаў праз Вільню ў 1812 г.».

Як вядучы майстар класічнага нацюрморта і бытавога жывапісу ў агульнарасійскім маштабе



*І. Хруцкі. Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай. 1838 г.*

праславіўся беларускі мастак, ураджэнец Віцебшчыны ***Іван Хруцкі***. Яго карціны «Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай», «Партрэт хлопчыка ў саламяным брылі», «Кветкі і садавіна» карыстаюцца папулярнасцю і сёння.

Яркім прадстаўніком рамантызму ў жывапісе з'яўляўся мастак еўрапейскага ўзроўню, ураджэнец Беларусі ***Валенцій Ваньковіч*** (**2). Ён працаваў у гістарычным жанры. Мастак стварыў карціны «Подзвіг маладога кіяўляніна пры аблозе Кіева печанегамі ў 968 годзе», «Напалеон каля вогнішча», партрэт А. С. Пушкіна. Да лепшых твораў Ваньковіча адносіцца карціна «Міцкевіч на скале Аюдаг». На ёй паэт намаляваны ў каўказскай бурцы на фоне Мядзведжай гары ў Крыме, дзе ён адбываў ссылку за ўдзел у Таварыстве філаматаў.

Ураджэнец Беларусі кампазітар ***Станіслаў Манюшка*** напісаў музыку да камедыі-оперы В. Дуніна-Марцінкевіча «Сялянка», якая ў 1852 г. была пастаўлена ў Мінску. С. Манюшка з'яўляецца заснавальнікам польскай класічнай музыкі, у яго творах выкарыстаны беларускія народныя матывы.

Першыя спробы стварэння музычных твораў на аснове беларускіх народных песень і танцаў належаць кампазітару з Віцебшчыны ***Антону Абрамовічу***. Сярод яго твораў — музычная паэма «Беларускае вяселле». У маёнтку Залессе на Смаргоншчыне пісаў паланэзы, у тым ліку «Развітанне з Радзімай», Міхал Клеафас Агінскі — аўтар так і не рэалізаванага праекта адраджэння Вялікага Княства Літоўскага.

У архітэктуры канца XVIII — пачатку XIX ст. панаваў стыль класіцызму. Помнікамі гэтага стылю ў Беларусі сталі губернатарскі палац у Віцебску, саборы Святога Іосіфа ў Магілёве і Святых Пятра і Паўла ў Гомелі, палац-сядзіба Румянцавых-Паскевічаў у Гомелі (**3). У Бабруйску і Брэсце ў першай палове XIX ст. былі пабудаваны крэпасці.



*Туганавічы.*
*Малюнак Н. Орды*

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *ліцвінскі патрыятызм.*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** На многія гады музай творчасці Адама Міцкевіча стала Марыля Верашчака. З ёй паэт пазнаёміўся, калі разам з сябрам Т. Занам прыехаў летам у маёнтак Верашчакаў — Туганавічы (цяпер Баранавіцкі раён). Каханне ўспыхнула з першай сустрэчы. Але Адам у той час быў простым бедным настаўнікам, а Марыля — дачкой заможных бацькоў. Яшчэ да сустрэчы з Міцкевічам дзяўчыну заручылі з графам В. Путкамерам, і яна не магла пайсці супраць волі сям'і.

Марыля Верашчака была вельмі адукаваным чалавекам: ведала некалькі моў, сучасную літаратуру, іграла на фартэпіяна, прыгожа спявала, асабліва беларускія песні. Успаміны пра першае каханне не пакідалі Міцкевіча ўсё жыццё. Аб ім ён расказаў у драматычнай паэме «Дзяды». Зараз аб каханні і месцах сустрэч Марылі і Адама нагадвае старая ліпавая «альтанка», што захавалася ў туганавіцкім парку.

****2.** У самым цэнтры сучаснага Мінска (вул. Інтэрнацыянальная) знаходзіцца дом-сядзіба Валенція Ваньковіча, які быў пабудаваны ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. у стылі класіцызму. У ім збіраліся сябры мастака —



*Дом-сядзіба В. Ваньковіча*

пісьменнік В. Дунін-Марцінкевіч, кампазітар С. Манюшка, мастак Я. Дамель. Ваньковіч сябраваў таксама з Адамам Міцкевічам. У 1998 г. у будынку дома адкрыўся сталічны музей — Дом Ваньковіча — філіял Нацыянальнага мастацкага музея. А ў 2010 г. побач з гэтым Домам-музеем адбылося адкрыццё скульптурнай кампазіцыі «Раніца мастака». У помніку ўвасоблены вобраз маладога і рамантычнага В. Ваньковіча. Большая частка карцін мастака, якія захоўваюцца галоўным чынам у музеях Польшчы, была напісана ў бацькоўскім маёнтку Малая Сляпянка (цяпер непадалёку ад будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі). Па рашэнні ЮНЕСКА — установы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры — 1999 і 2008 гады былі абвешчаны адпаведна гадамі С. Манюшкі і В. Дуніна-Марцінкевіча.

****3.** Гомельскі палац быў закладзены ў 1777 г. на правым беразе ракі Сож генерал-фельдмаршалам П. А. Румянцавым-Задунайскім, якому Кацярына II падаравала Гомель. Амаль 30 гадоў уладальнікам палаца быў яго сын М. П. Румянцаў. Пры ім пабудаваны сабор Святых Пятра і Паўла. М. П. Румянцаў сабраў у палацы ўнікальную калекцыю твораў мастацтва, кніг і манет. У 1834 г. палац перайшоў да генерал-фельдмаршала графа І. Ф. Паскевіча, які таксама сабраў у ім вялікую калекцыю твораў мастацтва. Пры Паскевічу была ўзведзена капліца (мемарыяльная пахавальня) князёў Паскевічаў. Палац з'яўляецца часткай ансамбля, куды ўваходзіць парк. Цяпер у адрэстаўраваным палацы Румянцавых-Паскевічаў размешчаны Гомельскі абласны краязнаўчы музей.



*Палац Румянцавых-Паскевічаў у Гомелі. На першым плане — помнік М. П. Румянцаву*

### Пытанні і заданні

**1.** Прывядзіце прыклады архітэктурных помнікаў у Беларусі, пабудаваных у стылі класіцызму. **2.** Вызначце, якім чынам у жывапісе мастакоў Беларусі адлюстраваўся стыль рамантызму. **3.** Закончыце запаўненне ў сшытку табліцы «Дасягненні ў развіцці навукі і культуры Беларусі ў першай палове XIX ст.». **4.** Дакажыце, што ў першай палове XIX ст. адбываўся працэс станаўлення беларускай літаратурнай мовы, і растлумачце, чаму яна лічылася новай. Пры адказе нагадайце, які статус мела старабеларуская мова ў Вялікім Княстве Літоўскім.

## § 12. БЕЛАРУСЬ У КАНЦЫ XVIII — СЯРЭДЗІНЕ XIX ст. УРОК АБАГУЛЬНЕННЯ

***Успомніце.*** Асноўныя кірункі палітыкі самадзяржаўя на беларускіх землях у канцы XVIII — сярэдзіне XIX ст.

***Вучэбная задача.*** Вызначыць асноўныя вынікі далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі.

**Вынікі грамадска-палітычнага і канфесіянальнага развіцця Беларусі.** У канцы XVIII ст. лёсавырашальнай падзеяй для Беларусі стала ўключэнне яе зямель у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай у склад Расійскай імперыі. Цэнтралізаваная расійская дзяржава спыніла на далучаных землях шляхецкую анархію і магнацкія міжусобіцы. Палітыка царскага ўраду вызначалася ўвядзеннем аднолькавага з Расіяй адміністрацыйнага ўладкавання беларускіх зямель, сістэматызацыяй прававых нормаў, уніфікацыяй дзяржаўнага і грамадскага ладу.

Першапачаткова самадзяржаўе прытрымлівалася кампрамісаў ва ўзаемаадносінах з мясцовым дваранствам. Частка яго, у прыватнасці апалячаная шляхта, а таксама каталіцкае духавенства лічылі падзелы Рэчы Паспалітай стратай дзяржаўнай незалежнасці і таму імкнуліся аднавіць яе ў час вайны 1812 г. і паўстання 1830—1831 гг. Расійскімі ўладамі гэта паўстанне ўспрымалася як бунт польскай шляхты супраць урадавай палітыкі.

Пасля паўстання царскі ўрад стаў на шлях узмацнення сваіх пазіцый у беларускіх землях, маючы на мэце паступовае абмежаванне правоў шляхты. Быў узяты курс на зліццё заходніх губерняў з Расіяй. Гэты курс рэалізоўваўся праз «разбор» шляхты, увядзенне і распаўсюджанне на ўсю тэрыторыю Беларусі расійскага заканадаўства. Шляхта, якая яшчэ ў канцы XVIII ст. дзякую-

чы сваім «залатым вольнасцям» была вызначальнай палітычнай і эканамічнай сілай у краі, паступова страчвала сваё прывілеяванае становішча.

У канфесіянальнай сферы Беларусі адбылося далучэнне ўніяцкай царквы, вернікамі якой з'яўлялася большасць сельскіх жыхароў, да Рускай праваслаўнай царквы. Змяншаўся ўплыў рымска-каталіцкага касцёла. Шматлікае яўрэйскае насельніцтва, якое пражывала ў мяжы аселасці, вызнавала іудаізм.

**Вынікі эканамічнага развіцця Беларусі.** У Расійскай імперыі пачаўся працэс разлажэння феадальна-прыгонніцкай сістэмы і зараджэння новых капіталістычных адносін. У эканамічным плане адбывалася ўцягванне Беларусі ў агульнарасійскую гаспадарчую сістэму. Гэта пашырала рынак збыту прадуктаў земляробства, садзейнічала пэўнай эканамічнай спецыялізацыі Беларусі. Адначасова павелічэнне матэрыяльных і людскіх рэсурсаў за кошт далучаных зямель узмацняла эканамічны патэнцыял Расіі.

Пасля паўстання 1830—1831 гг. царскі ўрад спадзяваўся забяспечыць сабе трывалыя пазіцыі ў заходніх губернях праз змякчэнне сацыяльных канфліктаў і прыцягненне на свой бок сялянства. З гэтай мэтай праводзіліся эканамічныя рэформы, якія прадугледжвалі мадэрнізацыю старых феадальных парадкаў і змяншэнне прыгнёту сялян. Спробай вырашэння аграрнага пытання была рэформа П. Д. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы, а таксама інвентарная рэформа ў памешчыцкай вёсцы. Іх галоўнымі вынікамі з'явіліся адмова ад фальваркова-паншчыннай сістэмы гаспадарання, перавод дзяржаўных сялян з паншчыны на чынш, частковае ўнармаванне павіннасцей памешчыцкіх сялян. Пры гэтым захоўвалася памешчыцкая ўласнасць на зямлю, а захаванне прыгонніцкіх парадкаў тармазіла далейшае развіццё сельскай гаспадаркі.

**Вынікі развіцця культуры Беларусі.** Культура беларускага этнасу развівалася ва ўмовах агульнадзяржаўнай палітыкі Расійскай імперыі.

Развіццё культуры Беларусі было звязана як з творчасцю польска-беларускіх дзеячаў, так і з рускай культурай. Разам з тым узнік новы навуковы кірунак — беларусазнаўства. Ён садзейнічаў вызначэнню нацыянальнай адметнасці беларускага этнасу ў рэчышчы яго ўзаемадзеяння з культурамі іншых народаў. Самаўсведамленне беларусаў у першай палове XIX ст. мела пераважна культурна-асветніцкі характар. Адбываўся працэс фарміравання новай беларускай мовы і літаратуры.

**Паняцці і тэрміны, якім трэба даць вызначэнне:** *мяжа яўрэйскай аселасці, ваенныя пасяленні, рэкруцкая павіннасць, аўтаномія, «план Агінскага», філаматы, філарэты, дзекабрысты, канфіскацыя, «разбор» шляхты, Полацкі*

*царкоўны сабор, аграрнае пытанне, гаспадарчая спецыялізацыя, абшчына, «вольныя сельскія абывацелі», рэформа П. Д. Кісялёва, інвентарная рэформа, ланкастэрская школа, беларусазнаўства, ліцвінскі патрыятызм.*

**Пытанні і заданні** (па выбары іх вучнямі ў кожнай з груп)

***1. Знайдзіце і растлумачце ключавыя словы:***

— у вытрымцы са справаздачы магілёўскага губернатара цару Аляксандру II у 1858 г.: «...асноўная прычына нездавальняючага стану сельскай гаспадаркі заключаецца ў... прыгонных адносінах, пры якіх сяляне... не маючы ніякіх правоў уласнасці на зямлю, якую апрацоўваюць, неахвотна працавалі на палях, што заўсёды маглі быць адабраны ў іх... Калі прыгоннае права, з аднаго боку, паралізавала дзейнасць, то, з другога боку, яно перашкаджала развіццю і ўдасканальванню земляробства ў памешчыцкіх гаспадарках...»;

— у дакладной генерал-губернатара Ф. Я. Міркавіча цару Мікалаю I: «...дзве вельмі важныя меры, своечасова прыведзеныя ў выкананне, значна спрыялі захаванню ў апошні час поўнага спакою ў краі стварэннем цвёрдай перашкоды зламысным намерам падбухторваць сялян супраць усталяваных улад. Меры гэтыя такія: перавод дзяржаўных сялян на пазямельнае аброчнае становішча і ўвядзенне правільных інвентароў у памешчыцкіх маёнтках. Першая знішчыла ўвесь цяжар, якім былі знясілены сяляне з-за карыслівасці арандатараў, другая паклала мяжу самавольству памешчыкаў, вызначыўшы асноўныя правілы ўзаемных абавязацельстваў...»;

— у выказванні А. Міцкевіча: «На беларускай мове, якую называюць русінскай, альбо літоўска-русінскай... размаўляе каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і выдатна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі».

***2. Параўнайце:***

— адносіны розных пластоў насельніцтва беларускіх губерняў да ваюючых бакоў у вайне 1812 г.;

— палітыку царскага ўрада ў адносінах да розных пластоў насельніцтва заходніх губерняў да і пасля паўстання 1830—1831 гг.;

— дваранскую (шляхецкую) і дэмакратычную плыні грамадскага руху ў Беларусі ў першай палове XIX ст.;

— сутнасныя рысы фальваркова-паншчыннай сістэмы гаспадарання і вынікі рэформы П. Д. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы;

— прамысловы пераварот у краінах Заходняй Еўропы і Беларусі;

— становішча з асноўнай мовай навучання ў заходніх губернях Расійскай імперыі да і пасля паўстання 1830—1831 гг.

***3. Прывядзіце гістарычныя факты, якія адлюстроўваюць:***

— саслоўную палітыку царскіх улад у адносінах да розных пластоў насельніцтва Беларусі пасля яе далучэння да Расійскай імперыі;

— канфесіянальную палітыку царскага ўрада ў адносінах да вернікаў Беларусі ў першай палове XIX ст.;

— розныя плыні грамадскага руху ў Беларусі ў першай палове XIX ст.;

— асаблівасці развіцця прамысловасці ў Беларусі ў першай палове XIX ст.;

— палітыку царскага ўрада па вырашэнні аграрнага пытання ў 1840—1850-х гг.

***4. Раскрыйце прычынна-выніковыя сувязі паміж наступнымі гістарычнымі падзеямі:***

— паўстанне 1830—1831 гг. → узмацненне «разбору» шляхты;

— уключэнне Беларусі ва ўсерасійскі рынак → паляпшэнне шляхоў зносін і развіццё гандлю;

— захаванне прыгоннага права → рост сялянскіх выступленняў;

— далучэнне ўніятаў да Рускай праваслаўнай царквы → узмацненне пазіцый самадзяржаўя.

***5. Дакажыце, што:***

— удзельнікам таварыстваў філаматаў і філарэтаў было ўласціва пачуццё ліцвінскага патрыятызму;

— дзейнасць дзекабрыстаў у Беларусі і паўстанне 1830—1831 гг. былі адлюстраваннем дваранскай (шляхецкай) плыні грамадскага руху;

— рэформа П. Д. Кісялёва і інвентарная рэформа не вырашылі аграрнае пытанне;

— у першай палове XIX ст. адбывалася станаўленне беларусазнаўства;

— дзейнасць В. Дуніна-Марцінкевіча патрабавала грамадзянскай мужнасці.

***6. Рашыце гістарычныя задачы:***

— растлумачце паводзіны сялян, аб якіх згадваецца ў вершы Яна Баршчэўскага «Размова хлопаў»:

*...Калісь французская сіла*
*З-за Нёмана наступіла;*
*Стала і нас карціць,*
*Як бы то Польшчу зварацiць.*

*А мы сядзім ціха,*
*Пакуль прынесла ліха.*
*Яны ў наш двор,*
*Ну-тка і мы дзяліць здор.*

*А так мяса наварылі,*
*Што б мы іх угаварылі*
*Свірны ў дварах паразбіваць,*
*Паноў у лес паразганяць...*;

— ахарактарызуйце гаспадарчую з'яву, аб якой нагадвае В. Дунін-Марцінкевіч у вершаванай аповесці «Гапон»:

*...Вот ночка яшчо цямненька,*
*Дожджык, як з сітца, прышчыць,*
*А войт даўным-даўнюсенька*
*Загад пад акном крычыць:*
*Хто пойдзе драва рубаць,*
*Хто крупы таўчы і драць,*
*А хто з цэпам малаціць,*
*Каму брагу калаціць...*;

— вызначце, аб якім пачуцці згадваецца ў радках верша У. Сыракомлі «Вызваленне сялян»:

*...Мой прапрадзед шчырым быў ліцвінам,*
*Бо шляхціц я і маю герб з пячаткай...*

*Я горды быў, што род мой ад ліцвіна,*
*Што шляхціц я і маю герб з пячаткай...*

*Я ганарыўся, што Літвы быў сынам,*
*Што шляхціц я і маю герб з пячаткай...*;

— дайце адказ на пытанне, зададзенае пісьменнікам і грамадскім дзеячам з Брэстчыны Ю. У. Нямцэвічам: «Думаючы пра якія-небудзь важныя рэчы, чалавек міжволі параўноўвае іх з іншымі... Чаму ж, пытаюся я зноў, нават у неўрадлівых правінцыях Францыі, Шатландыі, Швецыі, у пясчаным Брандэнбургу мы бачым свабодны люд, акуратныя мястэчкі, дагледжаныя палеткі, росквіт промыслаў, а адсюль і дабрабыт людзей? Малое, закінутае сярод бурлівага акіяна мястэчка ў Аркадзіі не параўнаць сваім росквітам і заможнасцю з Коўнам ці Пінскам, з іх рэкамі, звязанымі са светам. Адказ на гэтыя ўсе пытанні такі ж просты, як і небяспечны».

***7. Вызначце ролю гістарычных асоб і дзеячаў культуры:***

— П. Д. Кісялёва ў абмежаванні феадальна-прыгонніцкіх адносін у Беларусі;

— Я. Дамеля і В. Ваньковіча ў развіцці гістарычнага жанру;

— Я. Чачота ў распаўсюджванні ідэй гуманізму і станаўленні беларусазнаўства;

— братоў Тышкевічаў у станаўленні музеязнаўства.

***8. Падрыхтуйце паведамленне па адной з наступных тэм.***

• Міхал Клеафас Агінскі як аўтар праекта аднаўлення ВКЛ і паланэза «Развітанне з Радзімай».

• Насельніцтва Беларусі ў вайне 1812 г.

• Адлюстраванне падзей вайны 1812 г. у творчасці беларускіх мастакоў першай паловы XIX ст.

• Уніяты пасля ўключэння беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі: далучэнне да Рускай праваслаўнай царквы.

• В. Дунін-Марцінкевіч і С. Манюшка: творчае супрацоўніцтва класіка новай беларускай літаратуры і заснавальніка польскай класічнай музыкі.

• Канстанцін і Яўстафій Тышкевічы: уклад у станаўленне і развіццё беларусазнаўства.

• Знакамітыя людзі нашага краю ў гістарычных падзеях першай паловы XIX ст.

# Раздзел II
# УСТАЛЯВАННЕ КАПІТАЛІЗМУ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ: ДРУГАЯ ПАЛОВА XIX — ПАЧАТАК XX ст.

## § 13. СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX — ПАЧАТКУ XX ст. АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

**Стужка часу**

| | |
|---|---|
| **1861 г.** | Вызваленне памешчыцкіх сялян ад прыгоннай залежнасці. |
| **1863—1864 гг.** | Паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі. |
| **1872—1882 гг.** | Правядзенне судовай і гарадской рэформаў у Беларусі. |
| **1884 г.** | Утварэнне беларускімі студэнтамі-народнікамі групы «Гоман». |
| **1897 г.** | Утварэнне Усеагульнага яўрэйскага рабочага саюза ў Літве, Польшчы і Расіі (Бунд). |
| **1898 г.** | I з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП) у Мінску. |
| **1902 г.** | Утварэнне партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў). |
| **1903 г.** | Падзел РСДРП на бальшавікоў і меншавікоў. |
| **1903 г.** | Канчатковае афармленне Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ). |
| **1905—1907 гг.** | Першая расійская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя. |
| **1906 г.** | Пачатак сталыпінскай аграрнай рэформы. |
| **1906—1915 гг.** | Выданне газеты «Наша ніва». |
| **1911 г.** | Увядзенне выбарных земстваў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях. |
| **19 ліпеня (1 жніўня) 1914 г.** | Пачатак Першай сусветнай вайны. Увядзенне ваеннага становішча на тэрыторыі Беларусі. |
| **Люты 1917 г.** | Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Расіі. |

***Успомніце.*** Якім чынам вырашалася аграрнае пытанне ў Беларусі ў першай палове XIX ст.?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, у чым выяўляліся прыкметы пераходу ад феадальнага да буржуазнага грамадства ў Беларусі ў 1860-х гг. — пачатку XX ст.

**Асаблівасці пераходу ад феадальнага да буржуазнага грамадства на беларускіх землях.** 1860-я гг. — пачатак XX ст. сталі перыядам вырашальных змен у сацыяльна-эканамічным, палітычным, культурна-нацыянальным становішчы Беларусі. Беларускі народ зведаў дзве аграрныя рэформы: Аляксандра II і П. А. Сталыпіна; прыняў удзел у паўстанні і дзвюх буржуазна-дэмакратычных рэвалюцыях у 1905—1907 гг. і лютым 1917 г.; перажыў цяжкія часіны бедстваў у Першую сусветную вайну.

У гэты перыяд адбываўся паступовы пераход ад феадальнага да буржуазнага грамадства. Для гэтага працэсу былі характэрны наступныя рысы:

прамысловы пераварот — пераход ад мануфактуры да фабрыкі, звязаны з фарміраваннем прамысловай буржуазіі і вольнанаёмных рабочых (пралетарыяту);

пераадоленне натуральнага характару гаспадаркі і станаўленне рыначнай эканомікі — гаспадаркі з таварна-грашовымі адносінамі, пры якой Беларусь паступова ўваходзіла ў агульнарасійскі і еўрапейскі рынкі;

рэвалюцыя — рэзкі скачкападобны пераход ад адной грамадска-палітычнай сістэмы да іншай, які адбываецца, як правіла, у ходзе адкрытага сутыкнення супрацьлеглых сацыяльна-палітычных сіл. Расійскія рэвалюцыі прывялі да пераходу ад абсалютнай да абмежаванай парламентам манархіі і абвяшчэння буржуазнай рэспублікі;

фарміраванне нацыі — гістарычнай супольнасці людзей, для якой характэрныя пражыванне на адной тэрыторыі, устойлівыя эканамічныя сувязі, літаратурная мова, агульныя рысы культуры і псіхалогіі, нацыянальная самасвядомасць, імкненне да ўласнай дзяржаўнасці.

Супраць самадзяржаўя, саслоўнай і нацыянальнай няроўнасці выступілі ўдзельнікі паўстання 1863—1864 гг., якое мела мэтай адраджэнне дзяржаўнасці на землях былой Рэчы Паспалітай. Паўстанне стала апошнім буйным выступленнем шляхецкага перыяду ў грамадска-палітычным руху. Адным з яго кіраўнікоў у Беларусі быў Кастусь (Канстанцін Вікенцій) Каліноўскі.

Вялікае значэнне мела рэформа цара Аляксандра II у 1861 г. Згодна з ёю скасоўвалася прыгоннае права і памешчыцкім сялянам давалася асабістая свабода. Але яны не атрымалі ў асабістую ўласнасць зямлю.

**Рысы пераходу ад феадальнага да буржуазнага грамадства ў Беларусі ў 1860-х гг. — пачатку XX ст.**

| | |
|---|---|
| **Сацыяльна-эканамічнае развіццё** | Прамысловы пераварот.<br>Скасаванне прыгоннага права.<br>Развіццё капіталізму ў сельскай гаспадарцы.<br>Станаўленне рыначнай эканомікі |

| | |
|---|---|
| **Грамадска-палітычнае жыццё** | Паўстанне 1863—1864 гг. у Польшчы, Літве і Беларусі. Правядзенне судовай і гарадской рэформаў. Буржуазна-дэмакратычныя рэвалюцыі. Выспяванне ідэі беларускай дзяржаўнасці |
| **Нацыянальна-культурнае жыццё** | Паступовае фарміраванне беларускай нацыі. Стварэнне беларускай літаратурнай мовы. Арганізацыйнае афармленне беларускага нацыянальнага руху |

Пасля адмены прыгоннага права адбывалася даволі маруднае развіццё капіталізму ў сельскай гаспадарцы па шляху, які называюць «прускім». Сутнасць яго заключалася ў тым, што памешчыцкая ўласнасць на зямлю захоўвалася, а сяляне, якія непасрэдна на гэтай зямлі працавалі, вымушаны былі выкупляць яе па значна завышаных цэнах. Спробай развіцця па «амерыканскім» (фермерскім) шляху стала сталыпінская аграрная рэформа, пры правядзенні якой разбуралася сельская абшчына і сялянам дазвалялася замацаваць свае зямельныя надзелы ва ўласнасць.

Буржуазныя пераўтварэнні ў розных галінах жыцця беларускага грамадства праводзіліся шляхам рэформаў і рэвалюцый. Аб гэтым сведчыла сялянская рэформа 1861 г., буржуазныя рэформы (гарадская, судовая і інш.) 1870—1880-х гг., сталыпінская аграрная рэформа, увядзенне ў 1911 г. у трох беларускіх губернях земстваў — органаў мясцовага самакіравання, буржуазна-дэмакратычныя рэвалюцыі ў 1905—1907 гг. і ў лютым 1917 г.

У ходзе рэвалюцыі 1905—1907 гг. адбывалася паступовая дэмакратызацыя грамадскага жыцця. Упершыню ў гісторыі Расіі былі абвешчаны дэмакратычныя правы і свабоды, утвараліся новыя і дзейнічалі раней створаныя палітычныя партыі. У выніку звяржэння самадзяржаўнага ладу ў лютым 1917 г. у Расіі адбылося пераўтварэнне абсалютнай манархіі ў буржуазную рэспубліку.

**Шляхі фарміравання буржуазнага грамадства ў Беларусі ў 1860-х гг. — пачатку XX ст.**

| Рэформы | Рэвалюцыі |
|---|---|
| Сялянская рэформа | Першая расійская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1905—1907 гг. |
| Гарадская рэформа | |
| Судовая рэформа | |

*Заканчэнне*

| | |
|---|---|
| Сталыпінская аграрная рэформа | Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1917 г. |
| Увядзенне земстваў у трох беларускіх губернях | |

**Нацыянальнае пытанне і фарміраванне самасвядомасці беларусаў.** Ва ўмовах шматэтнічнай Расіі асаблівую вастрыню набыло *нацыянальнае пытанне* аб рэалізацыі права народаў на свабоднае, добраахвотнае этнічнае, дзяржаўнае, культурнае самавызначэнне. Нацыянальная інтэлігенцыя імкнулася абудзіць самасвядомасць беларусаў і выпрацаваць нацыянальную ідэю — уяўленні, у якіх народ адлюстроўвае сваё разуменне сябе як супольнасці людзей (нацыі) і сэнсу свайго гістарычнага існавання. Уклад у распрацоўку нацыянальнай ідэі зрабілі народнікі — выдаўцы часопіса «Гомон»; стваральнікі першай беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай партыі — Беларускай сацыялістычнай грамады, якія прадстаўлялі сацыял-дэмакратыю; рэдакцыя газеты «Наша ніва». Пачынальнікі нацыянальнага руху абгрунтавалі неабходнасць для беларусаў мець уласную дзяржаўнасць і намагаліся гэту ідэю рэалізаваць.

Фарміраванне беларускай нацыі праходзіла ва ўмовах, калі нацыянальная буржуазія была вельмі слабая эканамічна і мела нізкую нацыянальную свядомасць. Шмат хто з беларусаў, асабліва сельскіх жыхароў, вызначалі сваё паходжанне не па этнічнай прыкмеце, а па тэрытарыяльнай і называлі сябе «тутэйшыя». У 1860-я гг. сфарміравалася сістэма поглядаў, якая атрымала назву «заходнерусізм». Яе прыхільнікі лічылі беларусаў часткай рускага этнасу. Аднак пры гэтым некаторыя прадстаўнікі заходнерусізму прызнавалі пэўную культурную самабытнасць беларусаў.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** рэвалюцыя, капіталізм, прамысловы пераварот, пралетарыят, абшчына, манархія, народніцтва, сацыял-дэмакратыя, марксізм, нацыя, *нацыянальнае пытанне*.

## Пытанні і заданні

**1.** Пералічыце рысы пераходу ад феадальнага да буржуазнага грамадства ў Беларусі ў 1860-х гг. — пачатку XX ст. Выкарыстайце адпаведную табліцу. **2.** Дайце азначэнне паняцця *прамысловы пераварот*. Скарыстайце свае веды па сусветнай гісторыі. **3.** Вызначце шляхі, якімі праводзіліся буржуазныя пераўтварэнні ў беларускім грамадстве. **4.** Раскрыйце сэнс паняцця *нацыянальнае пытанне*. Прывядзіце прыклады яго вырашэння ў Заходняй Еўропе ў XIX ст. **5.** Назавіце шляхі фарміравання буржуазнага грамадства ў Беларусі ў 1860-х гг. — пачатку XX ст. Пры адказе выкарыстайце адпаведную табліцу.

## § 14. АДМЕНА ПРЫГОННАГА ПРАВА

***Успомніце.*** **1.** Якія былі прычыны адмены прыгоннага права і ўмовы вызвалення сялян у цэнтральных губернях Расіі? **2.** У чым заключалася сутнасць рэформы П. Д. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы і інвентарнай рэформы ў памешчыцкай вёсцы?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць асаблівасці правядзення сялянскай рэформы 1861 г. у беларускіх губернях.

**Падрыхтоўка сялянскай рэформы.** Пасля паражэння Расіі ў Крымскай вайне 1853—1856 гг., якое паказала ўсю глыбіню адсталасці феадальнай Расійскай дзяржавы ад перадавых еўрапейскіх краін, цар Аляксандр II прызнаў неабходнасць адмены прыгоннага права. Падрыхтоўку рэформы пачалі з беларуска-літоўскіх губерняў. У 1857 г. з'явіўся рэскрыпт (прадпісанне) цара на імя віленскага генерал-губернатара У. І. Назімава аб падрыхтоўцы праектаў «паляпшэння быту памешчыцкіх сялян». Згодна з гэтым дакументам прадугледжвалася вызваленне сялян з-пад прыгону і наданне ім асабістай свабоды. Аднак за памешчыкам захоўвалася права ўласнасці на зямлю, за карыстанне якой сяляне павінны былі адбываць павіннасці.

Узнёслыя настроі часткі грамадства наконт магчымага паляпшэння сялянскай долі выказаў у сваім вершы «Вызваленне сялян» У. Сыракомля:

*Чытаў рэскрыпт я дабрачынны цараў,*
*Што даць людзям правы людзей павінен...*
*І Вільня спраўдзіць клопат той народны.*
*Дабро для ўсіх там зробяць напачатку...*

Аднак рэчаіснасць аказалася не такой светлай, як чакалася.

**Абвяшчэнне і ўмовы вызвалення памешчыцкіх сялян.** «Палажэнне» аб выхадзе на волю прыгонных сялян і Маніфест, якім абвяшчалася аб гэтым насельніцтву, Аляксандр II падпісаў 19 лютага 1861 г. Узважыўшы ўсе абставіны, царскі ўрад не рашыўся вызваляць сялян зусім без зямлі. Аднак атрымаць яе ва ўласнасць сяляне маглі толькі за выкуп. Сума выкупнога плацяжу вызначалася ў такім памеры, каб памешчык меў магчымасць, паклаўшы яе ў банк пад працэнты, атрымліваць штогадовы прыбытак, роўны ранейшаму аброку.

У Віцебскай і Магілёўскай губернях, дзе існавала сельская абшчына, устанаўліваліся памеры сялянскіх надзелаў: вышэйшы — ад 4 да 5,5 дзесяціны і ніжэйшы — ад 1 да 2 дзесяцін. У Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях, дзе існавала падворнае землекарыстанне, сяляне маглі выкупіць свой дарэформенны надзел.

*Выкупная аперацыя* заключалася ў наступным. Дзяржава закладвала (уносіла) за сялян $^4/_5$ выкупной сумы, каб яны маглі разлічыцца з памешчыкамі. Прадугледжвалася, што вяртаць гэтую пазыку — так званыя *выкупныя плацяжы* — сяляне будуць на працягу 49 гадоў з вялікімі працэнтамі. Да заключэння выкупнога пагаднення сялянам за карыстанне надзеламі трэба было выконваць на карысць памешчыка ранейшыя павіннасці — паншчыну ці аброк ва ўстаноўленых дзяржавай памерах. Такія сяляне лічыліся *часоваабавязанымі*. Пазямельныя адносіны часоваабавязаных сялян з памешчыкамі афармляліся ў дакументах, якія называліся *ўстаўнымі граматамі*. Іх складаннем займаліся міравыя пасрэднікі з ліку мясцовых памешчыкаў.



*Чытка Маніфеста аб адмене прыгоннага права. Акварэль другой паловы XIX ст.*



*Беларусы Магілёўскай губерні. З альбома «Народы Расіі». 1862 г.*

**Рэфармаванне дзяржаўнай вёскі.** Інакш складваўся лёс дзяржаўных сялян, большасць якіх пражывала ў Гродзенскай і Віленскай губернях. У 1857—1862 гг. на свабодных і адабраных у дзяржаўных сялян землях былі створаны буйныя жывёлагадоўчыя гаспадаркі для ўтрымання вялікай колькасці жывёлы і птушкі. Гэтыя гаспадаркі аддаваліся дзяржавай прыватным асобам у арэнду — часовае карыстанне за вызначаную плату. Адначасова памер аброку — сялянскай павіннасці за карыстанне зямлёй павысіўся амаль на $^1/_4$. Гэта выклікала незадавальненне дзяржаўных сялян, што пазней абумовіла іх больш актыўны ў параўнанні з памешчыцкімі сялянамі ўдзел у паўстанні 1863—1864 гг. Таму ў 1867 г. уступіў у сілу асобны закон для дзяржаўных сялян. Згодна з гэтым законам чынш — аброк, які дзяржаўныя сяляне плацілі за зямлю, павялічваўся на 10 % і ператвараўся ў абавязковыя выкупныя плацяжы. Самі дзяржаўныя сяляне пераводзіліся ў разрад зямельных уласнікаў. У выніку зямельныя надзелы дзяржаўных сялян у Беларусі перавысілі надзелы памешчыцкіх сялян на 17—37 %.

**Ажыццяўленне сялянскай рэформы.** Рэформа 1861 г. карэнным чынам змяніла становішча памешчыцкіх сялян, якія атрымалі асабістую свабоду. Аднак яны выйшлі на волю абрабаванымі. Закон устанавіў нормы зямельных на-

дзелаў зыходзячы з інтарэсаў памешчыкаў. Так званыя «лішкі» зямлі, якія памешчыкі адразалі на сваю карысць, зменшылі дарэформенныя сялянскія надзелы ў сярэднім на 30 %. Сяляне не маглі распараджацца надзеламі зямлі да іх выкупу. Памешчыкі пакінулі за сабой лепшыя ворныя землі. Сялянам адводзілі пусткі, «пясочак» або забалочаныя ўчасткі. Акрамя таго іх пазбавілі сенажацей, выганаў, вадаёмаў, лясных угоддзяў, без якіх вясковая гаспадарка звычайна не магла абысціся. У выніку ўзмацнілася *цераспалосіца* — раз'яднанасць і раздробленасць сялянскага зямельнага надзелу на некалькі адасобленых частак.

З атрыманых надзелаў было цяжка пракарміць сям'ю. Большасць сялян былі пастаўлены ў такія ўмовы, што не маглі весці гаспадарку самастойна. Яны былі вымушаны працаваць на былых гаспадароў, якія заставаліся землеўладальнікамі.


Рэакцыю сялян на ўмовы надзялення зямлёй адлюстроўваюць радкі з вусна-паэтычнай народнай творчасці:

«Адпусцілі сялян „на свабоду"
Дзевятнаццатага феўраля,
Толькі землі не далі народу —
Вось вам „міласць" цара і дваран».




Рэформа 1861 г. выклікала глыбокае расчараванне сялян. Пайшлі чуткі, што цар нібыта выдаў указ аб сапраўднай волі, а паны яго хаваюць. Сяляне хутка зразумелі, што яны падманутыя ў сваіх чаканнях. У 1861 г. адбылося каля 400 хваляванняў беларускіх сялян. Сяляне сарвалі двухгадовы пасля абвяшчэння рэформы тэрмін падпісання ўстаўных грамат. На 1 студзеня 1863 г. амаль $^4/_5$ гэтых грамат не былі падпісаны.

Сялянам было прыкра выкупляць зямлю, якой яны нязменна карысталіся дзесяцігоддзямі і лічылі сваёй. Памер выкупу значна перавышаў рэальны кошт зямлі. Так, яе рынкавы кошт у Мінскай губерні складаў 18 рублёў за дзесяціну, а паводле выкупу селянін павінен быў заплаціць за яе 79 рублёў 20 капеек. Фактычна памешчыкі атрымоўвалі кампенсацыю за страту права ўласнасці на асобу селяніна. Дзяржава таксама нажылася на выкуп-

ной аперацыі. Доўгатэрміновая грашовая пазыка, якую яна пад высокі працэнт дала сялянам, зрабіла іх яшчэ і даўжнікамі дзяржавы. Толькі ў 1906 г. спагнанне выкупных плацяжоў было спынена.

**Вынікі і значэнне ажыццяўлення рэформы 1861 г.** Адмена прыгоннага права стала своеасаблівай мяжой паміж дзвюма эпохамі — феадалізмам і капіталізмам. Найбольш прагрэсіўным пераўтварэннем у вёсцы стала абвяшчэнне асабістай свабоды прыгонных сялян, іх незалежнасці ад памешчыка. Сялян ужо нельга было прадаваць, купляць, дарыць. Вялізная колькасць людзей атрымала, хай сабе і абмежаваныя, грамадзянскія правы: заключэння дагавораў і здзелак, выбару роду занятkaў, паступлення ў навучальныя ўстановы, свабоднага ўступлення ў шлюб. Вызваленне мільёнаў памешчыцкіх сялян з-пад прыгону стварыла так неабходны для развіцця капіталістычнай вытворчасці рынак наёмнай рабочай сілы. Аднак для поўнага вызвалення ад прыгонніцкіх путаў і нявольніцкай псіхалогіі спатрэбіліся яшчэ дзесяцігоддзі.

Сялянская рэформа была палавінчатай (**). Яна пакінула шматлікія прыгонніцкія перажыткі. Галоўным з іх было памешчыцкае землеўладанне. Дваране-памешчыкі змаглі захаваць за сабой звыш паловы ўсіх зямель Беларусі. Сялянам жа засталася толькі трэцяя яе частка (схема «Размеркаванне зямлі ў Беларусі. 1877 г.»).

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *выкупная аперацыя, выкупныя плацяжы, часоваабавязаныя сяляне, устаўныя граматы, цераспалосіца.*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

** Вітаў сялянскую рэформу 1861 г., але адначасова разумеў і яе абмежаванасць рэвалюцыянер-дзекабрыст, ураджэнец Магілёўскай губерні Іван Іванавіч Гарбачэўскі. Яшчэ ў маладосці ён адмовіўся ад валодання маёнткам, які перайшоў яму ў спадчыну ад маці, вызваліўшы такім чынам сваіх сялян ад прыгону. У 1823 г. Гарбачэўскі адным з першых уступіў у Таварыства з'яднаных славян. Разам з іншымі яго членамі напрыканцы 1825 — у пачатку 1826 г. спрабаваў узняць паўстанне сярод салдат і афіцэраў артылерыйскай брыгады, дзе служыў, і іншых вайсковых частак, што размяшчаліся ва Украіне. Быў арыштаваны, пазбаўлены дваранства і навечна высланы на катаржныя работы ў Сібір (паступова іх тэрмін быў скарочаны да 13 гадоў). Пасля сканчэння катаргі пакінуты на



*І. Гарбачэўскі*

пасяленні ў Пятроўскім Заводзе (Забайкалле), дзе арганізаваў першы ў Расіі спажывецкі каапературыў (форма арганізацыі, пры якой адбываецца добраахвотнае аб'яднанне людзей для сумеснага вядзення гаспадаркі). На даходы ад яго было заснавана народнае вучылішча.

### Пытанні і заданні

**1.** Папрацуйце па метадзе ключавога слова са зместам першага абзаца параграфа. **2.** Пералічыце ўмовы выкупной аперацыі. Выкарыстайце наступныя паняцці: *выкупныя плацяжы, часоваабавязаныя сяляне, устаўныя граматы*. **3.** Параўнайце ўмовы атрымання сялянамі зямлі ва ўсходнебеларускіх і заходнебеларускіх губернях. Выкарыстайце адпаведную карту ў атласе. **4.** Растлумачце, чаму большасць памешчыцкіх сялян пасля атрымання асабістай свабоды не змаглі самастойна весці гаспадарку. **5.** Дакажыце, што ўмовы атрымання сялянамі зямлі фактычна кампенсавалі памешчыкам страту права ўласнасці на асобу селяніна. **6.** Ахарактарызуйце ўмовы атрымання зямлі дзяржаўнымі сялянамі.

## § 15. ПАЎСТАННЕ 1863—1864 гг. У ПОЛЬШЧЫ, ЛІТВЕ І БЕЛАРУСІ

***Успомніце.*** **1.** Якімі былі мэты і склад удзельнікаў паўстання 1830—1831 гг.? **2.** Хто такія часоваабавязаныя сяляне?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, у чым заключаўся рэвалюцыйна-дэмакратычны характар поглядаў К. Каліноўскага і яго паплечнікаў.

**Прычыны і характар паўстання.** Працягам барацьбы за адраджэнне дзяржаўнасці на землях былой Рэчы Паспалітай з'явілася паўстанне 1863—1864 гг. Яго цэнтрам сталі этнічна польскія тэрыторыі з Варшавай, а прычынай, як і раней, — імкненне аднавіць дзяржаўнасць на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.

Падзеі ў Польшчы знайшлі водгук у тых рэгіёнах, якія раней уваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай, у тым ліку ў Беларусі і Літве. Паўстанне ў Беларусі было скіравана супраць самадзяржаўя, рэшткаў прыгоннага права і саслоўнай няроўнасці.

**«Чырвоныя» і «белыя».** У пачатку 1860-х гг. актывізаваўся грамадска-палітычны рух на тэрыторыях былой Рэчы Паспалітай. У гэтым руху афарміліся дзве палітычныя групоўкі: «чырвоныя» і «белыя».

«Чырвоныя» прадстаўлялі інтарэсы дробнай і беззямельнай шляхты, мяшчан, інтэлігенцыі, часткова сялян. Частка «чырвоных» (правыя) меркавалі аднавіць дзяржаўнасць на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. праз агульнанароднае паўстанне. Найбольш рашучыя з «чырвоных» (левыя) складалі рэвалюцыйна-дэмакратычную плынь у паўстанні. Яны выказваліся за ўстанаўленне дэмакратычнага рэспубліканскага ладу шляхам сялянскай рэвалюцыі, за самавызначэнне народаў, разлічвалі на падтрымку рэвалюцыйных сіл Расіі.



*К. Каліноўскі. 1862 г.*

«Белыя» з'яўляліся выразнікамі інтарэсаў буйных землеўладальнікаў і вярхоў буржуазіі. Яны імкнуліся не дапусціць, каб паўстанне перарасло ў сялянскую рэвалюцыю. Свае спадзяванні на аднаўленне незалежнасці Рэчы Паспалітай «белыя» звязвалі з ціскам на Расію заходнееўрапейскіх дзяржаў. Для гэтага яны наладзілі сувязь з урадамі Францыі і Англіі.

Для падрыхтоўкі паўстання вясной 1862 г. у Варшаве быў створаны Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК). Летам 1862 г. з мэтай падрыхтоўкі паўстання ў Беларусі і Літве ў Вільні арганізаваны Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК), падначалены ЦНК. У ім была прадстаўлена рэвалюцыйна-дэмакратычная плынь «чырвоных».

Старшынёй ЛПК з кастрычніка 1862 г. стаў шляхціц з Гродзеншчыны ***Кастусь (Канстанцін Вікенцій Сямёнавіч) Каліноўскі*** (1838—1864). Ён скончыў Свіслацкае павятовае вучылішча. У час вучобы на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта ўдзельнічаў у рэвалюцыйных гуртках. Тут стаў прыхільнікам ідэй усталявання народнай улады шляхам сялянскай рэвалюцыі і надання прыгнечаным народам права на самавызначэнне свайго лёсу. У 1861 г. вярнуўся на радзіму.



Паводле ўспамінаў аднаго з удзельнікаў паўстання, К. Каліноўскі быў «...адукаваны, чысты, поўны высакароднасці, розуму і энергіі. Абходзіў пешкі Літву і Беларусь, несучы ў народ жар любові да Бацькаўшчыны... Не хацеў мець ніякіх стасункаў са шляхтай, а абапіраўся толькі на народ».

**«Мужыцкая праўда».** Прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні сярод «чырвоных» (левыя) К. Каліноўскі, ***Валерый Урублеўскі*** і ***Фелікс Ра-***

**Nr. 1. Mużyckaja prauda**

Dzieciuki!

Minuło uże toje, kali zdawało sia usim szto mużyckaja ruka zdasce tolki da sachi,—ciepier nastau taki czas, szto my sami możem pisaci, i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O, zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa świeci! Niechaj paznajuć szto my możem nie tolki karmić swaim chlebom, no jeszcze i uczyć swojej mużyckoj praudaj.

Pytali i pytajuć usie szto czuwaci na swieci, chto nam biednym mużykam dašć wolnośé? No praudu skazawszy mało chto chocze skazaci tak jak sumlenie każe—pa sprawiedliwości. My mużyki, braty waszyje, my wam budziem hawaryć całuju praudu, tolki słuchajcie nas!

Maskali, czynouniki i mnoho panou, buduć pierepyniać pismo nasze da was; no najduć sia ludzie i z mużykou razumniejszyje i z panskaho rodu i z miasteczkowych, szto chocziuć waszej swabody, waszaho szczaścia—jony to wam heto pismo dawaci buduć, kab wy znali chto wasz przyjaciel a chto wasz woroch.

Sześć let uże minuło, jak paczali hawaryć a swabodzie mużyckoj. Hawaryli, tałkawali i pisali mnoho, a niczoho nie zrabili. A hety manifest szto Car z Senatom i z panami dla nas napisau, to taki durny, szto czort wiedaje da czecho jon padobny,—ni jakoj u niom niema praudy, niema z jeho dla nas nijakoj karyści. Parabili Kancelaryi, zrabili sud, jakby heto nie usio rouno brać u sraku czy z sudom czy bez suda. Parabili Pisarou, Pasrednikou, a usio za mużyckije hroszy i wielikije hroszy—czort ich wiedaje na szto; dla toho chyba kab zapisywali ksiażki, jak mnoho napiszuć na srakach mużyckich. A z hetoho to i widać, szto nam niczoho dobraho i nie dumali zrabici.

*Першы нумар газеты «Мужыцкая праўда»*

***жанскі*** выдавалі нелегальную *«Мужыцкую праўду»*, якая выконвала ролю газеты. На працягу 1862—1863 гг. выйшла 7 яе нумароў у выглядзе лістовак-пракламацый. Яны друкаваліся на беларускай мове лацінскім шрыфтам, які выкарыстоўваўся ў польскай мове — дзяржаўнай у былой Рэчы Паспалітай. Большасць матэрыялаў «Мужыцкай праўды» напісаў сам Каліноўскі пад псеўданімам Яська-гаспадар з-пад Вільні.



У «Мужыцкай праўдзе» (№ 1) прагучаў заклік:

«Дзецюкі!

Мінула ўжэ тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здасца толькі да сахі, — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядліву, як Бог на небе. О, загрыміць наша праўда і, як маланка, пераляціць па свеце! Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, но яшчэ і ўчыць сваёй мужыцкай праўды...

Вазьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам!.. Мужык, пакуль здужае трымаці касу і сакеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе.

Гэту Мужыцкую Праўду напісаў і зноў пісаці будзе

Яська-гаспадар з-пад Вільні».

**Пачатак і ход паўстання, яго падаўленне.** Паўстанне пачалося ў Царстве Польскім у студзені 1863 г. Нагодай для выступлення паслужыла правядзенне рэкруцкага набору паводле спісаў, у якія былі ўключаны ўсе «нядобранадзейныя» маладыя людзі. Заўчаснае выступленне ў Польшчы стала поўнай

нечаканасцю для рэвалюцыянераў Беларусі і Літвы, але пасля ваганняў было імі падтрымана.

1 лютага 1863 г. ЛПК абвясціў сябе Часовым правінцыяльным урадам Літвы і Беларусі і абнародаваў праграмныя дакументы, якія дубліравалі праграму польскіх паўстанцаў. Насельніцтва заклікалася да ўзброенай барацьбы, жыхары аб'яўляліся раўнапраўнымі грамадзянамі незалежна ад саслоўнай прыналежнасці, нацыянальнасці і веравызнання. Дэкларавалася бязвыплатная перадача ва ўласнасць сялян зямельных надзелаў, што знаходзіліся ў іх карыстанні, а з памешчыкамі за зямлю разлічвалася дзяржава. Рэкруцтва замянялася 3-гадовай усеагульнай вайсковай павіннасцю. Аднаўлялася ўніяцкая царква.

Большасць мясцовых атрадаў паўстанцаў у заходніх паветах Беларусі сфарміраваліся ў сакавіку — красавіку 1863 г. У іх склад увайшлі дробная шляхта, вучнёўская і студэнцкая моладзь, рамеснікі, сяляне, афіцэры, што пакінулі царскую армію. Гэтыя атрады ўзначалілі на Гродзеншчыне Ф. Ражанскі і В. Урублеўскі — будучы генерал Парыжскай Камуны. Кіраўніком мясцовых атрадаў у Мінскай губерні стаў адзін з паслядоўнікаў К. Каліноўскага Антон Трусаў. Пасля падаўлення паўстання ён жыў у эміграцыі, у 1870 г. стаў адным з арганізатараў Рускай секцыі І Інтэрнацыянала.

Агульнага плана дзеянняў у паўстанцаў не было, не хапала таксама зброі. Яны выкарыстоўвалі партызанскія метады барацьбы. Значнай акцыяй паўстанцаў стаў захоп горада Горкі, чаму пасадзейнічалі студэнты Горы-Горацкага земляробчага інстытута. Аднак найбольш актыўна дзейнічалі паўстанцы на захадзе, у многім дзякуючы непасрэдным намаганням К. Каліноўскага як камісара Гродзенскага ваяводства (губерні). Маштабнасцю і жорсткасцю характарызавалася бітва пад Мілавідамі ў Слонімскім павеце. На Брэстчыне змагаўся атрад, які ўзначальваў мясцовы шляхціц, былы падпалкоўнік рус-



*Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 г. Мастак П. Сергіевіч. 1955 г.*

кай арміі, удзельнік Крымскай вайны Рамуальд Траўгут. У чыне генерала ён быў прадстаўніком паўстанцкіх улад за мяжой, а з кастрычніка 1863 г. фактычна з'яўляўся кіраўніком усяго паўстання.



*Віленскі генерал-губернатар М. М. Мураўёў. 1863—1865 гг.*

У сакавіку 1863 г. да кіраўніцтва паўстаннем у Беларусі і Літве прыйшлі «белыя». Гэтым скарысталіся царскія ўлады, якія імкнуліся прадставіць у вачах сялян паўстанне як выступленне паноў супраць «цара-вызваліцеля». Такое ўяўленне падтрымлівала ў сялян і праваслаўная царква. Асноўная маса беларускага сялянства, якая традыцыйна не давярала шляхецкаму саслоўю, не далучылася да паўстанцаў. Сярод удзельнікаў паўстання ў Беларусі доля сялян склала каля 18 %.

Царскія ўлады жорсткімі ваеннымі мерамі змагаліся з паўстаннем. У маі 1863 г. у Вільню прыбыў новы генерал-губернатар ***Міхаіл Мікалаевіч Мураўёў***. Раней ён паслядоўна займаў губернатарскія пасады ў Магілёве, Гродне, Мінску. Пачаліся публічныя пакаранні смерцю паўстанцаў, узрасла колькасць арыштаў. Адначасова разгортвалася маштабная і даволі дзейсная антыпаўстанцкая, антыпольская і антыкаталіцкая прапаганда. Улады абавязалі сельскія таварыствы наглядаць за мясцовай шляхтай, ствараліся сялянскія варты для барацьбы з паўстанцамі.



*На этапе. Мастак К. Альхімовіч — ураджэнец Беларусі, удзельнік паўстання 1863—1864 гг., які быў сасланы ў Сібір. Вызвалены ў 1869 г. Карціна напісана ў 1894 г. пад уплывам сібірскай ссылкі*

У такіх неспрыяльных умовах выявілася няздольнасць «белых» кіраваць паўстаннем. Да канца лета 1863 г. кіраўніцтва паўстаннем у краі сканцэнтравалася ў руках К. Каліноўскага. Але ўжо было позна; рэальных поспехаў дасягнуць не ўдалося. Восенню 1863 г. узброеная барацьба ў Беларусі спынілася. Мужны і нястомны Каліноўскі працягваў рэвалюцыйную дзейнасць, спрабуючы выратаваць людзей, каб зноў выступіць вясною 1864 г. Доўгі час яму ўдавалася хавацца ад праследавання, але адзін з членаў арганізацыі на допыце выдаў яго. Дваццацішасцігадовы К. Каліноўскі быў публічна павешаны на Лукішскай плошчы

ў Вільні. У сваю апошнюю хвіліну жыцця, стоячы пад шыбеніцай, ён пры абвяшчэнні судовага прыгавору, у якім яго назвалі дваранінам, заявіў: «У нас няма дваран — усе роўныя!»

**«Пісьмы з-пад шыбеніцы».** К. Каліноўскаму ўдалося перадаць з турмы на волю тры развітальныя *«Пісьмы з-пад шыбеніцы»*. У іх ёсць такія радкі:

*Бывай здаровы, мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.*
*І часам спамяні пра Яську свайго,*
*Што згінуў за праўду для дабра твайго.*

«Пісьмы з-пад шыбеніцы» ўяўляюць сабой духоўны запавет К. Каліноўскага беларускаму народу: «...народзе... цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную». Каліноўскі таксама прытрымліваўся ідэі дэмакратычнай народнай дзяржавы: «...не народ зроблены для ўрада, а ўрад для народа».

Паўстанне 1863—1864 гг. было падаўлена царскімі ўладамі. Паводле афіцыйных даных, у Беларусі і Літве 128 паўстанцаў былі пакараны смерцю, больш за 850 асуджаны на катаргу, каля 12 тыс. чалавек сасланы і выселены з краю (**1, 2). Справа паўстання не прайшла бясследна: яно будзіла да барацьбы за свабоду наступныя пакаленні.

**Уплыў паўстання 1863—1864 гг. на ўмовы вызвалення сялян беларускіх губерняў.** Каб адцягнуць сялян ад масавага ўдзелу ў паўстанні і схіліць іх на свой бок, царскі ўрад вымушаны быў змяніць на іх карысць некаторыя ўмовы рэформы. Паводле спецыяльных царскіх указаў у Гродзенскай, Віленскай і Мінскай губернях з 1 мая 1863 г., а ў Віцебскай і Магілёўскай губернях з 1 студзеня 1864 г. спыняліся часоваабавязаныя адносіны. Сяляне, незалежна ад згоды памешчыкаў, тэрмінова пераводзіліся на абавязковы выкуп зямельных надзелаў, прычым памер выкупных плацяжоў зніжаўся на 20 %. Тым, хто быў абеззямелены памешчыкамі ў перадрэформенны перыяд, поўнасцю ці часткова вярталіся надзелы. Гэтыя ўступкі самадзяржаўя істотна змякчалі ўмовы вызвалення сялян у Літве і Беларусі ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расійскай імперыі.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *«Мужыцкая праўда», «Пісьмы з-пад шыбеніцы».*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** Сярод удзельнікаў паўстання, здадзеных у салдаты і высланых у Сібір, быў 18-гадовы ўраджэнец Віцебшчыны Іван Дзяменцьевіч Чэрскі. У Сібіры ён заняўся геалагічнымі даследаваннямі: вывучаў будову берагоў Байкала,



*І. Чэрскі*



*З. Мінейка*

склаў першую геалагічную карту яго ўзбярэжжа. Яго ссылка працягвалася 22 гады. Ужо пасля памілавання Чэрскі ўзначаліў экспедыцыю ў раён рэк Калыма і Індыгірка. Быў узнагароджаны трыма залатымі медалямі Рускага геаграфічнага таварыства. Яго імем названа сістэма горных хрыбтоў у Якуціі і Магаданскай вобласці, хрыбет у Забайкаллі і інш.

****2.** Славутым у свеце стала імя ўраджэнца Беларусі Зыгмунта Мінейкі. Ён быў чалавекам, для якога ідэалы свабоды, незалежнасці і справядлівасці былі вышэй за ўсё. У яго характары спалучаліся цвярозы прагматызм і рамантызм. У час паўстання з'яўляўся ваенным начальнікам Ашмянскага павета і камандзірам атрада. Быў прыгавораны спачатку да расстрэлу, замененага пазней на 12 гадоў катаргі ў Сібіры. У 1865 г. уцёк за мяжу. Скончыў Акадэмію Генеральнага штаба ў Парыжы. З 1891 г. у Грэцыі, удзельнічаў у вайне з Турцыяй за Крыт. Захапляўся старажытнагрэчаскай гісторыяй, адшукаў у час археалагічных раскопак старажытны горад, дзе знаходзілася свяцілішча Зеўса. Будучы выдатным інжынерам, удзельнічаў у будаўніцтве спартыўных аб'ектаў у Афінах да першых Алімпійскіх гульняў 1896 г. і нават працаваў на іх рэпарцёрам: пісаў для польскіх газет. У 1910 г. грэчаскі парламент прысвоіў яму званне ганаровага грамадзяніна Грэцыі. За ўдзел у якасці ваеннага спецыяліста ў Балканскай вайне 1912—1913 гг. быў удастоены самай высокай воінскай узнагароды Грэцыі — Залатога крыжа заслугі.

## Пытанні і заданні

**1.** Складзіце ў сшытку табліцу «Асноўныя палітычныя групоўкі ў паўстанні 1863—1864 гг.».

| Прыкметы для параўнання | Палітычныя групоўкі | | |
|---|---|---|---|
| | | | |
| Мэты | | | |
| Удзельнікі | | | |
| Тактыка дзеянняў | | | |

**2.** Растлумачце назву газеты, якую выдавалі К. Каліноўскі, В. Урублеўскі, Ф. Ражанскі, і прычыны друкавання яе на беларускай мове лацінскім шрыфтам. Пры адказе выкарыстайце вытрымку з гэтай газеты, прыведзеную ў параграфе. **3.** Як паўплывала паўстанне 1863—1864 гг. на ўмовы вызвалення сялян беларускіх губерняў? **4.** Чаму М. М. Мураўёва называлі «ўтаймавальнікам Заходняга краю» і «выратавальнікам Расіі»? **5.** Вызначце, у чым заключаўся запавет К. Каліноўскага беларускаму народу.

## § 16. УРАДАВАЯ ПАЛІТЫКА Ў БЕЛАРУСІ Ў АПОШНЯЙ ТРЭЦІ XIX ст.

***Успомніце.*** **1.** Што такое «разбор» шляхты? **2.** Якое рашэнне прыняў Полацкі царкоўны сабор?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць асаблівасці палітыкі самадзяржаўя ў Беларусі ў апошняй трэці XIX ст.

**Сітуацыя ў беларускіх губернях пасля паўстання 1863—1864 гг.** Да канца 1860-х гг. у Беларусі захоўвалася ваеннае становішча, уведзенае ў сувязі з паўстаннем 1863—1864 гг. У Беларусі і Літве быў устаноўлены рэжым выключных законаў, накіраваны на змяншэнне польскага шляхецкага ўплыву.

Дзейнічалі следчыя камісіі і палявыя суды. Працягваліся арышты ўдзельнікаў паўстання і прымусовае адчужэнне маёнткаў шляхты на карысць дзяржавы. Урад вярнуўся да палітыкі «разбору» шляхты, якая актыўна ўдзельнічала ў паўстанні. Шляхце забаранілі збірацца разам па некалькі чалавек, нават на сямейныя ўрачыстасці. За любое парушэнне законаў ваеннага часу накладваліся штрафы — напрыклад, за выкарыстанне польскай мовы, за нашэнне жалобы па загінуўшых паўстанцах. Былі звольнены са службы ўсе чыноўнікі-католікі, а на іх пасады прызначаны дзяржаўныя служачыя з Расіі, якія сталі апорай царызму ў краі. Ім былі перададзены сотні маёнткаў, канфіскаваных ва ўдзельнікаў паўстання. З 1866 г. паступова, пачынаючы з усходніх губерняў, ваеннае становішча пачало здымацца, але было адменена цалкам толькі ў 1870 г.

**Асаблівасці правядзення буржуазных рэформаў у Беларусі.** У сувязі з паўстаннем 1863—1864 гг. большасць буржуазных рэформаў 1860—1870-х гг. праводзілася ў Беларусі са значным спазненнем і істотнымі абмежаваннямі.

Толькі з 1872 г. у Беларусі пачалася судовая рэформа. Для разгляду дробных злачынстваў і нязначных спраў быў створаны міравы суд. У адрозненне

ад цэнтральных губерняў Расіі, дзе суддзяў выбіралі земскія сходы ў паветах, у Беларусі яны прызначаліся міністрам юстыцыі з ліку верных ураду памешчыкаў. Такім чынам, Беларусь была адразу пазбаўлена галоўнай асаблівасці рэформы — выбарнасці суддзяў і іх незалежнасці ад урада.

Толькі ў 1882 г. у судах Беларусі былі ўведзены спецыяльныя пасады прысяжных засядацеляў (суддзяў-непрафесіяналаў). Яны незалежна ад суддзяў выносілі канчатковае рашэнне аб вінаватасці або невінаватасці падсуднага. З улікам іх рашэння суд вызначаў меру пакарання ці аб’яўляў аб вызваленні. Для юрыдычнай дапамогі падсудным і іх абароны таксама ўводзіліся прысяжныя павераныя — адвакаты, якія не знаходзіліся на дзяржаўнай службе.

Расійскі ўрад не пайшоў на правядзенне ў беларускіх губернях земскай рэформы, звязанай са стварэннем выбарных устаноў для кіраўніцтва мясцовай гаспадаркай, народнай асветай, медыцынскім абслугоўваннем насельніцтва. Улады пасля паўстання 1863—1864 гг. не давяралі мясцовым памешчыкам, якія маглі скласці большасць у гэтых выбарных установах.

Пасля забойства ў 1881 г. цара Аляксандра II надышоў перыяд контррэформаў, якія суправаджаліся ганеннямі на ўсялякае іншадумства. Спробай аднаўлення прыгонніцкіх парадкаў стала ўвядзенне ў 1900 г. у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях земскіх начальнікаў з ліку «добранадзейных» мясцовых памешчыкаў. Яны цалкам падпарадкавалі сабе сялянскае самакіраванне, якое было характэрным для сялянскай абшчыны. Надзеленыя амаль неабмежаванай уладай, земскія начальнікі маглі адмяніць любое рашэнне сельскага сходу, падвяргаць сялян розным пакаранням.

**Мерапрыемствы расійскіх улад па нацыянальна-рэлігійным пытанні.** Самадзяржаўе намагалася абмежаваць польскі палітычны і культурны ўплыў, правадніком якога ў беларускіх губернях з’яўлялася мясцовая апалячаная шляхта. Улады падзялялі мясцовае дваранства на «палякаў» (каталікаў) і «рускіх» (праваслаўных). Першыя лічыліся нядобранадзейнымі, і расійскі царызм імкнуўся падарваць іх эканамічнае і палітычнае становішча. У той жа час улады ўмацоўвалі саюз з праваслаўным «рускім» дваранствам, якое было прызнана апорай самадзяржаўя. Вызначальнае месца стала займаць праваслаўная царква, падтрыманая царскім урадам. Шырока разгарнулася будаўніцтва праваслаўных цэркваў у псеўдарускім стылі.

У сярэдзіне 1860-х гг. улады ажыццявілі спробы пераводу ў праваслаўе часткі беларусаў-каталікаў. Шляхам угавораў і прамога ціску праваслаўнымі змаглі запісаць яшчэ дзясяткі тысяч чалавек. Адпаведна скасоўвалася каля трохсот касцёлаў і капліц, частка якіх была прыстасавана пад праваслаўныя цэрквы.



У чэрвені 1867 г. Аляксандр II пры наведванні Вільні заявіў прадстаўнікам беларускіх сялян, якія нядаўна сталі праваслаўнымі: «Я вельмі рады, што вас бачу праваслаўнымі. Я ўпэўнены, што вы перайшлі да старой веры свайго краю з пераканання і шчыра. Аднак, раз стаўшыся праваслаўнымі, ведайце, што я не дазволю і не дапушчу, каб вы вярнуліся да каталіцызму. Чуеце? Я паўтараю, што радуюся, бачачы вас праваслаўнымі».

У такіх умовах былым уніятам і католікам давялося чакаць змен аж да 1905 г., калі пад уплывам рэвалюцыі быў прыняты так званы ўказ аб верацярпімасці, у якім дазваляўся свабодны пераход з аднаго веравызнання ў іншае.

Што датычыцца яўрэяў, царскія ўлады забаранілі ім сяліцца і набываць зямлю ў сельскай мясцовасці ў межах аселасці. У 1890-я гг. у Беларусь была вернута значная колькасць яўрэяў з Масквы і гарадоў Цэнтральнай Расіі. Такая палітыка вяла да штучнай перанаселенасці імі беларускіх гарадоў і мястэчак. Уводзіліся абмежаванні ў прыёме яўрэяў у навучальныя ўстановы і на працу.

**Заходнерусізм.** У апошняй трэці XIX — пачатку XX ст. сярод чыноўнікаў, настаўнікаў, праваслаўнага духавенства, асабліва на ўсходзе Беларусі, пашырылася сістэма поглядаў, якая атрымала назву *заходнерусізму*. Лідарам ліберальна-дэмакратычнага кірунку ў заходнерусізме стаў ураджэнец Гродзенскай губерні ***Міхаіл Восіпавіч Каяловіч*** — гісторык, этнограф, публіцыст, аўтар прац па палітычнай і царкоўнай гісторыі Беларусі. Яго погляды грунтаваліся на сцвярджэнні аб «спрадвеку рускім характары краю». Прыхільнікі заходнерусізму лічылі беларусаў часткай адзінага рускага народа разам з маларосамі (украінцамі) і велікаросамі. М. В. Каяловіч, які займаўся распрацоўкай праблем гісторыі ўніяцкай царквы, сцвярджаў, што галоўны кірунак развіцця беларускага краю — вяртанне яго ад польскага каталіцтва да рускага праваслаўя.



З кнігі М. В. Каяловіча «Чытанні па гісторыі Заходняй Расіі»: «...існуе вялікая патрэба ведаць Заходнюю Расію па-руску, разумець па-руску... і ўводзіць у гэта веданне і разуменне мільёны... простых маларосаў, беларусаў і літвінаў... Называючы ўсю гэту краіну Заходняй Расіяй, мы, відавочна, глядзім на яе з сярэдзіннай часткі рускай дзяржавы ... а калі адтуль глядзець на захад, то... можна без вялікай памылкі назваць Заходняй Расіяй не толькі Беларусь, але і Украіну, і Літву».



*М. В. Каяловіч*

Прыхільнікі поглядаў М. В. Каяловіча прызнавалі пэўную гісторыка-этнічную адметнасць Беларусі, але выключалі магчымасць самастойнага нацыянальна-культурнага, дзяржаўнага і палітычнага развіцця беларускага этнасу. І ўсё ж яны шмат зрабілі для даследавання нацыянальнай спадчыны беларусаў і садзейнічалі абвяржэнню думкі, што Беларусь — гэта частка Польшчы (**).

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *заходнерусізм.*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

** Уплыў заходнерусізму зазналі некаторыя беларускія вучоныя і дзеячы культуры. Напрыклад, ураджэнец Гродзеншчыны, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства Яўхім Фёдаравіч Карскі першапачаткова разглядаў беларускую супольнасць як «галіну рускага народа», а беларускую мову — як «заходнярускую галіну сярэднярускіх гаворак». Ён лічыў, што навучанне беларускай мове не павінна ісці далей за пачатковую школу, а сярэдняя і вышэйшая адукацыя і навука могуць забяспечвацца праз «агульнарасійскую мову». У далейшым Я. Карскі абгрунтаваў самабытнасць беларусаў як самастойнага славянскага народа, асвятліў важнейшыя этапы гісторыі беларускай мовы, яе спецыфічныя асаблівасці.

## Пытанні і заданні

**1.** Ахарактарызуйце сітуацыю ў беларускіх губернях пасля паўстання 1863—1864 гг. **2.** Чым былі абумоўлены і ў чым заключаліся абмежаванні пры правядзенні ў Беларусі судовай рэформы? **3.** Што стала альтэрнатывай земскай рэформе ў Беларусі? **4.** Чаму царскія ўлады ў Беларусі не давяралі мясцоваму дваранству і падзялялі яго на «палякаў» і «рускіх»? **5.** Якімі былі адносіны расійскіх улад да католікаў і былых уніятаў? **6.** У чым сутнасць поглядаў прыхільнікаў заходнерусізму? Параўнайце гэтыя погляды з беларусазнаўствам. **7.** Аб чым сведчыў той факт, што царскія чыноўнікі ў адносінах да беларускіх зямель ужывалі назву «Паўночна-Заходні край»?

# § 17. РАЗВІЦЦЁ КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ АДНОСІН У ВЁСЦЫ ПАСЛЯ АДМЕНЫ ПРЫГОННАГА ПРАВА

***Успомніце.*** Якія былі ўмовы атрымання сялянамі зямлі паводле рэформы 1861 г. і ў сувязі з падзеямі паўстання 1863—1864 гг.?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, у чым заключалася спалучэнне феадальных і капіталістычных рыс у развіцці сельскай гаспадаркі Беларусі пасля сялянскай рэформы 1861 г.

**Рост буржуазнага землеўладання ў Беларусі.** Пасля адмены прыгоннага права ў беларускіх губернях пачаўся працэс распаду дваранскай зямельнай уласнасці і яе ператварэння ў буржуазную. Значная частка памешчыкаў, якія вялі гаспадарку старымі метадамі, не вытрымлівалі канкурэнцыі. Іх маёнткі з цягам часу абцяжарваліся даўгамі, закладваліся ў банках і рана ці позна прадаваліся цалкам або часткамі. На 1 студзеня 1914 г. у банках было закладзена $^{2}/_{3}$ памешчыцкіх зямель. Пакупнікамі зямлі з’яўляліся купцы, заможныя сяляне, мяшчане. Разам з тым набыццё зямлі каталіцкай шляхтай і яўрэйскай буржуазіяй з 1860-х гг. не дапускалася, што стрымлівала фарміраванне буржуазнай зямельнай уласнасці ў заходніх губернях. За перыяд 1877—1905 гг. у беларускіх губернях буржуазная зямельная ўласнасць, пры якой выкарыстоўвалася наёмная праца і практыкаваліся агратэхнічныя новаўвядзенні, павялічылася з 5 да 16,5 %, у той час як памешчыцкая паменшылася да 41 % ад усіх землеўладанняў.

Пераважная большасць сялян вяла гаспадарку на надзелах, атрыманых паводле рэформы. Малазямелле і беззямелле былі сапраўдным бедствам для большасці сялянства. Сярэдні памер сялянскіх надзелаў у беларускіх губернях вагаўся ад 8 да 12 дзесяцін на двор, што не забяспечвала пражытачнага



*Сяляне Барысаўскага павета. Другая палова XIX ст.*

мінімуму сярэдняй сям'і з 6—7 чалавек. Затое сяляне, якія мелі надзелы ў 15 і больш дзесяцін зямлі, нарошчвалі вытворчасць сваёй прадукцыі на продаж і пашыралі сваю гаспадарку. У першае парэформеннае 15-годдзе ў пяці беларускіх губернях 10 тыс. сялян купілі зямлю, прычым многія з іх набылі 100 і больш дзесяцін.

**Пераход да прадпрымальніцкай гаспадаркі.** Частка памешчыкаў пасля рэформы 1861 г. працягвала весці сваю гаспадарку па-старому. У першыя парэформенныя дзесяцігоддзі найбольшае распаўсюджанне ў Магілёўскай і Віцебскай губернях атрымалі *адпрацоўкі.* Пры адпрацовачнай сістэме гаспадарання малазямельныя сяляне былі вымушаны працаваць на пана за арэнду памешчыцкіх палёў, пашы, сенажацей і за натуральныя або грашовыя пазыкі. Адпрацоўкі (у аснове сваёй дарэформенная паншчына) ажыццяўляліся прымітыўнымі метадамі земляробства і традыцыйнымі прыладамі працы (драўлянай сахой і бараной, сярпом і касой). Сяляне, якія знаходзіліся на адпрацоўках, не былі зацікаўлены ў дабраякаснай працы, што асуджала памешчыцкую гаспадарку на заняпад.


Рэакцыю сялян на захаванне адпрацовак адлюстроўваюць наступныя радкі:

«Мужыкі без зямлі прападаюць,
А дваране і рады таму,
Што за бесцань яны нанімаюць
Мужыкоў на работу сваю».

Частка памешчыкаў здолела перайсці да капіталістычнай сістэмы гаспадарання. Гэтая сістэма пераважала ў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях. Яна заключалася ў найме памешчыкамі ў свае гаспадаркі пастаянных або часовых работнікаў, якія апрацоўвалі зямлю інвентаром уладальніка. Такія гаспадаркі паступова набывалі гандлёвы, прадпрымальніцкі характар.



*Хата селяніна-бедняка ў вёсцы Хатляны Ігуменскага павета Мінскай губерні. Пачатак XX ст.*

Тут уводзілі шматпольныя севазвароты, разводзілі пародзістую жывёлу, выкарыстоўвалі мінеральныя ўдабрэнні і палепшаныя прылады працы (жалезныя плугі, бароны), а пазней — розныя сельскагаспадарчыя машыны. Падобнымі новаўвядзеннямі карысталіся на сваіх землях і заможныя прадпрымальныя сяляне. Па прымяненні машын у сельскай гаспадарцы Беларусь стаяла на адным з першых месцаў у Расійскай імперыі.

**Спецыялізацыя сельскай гаспадаркі.** У 1860—1870-я гг. сельская гаспадарка Беларусі спецыялізавалася на вытворчасці збожжа: жыта, аўса, ячменю. Аднак у 1880-я гг. яго вытворчасць як рыначнай культуры стала ў Беларусі нявыгаднай па дзвюх прычынах. Рынкі Заходняй Еўропы запоўніла больш таннае і якаснае збожжа з Амерыкі, што выклікала рэзкае (удвая і больш) падзенне цэн на яго. Гэта зрабіла прадукцыю беларускіх вытворцаў неканкурэнтаздольнай на еўрапейскім рынку. Да таго ж расійскі ўрад увёў такі кошт правозу на чыгунках, які спрыяў вывазу збожжа з чарназёмных губерняў Расіі і зрабіў нявыгадным яго вываз з беларускіх губерняў. Беларусь была літаральна завалена больш танным збожжам з Паволжа і паўднёвых губерняў. У выніку адбылося істотнае скарачэнне пасяўных плошчаў пад збожжавыя культуры.

Сельская гаспадарка Беларусі пераарыентавалася на малочна-мясную жывёлагадоўлю, якая ў тых умовах магла забяспечыць высокія прыбыткі. У 1883—1900 гг. пагалоўе буйной рагатай жывёлы павялічылася ўдвая. З'явіліся высокапрадукцыйныя пароды кароў і фермы па іх гадоўлі. Малако перараблялі на масла і сыр на маслаއробчых і сыраварных заводах. Беларусь разам з прыбалтыйскімі губернямі стала раёнам, які спецыялізаваўся на вытворчасці малочных прадуктаў.

Другім важным відам капіталістычнага прадпрымальніцтва стала вінакурэнне. Асноўнай сыравінай для вырабу спірту было спачатку збожжа, потым — бульба. Таму яе пасевы выраслі больш як утрая. У пачатку XX ст. на Беларусь прыпадала амаль 17 % усёй плошчы, занятай бульбай у еўрапейскай частцы Расійскай імперыі.

У Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губернях пашыралася бульбаводства. Віцебская і паўночна-ўсходнія паветы Віленскай губерні спецыялізаваліся на вырошчванні льну. На Магілёўшчыне вырошчвалі каноплі. У Гродзенскай і Мінскай губернях у 1860—1880-я гг. паспяхова развівалася танкарунная авечкагадоўля. Воўна паступала на мясцовыя суконныя фабрыкі, а таксама ў Польшчу, Германію. Аднак у пачатку XX ст. канкурэнцыя больш таннай воўны з поўдня Расіі і Аўстраліі прывяла мясцовую авечкагадоўлю ў заняпад. Як рыначная галіна паўсюдна развівалася свінагадоўля.

Рэформа 1861 г. вызначыла марудны *«прускі» шлях развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы.* На гэтым шляху сельская гаспадарка Беларусі запаво-

лена перарастала ў капіталістычную пры захаванні доўгі час галоўнага феадальнага перажытку — памешчыцкага землеўладання.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *адпрацоўкі, «прускі» шлях развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы.*

### Пытанні і заданні

**1.** У чым заключалася сутнасць «прускага» шляху развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі? **2.** Вызначце крыніцы росту буржуазнага землеўладання ў Беларусі ў 1870-х гг. — пачатку XX ст. **3.** Параўнайце адпрацовачную і капіталістычную сістэмы гаспадарання ў беларускіх губернях паводле наступнага плана: а) раён распаўсюджання; б) узаемаадносіны памешчыкаў і сялян; в) прылады працы, якія выкарыстоўваліся; г) эфектыўнасць гаспадаркі. Параўнанне афарміце ў выглядзе табліцы ў сшытку. Выкарыстайце адпаведную карту ў атласе. **4.** Раскрыйце прычынна-выніковыя сувязі паміж наступнымі гістарычнымі з'явамі: продаж на рынках Заходняй Еўропы таннага і якаснага збожжа з Амерыкі → скарачэнне пасяўных плошчаў у Беларусі пад збожжавыя культуры → пераарыентацыя сельскай гаспадаркі Беларусі на малочна-мясную жывёлагадоўлю. **5.** Ахарактарызуйце асноўныя кірункі спецыялізацыі сельскай гаспадаркі ў Беларусі ў 1860—1880-я гг.

**Да ўрока «Наш край».** Вызначце, ці існуе гістарычная пераемнасць у развіцці аграрнага сектара эканомікі вашай мясцовасці са спецыялізацыяй сельскай гаспадаркі Беларусі на мяжы XIX—XX стст.

## § 18—19. ПРАМЫСЛОВАЕ РАЗВІЦЦЁ І СТАН ГАРАДОЎ, РАЗВІЦЦЁ ГАНДЛЮ, ФІНАНСАЎ, ТРАНСПАРТУ Ў 1860-х гг. — ПАЧАТКУ XX ст.

***Успомніце.*** **1.** Што ўяўляе сабой прамысловы пераварот? **2.** Дзе і калі былі пабудаваны першыя фабрыкі ў Беларусі?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, у чым заключаліся прыкметы развіцця капіталістычных адносін у прамысловасці Беларусі.

**Станаўленне фабрычнай вытворчасці.** Вызваленне з-пад прыгону памешчыцкага сялянства стварыла рынак свабоднай рабочай сілы. За кошт беззямельных і малазямельных сялян, якія пакідалі вёску, а таксама збяднелых рамеснікаў папаўняўся рабочы клас. Грошы за зямлю, атрыманыя памешчыкамі ў выніку выкупной аперацыі, сталі асновай капіталу, выкарыстанага для

стварэння і пашырэння прадпрымальніцтва. Павелічэнне попыту вёскі на прамысловыя тавары — ад бавоўняных тканін да сельскагаспадарчых машын, а таксама будаўніцтва чыгунак абумовілі хуткі рост рынку збыту прамысловай прадукцыі. Такім чынам, свабодныя рабочыя рукі, наяўнасць капіталу і рынку стваралі ўмовы для паступовага станаўлення капіталізму. Ён уяўляў сабой грамадскі лад, заснаваны на прыватнай уласнасці, таварна-грашовых адносінах, выкарыстанні вольнанаёмнай рабочай сілы.




Асаблівасцю развіцця прамысловасці Беларусі ў другой палове XIX ст. было суіснаванне рамесных майстэрань, мануфактур, фабрык і заводаў. Колькасць фабрык і заводаў за 40 парэформенных гадоў павялічылася ў 15 разоў. Пры гэтым аб'ём прамысловай вытворчасці ўзрос у 37 разоў, а колькасць рабочых — у 9. Калі ў 1860 г. фабрыкі і заводы давалі толькі каля 9 % усёй прамысловай прадукцыі заходніх губерняў, то да канца XIX ст. — амаль 47 % (схема «Суадносіны дробнай, мануфактурнай і фабрычнай вытворчасці ў Беларусі ў 1900 г.»).

У Беларусі пераважалі дробныя і сярэднія фабрыкі і заводы з колькасцю рабочых да 50 чалавек. Буйных прадпрыемстваў, дзе працавала 500 і болей рабочых, было вельмі мала. У 1900 г. іх налічвалася ўсяго 9. Самым буйным прадпрыемствам у Беларусі была тытунёвая фабрыка Шарашэўскага ў Гродне, заснаваная ў 1862 г. У 1900 г. на ёй працавала 1445 рабочых. Сыравіну на фабрыку завозілі з поўдня Расіі і з-за мяжы. Прадукцыя прадавалася па ўсёй Расіі і ў Польшчы.

Другой асаблівасцю прамысловасці Беларусі была яе прывязанасць да сельскай мясцовасці. У 1900 г. $^{2}/_{3}$ фабрык і заводаў знаходзіліся ў мястэчках і маёнтках, там жа жыло 45 % рабочых. Размяшчэнне прадпрыемстваў паблізу крыніц сыравіны і таннай рабочай сілы было выгаднае капіталістам, бо давала магчымасць пры мінімальных затратах атрымліваць вялікія прыбыткі. Але найбольш буйныя фабрыкі і заводы размяшчаліся ў гарадах.

**Спецыялізацыя прамысловасці.** Прамысловасць Беларусі спецыялізавалася на апрацоўцы прадукцыі мясцовай сельскай гаспадаркі, лясной і мінеральнай сыравіны. Найбольш развітымі былі галіны, звязаныя з перапрацоўкай прадуктаў земляробства (мукамольная, ільняная, вінакурная), жывёлагадоўлі




*Прамысловасць у 1913 г.*

(гарбарная, шарсцяная, суконная), дрэва (запалкавая, папяровая). Менавіта яны прыносілі прадпрымальнікам высокія прыбыткі, таму што былі забяспечаны таннай сыравінай і не патрабавалі вялікіх капіталаў.

Вядучая роля сярод галін вытворчасці належала вінакурэнню. Беларусь была адным з галоўных раёнаў вінакурэння Расійскай імперыі. У 1890 г. у пяці заходніх губернях дзейнічалі 18 % вінакурных заводаў краіны.

Хуткімі тэмпамі развівалася дрэваапрацоўчая прамысловасць. Яе прадукцыя збывалася ў Кіеве, Адэсе, Маскве і іншых месцах Расіі, а таксама за мяжой. У пачатку XX ст. беларускія прадпрыемствы давалі 24 % агульнарасійскай вытворчасці дубовых шпал, амаль 24 % — фанеры, прыкладна 49 % — запалкавай саломкі. Буйнейшыя запалкавыя фабрыкі знаходзіліся ў Пінску, Мазыры, Бабруйску, Барысаве. З мэтай паспяховай канкурэнцыі іх уладальнікі ў 1898 г. аб’ядналіся для продажу сваёй прадукцыі. Першапачаткова запалкі выраблялі рознай даўжыні і перавязвалі шпагатам. У канцы XIX ст. на Пінскай фабрыцы пабудавалі спецыяльную машыну, з дапамогай якой на галоўку запалкі наносіўся чырвоны фосфар. У пачатку XX ст. пачала выкарыстоўвацца машына для склейвання запалкавых карабкоў.

Папярова-кардонная прамысловасць Беларусі размяшчалася галоўным чынам у Магілёўскай і Віцебскай губернях. Найбуйнейшай у гэтай галіне

была Добрушская папяровая фабрыка — адна з самых перадавых у Расіі па тэхнічнай аснашчанасці (**1).

Самым буйным прадпрыемствам са шклозаводаў быў завод «Нёман» у Лідскім павеце, які пачаў працу ў 1883 г. У пачатку XX ст. прадпрыемствы Беларусі давалі 55 % аконнага шкла, што выраблялася ў Расіі.

Найбольш значным прадпрыемствам у галіне тэкстыльнай, ільняной прамысловасці была льнопрадзільная фабрыка «Дзвіна» ў Віцебску, пабудаваная ў 1900 г.

**Асаблівасці прамысловага перавароту ў Беларусі.** Прамысловы пераварот уключае ў сябе два бакі: тэхнічны — замена ручной, мануфактурнай вытворчасці машыннай, фабрычна-заводскай, і грамадскі — замена прымусовай працы вольнанаёмнай і фарміраванне буржуазіі і пралетарыяту. Пралетарыят уяўляў сабой клас (грамадскую групу людзей) наёмных рабочых, якія былі пазбаўлены ўласнасці на прылады працы. Адзінай крыніцай яго існавання з'яўляўся продаж сваёй рабочай сілы ўладальніку прадпрыемства за вызначаную плату.

Пераход да машыннай вытворчасці адбыўся ў Беларусі ў 1880—1890-я гг. першапачаткова ў дрэваапрацоўчай і металаапрацоўчай галінах. Ён праходзіў замаруджана і завяршыўся ў пачатку XX ст., калі ў асноўных сферах вытворчасці машынная тэхніка выцесніла ручную працу, а вадзяное кола было заменена паравым рухавіком.

Укараненне на прадпрыемствах машын патрабавала кваліфікаванай рабочай сілы. Галоўнай крыніцай яе фарміравання сталі былыя прыгонныя сяляне, а таксама майстравыя работнікі мануфактур і рамеснікі. Асаблівасцю рабочага класа ў Беларусі была яго моцная прывязанасць да сельскай гаспадаркі. Толькі $^{1}/_{3}$ рабочых знаходзілася ў гарадах.

Буржуазія як клас фарміравалася з купецтва, уладальнікаў мануфактур, мяшчан, заможных рамеснікаў, а пасля 1861 г. — галоўным чынам за кошт заможнага сялянства — вясковых «гаспадароў».

**Рост гарадоў.** У XIX ст. у Беларусі налічвалася 42 гарады, а доля гараджан складала 10 % ад усяго насельніцтва Беларусі. Гарады былі пераважна невялікімі. У канцы XIX ст. толькі 2 з іх (Мінск і Віцебск) мелі ад 50 да 100 тыс., а 7 гарадоў — ад 20 да 50 тыс. жыхароў. У 1913 г. колькасць насельніцтва Мінска склала 106,7 тыс., а Віцебска — 109 тыс. чалавек.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. у абліччы беларускіх гарадоў адбыліся прыкметныя змены. У значныя прамысловыя цэнтры ператварыліся Мінск, Гомель, Пінск, Віцебск, Гродна, Брэст, Бабруйск, Барысаў. Яны ўдвая, а то і болей павялічылі свае тэрыторыі. Тут былі пабудаваны фабрыкі і заводы, на ўскраінах з'явіліся рабочыя пасёлкі.



*Віленскі чыгуначны вакзал у Мінску. Пачатак XX ст. Цяпер на яго месцы пабудаваны сучасны чыгуначны вакзал еўрапейскага тыпу*

Перш за ўсё раслі тыя гарады, якія сталі чыгуначнымі вузламі або станцыямі. Праз многія гарады прайшлі чыгункі, што абумовіла з'яўленне новага тыпу пабудоў — вакзалаў. Будынкі чыгуначных вакзалаў надалі новыя характэрныя рысы абліччу беларускіх гарадоў у другой палове XIX — пачатку XX ст. Раней ролю цэнтра выконвала гарадская плошча. На мяжы стагоддзяў ім стала цэнтральная вуліца, якая злучала чыгуначны вакзал з гістарычным цэнтрам. На гэтай галоўнай транспартнай артэрыі горада размяшчаліся дзяржаўныя, гандлёва-фінансавыя, камерцыйныя і культурныя ўстановы. Цэнтры буйных гарадоў былі забяспечаны водаправодам, каналізацыяй, электрычным асвятленнем, тэлефонам (**2). У гарадах утвараліся новыя плошчы: прывакзальная, тэатральная, адміністрацыйная, разбіваліся скверы, гарадскія сады і паркі.

З ростам гарадоў абвастрылася праблема гарадскога грамадскага транспарту. У найбольш людных месцах пракладаліся першыя лініі конкі, якія



*Электрычны трамвай у Віцебску. Канец XIX ст.*



*Паштоўка, прысвечаная пачатку аўтамабільнага руху ў Слуцку*

злучалі гістарычны цэнтр, вакзал і прамысловую зону (**3). У 1898 г. у Віцебску, раней, чым у Маскве і Пецярбургу, быў пушчаны электрычны трамвай. У пачатку XX ст. у якасці грамадскага транспарту стаў выкарыстоўвацца аўтамабіль. У 1913 г. у Мінску было 6 аўтамабіляў-таксі, а ўсяго напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Беларусі мелася каля 300 аўто.

Характэрнымі для беларускіх губерняў былі мястэчкі — населеныя пункты, якія займалі прамежкавае становішча паміж горадам і вёскай. У канцы XIX ст. іх налічвалася ў Беларусі каля 320, і ў іх пражывала 680 тыс. чалавек. Пераважалі дробныя мястэчкі — да 2 тыс. жыхароў, але каля 100 мястэчак мелі насельніцтва ад 2 да 5 тыс. чалавек.




*Дом у мястэчку Лёзне. Мастак М. Шагал. 1914 г.*

**Змены ў складзе гарадскога насельніцтва.** Рост гарадоў суправаджаўся зменай іх сацыяльнай структуры. Да канца XIX ст. сярод гараджан вылучаліся буржуазія і наёмныя рабочыя. У склад гарадской буржуазіі ўваходзілі прамыслоўцы, заможныя рамеснікі, купцы, фінансісты.

Агульная колькасць гараджан на працягу другой паловы XIX ст. вырасла ў 2,2 раза. Яна павялічвалася за кошт шляхты, абеззямеленага сялянства і выгнаных з сельскіх паселішчаў яўрэяў. Па тэмпах росту гарадскога насельніцтва Беларусь адставала ад цэнтральных губерняў еўрапейскай часткі Расіі.




Своеасаблівым быў нацыянальны склад гарадскога насельніцтва, у якім паводле перапісу 1897 г. пераважалі яўрэі (схема «Нацыянальны склад гарадскога насельніцтва пяці заходніх губерняў»). Беларусаў сярод гарадскіх жыхароў было толькі 14,5 %. Удзельная вага яўрэйскага насельніцтва мястэчак дасягала 60—80 %. Яўрэі складалі большасць і сярод рабочых дробнакапіталістычнай і рамеснай вытворчасці, гандлю і бытавога абслугоўвання. Гандлёва-прамысловая буржуазія ў краі ў асноўным была прадстаўлена таксама яўрэйскімі купцамі і прамыслоўцамі. У буйной прамысловасці і на чыгунцы былі заняты пераважна беларусы.

**Гарадская рэформа.** Развіццё гарадоў патрабавала рэарганізацыі сістэмы гарадскога кіравання. У 1875 г. на заходнія губерні пашырылася гарадская рэформа. Паводле яе ў 32 беларускіх гарадах уводзіліся новыя органы самакіравання — гарадскія думы, якія выбіраліся на 4 гады. Выбары ў думу адбываліся на аснове *маёмаснага цэнзу*. Гэта значыць, што правам голасу надзяляліся плацельшчыкі гарадскіх падаткаў: уладальнікі гандлёва-прамысловых устаноў, банкаў, гарадской нерухомасці. Устаноўленая сістэма выбараў забяспечвала большасць у думе прадстаўнікам буйнога капіталу. Асноўная частка насельніцтва — рабочыя, служачыя, інтэлігенцыя — не мела такой уласнасці і таму была вызвалена ад платы падаткаў, а значыць, адхілялася ад удзелу ў самакіраванні. Гарад-



*Стары кравец.*
*Мастак Ю. Пэн*

скія думы знаходзіліся пад строгім кантролем губернатара і міністра ўнутраных спраў, якія маглі адмяніць любое іх рашэнне.

Органы гарадскога самакіравання займаліся пытаннямі добраўпарадкавання гарадоў, развіццём мясцовага гандлю і прамысловасці, забеспячэннем медыцынскага абслугоўвання, народнай адукацыяй. Гарадская рэформа садзейнічала паляпшэнню стану гарадской гаспадаркі, павялічыла прыбыткі ў мясцовы бюджэт.

Шмат намаганняў для ператварэння тагачаснага Мінска ў еўрапейскі горад прыклаў яго гарадскі галава ў 1890—1901 гг. граф ***Караль (Карл Эмерыкавіч) фон Гутэн-Чапскі***. Пры ім у горадзе стаў працаваць трамвай-конка, пачала даваць электрычнае асвятленне электрастанцыя, адкрылася тэлефонная станцыя. Быў заснаваны начны прытулак для бяздомных, дзе пастаяльцам выдаваліся цёплая вопратка, гарбата і кавалак хлеба. За прытулак трэба было заплаціць 5 капеек. Праводзілася добраўпарадкаванне горада, які ў сярэдзіне XIX ст. заканчваўся ў раёне цяперашняй плошчы Перамогі. Тут утварыўся жылы раён Залатая Горка. Дамы атрымалі нумарацыю, бо дагэтуль іх шукалі па прозвішчы гаспадара.

Шмат увагі К. Гутэн-Чапскі надаваў развіццю культуры. Дзякуючы яго намаганням быў дабудаваны будынак гарадскога тэатра (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы) і адкрыта бібліятэка імя Пушкіна. У 1909 г. яе ганаровым членам стаў Леў Талстой. Гарадскі галава заснаваў таварыства аматараў спорту і стаў яго першым старшынёй. У Мінску былі пабудаваны велатрэк, стадыён, абсталяваны іпадром і лядовая пляцоўка. На жаль, памяць аб тагачасным кіраўніку Мінска пакуль яшчэ не адлюстравана ў сучасных гарадскіх назвах.

**Будаўніцтва чыгунак.** Рачныя і шашэйныя шляхі зносін ужо не задавальнялі патрэб развіцця рынку. Пачалося інтэнсіўнае будаўніцтва чыгунак. Першая чыгунка — участак Пецярбургска-Варшаўскай магістралі — прайшла праз Беларусь у 1862 г. З пабудовай у 1860-я гг. Рыга-Арлоўскай, у 1870-я гг. Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Роменскай, у 1880-я гг. Палескіх чыгунак і ў 1902 г. чыгуначнай лініі Віцебск — Жлобін даўжыня чыгункі на тэрыторыі Беларусі склала 3000 км. Чыгуначная сетка на тэрыторыі Беларусі была адной з самых густых у Расійскай імперыі (**4).

Чыгуначнае будаўніцтва дало магутны штуршок росту гарадоў, садзейнічала ўмацаванню гаспадарчых сувязей паміж рознымі абласцямі Беларусі і ператварэнню іх у састаўную частку агульнарасійскага і еўрапейскага рынкаў.

**Развіццё ўнутранага і знешняга гандлю.** Значныя зрухі ў апошняй трэці XIX — пачатку XX ст. адбыліся ў гандлі. Паступова страчвалі сваю ролю кірмашы, якія праводзіліся перыядычна. На змену ім прыходзіў пастаянны ган-

даль праз крамы. На яго долю ў канцы XIX ст. прыпадала 95 % усяго ўнутранага гандлёвага абароту гарадоў.

У канцы XIX ст. на беларускім рынку галоўным таварам быў лес. Другое месца займала сельскагаспадарчая прадукцыя. У сувязі са спецыялізацыяй на мяса-малочнай вытворчасці ў тавараздвароце вырасла роля прадуктаў жывёлагадоўлі. Прадукты сельскай гаспадаркі і вырабы прамысловасці (спірт, запалкі, папера і кардон, аконнае шкло, цэгла, кафля, вяроўкі і канаты), акрамя збыту на месцы, вывозіліся ў гарады Расіі, Украіны, а таксама за мяжу. Прывозілі ў Беларусь метал, машыны, вугаль, нафту, соль, збожжа. Паступовае ўваходжанне Беларусі ў еўрапейскі рынак абумовіла значны рост аб'ёму знешняга гандлю.




*Развіццё сеткі чыгунак у Беларусі*

Імклівымі тэмпамі развіваўся гандаль прамысловымі таварамі. Яны карысталіся попытам у гарадскога насельніцтва, якое хутка павялічвалася. Вёсцы таксама ўсё больш патрабавалася тканін і прылад працы фабрычнай вытворчасці. Буйным спажыўцом тавараў з'яўлялася і сама прамысловасць, якая мела патрэбу ў метале, вугалі, нафце, лесаматэрыялах.

З будаўніцтвам чыгунак сельскагаспадарчая, лясная і прамысловая прадукцыя Беларусі выйшла на агульнарасійскі і еўрапейскі рынкі. Разам з тым беларускі рынак аказаўся адкрытым для тавараў з іншых рэгіёнаў Расіі. Некаторыя віды прадукцыі стала танней завозіць з суседніх раёнаў, чым арганізоўваць іх выраб у Беларусі на месцы. Напрыклад, знікла вытворчасць цукру, заняпала тэкстыльная прамысловасць, перайшлі на выраб прадукцыі ніжэйшага гатунку тытунёвыя фабрыкі.



*Мінскія камерсанты. 1913 г.*

**Станаўленне банкаў.** У развіцці эканомікі Беларусі ўсё больш значную ролю адыгрывалі банкі — установы, якія ажыццяўляюць пасрэдніцтва ў крэдыце і плацяжах, канцэнтруюць грашовыя сродкі. У 1873 г. быў створаны Мінскі камерцыйны банк — першы прыватны банк на тэрыторыі Беларусі. Асноўны капітал пры яго заснаванні склаў 1 млн рублёў. Аднак гэтыя сродкі накіроўваліся не на развіццё прамысловасці. Банк займаўся пераважна крэдытаваннем гандлю сельскагаспадарчай прадукцыяй і вывазу лесу.

У 1880-я гг. у Беларусі пачалі дзейнічаць аддзяленні Дзяржаўнага, Сялянскага пазямельнага і Дваранскага зямельнага банкаў Расіі. Першы крэдытаваў багатых кліентаў. Другі выдаваў сялянам пазыкі на набыццё прыватнаўласніцкіх зямель. Дваранскі зямельны банк выдаваў доўгатэрміновыя крэдыты на незвычайна льготных умовах рускім памешчыкам. У 1890-я гг. у гарадах Беларусі пачалі працаваць аддзяленні Маскоўскага, Пецярбургска-Азоўскага, Арлоўскага, Паўднёва-Рускага, Віленскага і Паўднёвага камерцыйных банкаў.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *маёмасны цэнз.*

### Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** Дырэктарам Добрушскай папяровай фабрыкі ў 1878 г. стаў выдатны інжынер і вынаходца Антон Ігнацьевіч Стульгінскі. Пад яго кіраўніцтвам фабрыка была рэканструявана і хутка стала лідарам у сваёй галіне. Па ініцыя-




*Этыкетка з прадукцыі Добрушскай папяровай фабрыкі*

тыве Стульгінскага ў Добрушы пачалося будаўніцтва першай у Беларусі электрастанцыі, якая дала ток у 1889 г. На Усерасійскай выстаўцы ў 1882 г. Добрушская фабрыка разам з Гродзенскай тытунёвай былі ўзнагароджаны медалямі. Акрамя таго, Добрушская папяровая фабрыка атрымала права ставіць на сваёй прадукцыі дзяржаўны герб Расійскай імперыі.

Пры фабрыцы дзейнічалі бальніца і аптэка, якія аказвалі бясплатныя медыцынскія паслугі работнікам фабрыкі і іх сем'ям. Прадукты на фабрычным складзе рабочым можна было набыць на 15—20 % танней, чым у мясцовых крамах. Пяцігадовы стаж працы на фабрыцы даваў права на атрыманне пры звальненні грашовай дапамогі. На фабрыцы ўпершыню ў Расіі быў уведзены 8-гадзінны працоўны дзень пры захаванні таго ж заробку, што выплачваўся за 12-гадзінную работу.

****2.** Упершыню электрычнае асвятленне ў Мінску было прадэманстравана на вадакачцы Лібава-Роменскай чыгункі ў 1886 г. У 1895 г. да электрастанцыі, пабудаванай на беразе Свіслачы, было падключана 140 электралямпачак для асвятлення вуліц Мінска і 110 для прыватных асоб. Першае электратэхнічнае прадпрыемства ў Беларусі па вырабе электрычных лямпачак стала дзейнічаць напярэдадні Першай сусветнай вайны ў мястэчку Альбярцін пад Слонімам, якое належала дынастыі Пуслоўскіх.

Першая ў Беларусі тэлефонная сетка ў 1882 г. звязала Добрушскую папяровую фабрыку, якая належала графу Ф. І. Паскевічу, і шэраг яго маёнткаў з палацам у Гомелі. У 1896 г. у Мінску з'явілася тэлефонная станцыя агульнага карыстання, да якой было падключана 57 апаратаў, што належалі 53 абанентам. Агульная працягласць лініі складала крыху больш за 12 вёрстаў (1 вярста = 1,07 км). Да 1914 г. колькасць абанентаў узрасла да 888, а працягласць ліній дасягнула 50 вёрстаў.

****3.** У 1892 г. у Мінску адкрылася конна-чыгуначная дарога, ці конка. Яна ўяўляла сабой вагончык для 20—30 пасажыраў, якія рухаўся па рэйках пры дапамозе коннай цягі з сярэдняй хуткасцю 5 км у гадзіну. Рухалася конка з аглушальным перазвонам. Прыпынкі з'явіліся толькі ў 1904 г., а да таго часу пасажыры выскоквалі на хаду. Праезд у 1896 г. каштаваў 3—4 капейкі, у наступным — 5—6 капеек. Для параўнання: у 1911 г. 1 кг жытняга хлеба каштаваў 5—7 капеек, 1 кг бульбы — 19 капеек, дзясятак яек — 30 капеек. Заробкі




*Конка ў Мінску. 1915 г.*

былі наступныя: некваліфікаваны рабочы атрымліваў 12 рублёў у месяц, чыгуначны рабочы — 32 рублі, настаўнік — ад 30 да 60 рублёў, урач — 240 рублёў.

****4.** Датай заснавання беларускай чыгункі прынята лічыць 29 лістапада 1871 г. — дзень уводу ў эксплуатацыю лініі Смаленск—Орша—Мінск—Брэст, якая найкарацейшым шляхам звязала цэнтр Расіі з Заходняй Еўропай. Цікавая гісторыя адбылася з пракладкай у 1873 г. Лібава-Роменскай чыгункі, будынак якой быў узведзены ў Мінску (цяпер на гэтым месцы знаходзіцца будынак сучаснага чыгуначнага вакзала). Уладальнік багатага маёнтка, адстаўны міністр унутраных спраў Расіі вельмі хацеў, каб Лібава-Роменская чыгунка прайшла праз падуладную яму Мар'іну Горку замест запланаванага паводле праекта мястэчка Пухавічы. Дзякуючы подкупу будаўнікі праклалі чыгунку, як таго жадаў адстаўны міністр. А каб пазбегнуць непрыемнасцей, пакінулі праектную назву станцыі. Так і атрымалася, што назва станцыі і сённяшняга Пухавіцкага раёна не супадае з назвай раённага цэнтра Мар'іна Горка.

## Пытанні і заданні

**1.** Раскажыце пра станаўленне банкаў у Беларусі. **2.** Ахарактарызуйце кірункі спецыялізацыі прамысловасці ў Беларусі. Пры адказе выкарыстайце картасхему ў параграфе і адпаведную карту ў атласе і прывядзіце назвы прамысловых прадпрыемстваў. **3.** Растлумачце, чаму большасць прамысловых прадпрыемстваў Беларусі знаходзілася ў сельскіх населеных пунктах. **4.** Складзіце ў сшытку табліцу «Асаблівасці прамысловага перавароту ў Беларусі».

| Тэхнічны бок прамысловага перавароту | Грамадскі бок прамысловага перавароту |
|---|---|
| | |

**5.** Дакажыце, што ў прамысловасці Беларусі да канца XIX ст. значна павялічылася доля прадпрыемстваў капіталістычнага тыпу. **6.** Папрацуйце па метадзе загадкавай карцінкі з выявай этыкеткі прадукцыі Добрушскай папяровай фабрыкі. **7.** Ахарактарызуйце склад гарадскога насельніцтва. **8.** Растлумачце, чаму ў органах гарадскога самакіравання большасць месцаў належала прадстаўнікам буйнога капіталу, а не рабочым, служачым, інтэлігенцыі. **9.** Ахарактарызуйце з дапамогай адпаведнай картасхемы ролю чыгункі ў развіцці эканомікі Беларусі і росце гарадоў. **10.** Растлумачце, чаму ўнутраны рынак Беларусі з будаўніцтвам чыгункі стаў састаўной часткай агульнарасійскага і еўрапейскага рынкаў. **11.** Ці існавалі ўмовы, неабходныя для паступовага станаўлення капіталізму ў прамысловасці Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.? Свой адказ аргументуйце.

**Да ўрока «Наш край».** Вызначце, ці існуе гістарычная пераемнасць у сучасным эканамічным развіцці вашай мясцовасці з прамысловым пераваротам, а таксама ўрбанізацыяй і будаўніцтвам чыгункі на мяжы XIX—XX стст.

## § 20. СЯЛЯНСКІ І РАБОЧЫ РУХ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

***Успомніце.*** **1.** Што ўяўляла сабой выкупная аперацыя? **2.** Якой была рэакцыя сялян на ўмовы атрымання імі зямлі паводле рэформы 1861 г.?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць прычыны і характар сялянскага і рабочага руху ў Беларусі ў другой палове XIX ст.

**Становішча сялян.** Рэформа 1861 г. не вырашыла канчаткова аграрнае пытанне. Плошча сялянскай надзельнай зямлі складала ўсяго каля $^1/_3$ ад агульнага землеўладання ў Беларусі. Беларускія губерні заставаліся раёнам буйнога памешчыцкага землеўладання. Адмена прыгоннага права паскорыла маёмаснае расслаенне сялянства. У канцы XIX ст. найбагацейшы яго пласт (так званыя кулакі) складаў каля 8 %, сярэдні — прыблізна 32 %. На супрацьлеглым полюсе беларускай вёскі знаходзіліся астатнія 60 % сялян, якія ледзь зводзілі канцы з канцамі.

Непасільныя выкупныя плацяжы паглыналі $^2/_3$ сялянскага даходу. Каб разлічыцца з падаткамі, сяляне былі вымушаны адразу пасля ўборкі — у сезон самых нізкіх цэн — прадаваць свой ураджай. Пазней, зімой або вясной, ім прыходзілася браць грашовыя і натуральныя пазыкі ў памешчыка і адпраўляцца на заробкі на цяжкую і малааплатную працу.

Значна пагаршала становішча сялян цераспалосіца. У выніку правядзення сялянскай рэформы 1861 г. памешчыкі часта пакідалі сабе зямельныя

ўчасткі сярод сялянскіх надзелаў, каб прывязаць сялян да сваёй гаспадаркі, пазбавіць іх прагонаў для жывёлы, сенажацей. Напрыклад, надзел, які належаў дзвюм і болей сем'ям абшчыны, часта разбіваўся на шэраг дробных частак, раскіданых у выглядзе палос у розных месцах, нярэдка на значнай адлегласці адна ад другой і ад месца жыхарства сялян.

Большасць сялянскіх сем'яў жыла ў нястачы. Хаты ў іх былі курныя, з земляной ці глінабітнай падлогай. У хлеб часта дамешвалі мякіну, ільняную макуху, бульбу, жалуды. Медыцынская дапамога была амаль недаступная. З-за недахопу школ нават у канцы XIX ст. толькі кожны пяты селянін Беларусі быў пісьменны.

Сяляне хоць і атрымалі асабістую свабоду, але былі істотна абмежаваны ў правах у параўнанні з іншымі саслоўямі. Толькі ў адносінах да сялян аж да пачатку XX ст. ужывалася такая ганебная форма пакарання, як публічная лупцоўка розгамі. Селянін не меў рэальнай магчымасці абараніцца ад самавольства чыноўнікаў і паліцыі.

**Формы і характар сялянскай барацьбы.** Непасільныя падаткі і павіннасці, нераўнапраўе, збядненне і разарэнне большай часткі сялянства, яго абеззямельванне з'яўляліся асноўнымі прычынамі сялянскай барацьбы.

У 1864—1880 гг. найбольш значныя сялянскія выступленні адбыліся ў сувязі з падзеламі зямлі пасля адмены прыгоннага права і спробамі ўлад павялічыць выкупныя плацяжы і павіннасці сялян на карысць памешчыкаў. Сяляне адмаўляліся ўступаць адрэзаную зямлю, спынялі выплату выкупных плацяжоў, аказвалі актыўнае супраціўленне паліцыі, якая прымушала сялян падпарадкоўвацца ўладам. Так, напрыклад, асабліва дружна і ўparта баранілі свае правы на адрэзаныя надзелы зямлі жыхары мястэчка Лагішын Пінскага павета Мінскай губерні. Летам 1874 г. яны далі адпор атраду паліцыі. Батальён салдат і дзве сотні казакоў таксама не змаглі ўціхамірыць сялян. Іх выступленне закончылася перамогай: улады былі вымушаны вярнуць сялянам адабраную зямлю.



*Селянін з ваколіц Мінска. Адзін з тых, хто прыходзіў на заробкі ў Мінск. Пачатак XX ст.*

Масавы характар у гэты час набылі такія формы барацьбы сялянства, як самавольны выпас жывёлы на памешчыцкіх землях, парубкі лесу, супраціўленне памешчыцкай адміністрацыі. Мелі месца падпалы памешчыцкіх пабудоў і сабранага ўраджаю, забойствы памешчыкаў.



*Выступленне сялян. 1860—1870-я гг.*

Улады пільна ахоўвалі інтарэсы памешчыкаў і казны, жорстка падаўлялі ўсе спробы парушэння правоў землеўладальнікаў, сілаю спаганялі нядоімкі, нярэдка забіралі пры гэтым апошнюю сялянскую маёмасць. Выкарыстанне карных атрадаў і войска было звычайным адказам мясцовай адміністрацыі на сялянскія хваляванні.

Сялянскі рух за зямлю і волю быў стыхійным і неарганізаваным. Сяляне ўсё яшчэ працягвалі верыць у «добрага цара».

Спецыфічнай формай сялянскай барацьбы з'яўляўся рух цвярозасці, накіраваны супраць уладальнікаў вінакурань, карчмароў. Асаблівага размаху гэты рух дасягнуў у канцы 1850-х гг. у Заходняй Беларусі і Літве, ахапіўшы каля паловы насельніцтва Гродзенскай і Віленскай губерняў.

**Перасяленчы рух на свабодныя землі.** У 1880—1890-я гг. на ўсходзе Беларусі пашырыўся перасяленчы рух на свабодныя землі ў Сібір і іншыя губерні Расійскай імперыі. У Магілёўскай губерні з-за невыносных умоў жыцця на радзіме выказала жаданне перасяліцца $^{1}/_{7}$ частка сельскага насельніцтва. Але самавольнае перасяленне афіцыйна не дазвалялася і стрымлівалася ўладамі. Тым не менш сяляне распрадавалі маёмасць і масава збіраліся на чыгуначных станцыях, каб выехаць у Сібір. На шляху да станцый і на саміх станцыях адбываліся сутыкненні з паліцыяй і войскамі. Самавольшчыкаў арыштоўвалі і вярталі на ранейшае месца жыхарства, дзе падвяргалі пакаранням. Аднак і гэтыя меры не маглі спыніць перасяленчага руху. На працягу 1885—1900 гг. з пяці беларускіх губерняў выехала за Урал 104 тыс. чалавек. Значная колькасць сялян, даведзеных да галечы, эмігрыравала (выехала за мяжу), пераважна ў ЗША і Канаду.

**Становішча рабочых.** Пасля адмены прыгоннага права прамысловасць атрымала вялізную колькасць некваліфікаванай рабочай сілы з ліку бядней-

шага беззямельнага сялянства. Аднак знайсці працу на фабрычна-заводскіх і дробнакапіталістычных прадпрыемствах было вельмі складанай справай. Рынак рабочай сілы ў беларускіх гарадах і мястэчках быў перапоўнены яўрэйскай беднатой, таму выхадцы з сяла практычна не маглі прабіцца ў гарады. У канцы XIX ст. 1,5 млн працаздольных выхадцаў з вёскі шукалі магчымасць зарабіць, каб пракарміцца, у гарадах, на будаўніцтве дарог, сельскагаспадарчых работах. Беларусы шукалі лепшай долі і за межамі свайго краю — у Пецярбургу, Адэсе, Маскве.

Да пачатку XX ст. у Беларусі было больш за 400 тыс. пастаянных наёмных рабочых. Сярод іх 16 % складалі жанчыны, 6 % — дзеці. Рабочы дзень доўжыўся ад 12 да 17—19 гадзін. Праца ішла ў нездаровых умовах і ўшчэнт знясільвала людзей. Не было пенсійнага забеспячэння, амаль адсутнічала медыцынскае абслугоўванне. Хворых і пакалечаных рабочых звальнялі і кідалі на волю лёсу. Зарплата фабрычна-заводскага рабочага ў Беларусі на мяжы XIX—XX стст. была амаль на $^{1}/_{3}$ ніжэйшая, чым у Расіі. Мізэрная заработная плата не забяспечвала мінімальных жыццёвых патрэб. Прыкладна палову заробку рабочых фабрыканты і заводчыкі перакладвалі ў сваю кішэню ў выглядзе шматлікіх адвольных штрафаў. Рублём каралі за спазненне на працу, курэнне, непарадак на рабочым месцы, парушэнне цішыні, непадпарадкаванне кіраўніку.



«Раз, было, я замарыўся
І трошкі заспаў,
Прыйшоў на работу,
Свісток прасвістаў.
Майстар пакасіўся,
Слова не сказаў,
Тры рублі ў кнігу
Ураз запісаў...»

*З беларускага фальклору*

Жабрацкімі былі жыллёвыя ўмовы большасці рабочых. У канцы XIX ст. толькі чвэрць іх пражывала ў казармах, інтэрнатах, кватэрах пры фабрыках. Астатнія здымалі куты, ложкі ў горадзе або начавалі прама ў вытворчых памяшканнях. І толькі высокакваліфікаваныя рабочыя мелі сваё жыллё або арандавалі кватэры.

**Уздым рабочага руху.** Цяжкая праца пры мізэрнай аплаце не дазваляла рабочым забяспечыць сабе нармальнае чалавечае існаванне. Гэта прымушала іх пратэставаць супраць такога становішча.



*Стачка рабочых з майстэрань Лібава-Роменскай чыгункі ў Гомелі. 1886 г.*

Першыя крокі рабочага руху ў Беларусі былі нясмелымі: прашэнні, калектыўныя скаргі, уцёкі з месца працы. Часам хваляванні суправаджаліся разгромам фабрычных будынкаў, забойствам прыслужнікаў гаспадароў. У 1870—1890-я гг. галоўнай формай пратэсту рабочых сталі *стачкі* — калектыўныя спыненні працы з патрабаваннем рэгулярнай выплаты зарплаты, скарачэння рабочага дня, паляпшэння ўмоў працы. Найбольш актыўна ў рабочым руху ўдзельнічалі чыгуначнікі. У гэты час адбыліся хваляванні рабочых-землякопаў на будаўніцтве Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінскім павеце, на цагельным заводзе ў Брэсцкай крэпасці. З мэтай матэрыяльнай падтрымкі стачачнікаў у слясарных майстэрнях Мінска ў 1885—1887 гг. была створана першая ў Беларусі стачачная каса. Яна ўяўляла сабой зародак прафесійных саюзаў, якія рабочым было забаронена ствараць.

Царскі ўрад з трывогай сачыў за пратэстамі рабочых, дапамагаў гаспадарам душыць бунты. Стачка лічылася дзяржаўным злачынствам, за ўдзел у ёй рабочыя падлягалі крымінальнаму або адміністрацыйнаму праследаванню. Разам з тым пад уплывам рабочага руху было прынята працоўнае заканадаўства, якое абмяжоўвала выкарыстанне дзіцячай і жаночай працы, памеры штрафу, даўжыню працоўнага дня (да 11,5 гадзіны — у 1897 г.). Прадугледжвалася дапамога рабочым, якія пацярпелі ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці. Былі ўстаноўлены абавязковыя нядзельныя і святочныя дні адпачынку (66 дзён на год). Аднак прынятыя законы істотна не палепшылі становішча рабочых, бо распаўсюджваліся толькі на буйныя прадпрыемствы, якіх у Беларусі было няшмат.

**Першыя палітычныя выступленні рабочых.** З другой паловы 1890-х гг. стачачны рух беларускіх рабочых стаў масавым. Ён захаваў эканамічны характар. Аднак у свядомасці рабочых пачала выспяваць думка, што барацьба супраць асобных гаспадароў з'яўляецца адным са звёнаў барацьбы супраць пануючага царскага рэжыму. Такім чынам, паступовa адбыўся пераход рабочых да свядомай палітычнай барацьбы. У 1895 г. невялікая група мінскіх рабочых упершыню тайна адсвяткавала 1 Мая як дзень міжнароднай пралетарскай салідарнасці. Пазней такія сходкі пачалі праводзіць у іншых гарадах і мястэчках Беларусі. У 1900 г. у Мінску адбылася першая вулічная дэманстрацыя, прысвечаная 1 Мая. У 1898—1900 гг. першыя палітычныя выступленні рабочых у форме стачак, вулічных маніфестацый і дэманстрацый прайшлі ў Віцебску, Гродне, Смаргоні.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *стачка.*

### Пытанні і заданні

**1.** Ахарактарызуйце ўмовы жыцця сялянскай беднаты і рабочых у другой палове XIX ст. **2.** Растлумачце, чаму сяляне вымушаны былі прадаваць свой ураджай адразу пасля яго ўборкі — у сезон самых нізкіх цэн. **3.** Прывядзіце прыклады сялянскай барацьбы ў другой палове XIX ст. Які характар — эканамічны ці палітычны — яна мела? **4.** Растлумачце, чаму беларускія сяляне імкнуліся перасяліцца на свабодныя землі ў Сібір. **5.** Прывядзіце прыклады эканамічнай і палітычнай барацьбы рабочых Беларусі ў другой палове XIX ст. Якая з іх пераважала і чаму?

**Да ўрока «Наш край».** Збярыце звесткі аб вашых земляках, якія на мяжы XIX—XX стст. эмігрыравалі ў іншыя рэгіёны.

## § 21. ФАРМІРАВАННЕ ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ І РУХАЎ

***Успомніце.*** Што такое аўтаномія?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць кірункі грамадскага руху і змест іх праграмных патрабаванняў, у тым ліку па нацыянальным пытанні.

**Рэвалюцыйныя народнікі.** З сярэдзіны 1870-х гг. на змену пакаленню шляхецкіх рэвалюцыянераў прыйшло народніцтва. Народнікі былі прыхільнікамі *сацыялізму* — вучэння, у якім у якасці мэты і ідэалу вылучаюцца прынцыпы сацыяльнай справядлівасці, свабоды і роўнасці, і грамадскага ладу, што будуецца на гэтых прынцыпах. Частка народнікаў падзяляла ідэю сялян-

скага сацыялізму: магчымасць пераходу да сацыялізму праз захаванне сялянскай абшчыны, прамінуўшы капіталізм. Ідэі сялянскага сацыялізму пашырыліся ў асяроддзі беларускай моладзі, пераважна сярод вучняў сярэдніх навучальных устаноў. Паступіўшы ў расійскія ўніверсітэты, моладзь улівалася ў народніцкія гурткі, якія там існавалі.

З узнікненнем у Пецярбургу ў 1876 г. агульнарасійскай арганізацыі «Зямля і воля» народніцкі рух у Беларусі развіваўся пад яе непасрэдным уплывам. Многія з беларускіх народнікаў (Сяргей Кавалік, Кацярына Брэшка-Брашкоўская, Мікалай Судзілоўскі) сталі ўдзельнікамі *«хаджэння ў народ»* з мэтай прапаганды сацыялістычных ідэй сярод сялянства (**1). «Хаджэнне ў народ» закончылася правалам. Сяляне яшчэ працягвалі верыць у «добрага цара» і таму выдавалі народнікаў паліцыі.

Унутраныя спрэчкі прывялі ў 1879 г. да расколу «Зямлі і волі» на дзве арганізацыі: «Чорны перадзел» і «Народная воля». Беларускія народнікі спачатку пайшлі за «чорнаперадзельцамі», якія адмовіліся ад палітычнай барацьбы і дамагаліся ад урада перадзелу зямлі ў дзяржаве на карысць сялян. Пасля распаду «Чорнага перадзелу» беларускія народнікі сталі на пазіцыі «Народнай волі», якая ставіла сабе за мэту звяржэнне самадзяржаўя і ажыццяўленне дэмакратычных пераўтварэнняў.

Частка нарадавольцаў падтрымала тактыку індывідуальнага *тэрору* — формы ўзброенага прымусу (забойства дзяржаўных і службовых асоб) у палітычных мэтах. Яны спадзяваліся, што царазабойства паскорыць пачатак народнай (сялянскай) рэвалюцыі. Смяротны прысуд цару Аляксандру II выканаў 1 сакавіка 1881 г. ураджэнец Бабруйскага павета Ігнат Грынявіцкі. Аднак ніякіх значных хваляванняў у народных масах, нават у Пецярбургу, забойства самадзержца не выклікала. Сяляне на паўстанне не падняліся. Затое трон заняў Аляксандр III, які ў хуткім часе адмовіўся ад працягу буржуазных рэформаў свайго бацькі і прыступіў да правядзення контррэформаў.

**Група «Гоман».** У пачатку 1880-х гг. цэнтрам дзейнасці беларускіх народнікаў стаў Пецярбург. Яны выдалі тут адозвы «Да беларускай моладзі», «Пасланне да землякоў-беларусаў», у якіх заклікалі да служэння ўласнаму народу, а не інтарэсам польскіх і расійскіх улад, і да звяржэння самадзяржаўя ў саюзе з усімі рэвалюцыйнымі сіламі Расіі.

Студэнты — ураджэнцы Беларусі стварылі ў 1884 г. у Пецярбургу групу *«Гоман»*, якую ўзначалілі Аляксандр Марчанка з Віцебска і ўраджэнец Магілёва Хаім Ратнер. Свае задачы і праграму група выклала ў двух нумарах нелегальнага часопіса «Гомон». Гоманаўцы першымі з рэвалюцыянераў заявілі пра існаванне беларускай нацыі і паставілі пытанне пра яе нацыянальную самастойнасць. Яны даказвалі, што беларускі народ мае сваю мову, тэрыто-

рыю, культуру, быт, гістарычнае мінулае, а Беларусь уяўляе сабой адзіны эканамічны раён.



У першым нумары часопіса «Гомон» гаварылася: «Усвядоміўшы свае сілы, беларускі народ адразу ж скажа сваім прыгнятальнікам: далоў эксплуатацыю, мы самі жадаем кіраваць сабою!.. Беларусь павінна быць для беларусаў... Мы самі павінны заваяваць сабе свабоду, не ўскладаючы надзеі на іншых!»


ГОМОН

Бѣлорусское соціальнореволюціонное обозрѣніе

№ 1

Содержаніе

| | |
|---|---|
| От редакціи. | Кореспонденція из Вильны. |
| Роль мѣстных революц. групп. | „ „ „ Петербурга. |
| Воззваніе к Бѣлорус. интеллиг. | „ „ „ Кіева. |
| Воззваніе конституціоналистов. | „ „ „ Витебска. |
| Общество „освобожд. труда". | „ „ „ Харькова. |

- 1884. -

*Першы нумар нелегальнага часопіса «Гомон»*

Беларускія студэнты-гоманаўцы выступалі супраць поглядаў на беларускі народ «як на нейкі матэрыял для ўсемагчымых эксперыментаў» і разглядалі яго «як жывую народнасць, здольную самастойна распараджацца сабой». У сувязі з гэтым заяўлялася аб законных правах беларускага народа на самастойнае і раўнапраўнае становішча ў «агульнай славянскай сям'і».

Будучую дзяржаўнасць Беларусі гоманаўцы бачылі ў саюзе з сацыялістычнай Расіяй — краінай раўнапраўных і добраахвотна аб'яднаных краёў. Дамагацца сваёй мары яны намерваліся рэвалюцыйным шляхам. Уяўленні беларускіх студэнтаў-гоманаўцаў, у якіх яны выражалі разуменне сябе як прадстаўнікоў свайго народа і сэнс яго гістарычнага існавання, сталі сведчаннем афармлення *беларускай нацыянальнай ідэі.*

**Агульнарасійскія сацыял-дэмакратычныя арганізацыі ў Беларусі.** У сярэдзіне 1880-х гг. рэвалюцыйнае народніцтва паступова сыходзіла з гістарычнай арэны, на якую ўступала сацыял-дэмакратыя. Сацыял-дэмакраты абвясцілі сваёй мэтай барацьбу за пабудову сацыяльна справядлівага грамадства. Сацыял-дэмакратыя падзялялася на два асноўныя кірункі: рэвалюцыйны і рэфармісцкі. Прыхільнікі рэвалюцыйнага кірунку прытрымліваліся ў асноўным гвалтоўных метадаў барацьбы і лічылі галоўнай сілай, якая прывядзе грамадства да сацыялізму, не сялянства (як меркавалі народнікі), а рабочы клас. Яны верылі ў непазбежнасць гібелі капіталізму, «магільшчыкам» якога стане пралетарыят. Рэфармісты выступалі за мірныя пераўтварэнні ў грамадстве.

Як рэвалюцыянеры, так і рэфармісты былі прыхільнікамі вучэння К. Маркса і Ф. Энгельса — марксізму. Марксізм тлумачыў паступальны гістарычны ход развіцця зменамі грамадска-эканамічнага ладу, а класавую барацьбу паміж пануючым і прыгнечаным класамі разглядаў у якасці рухаючай сілы гісторыі. Пераходу беларускіх рэвалюцыянераў на пазіцыі марксізму спрыяла першая расійская марксісцкая арганізацыя «Вызваленне працы», заснаваная



*Мемарыяльны пакой у доме-музеі, дзе адбыўся I з’езд РСДРП*

ў 1883 г. за мяжой Г. В. Пляханавым. З ёю былі звязаны і ўраджэнцы Беларусі, у тым ліку пісьменнік і рэвалюцыянер Адам Гурыновіч. Першыя ў Беларусі гурткі па прапагандзе марксізму былі створаны ў 1884—1885 гг. у Мінску, а ў канцы 1880-х — першай палове 1890-х гг. — у Вільні, Віцебску, Гомелі, Гродне, Брэсце, Смаргоні.

Імкненне рабочага класа і сялянства абараніць свае інтарэсы падштурхоўвала іх да ўтварэння палітычных партый. У 1897 г. на з’ездзе ў Вільні быў створаны Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі — *Бунд*. Бунд лічыў сябе адзіным прадстаўніком інтарэсаў дастаткова шматлікага ў Беларусі яўрэйскага рабочага класа.

У 1898 г. на з’ездзе ў Мінску была абвешчана Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя — РСДРП. Праграма партыі вызначала канчатковай мэтай расійскіх сацыял-дэмакратаў пабудову сацыялістычнага грамадства праз пралетарскую рэвалюцыю і дыктатуру пралетарыяту.

У 1902 г. на базе народніцкіх гурткоў узнікла Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (ПСР, эсэры). Адным са стваральнікаў і лідараў партыі эсэраў стала К. К. Брэшка-Брашкоўская. Беларусь была адным з цэнтраў, дзе стваралася гэтая партыя. Сацыялісты-рэвалюцыянеры адстойвалі інтарэсы сялянства, выступалі за ліквідацыю памешчыцкага землеўладання, звяржэнне самадзяржаўя і ўтварэнне ў Расіі дэмакратычнай рэспублікі. Эсэры карысталіся рознымі формамі барацьбы: ад агітацыі і прапаганды да індывідуальнага тэрору супраць прадстаўнікоў дзяржаўнай улады.

**Утварэнне і праграмныя патрабаванні Беларускай сацыялістычнай грамады.** Пачатак XX ст. быў адзначаны ўздымам нацыянальнага руху. У новага пакалення беларускай інтэлігенцыі паступова выспявала разуменне неабходнасці

стварэння ўласнай палітычнай арганізацыі. Ёю стала *Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ)* — першая беларуская палітычная партыя, якая канчаткова аформілася ў 1903 г. Сярод стваральнікаў і кіраўнікоў БСГ былі браты ***Іван*** і ***Антон Луцкевічы***, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), Алесь Бурбіс (**2).

На I з'ездзе ў 1903 г. БСГ прыняла праграму, у якой абвясціла сваёй мэтай звяржэнне самадзяржаўя і знішчэнне капіталістычнага ладу. Партыя імкнулася знайсці апору ў рабочым класе, сялянстве, інтэлігенцыі. У аграрным пытанні БСГ выступала за перадачу зямлі з прыватнай у грамадскую ўласнасць, абвяшчала права кожнага чалавека на занятак земляробствам без выкарыстання наёмнай працы. У праграме партыі былі патрабаванні 8-гадзіннага рабочага дня, устанаўлення мінімальнай заработнай платы, бясплатнай медыцынскай дапамогі. Палітычныя патрабаванні БСГ былі наступныя: раўнапраўе людзей незалежна ад полу, нацыянальнасці, веравызнання; усеагульнае роўнае выбарчае права з тайным галасаваннем, бясплатны суд, свабода слова, друку, сходаў, таварыстваў.

Па нацыянальным пытанні БСГ пастанавіла дабівацца аўтаноміі — шырокага ўнутранага самакіравання для Беларусі ў складзе Расійскай дэмакратычнай рэспублікі. Такім чынам, беларуская нацыянальная ідэя ва ўяўленнях лідараў БСГ была звязана з неабходнасцю палітычнай барацьбы за дасягненне Беларуссю самакіравання ў межах Расіі, калі яна стане дэмакратычнай рэспублікай.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *сацыялізм, «хаджэнне ў народ», тэрор, «Гоман», беларуская нацыянальная ідэя, Бунд, Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ).*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** Удзельнік руху народнікаў, ураджэнец Магілёва Мікалай Канстанцінавіч Судзілоўскі стаў дзеячам міжнароднага рэвалюцыйнага руху. У 1874 г. ён выехаў за мяжу. Быў адным з арганізатараў сацыялістычнага руху ў Румыніі. Аказаў значны ўплыў на развіццё рэвалюцыйнага руху ў Балгарыі. З 1892 г. жыў на Гавайскіх астравах, дзе стварыў і ўзначаліў партыю незалежных, а ў 1901 г. стаў прэзідэнтам Гавайскай рэспублікі. З 1903 г. М. К. Судзілоўскі знаходзіўся ў Кітаі і Японіі. Яму належаць навуковыя працы па медыцыне, хіміі,



*М. Судзілоўскі*

філасофіі, геаграфіі. Судзілоўскі — першы падарожнік-географ, які пазнаёміў расійскае грамадства з флорай і фаўнай астравоў цэнтральнай часткі Ціхага акіяна.

****2.** Асаблівы аўтарытэт у беларускім нацыянальным руху меў Іван Іванавіч Луцкевіч, які з'яўляўся прыхільнікам раўнапраўных адносін Беларусі з Расіяй, Польшчай, Украінай і Літвой. Разам са сваім братам Антонам, а таксама В. Ластоўскім і іншымі дзеячамі распрацоўваў пытанне аб нацыянальным самавызначэнні беларускага народа. Дзякуючы І. Луцкевічу гэта пытанне ўпершыню прагучала на шэрагу міжнародных канферэнцый у пачатку XX ст. Ён вядомы як збіральнік і даследчык помнікаў беларускага пісьменства і культуры, а яго асабістая калекцыя стала асновай Беларускага музея старажытнасцей у Вільні. Паўплываў на творчыя лёсы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і іншых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў.

## Пытанні і заданні

**1.** Запоўніце ў сшытку параўнальную табліцу «Народніцкі і сацыял-дэмакратычны рухі».

| Прыкметы для параўнання | Народніцкі рух | Сацыял-дэмакратычны рух |
|---|---|---|
| Назвы арганізацый | | |
| Асноўная мэта руху | | |
| На якія пласты насельніцтва абапіраліся | | |
| Формы барацьбы | | |

**2.** Ці магла прывесці да змены дзяржаўнага ладу тэрарыстычная барацьба? Свой адказ растлумачце. **3.** Пералічыце прыкметы нацыі, вызначаныя студэнтамі-гоманаўцамі. Як прапаноўвалі гоманаўцы вырашыць нацыянальнае пытанне для беларусаў? **4.** Складзіце ў сшытку табліцу «Палітычныя партыі ў Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст.».

| Назвы партый | Бунд | РСДРП | ПСР | БСГ |
|---|---|---|---|---|
| Год утварэння | | | | |
| Палітычныя мэты | | | | |

**5.** Ахарактарызуйце праграмныя патрабаванні БСГ па аграрным і нацыянальным пытаннях.

# § 22—23. ПЕРШАЯ РАСІЙСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ І ПАДЗЕІ 1905 г. У БЕЛАРУСІ. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА Ў БЕЛАРУСІ Ў 1906—1914 гг.

***Успомніце.*** **1.** У чым заключалася нявырашанасць аграрнага і нацыянальнага пытанняў у пачатку XX ст.? **2.** Што такое рэвалюцыя, стачка, аўтаномія, маёмасны цэнз?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць пазіцыі розных палітычных партый і арганізацый па аграрным і нацыянальным пытаннях у рэвалюцыі 1905—1907 гг. і пасля яе.

**Прычыны, пачатак і ход рэвалюцыі. Выступленні рабочых і сялян.** Захаванне неабмежаванай манархіі, няздольнай шляхам рэформаў паслядоўна вырашыць аграрнае і нацыянальнае пытанні, абвастрэнне сацыяльных супярэчнасцей сталі прычынамі першай расійскай рэвалюцыі. Яна азначала рэвалюцыйны шлях правядзення буржуазна-дэмакратычнага пераўладкавання грамадства. Набіраў сілу эканамічны і палітычны рух працоўных. Пачаткам рэвалюцыі сталі падзеі 9 студзеня 1905 г. на Дварцовай плошчы ў Санкт-Пецярбургу, якія ўвайшлі ў гісторыю пад назвай «Крывавая нядзеля». Тут было расстраляна шматтысячнае мірнае шэсце працоўных, якія накіроўваліся для падачы петыцыі імператару Мікалаю II.

Напярэдадні шэсця петыцыя са зваротам да цара была перададзена тагачаснаму міністру ўнутраных спраў Расійскай імперыі П. Д. Святаполк-Мірскаму. Ён належаў да старажытнага роду князёў Святаполк-Мірскіх, вядомага ў Беларусі з XVI ст. З верасня 1902 г. па жнівень 1904 г. з'яўляўся генерал-губернатарам трох заходніх губерняў — Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай. Праводзіў палітыку, накіраваную на пошук даверу і апоры ў грамадстве краю. Напрыклад, выступіў супраць гвалтоўнага далучэння вернікаў каталіцкай царквы да праваслаўя. Лічыў, што існаванне мяжы яўрэйскай аселасці вядзе да перапоўненасці гарадоў у заходніх губернях яўрэйскім насельніцтвам, што спрыяе яго ўцягванню ў рэвалюцыйны рух. У канцы 1904 г. прадставіў Мікалаю II ліберальны праект рэформаў дзяржаўнага ладу, які быў першапачаткова адхілены. Аднак значная частка праекта была рэалізавана ў час рэвалюцыі.



4 студзеня 1905 г. П. Д. Святаполк-Мірскі, разумеючы, што краіна знаходзіцца напярэдадні рэвалюцыі і выбух народнага гневу непазбежны, падаў у адстаўку. Адбылася яго нялёгкая размова з імператарам. У адказ на патрабаванне міністра аб неабходнасці палітычных рэформаў Мікалай II заявіў, што




*Рэвалюцыя 1905—1907 гг. у Беларусі*

ніякія рэформы краіне не патрэбны і трэба забараніць людзям збірацца і гаварыць. Здзіўлены Святаполк-Мірскі адказаў, што немагчыма забараніць людзям збірацца і гаварыць, бо тады трэба ўсіх пазамыкаць, аб'явіўшы асаднае становішча. На гэта імператар спакойна адказаў, што, магчыма, і давядзецца яго аб'явіць.

«Крывавая нядзеля» ўскалыхнула ўсю краіну. Беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка Алаіза Пашкевіч (Цётка) у сваім вершы «Хрэст на свабоду» занатавала:

*...Ў Пецярбурзе змерлі людзі:*
*Ім прашылі куляй грудзі...*
*...Цар навуку даў народу,*
*Паказаў ім, як бы з неба,*
*Што больш цара не патрэба!..*
*З той пары Масква, Варшава,*
*Рыга, Вільня, Бак, Лібава,*
*Беларусь, Літва, Расея*
*Гоняць вон цара-зладзея!..*

У студзені 1905 г. па гарадах Беларусі пракацілася хваля палітычных стачак, вулічных дэманстрацый і мітынгаў пратэсту. Большасцю іх кіравалі арганізацыі Бунда, РСДРП, эсэраў. У многіх месцах улады прымянілі вайсковую сілу, каб спыніць выступленні. У студзеньскія дні 1905 г. у беларускіх губернях у стачках удзельнічала 34 тыс. чалавек.

Вясной 1905 г. на змену палітычным выступленням прыйшлі эканамічныя стачкі. Рабочыя дамагаліся скарачэння рабочага дня, паляпшэння ўмоў працы, павелічэння заробкаў. Святкаванне 1 Мая як дня міжнароднай пралетарскай салідарнасці выклікала новы ўздым палітычных выступленняў.

Летам 1905 г. шэраг стачак адбыўся ў беларускіх вёсках. Адной з першых была стачка ў маёнтку Шчорсы Навагрудскага павета, якой кіраваў вядомы дзеяч БСГ А. Бурбіс.

Увосень у рэвалюцыйным руху ўсё больш актыўны ўдзел пачала прымаць армія — галоўная апора самадзяржаўя. Салдацкія хваляванні прайшлі ў Віцебску, Магілёве, Мінску, Бабруйску, Гродне.

У кастрычніку 1905 г. краіну ахапіла ўсерасійская палітычная стачка. Чыгуначнікі, рабочыя фабрык і заводаў, рамеснікі, гандляры, гімназісты патра-



*Першамайская дэманстрацыя 1905 г. каля будынка Мінскай турмы (Пішчалаўскага замка). Мастак Р. Віктоўскі*

бавалі ліквідацыі самадзяржаўя і ўстанаўлення дэмакратычнай рэспублікі. У Беларусі быў цалкам паралізаваны чыгуначны рух.

**Маніфест 17 кастрычніка і яго наступствы для Беларусі.** Напалоханы рэвалюцыйным выбухам, цар Мікалай II быў вымушаны 17 кастрычніка падпісаць Маніфест. У ім упершыню ў расійскай гісторыі цар абяцаў сваім падданым палітычныя свабоды — свабоду слова, сходаў, друку, саюзаў і парламент — Дзяржаўную думу з заканадаўчымі паўнамоцтвамі і правам удзелу ў выбарах усіх пластоў насельніцтва. Маніфест быў сустрэты маёмнымі пластамі грамадства і інтэлігенцыяй з энтузіязмам і надзеямі на палітычныя рэформы.

Аднак прадастаўленыя Маніфестам 17 кастрычніка 1905 г. свабоды далёка не заўсёды выконваліся. Абвяшчэнне царскага маніфеста ў гарадах Беларусі, якое праводзілася ўладамі 18 кастрычніка, у некаторых з іх закончылася трагедыяй. На плошчы каля Віленскага вакзала ў Мінску салдаты адкрылі агонь па 20-тысячным мітынгу працоўных. Ахвярамі сталі каля 100 чалавек, каля 300 было паранена. Гэта падзея атрымала ў гісторыі назву *«Курлоўскі расстрэл»* ад імя тагачаснага мінскага губернатара П. Р. Курлова. У гэты ж дзень прагучалі стрэлы ў Віцебску. Сем дэманстрантаў было забіта.

У снежні 1905 г. успыхнула ўзброенае паўстанне ў Маскве. Яно суправаджалася ўсерасійскай чыгуначнай стачкай. У Беларусі падобнага паўстання не адбылося, хоць блізкае да яго становішча склалася ў Баранавічах, Гомелі, Мінску. У снежні 1905 г. да выступлення сялян у вёсцы Пінкавічы Пінскага павета меў дачыненне К. М. Міцкевіч (Я. Колас), які ў той час працаваў там школьным настаўнікам.

**Дзейнасць палітычных партый і рухаў.** Арганізатарам рэвалюцыйнага руху выступіў шэраг палітычных партый. Сярод іх — Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (РСДРП). У 1903 г. яна падзялілася на бальшавікоў —



*Дэманстрацыя ў Мінску каля губернатарскага дома. 18 кастрычніка 1905 г.*



*Мітынг рабочых і салдат на станцыі Баранавічы. Снежань 1905 г. Мастак С. Раманаў*

прыхільнікаў рэвалюцыйных метадаў і меншавікоў, якія выступалі за паступовае рэфармаванне грамадства. Бальшавікі заклікалі не толькі да звяржэння царскай улады, але і да ўстанаўлення рэвалюцыйнай дыктатуры шляхам узброенага паўстання.

Вялікім уплывам у Беларусі карысталася Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэры). Яна выступіла супраць царскага ўрада і арганізавала некалькі тэрарыстычных актаў. Адказам на расстрэл 18 кастрычніка ў Мінску стаў беспаспяховы замах эсэраў на жыццё мінскага губернатара П. Р. Курлова ў студзені 1906 г. Бомба, кінутая былым студэнтам эсэрам Іванам Пуліхавым, не ўзарвалася. Паводле прыгавору ваеннага суда Пуліхаў быў пакараны смерцю.

Прадстаўнікі бальшавікоў і меншавікоў, бундаўцы, эсэры выступалі з патрабаваннямі знішчэння самадзяржаўя, устанаўлення дэмакратычнай рэспублікі, ліквідацыі памешчыцкага землеўладання, а РСДРП да таго ж адстойвала права нацый на самавызначэнне. Мясцовыя арганізацыі РСДРП, ПСР, Бунда аб'ядналіся для каардынацыі сваіх дзеянняў у *кааліцыйныя камітэты* — аб'яднанні палітычных партый для дасягнення агульных палітычных і эканамічных мэт.

Абвешчаныя Маніфестам 17 кастрычніка 1905 г. палітычныя свабоды адкрывалі магчымасць стварэння палітычных арганізацый. У канцы 1905 г. была заснавана партыя буйной буржуазіі і памешчыкаў — «Саюз 17 кастрычніка» (акцябрысты). Яны цалкам падтрымалі царскі ўрад і яго праграму, выкладзеную ў Маніфесце. У кастрычніку 1905 г. была створана Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя (кадэты), якая з'яўлялася выразніцай пераважна інтарэсаў той часткі буржуазіі, што імкнулася да працягу рэформаў, і буржуазнай інтэлігенцыі. Ідэалам кадэтаў была канстытуцыйная манархія. Партыя выступала за выкуп сялянамі часткі памешчыцкай зямлі, што ў пэўнай ступені адпавядала інтарэсам беларускіх заможных сялян. Шырокай падтрымкі ў Беларусі кадэты не атрымалі.

**Дэпутаты ад заходніх губерняў у Дзяржаўнай думе.** Рашэнне аб скліканні Дзяржаўнай думы, якая надзялялася заканадаўчымі паўнамоцтвамі, стала пачаткам пераўтварэння Расійскай імперыі ў парламенцкую манархію. Пры выбарах у Думу захаваўся маёмасны цэнз, а 1 голас памешчыка адпавядаў 3 галасам гараджан, 15 галасам сялян і 45 галасам рабочых.

У сувязі з выбарамі дэпутатаў у Думу ў пачатку 1906 г. буржуазна-ліберальныя партыі — акцябрысты і кадэты заклікалі спыніць рэвалюцыйныя выступленні і прыняць актыўны ўдзел у выбарах. Прадстаўнікі гэтых партый з'яўляліся прыхільнікамі лібералізму — ідэйна-палітычнай плыні, якая выступала за абмежаванне манархіі і ўстанаўленне парламенцкага ладу, скасаванне феадальных парадкаў і абарону прыватнай уласнасці. Рэвалюцыйна-дэмакратычныя партыі — эсэры, Бунд, бальшавікі — не прынялі ўдзел у выбарах. Яны спадзяваліся на рэвалюцыйнае звяржэнне самадзяржаўя. Перамогу на выбарах атрымалі кадэты.

У І Дзяржаўнай думе было 36 дэпутатаў ад 5 беларускіх губерняў. Многія дэпутаты ад нацыянальных ускраін утварылі сваю групу — *аўтанамістаў*. У яе ўвайшла ледзь не палова дэпутатаў ад Беларусі, сярод якіх вылучаўся пінскі землеўласнік ***Раман Скірмунт***. Гэтыя дэпутаты стаялі за аўтаномію Беларускага краю, падкрэслівалі, што ім павінны кіраваць «карэнныя жыхары, а не прышлыя, чужыя і варожыя яму элементы».

Галоўным у І Думе было аграрнае пытанне. Большасць сялян — дэпутатаў ад Беларусі не падтрымалі праграму *нацыяналізацыі* — перадачы зямлі з прыватнай памешчыцкай уласнасці ў дзяржаўную — і ўраўняльнага землекарыстання, якая была папулярнай у асяроддзі рускага сялянства. Сярод сялянскіх дэпутатаў ад Беларусі пераважалі погляды, звязаныя з захаваннем прыватнай уласнасці на зямлю.



*Р. Скірмунт*

У ліпені 1906 г. І Дзяржаўная дума была распушчана па прычыне залішняй, на думку ўрада, рэвалюцыйнасці. У час выбараў у ІІ Думу ў заходніх губернях перамаглі манархісты і акцябрысты, якія аб'ядналіся ў Рускі ўскраінны саюз (РУС). Ён стаў адной з самых уплывовых манархічных партый, што выступала супраць рэвалюцыі. РУС дзейнічаў пад лозунгам: «Расія для рускіх, і рускія павінны кіраваць ёю». Яго прадстаўнікі разглядалі Беларусь як частку Заходняй Расіі, адмаўлялі існаванне беларускай нацыі, лічылі неабходным канчатковае зліццё беларусаў з рускім народам.

**Палітычныя лагеры напярэдадні і ў час рэвалюцыі 1905—1907 гг. у Беларусі**

| Назва палітычнага лагера | Палітычныя партыі і арганізацыі | Праграмныя патрабаванні |
|---|---|---|
| Буржуазна-ліберальны | Акцябрысты, кадэты | Устанаўленне абмежаванай (канстытуцыйнай) манархіі і парламенцкага ладу |
| | | Абарона прыватнай уласнасці і захаванне памешчыцкага землеўладання |
| | | Аўтаномія народаў у складзе Расіі |
| Рэвалюцыйна-дэмакратычны | Бундаўцы, эсэры, бальшавікі, меншавікі, БСГ | Звяржэнне самадзяржаўя шляхам рэвалюцыі і ўстанаўленне дэмакратычнай рэспублікі |
| | | Ліквідацыя памешчыцкага землеўладання і перадача ўсёй зямлі ва ўласнасць народа |
| | | Прызнанне права нацый на самавызначэнне |
| Манархічны | РУС | Захаванне самадзяржаўя |
| | | Захаванне памешчыцкага землеўладання |
| | | Падтрымка палажэння аб адзінай і непадзельнай Расіі |

Аднак і II Дума прапрацавала нямногім больш за 3 месяцы. Патрабаванні польска-беларускіх аўтанамістаў аднавіць Каралеўства Польскае з уласным заканадаўчым сеймам і даць беларускім губерням шырокае самакіраванне выклікалі злосныя нападкі з боку акцябрыстаў. II Дзяржаўная дума выходзіла з-пад кантролю ўрада, і цар Мікалай II сваім указам ад 3 чэрвеня 1907 г. распусціў яе. Гэтая падзея лічыцца завяршэннем першай расійскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

**Беларускі нацыянальны рух.** Арганізатарам і кіраўніком беларускага нацыянальнага руху з'яўлялася Беларуская сацыялістычная грамада. БСГ была палітычнай партыяй, якая адстойвала нацыянальныя інтарэсы беларускага народа. Яна патрабавала знішчэння самадзяржаўя і паступовага ўстанаўлення сацыялістычнага ладу, ліквідацыі памешчыцкага землеўладання. Партыя выступала за аўтаномію Беларусі з соймам у Вільні ў складзе Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі.


Цана асобнаго нумэру 5 кап. (10 грошэй).

№ 1. Вильня, 1 сенцября 1906 г.

Год 1.

# Наша Доля

першая белоруская газэта для вёсковаго и местоваго рабочаго народу.

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литерами.

Адрес редакции и администрации: *Вильна, Виленская вулица 32*

[illegible]

## Наш палетак.

Наш палетак памiж межау,
З-за каторых цвяце збожа;
А наш скранак штось залежау;
Наш загон зыспи ня можэ.
Ци то глеба да нiчога?
Ци то рукi у нас слабые,
Што ня маем й зерня свога,
Што мы ходзiм як сляпые?
Глеба чорна, у руках сiла.
Тольки нашых гаратаяу
Нейкась мара усё звадзiла
Гэн замежы да выраяу.
Наш савец не раз там кiдау
Залатое зерне з жменi,
Ён не раз там плёны выдау.
А у нас расли каменi.
Наш палетак негарамы,
Палынами цвяце нiва.
Нука, братцы, кумы, сваты,
Да работы станьма жыва!
Хто гарацi добра зможэ,
Хто разоры скоро ладзiць,
Хто шчаслiве сее збожа,
Хто гароды добра садзiць
Жыво, жыво за работу
Без агляд[illegible]i хто што можэ.
Усе роуны без расчоту
Усiх праца будзе згожа!

*Мацей Крапiўка.*

## Да чытацелёу.

Прачхнууся з цяжкаго сну народ, падняуся як рэка на вясну за вялiкае дзело свабоды и лепшае долi. Тольки з пад стрэхи цёмное хаты мужыка беларуса як дзуней, як сотни гадоу таму назад веець холадом магiльнаго сну. Тая нядоля, цямнота и голад, яго прадауные ворогi, звили сабе крэпкое гняздо, разраслися, расплядзилися. Бывали такi и гэтакiе минуты у гисторыи апошних гадоу, што прасыпауся и беларус.

Галодны и цёмны будзiуся ён з цяжкаго сну и дзiвавауся, и слухау як з далёкаго свету з усих старон ляцели да яго развалiушыхся хаты радосные весьцi аб зямлi, аб сва-

*Першы нумар газеты «Наша доля»*

Маніфест 17 кастрычніка 1905 г. адмяняў усе забароны, якія тармазілі развіццё нацыянальных моў у Расійскай імперыі. Аднак абвешчаныя свабоды не выконваліся. Летам 1906 г. у вёсцы Мікалаеўшчына Мінскага павета адбыўся нелегальны сход народных настаўнікаў. Яны абвясцілі сваёй мэтай барацьбу за стварэнне беларускіх школ і выхаванне нацыянальнай самасвядомасці сялянства. Сход быў выкрыты паліцыяй. Яго ўдзельнікам, сярод іх і Я. Коласу, давялося адседзець у Мінскім астрозе.



«Канстытуцыю далі,
Адчынілі дзверы,
І... ў астрог нас павялі,
І таўкуць без меры...»

*З верша Я. Коласа «Канстытуцыя»*

У 1906 г. у Вільні пабачыла свет першая легальная беларуская газета «Наша доля», якая была неафіцыйным органам БСГ. Першы нумар стаў сенсацыяй і выклікаў вялікую цікавасць сярод віленскай інтэлігенцыі. Аднак толькі два з шасці выдадзеных нумароў газеты дайшлі да чытачоў — астатнія былі канфіскаваны паліцыяй. Тады браты Луцкевічы заснавалі новую легальную штотыднёвую газету «Наша ніва», якая на працягу 1906—1915 гг. з’яўлялася найбольш значным асяродкам беларускага нацыянальнага жыцця.

Беларуская нацыянальная ідэя пранікала і ў канфесіянальнае асяроддзе. Асобныя святары мясцовага паходжання прыходзілі да пераканання, што трэба гаварыць з народам на яго роднай мове, а не толькі на рускай, якой карысталася праваслаўная царква, ці польскай у каталіцкім касцёле.



Аб успрыняцці вернікамі такой спробы ў Дзісенскім касцёле сведчыць ва ўспамінах ксёндз Адам Станкевіч: «Пачуўшы словы мовы роднай, так пагарджанай дагэтуль, твар слухачоў ажывіўся, заяснеў. Запанавала святая цішыня. Кожнае слова слухачы, здаецца, жыўцом глыталі. Узрушэнне маё сардэчнае хутка ўдзялілася ўсёй велізарнай грамадзе слухаючых, і нямую ціш у касцёле замяніў нічым не ўстрыманы плач галосны. Ліліся слёзы ручаём з вачэй гаротнага, паднявольнага беларуса...»

**Палітыка самадзяржаўя пасля паражэння рэвалюцыі 1905—1907 гг.** Пасля роспуску II Дзяржаўнай думы пачаліся арышты лідараў і актывістаў рэвалю-

цыйна-дэмакратычных партый. Дзейнасць арганізацый бальшавікоў, меншавікоў і эсэраў у Беларусі з 1908 г. фактычна зусім прыпынілася і была ўзноўлена толькі ў 1917 г. Часова перастала існаваць як партыя Беларуская сацыялістычная грамада, якая аб'явіла аб самароспуску. Турмы былі перапоўнены ўдзельнікамі рэвалюцыі. У многіх гарадах уводзілася надзвычайнае становішча, якое ўтрымлівалася да 1909 г. У краіне лютавалі карныя атрады, паліцыя і ваенна-палявыя суды.

У такіх умовах адбыліся выбары ў III Дзяржаўную думу. Яна праіснавала ўсе 5 адведзеных ёй законам гадоў — з 1907 да 1912 г. Новы выбарчы закон 1907 г. значна павялічыў у Думе прадстаўніцтва ад памешчыкаў і буйной буржуазіі, якія падтрымлівалі ўрад. Урадавы лагер прадстаўлялі 80,5 % дэпутатаў ад беларускіх губерняў.



З горыччу з думскай трыбуны прагучалі словы аднаго з дэпутатаў III Дзяржаўнай думы ад Віцебскай губерні, вядомага вучонага-краязнаўцы А. П. Сапунова: «Усе, нават самыя нязначныя народнасці, імкнуцца да „самавызначэння“; за імі ўсе прызнаюць права на гэта. Толькі адна народнасць беларуская не смее і думаць пра гэта».

Пры правядзенні выбараў у IV Дзяржаўную думу, якая дзейнічала на працягу 1912—1917 гг., беларускае насельніцтва падзялялася на нацыянальныя курыі (групы): рускую, польскую і яўрэйскую. Беларусаў-праваслаўных запісалі ў рускую, католікаў — у польскую курыю. Каб аслабіць уплыў польскага дваранства, перавага аддавалася дэпутатам, выбраным ад рускай курыі. Ніхто з кандыдатаў ад ліберальных і рэвалюцыйна-дэмакратычных партый у склад дэпутатаў IV Думы не трапіў.

Пасля падаўлення царскімі ўладамі рэвалюцыі 1905—1907 гг. рэзка пайшоў на спад рабочы рух. Ён набыў абарончы, пераважна эканамічны характар. Практычна немагчымымі сталі адкрытыя вулічныя выступленні — дэманстрацыі, мітынгі, маніфестацыі. Значна скарацілася колькасць стачак. Назіраўся спад і ў сялянскім руху, але не такі рэзкі, як у рабочым. Сяляне паступова пазбаўляліся ад веры ў «добрага цара-бацюхну».

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *«Курлоўскі расстрэл», кааліцыйныя камітэты, аўтанамісты, нацыяналізацыя.*

## Пытанні і заданні

**1.** Абазначце на стужцы часу ў сшытку даты і назвы асноўных падзей рэвалюцыі 1905—1907 гг. у Беларусі. Выкарыстайце картасхему ў параграфе ці

адпаведную карту ў атласе. **2.** Удакладніце, якім падзеям прысвечаны вершы А. Пашкевіч «Хрэст на свабоду» і Я. Коласа «Канстытуцыя». **3.** Складзіце ў сшытку табліцу «Палітычныя партыі і арганізацыі ў Беларусі ў гады рэвалюцыі 1905—1907 гг.».

| Прыкметы для параўнання | Манархічна-кансерватыўныя | Буржуазна-ліберальныя | Рэвалюцыйна-дэмакратычныя |
|---|---|---|---|
| Назвы палітычных партый і арганізацый | | | |
| Мэты і тактыка дзейнасці ў гады рэвалюцыі | | | |

**4.** Папрацуйце па метадзе загадкавай карцінкі пры параўнанні ілюстрацый дэманстрацый 1 Мая і 18 кастрычніка 1905 г. у Мінску. **5.** Чым адрозніваліся пазіцыі Рускага ўскраіннага саюза і БСГ па нацыянальным пытанні? **6.** Дакажыце, што скліканне Дзяржаўнай думы і ўдзел у яе працы дэпутатаў ад беларускіх губерняў сведчылі аб пачатках расійскага парламентарызму. **7.** Растлумачце, чаму на выбарах у III і IV Дзяржаўную думу, праведзеных у беларускіх губернях, перавага аддавалася дэпутатам, выбраным ад рускай курыі.

## § 24. СТАЛЫПІНСКІЯ РЭФОРМЫ І ІХ АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ Ў БЕЛАРУСІ

***Успомніце.*** **1.** Што такое абшчына? **2.** Што ўяўляў сабой «прускі» шлях развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, якому шляху развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі садзейнічала ажыццяўленне сталыпінскай аграрнай рэформы.

**Прычыны і мэты аграрнай рэформы.** У пачатку XX ст. у беларускай вёсцы ўсё яшчэ захоўваліся феадальныя перажыткі. Сярод іх — памешчыцкае землеўладанне, малазямелле сялян, цераспалосіца. Царскі ўрад стаяў перад выбарам: або стаць ахвярай народнага незадавальнення, якое перарасло ў рэвалюцыю 1905—1907 гг., або пайсці на ліквідацыю феадальных перажыткаў шляхам эканамічнай рэформы.

Складанасць сітуацыі заключалася ў тым, што самадзяржаўе не хацела страчваць апору сярод памешчыкаў. Каб не чапаць памешчыцкага землеўладання, урад вырашыў узбагаціць адных сялян за кошт другіх. Для гэтага прадугледжвалася скасаваць абшчыну і аблегчыць пераразмеркаванне зямельных

надзелаў беднякоў ва ўласнасць заможных вяскоўцаў. Эканамічная мэта царскага ўрада заключалася ў забеспячэнні ўмоў для больш хуткага, бесперашкоднага развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы пры захаванні памешчыцкага землеўладання. Палітычнай мэтай быў раскол вёскі на беднае і заможнае сялянства і ліквідацыя агульнасялянскага «фронту» барацьбы супраць памешчыкаў, каб стварыць перашкоду на шляху рэвалюцыйнага руху. Сельскую буржуазію, сфарміраваную з ліку заможнага сялянства, прадугледжвалася прыцягнуць да падтрымкі царскага ўрада.



*П. А. Сталыпін. Партрэт работы І. Рэпіна. 1910 г.*

За ажыццяўленне на тэрыторыі Еўрапейскай Расіі аграрнай рэформы ўзяўся ***Пётр Аркадзевіч Сталыпін***. У 1902—1903 гг. ён займаў пасаду гродзенскага губернатара, з 1906 г. — міністра ўнутраных спраў і адначасова старшыні Савета Міністраў Расійскай імперыі. Пачатак аграрнай рэформе паклаў царскі ўказ ад 9 лістапада 1906 г. аб змене ў сялянскім землеўладанні. Новая ўрадавая аграрная палітыка была доўгатэрміновай і разлічанай на «моцных сялян».

**Разбурэнне сялянскай абшчыны.** Паводле рэформы сяляне атрымлівалі права на выхад з абшчыны і замацаванне надзельнай зямлі ў асабістую ўласнасць. Для сялянскай сям'і выдзяляўся *водруб* — адасоблены надзел зямлі, вылучаны з сельскага абшчыннага землекарыстання ў адным месцы ўзамен раней існаваўшых у некалькіх месцах «палосак» зямлі. Селянін не пераносіў сваю сядзібу на гэты надзел, а заставаўся жыць у вёсцы. Такім чынам выра-



*Селянін В. Жыцянюк з сям'ёй. Вёска Жыцін Бабруйскага павета. Пачатак XX ст.*

шалася пытанне аб ліквідацыі цераспалосіцы. Сяляне маглі таксама купіць зямлю праз Сялянскі пазямельны банк або атрымаць у ім пазыку пад заклад надзельнай зямлі.

Многія сяляне вельмі ахвотна выходзілі з абшчыны, якая не дазваляла беднякам прадаць надзел і працаўладкавацца ў горадзе, а больш заможным — павялічыць свой надзел і зрабіць гаспадарку эфектыўнай. У 1909—1911 гг. абшчыну пакінулі дзясяткі тысяч сялян Магілёўскай і Віцебскай губерняў. Каля паловы сялян Усходняй Беларусі замацавалі зямлю ў асабістую ўласнасць — удвая болей, чым у цэлым па Расіі. Для сялян Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў, дзе з часоў правядзення валочнай памеры існавала падворнае землекарыстанне, сталыпінская рэформа не мела істотнага значэння.

**Распаўсюджванне хутарской сістэмы землекарыстання.** Рэформа заахвочвала перасяленне сялян з вёсак на *хутары* — адасобленыя ўчасткі зямлі, якія сяляне замацоўвалі ў асабістую ўласнасць і куды пераносілі ўсю сядзібу або частку пабудоў і сельскагаспадарчы інвентар. Хутар уяўляў сабой тып сельскага паселішча. Яго жыхары называліся хутаранамі.

Тэмпы выхаду сялян на хутары ў Беларусі былі больш высокімі, чым у цэнтральных еўрапейскіх губернях Расійскай імперыі. За гады сталыпінскай рэформы колькасць хутароў у беларускіх губернях склала 12 % ад усіх сялянскіх двароў. Але селянін-хутаранін мог «стаць на ногі» толькі пры добрай арганізацыі працы, набыўшы навейшыя сельскагаспадарчыя машыны. Амаль кожны ўладальнік хутара меў патрэбу ў крэдыце. Дзяржава дапамагала, аднак яна не магла забяспечыць усіх жадаючых.




*Сталыпінская аграрная рэформа*

**Перасяленне сялян у азіяцкую частку Расіі.** Адным з мерапрыемстваў аграрнай рэформы была перасяленчая палітыка. З перанаселеных губерняў еўрапейскай часткі Расійскай імперыі, каб аслабіць там «зямельны голад», сялянства накіроўвалася ў азіяцкую частку Расіі, Сібір. Пры гэтым ставілася яшчэ адна мэта — «збыць» на ўскраіны імперыі як мага больш «неспакойнага элемента». Для заахвочвання перасяленцаў выдзялялася дапамога, кароткатэрміновыя пазыкі, транспарт, ствараліся пункты прыёму перасяленцаў. З усходніх беларускіх губерняў выехалі ў першую чаргу беззямельныя і малазямельныя сяляне.

Спакусіўшыся шырока разрэкламаванымі сібірскімі прасторамі, а таксама выгодамі, льготамі і ўрадавай дапамогай перасяленцам, былыя абшчыннікі літаральна за бясцэнак прадавалі сваё дабро. Яны імкнуліся на волю, як мага далей ад ненавісных памешчыкаў і земскіх начальнікаў, ад абрыдлай апекі абшчыны. Часам перасяляліся і заможныя сяляне, якія шукалі большай прасторы для прадпрымальніцкай дзейнасці. Яны ў першую чаргу і замацоўваліся на новых месцах.

Доўгім і цяжкім быў шлях у Сібір. Участкі для пасялення адводзіліся ў глухіх, не асвоеных чалавекам таёжных мясцінах. Бездарожжа, суровы нязвыклы клімат, цяжкая праца, неспрыяльныя, часам нават варожыя адносіны мясцовага насельніцтва, бяздушнасць чыноўнікаў, адсутнасць медыцынскай дапамогі і высокая смяротнасць — вось што чакала перасяленцаў у Сібіры. Больш за 10 % перасяленцаў загінулі ў дарозе і на новых землях.

Не ўсе змаглі прыжыцца на новых месцах. Каля 11 % перасяленцаў — зусім збяднелых, якія страцілі апошнія сродкі і надзеі, вярнуліся ў Беларусь. Горкі вопыт многіх тысяч перасяленцаў прывёў да масавага расчаравання сялян Беларусі ў магчымасці знайсці шчасце ў Сібіры. Разам з тым каля 80 % тых, хто перасяліўся, — а гэта сотні тысяч беларускіх сялян — засталіся на новых месцах. Так, напрыклад, у пачатку XX ст. насельніцтва Усурыйскага краю на $^5/_6$ было беларускае.

**Сталыпінская аграрная рэформа ў Беларусі**

| Мэты правядзення рэформы | Сродкі правядзення рэформы |
|---|---|
| Эканамічныя: развіццё капіталізму ў сельскай гаспадарцы і стварэнне сельскай буржуазіі з ліку заможных сялян | Выхад сялян з абшчыны і замацаванне іх уласнасці на зямельны надзел праз водруб або хутар |
| Палітычныя: ліквідацыя агульнасялянскага «фронту» барацьбы супраць памешчыкаў і выкарыстанне заможных сялян як апоры ўрада | Перасяленне малазямельных сялян на ўскраіны Расіі |

**Увядзенне земстваў.** У выніку аграрнай рэформы з'явіўся новы пласт зямельных уласнікаў — сельская буржуазія. П. А. Сталыпін, які бачыў апору царскага ўрада ў вёсцы сярод землеўладальнікаў, запатрабаваў пашырэння іх зямельных правоў. Ён прапанаваў увесці выбарныя *земствы* — органы мясцовага самакіравання. Яны былі створаны ў 1911 г. у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях, каб забяспечыць перавагу прадстаўнікоў ад «рускага насельніцтва». Земствы адыгралі станоўчую ролю ў ажыццяўленні аграрнай рэформы.

У час правядзення выбараў у земствы прадугледжваўся падзел выбаршчыкаў на курыі. «Рускай» курыі пры выбарах забяспечвалася перавага з мэтай павялічыць палітычную ролю заможнага праваслаўнага сялянства ў мясцовым самакіраванні і тым самым аслабіць палітычную ролю буйных землеўладальнікаў «польскага паходжання».

Памешчыкам «польскага паходжання», якія пераважалі ў Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губернях, царскі ўрад пасля паўстання 1863—1864 гг. не давяраў. Таму земствы тут не ўводзіліся.

**Вынікі рэформаў для Беларусі.** У перыяд правядзення аграрнай рэформы назіралася пашырэнне пасяўных плошчаў, адбываўся рост сельскагаспадарчай вытворчасці. Больш актыўна выкарыстоўваліся сельскагаспадарчыя машыны, мінеральныя ўдабрэнні. Стабільнымі сталі ўраджаі. Заможныя сялянскія гаспадаркі паступова ўцягваліся ў таварна-грашовыя адносіны, прапаноўвалі сваю прадукцыю для продажу на рынак. Разбурэнне сельскай абшчыны і дазвол сялянам замацоўваць свае зямельныя надзелы ва ўласнасць стварылі ўмовы для рэалізацыі *«амерыканскага» шляху развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы*.

Аднак сталыпінская рэформа аказалася незавершанай, захавалася і памешчыцкае землеўладанне. Абмежаваны характар мела і ўвядзенне земстваў, што адбылося толькі ў трох беларускіх губернях. І ўсё ж гэта сведчыла пра развіццё буржуазных адносін шляхам рэформаў.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *водруб, хутар, земствы, «амерыканскі» шлях развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы.*

### Пытанні і заданні

**1.** Пералічыце асноўныя мерапрыемствы сталыпінскай аграрнай рэформы. Пры адказе выкарыстайце адпаведную табліцу ў тэксце параграфа. **2.** Растлумачце, чаму ўрадавая аграрная палітыка была разлічана на «моцных сялян». **3.** Чым адрозніваўся хутар ад водруба? **4.** Вызначце, у якіх беларускіх губернях выхад сялян з абшчыны і перасяленне на хутары і адрубы былі боль-

шыя па сваіх маштабах і чаму. Выкарыстайце картасхему ў параграфе. **5.** Якім чынам эканамічныя і палітычныя мэты і сродкі правядзення сталыпінскай аграрнай рэформы адпавядалі адно аднаму? **6.** Ахарактарызуйце мэты і вынікі ажыццяўлення перасяленчай палітыкі. **7.** Складзіце ў сшытку параўнальную табліцу «Сялянская рэформа 1861 г. і сталыпінская аграрная рэформа».

| **Прыкметы для параўнання** | **Сялянская рэформа 1861 г.** | **Сталыпінская аграрная рэформа** |
|---|---|---|
| Мэты рэформы | | |
| Сродкі ажыццяўлення (мерапрыемствы) | | |
| Вынікі рэформы | | |

**8.** Параўнайце «прускі» і «амерыканскі» шляхі развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі. **9.** Растлумачце, чаму пры правядзенні выбараў у земствы ў Беларусі прадугледжваліся курыі, а самі выбары праводзіліся толькі ў трох беларускіх губернях.

## § 25. ПАДЗЕІ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ

***Успомніце.*** Згадайце прычыны і характар Першай сусветнай вайны.

***Вучэбная задача.*** Вызначыць становішча беларускага насельніцтва і пазіцыю прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху ва ўмовах германскай акупацыйнай палітыкі.

**Пачатак вайны. Настроі ў грамадстве.** З першых дзён вайны, якая для Расійскай імперыі пачалася 19 ліпеня (1 жніўня) 1914 г., беларускія губерні былі пераведзены на ваеннае становішча. Быў устаноўлены жорсткі ваенна-паліцэйскі рэжым, забаронена дзейнасць палітычных партый, сходы і мітынгі. Большасць беларускіх арганізацый спынілі сваю дзейнасць.

У Беларусі размясцілася паўтарамільённая царская армія. Гарады і мястэчкі былі перапоўнены салдатамі, штабамі, шпіталямі, складамі, майстэрнямі па рамонце зброі. У адным толькі Мінску раскватаравалі 150 тыс. вайскоўцаў. У Баранавічах была размешчана Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага. Праходзіла *мабілізацыя* (прызыў) соцень тысяч жыхароў беларускіх губерняў у расійскую армію, ад афіцэраў і салдат якой цяпер стаў залежаць лёс Беларусі.



*Санітарныя павозкі на вуліцах Мінска ў час Першай сусветнай вайны*

Царскі ўрад ладзіў шматлікія «патрыятычныя» маніфестацыі і малебны за перамогу «славянскай зброі», збор грошай на «абарону Айчыны». Манархічныя і ліберальныя партыі, а таксама эсэры, меншавікі, бундаўцы выступілі ў падтрымку царскага ўрада. У кастрычніку 1914 г. цар Мікалай II наведаў Мінск, дзе яму была перададзена вялікая сума грошай на «патрэбы вайны».

Супраць вайны выступілі бальшавікі. Яны лічылі яе імперыялістычнай па характары і заклікалі да ператварэння ў вайну за ўладу ўнутры краіны з мэтай звяржэння самадзяржаўя.

Газета «Наша ніва», рэдактарам якой тады быў Я. Купала, асуджала вайну і паказвала яе бессэнсоўнасць. За гэта рэдакцыю газеты абвінавачвалі ледзь не ў здрадзе Расіі.



«...Прыйшоў не з згоды і свабоды весцяў
І не ўзвялічыць праўду між людзьмі, —
Жыццём мільёнаў ты прыйшоў затрэсці,
Шлях вымасціць свой трупамі, касцьмі...»

*З верша Я. Купалы «1914»*

**Ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі. Акупацыя заходняй часткі Беларусі.** Ура-патрыятычныя настроі хутка змяніліся расчараваннем, бо з пачатку 1915 г. расійскія войскі пацярпелі шэраг паражэнняў. Фронт імкліва набліжаўся да Беларусі. Летам 1915 г. яна стала арэнай ваенных дзеянняў мільённых армій і галоўным тэатрам вайны. Беларуская зямля пакрывалася акопамі, абцягвалася калючым дротам, палівалася чалавечай крывёю.

Расійская армія вымушана была пакінуць значную частку тэрыторыі Беларусі. У жніўні — верасні 1915 г. германскія войскі занялі Брэст, Гродна

і іншыя заходнебеларускія гарады. У сувязі з гэтым Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага была пераведзена з Баранавіч у Магілёў. Наступальная аперацыя германскай арміі, вядомая пад назвай *«Свянцянскі прарыў»*, стварыла пагрозу захопу Мінска. Велізарным напружаннем сіл расійскім войскам удалося адкінуць праціўніка ў раён азёр Свір і Нарач і ліквідаваць прарыў.

Пасля гэтага фронт усталяваўся па лініі Дзвінск — Паставы — Смаргонь — Баранавічы — Пінск. Абарона Смаргоні цягнулася 810 дзён. Гэта быў адзіны горад на фронце ад Балтыйскага да Чорнага мора, які так доўга і ўпарта абараняла расійская армія ў час Першай сусветнай вайны. У 1916 г., упер-




*Беларусь у гады Першай сусветнай вайны*



*Разбураная вёска ў прыфрантавой паласе. 1914—1915 гг.*

шыню на Усходнім фронце, пад Смаргонню германскія войскі выкарысталі атрутны газ.

Наступальныя аперацыі расійскай арміі ў сакавіку 1916 г. у раёне возера Нарач і ў чэрвені — ліпені ў раёне горада Баранавічы аказаліся няўдалымі. Пры спробе прарваць фронт расійская армія страціла каля 80 тыс. салдат у кожнай з гэтых аперацый.

Ужо ў жніўні 1914 г. у баявых дзеяннях вызначыўся ўраджэнец Магілёўскай губерні, штабс-капітан Сяргей Аркадзевіч Бойна-Родзевіч. Яшчэ напярэдадні вайны ён стаў адным з першых і вядомых ваенных лётчыкаў у Расійскай імперыі. За ўдалае правядзенне паветраных разведак яго ўзнагародзілі Георгіеўскай зброяй, ордэнам Святога Георгія 4-й ступені. Поўным Георгіеўскім кавалерам, узнагароджаным чатырма крыжамі за мужнасць і гераізм, праяўленыя ў баях, стаў ураджэнец Ваўкавыскага павета, камандзір узвода Міхаіл Іванавіч Здановіч, якому было прысвоена званне старшага унтэр-афіцэра.



*М. І. Здановіч*

Германскія войскі захапілі амаль палову тэрыторыі Беларусі — яе заходнюю частку, дзе да вайны пражывала 2 млн чалавек. Лінія фронту падзяліла Беларусь на дзве часткі і заставалася нязменнай да лютага 1918 г. Заходнебеларускія землі апынуліся пад германскай *акупацыяй*.

**Палітыка германскіх улад на акупіраванай тэрыторыі. Становішча насельніцтва Заходняй Беларусі.** Германскія ўлады разглядалі Беларусь як гаспадарча і культурна адсталую частку Расіі са сваёй этнаграфічнай спецыфікай. У нямецкага каман-

давання існавала праграма каланізацыі і германізацыі Беларусі шляхам перасялення немцаў на захопленыя землі.

На акупіраванай тэрыторыі Беларусі германская ваенная адміністрацыя ўстанавіла ўласныя законы, рэжым рабаўніцтва і гвалту. Дзейнічала жорсткая сістэма розных падаткаў, штрафаў, прымусовых работ, праводзіліся рэквізіцыі — прымусовае адчужэнне маёмасці і прадуктаў для забеспячэння германскай арміі. Насельніцтва ва ўзросце ад 16 да 60 гадоў плаціла падушны падатак. У людзей адбіралі прадукты харчавання, коней і свойскую жывёлу. Нямецкія салдаты займалі дамы і кватэры мірных жыхароў. Любая спроба супраціўлення жорстка падаўлялася, аж да пакарання смерцю.

У Германію вывозілася працаздольнае насельніцтва, а таксама матэрыяльныя каштоўнасці — абсталяванне прамысловых прадпрыемстваў, сельскагаспадарчыя прадукты, жывёла (**).

Германскія ўлады забаранілі навучанне па-руску і ўвялі ў пачатковай школе выкладанне на беларускай мове, але толькі на аснове лацінскага алфавіта. Абавязковым было вывучэнне нямецкай мовы.

**Беларускі нацыянальны рух.** На акупіраванай германскімі войскамі тэрыторыі Беларусі забаранялася палітычная дзейнасць. Усе даваенныя беларускія нацыянальна-культурныя арганізацыі распаліся. У 1915 г. у Вільні было створана дабрачыннае Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны на чале з братамі Антонам і Іванам Луцкевічамі і ***Вацлавам Ластоўскім***. Яно займалася арганізацыяй пунктаў харчавання, сталовых, інтэрнатаў, дзіцячых прытулкаў, аказаннем матэрыяльнай дапамогі бежанцам, адкрывала на акупіраванай тэрыторыі беларускія школы, выдавала для іх падручнікі. Таварыства гуртавала вакол сябе нацыянальныя сілы, якія засталіся ў занятай немцамі Вільні.

Германская акупацыйная палітыка не давала падстаў спадзявацца на стварэнне беларускай дзяржавы. Таму Беларускі народны камітэт (БНК), утвораны ў 1915 г. у Вільні, звярнуўся да ідэі адраджэння Вялікага Княства Літоўскага. Згодна з гэтай ідэяй акупіраваныя Германіяй беларускія і літоўскія землі павінны былі аб'яднацца ў адну дзяржаву з соймам у Вільні.



*В. Ластоўскі*



Прыхільнікі ідэі адраджэння ВКЛ сфармулявалі мэту сваёй дзейнасці так: каб «літоўскія і беларускія землі, каторыя здаўна прыналежалі да Вялікага Княства Літоўскага, а цяпер апанаваны нямецкімі войскамі, станавілі пры новых варунках гістарычных нераздзельнае цела на фундаменце

незалежнасці Літвы і Беларусі, як суцэльнай дзяржавы, засцерагаючы ўсім нацыям у яе межах усе правы».

Акупацыйныя ўлады на словах падтрымлівалі ідэю адраджэння ВКЛ. Яны імкнуліся выкарыстаць нацыянальны рух для замацавання сваёй улады на захопленых тэрыторыях. Аднак у планы Германіі не ўваходзіла стварэнне незалежнай беларуска-літоўскай дзяржавы. Гэтаму рамантычнаму праекту не суджана было здзейсніцца. Сама ідэя ўзнаўлення Вялікага Княства Літоўскага была ў той час нерэальнай.

На змену ідэі адраджэння ВКЛ у 1916 г. прыйшла іншая — аб стварэнні саюза незалежных дзяржаў — Злучаных штатаў Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны ад Балтыйскага да Чорнага мора. Балтыйска-Чарнаморскі саюз, на думку аўтара гэтай ідэі А. Луцкевіча, мог забяспечыць незалежнасць маладых дзяржаў ад Польшчы і Расіі, узмацніць абараназдольнасць і дапамагчы аднаўленню разбуранай падчас вайны эканомікі. З гэтай ідэяй беларуская дэлегацыя на чале з В. Ластоўскім выступіла на міжнародных канферэнцыях народаў Расіі ў 1916 г. у Стакгольме і Лазане.



У выступленні В. Ластоўскага ў Лазане адзначалася: «Цяпер, дзякуючы канферэнцыі народаў, мы... можам мець нарэшце надзею, што, які б сабе ні быў канец вайны, еўрапейскія народы памогуць нам запэўніць Беларусі ўсе палітычныя і культурныя правы, якія дадуць нашаму народу магчымасць вольна развіваць свае інтэлектуальныя, маральныя і эканамічныя сілы, і што гэтыя правы дазволяць нам быць гаспадарамі на нашай уласнай зямлі».

Але ўрады еўрапейскіх краін, уцягнутыя ў сусветную вайну, засталіся глухімі да патрэб беларускай нацыі.

У чэрвені 1917 г. група дзеячаў беларускага нацыянальнага руху на чале з В. Ластоўскім выступіла за поўную дзяржаўную незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць Беларусі ў яе этнаграфічных межах. Ластоўскі быў першым сярод беларускіх палітычных лідараў, хто выказаў ідэю поўнай незалежнасці Беларусі.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *мабілізацыя, «Свянцянскі прарыў», акупацыя.*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

** Германскімі акупантамі рабаваліся лясныя багацці Белавежскай пушчы. Для высечкі і вывазу каштоўнай драўніны было пабудавана некалькі ле-

сапільных заводаў і 300 км вузкакалейнай чыгункі. За два гады акупацыі ў Германію было вывезена 4,5 млн кубаметраў драўніны самых каштоўных парод. Гэта амаль столькі ж, колькі яе было нарыхтавана за ўсю папярэднюю гісторыю. Да 1919 г. у пушчы практычна зніклі зубры і лані, рэзка скарацілася колькасць аленяў і дзікоў. Тады ж пачалася актыўная дзейнасць па захаванні пушчы.

У 1992 г. рашэннем ЮНЕСКА дзяржаўны Нацыянальны парк «Белавежская пушча» ўключаны ў Спіс Сусветнай спадчыны, яму нададзены статус біясфернага запаведніка, які ў 1997 г. узнагароджаны дыпломам Савета Еўропы за поспехі ў ахове прыроды. У 2009 г. адзначалася 600-годдзе ўстанаўлення запаведнага статусу Белавежскай пушчы.

## Пытанні і заданні

**1.** Параўнайце адносіны да вайны розных палітычных партый і газеты «Наша ніва». Растлумачце прычыны ўра-патрыятычных настрояў часткі беларускага грамадства ў пачатку вайны і расчаравання ў 1915 г. **2.** Ахарактарызуйце, карыстаючыся картасхемай у параграфе ці картай у атласе, ваенна-палітычнае становішча Беларусі ў час Першай сусветнай вайны. **3.** Ахарактарызуйце акупацыйную палітыку германскіх улад на тэрыторыі заходняй часткі Беларусі. **4.** Папрацуйце па метадзе ключавога слова з тэкстам абзаца, які пачынаецца словамі: «Германская акупацыйная палітыка не давала падстаў...», а таксама з рубрыкай «Галасы мінулага», якая пачынаецца словамі: «Прыхільнікі ідэі адраджэння ВКЛ сфармулявалі...». **5.** Запоўніце ў сшытку табліцу «Праекты ўтварэння беларускай дзяржаўнасці».

| Праект, які быў прапанаваны БНК | Праект А. Луцкевіча | Праект В. Ластоўскага |
|---|---|---|
| | | |

**6.** Чаму было немагчыма ажыццявіць ідэю адраджэння ВКЛ на акупіраванай германскімі войскамі заходнебеларускай тэрыторыі? Патлумачце сваё меркаванне.

**Да ўрока «Наш край».** Даведайцеся пра лёс сваіх землякоў — удзельнікаў Першай сусветнай вайны, а таксама пра помнікі ў вашай мясцовасці, якія сведчаць аб падзеях гэтай вайны.

# § 26—27. НАСПЯВАННЕ КРЫЗІСУ Ў ГРАМАДСТВЕ. ПАДЗЕІ ЛЮТАЎСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ 1917 г. У БЕЛАРУСІ. АБВАСТРЭННЕ ПАЛІТЫЧНАЙ СІТУАЦЫІ Ў БЕЛАРУСІ ВЯСНОЙ — ЛЕТАМ 1917 г.

***Успомніце.*** **1.** У чым заключаліся пачаткі расійскага парламентарызму, што з’явіліся ў выніку рэвалюцыі 1905—1907 гг.? **2.** Што прадугледжвалі патрабаванні РСДРП, ПСР, БСГ па аграрным і нацыянальным пытаннях у час рэвалюцыі 1905—1907 гг.?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, якім было эканамічнае і палітычнае становішча ў Беларусі ва ўмовах Першай сусветнай вайны і Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.

**Ваеннае становішча ва ўсходняй частцы Беларусі. Бежанства.** Аб’яўленае ў сувязі з пачаткам Першай сусветнай вайны надзвычайнае становішча распаўсюджвалася і на ўсходнюю частку Беларусі. Лёс усходнебеларускага насельніцтва апынуўся ў руках вайскоўцаў, што нахлынулі сюды з розных раёнаў Расіі і запаланілі амаль усе населеныя пункты. Яны групаваліся вакол Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага ў Магілёве.

З германскай акупацыяй Заходняй Беларусі яе ўсходняя частка стала прыфрантавой паласой. Вайна выгнала з абжытых месцаў 1,3 млн чалавек. У сувязі з наступленнем германскіх войскаў з заходніх паветаў на ўсход рушыла вялізная колькасць бежанцаў, пераважна жанчын, дзяцей, старых. Па дарогах Беларусі цягнуліся велізарныя абозы, якія часам абстрэльваліся і бамбардзіраваліся немцамі. У дарозе здараліся эпідэміі. Бежанскі шлях можна было пазнаць па магілах абапал яго. Табары ўцекачоў асядалі вакол маёнткаў, чыгуначных станцый, у гарадах. Улады спрабавалі выкарыстаць іх як танную рабочую сілу на пабудове ваенных аб’ектаў. Становішча гэтых



*Лагер бежанцаў у Слуцку. 1915 г.*

людзей у прыфрантавой паласе мала адрознівалася ад лёсу ваеннапалонных. Бежанцы ператварыліся ў масу жабракоў, галодных і бяздомных, пазбаўленых сродкаў існавання.

Вайна прынесла незлічоныя бедствы беларускаму народу. Гінула мірнае насельніцтва, палалі і руйнаваліся гарады і вёскі, знішчаўся матэрыяльны набытак. У попел і руіны ператвараліся каштоўныя помнікі беларускай гісторыі і культуры.



Фабрычны інспектар Мінскай губерні дакладваў у Міністэрства гандлю і прамысловасці ў верасні 1915 г.: «...Жыць цяпер у Мінску, а асабліва людзям сямейным, робіцца немагчыма. З прычыны адсутнасці падвозу і перапаўнення горада вайсковымі часцямі, што спажываюць усё яшчэ захаваныя ў насельніцтва мізэрныя запасы правізіі, цэны на ўсе жыццёвыя прадукты моцна ўзняліся. Ні чорнага, ні белага хлеба ў горадзе купіць немагчыма, і ў рэстаранах, не выключаючы і першакласныя, хлеб падаецца да абеду не кожны дзень. Цукар ужо даўно не прадаецца. Няма таксама свечак, няма і газы...»

**Заняпад сельскай гаспадаркі. Мілітарызацыя прамысловасці.** На неакупіраванай тэрыторыі Беларусі ў цяжкім стане апынулася сельская гаспадарка. Больш за палову працаздольнага насельніцтва вёскі было мабілізавана ў армію. Сем'і засталіся без кармільцаў. Не было каму засеяць поле. Асобныя надзелы пуставалі. Увогуле ў 1914—1917 гг. амаль на 75 % скараціліся пасяўныя плошчы. Сельскіх жыхароў прыфрантавой паласы прыцягвалі да выканання ваенна-абарончых работ: капання акопаў, будаўніцтва мастоў, рамонту дарог, аховы вайсковых аб'ектаў. Людзей бралі, нягледзячы на пільныя сельскагаспадарчыя патрэбы. Велізарныя страты наносілі сялянскім гаспа-



*Жанчыны на будаўніцтве палявых умацаванняў*

даркам рэквізіцыі коней, кароў, а таксама хлеба і іншых прадуктаў харчавання. Скарацілася пагалоўе буйной рагатай жывёлы.

З Беларусі было вывезена ці дэманціравана абсталяванне $^1/_3$ прамысловых прадпрыемстваў. Іншыя з-за адсутнасці сыравіны, паліва і кваліфікаваных рабочых закрыліся або рэзка скарацілі вытворчасць. Разам з тым асобныя галіны прамысловасці Беларусі — швейная, абутковая, хлебапякарная, якія выконвалі ваенныя заказы, значна павялічылі выпуск прадукцыі. Усе прадпрыемствы металаапрацоўчай прамысловасці былі пераключаны на вытворчасць боепрыпасаў, транспартных сродкаў і іншага вайсковага рыштунку. Адбылася *мілітарызацыя* прамысловасці — падпарадкаванне эканамічнага жыцця ваенным мэтам. Там, дзе выпускалі прадукцыю для арміі, працоўны дзень не абмяжоўваўся, былі адменены выхадныя і святочныя дні. За спыненне працы без дазволу рабочых адпраўлялі ў штрафныя роты. Шырока практыкавалася нізкааплатная праца жанчын, падлеткаў, дзяцей.

Скарачэнне сельскагаспадарчай і прамысловай вытворчасці абумовіла рост цэн на прадукты харчавання і асноўныя прамысловыя тавары ў 2—7 разоў. Забеспячэнне насельніцтва таварамі рэгулярна зрывалася. Гараджане першыя зведалі, што такое голад, спекулятыўныя цэны, чэргі.

**Звяржэнне самадзяржаўя. Фарміраванне Саветаў і буржуазных органаў улады.** Стан гаспадаркі не вытрымліваў таго напружання, якога патрабавала небывалая па маштабах вайна. Эканоміка краіны прыходзіла ў заняпад. Даведзеныя да адчаю людзі патрабавалі міру, хлеба і свабоды. Зняць напружанасць у грамадстве цар і яго ўрад не змаглі. Антываенныя і антыўрадавыя настроі працягвалі нарастаць. Буйнейшым на Заходнім фронце і ў Беларусі стала выступленне 4 тыс. салдат і матросаў на размеркавальным пункце ў Гомелі ў кастрычніку 1916 г. Паўстанне было задушана. Так манархія губляла апору ў войску.

У канцы лютага 1917 г. масавыя забастоўкі, мітынгі і дэманстрацыі рабочых у Петраградзе пад лозунгамі: «Далоў вайну!», «Далоў самадзяржаўе!» перараслі ва ўзброенае паўстанне. 2 сакавіка 1917 г. цар Мікалай II падпісаў акт адрачэння ад прастола. У Расіі перамагла Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя. Палітычная ўлада перайшла да буржуазнага Часовага ўрада. У верасні 1917 г. Расія была абвешчана дэмакратычнай рэспублікай. Рыхтаваліся выбары ва Устаноўчы сход — будучы расійскі парламент, які павінен быў вырашыць набалелыя пытанні.

Сітуацыя ў Беларусі і на Заходнім фронце была звязана з ходам падзей у Расіі. 4 сакавіка ў Мінску была створана народная міліцыя, якая раззброіла паліцыю, узяла пад кантроль пошту і тэлеграф. Мінскую міліцыю ўзначаліў прафесіянальны рэвалюцыянер, стваральнік бальшавіцкай арганізацыі ў Мінску Міхаіл Васілевіч Фрунзэ — адзін з арганізатараў Мінскага Савета




*Лютаўская рэвалюцыя ў Беларусі*

рабочых і салдацкіх дэпутатаў. На працягу сакавіка — чэрвеня 1917 г. Саветы былі арганізаваны больш чым у 100 населеных пунктах Беларусі. Іх узначальвалі эсэры і меншавікі.

У Беларусі паступова склалася сістэма органаў улады і кіравання, падначаленая Часоваму ўраду ў Петраградзе. У Мінску быў сфарміраваны Часовы грамадскі камітэт парадку. Часовы ўрад прызначыў губернскіх і павятовых камісараў, да якіх пераходзіла мясцовая ўлада. Яны выконвалі функцыі ранейшых губернатараў, павятовых спраўнікаў і земскіх начальнікаў.

Такім чынам, склалася палітычнае становішча, якое характарызавалася як *двоеўладдзе*. З аднаго боку, рэвалюцыйна-дэмакратычную ўладу прадстаў-

лялі мясцовыя Саветы, якія абапіраліся на рабочых, салдат і сялян. З другога боку, буржуазную ўладу прадстаўлялі гарадскія і павятовыя камітэты грамадскай бяспекі. Па спосабе ўтварэння гэта былі грамадскія арганізацыі. Паступова іх функцыі звяліся да падтрымкі губернскіх і павятовых камісараў Часовага ўрада. Асаблівасцю становішча стала тое, што Саветы ў Беларусі падтрымлівалі Часовы ўрад.

Значны ўплыў на палітычнае жыццё Беларусі аказвала армія. Салдаты на Заходнім фронце віталі рэвалюцыю, спадзяваліся, што яна прывядзе да заканчэння вайны. У вайсковых часцях пачалі ствараецца выбарныя салдацкія камітэты і Саветы салдацкіх дэпутатаў. Салдаты ўраўноўваліся ў правах з усімі грамадзянамі краіны. Абвастрыліся адносіны паміж салдатамі і афіцэрамі. Нярэдкія былі выпадкі непадпарадкавання камандаванню, а таксама адхілення афіцэраў і генералаў ад пасад і іх арыштаў.

Рэвалюцыйныя змены дасягнулі і вёскі. Сяляне праганялі земскіх начальнікаў. Узнікалі Саветы сялянскіх дэпутатаў.

Часовы ўрад аказаўся не ў стане вырашыць наяўныя праблемы. Ён працягваў вайну, не жадаў ахвяраваць памешчыцкім землеўладаннем, не праводзіў карэнных змен у грамадска-палітычным жыцці.

**Дзейнасць палітычных партый і арганізацый.** Палітыку Часовага ўрада ў Беларусі актыўна праводзілі мясцовыя арганізацыі партыі кадэтаў, якая пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. фактычна стала кіруючай. У яе склад уваходзілі прадстаўнікі заможных пластоў насельніцтва, афіцэрства і інтэлігенцыя. Мэтамі кадэтаў былі працяг вайны да перамогі, скліканне пасля вайны Устаноўчага сходу, які мусіў прыняць канстытуцыю, вырашыць пытанне аб дзяржаўным ладзе і правесці неабходныя для развіцця краіны эканамічныя рэформы. Галоўнай перашкодай на шляху да дэмакратыі кадэты лічылі Саве-



*Армейскі з'езд салдат і афіцэраў 2-й арміі ў Нясвіжы. Лета 1917 г.*

ты рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Кадэты выступалі за адмену ўсіх абмежаванняў у правах нацыянальнасцей, за свабоду ўжывання нацыянальных моў і развіццё нацыянальных культур, але беларусаў лічылі адгалінаваннем рускага народа.

Найбольшым уплывам сярод насельніцтва Беларусі карысталася партыя эсэраў, якая выступала за вайну да перамогі і ўстанаўленне дэмакратычнай рэспублікі. Партыя эсэраў абяцала даць кожнаму селяніну зямлю без выкупу. Аграрная праграма эсэраў спрыяла хуткаму ўздыму іх папулярнасці ў вёсцы і сярод салдат у войску.

Моцныя пазіцыі ў Беларусі мелі бундаўцы і меншавікі. Яны падтрымлівалі ўнутраную і знешнюю палітыку Часовага ўрада. Вырашэнне ж аграрнага пытання адкладвалі да склікання Устаноўчага сходу. Меншавікі ў Беларусі вялі актыўную барацьбу супраць нацыянальнага руху. У адрозненне ад іх Бунд адстойваў праграму нацыянальна-персанальнай аўтаноміі для яўрэяў, свабоды культурна-нацыянальнага развіцця іншых народаў.

Адзінай партыяй, якая не пагадзілася супрацоўнічаць з Часовым урадам, была бальшавіцкая. Спачатку малалікая і малаўплывовая, яна пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. пачала адыгрываць актыўную ролю ў палітычным жыцці Беларусі. Бальшавікі абапіраліся на пралетарыят і незаможных сялян і прытрымліваліся лозунгу перарастання буржуазнай рэвалюцыі ў сацыялістычную. У нацыянальным пытанні бальшавікі прызнавалі права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення ад Расіі і ўтварэння самастойных дзяржаў, а таксама аўтаномію нацыянальных абласцей, якія пажадаюць застацца ў складзе дэмакратычнай Расіі.

Асаблівасцю палітычнага становішча ў Беларусі ва ўмовах двоеўладдзя стала з’яўленне трэцяй сілы (акрамя Саветаў і буржуазных органаў улады), якая ўяўляла сабой беларускі нацыянальны рух. Побач з дзейнасцю агульнарасійскіх партый з сакавіка 1917 г. у Беларусі ішоў інтэнсіўны працэс утварэння беларускіх нацыянальных партый і арганізацый. Перамога Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. дала новы штуршок беларускаму нацыянальнаму руху. Самай уплывовай беларускай партыяй была Беларуская сацыялістычная грамада, адроджаная пасля дзесяцігадовага перапынку ў сакавіку 1917 г. Яе арганізацыі з’явіліся ў Петраградзе, Маскве, гарадах Цэнтральнай і Усходняй Беларусі. У сярэдзіне 1917 г. у радах партыі налічвалася 5 тыс. чалавек. Яна мела сваіх прадстаўнікоў у Петраградскім і Мінскім Саветах рабочых і салдацкіх дэпутатаў і падтрымлівала Часовы ўрад. У праграме партыі былі патрабаванні аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай федэратыўнай рэспублікі, перадачы зямлі сялянам, устанаўлення 8-гадзіннага рабочага дня.

**Нарастанне супярэчнасцей у грамадстве.** Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. стала чарговым этапам на шляху буржуазна-дэмакратычнага пераўладкавання грамадства. Аднак прыйшло лета 1917 г., а актуальныя пытанні аб міры, зямлі, скліканні Устаноўчага сходу не былі вырашаны Часовым урадам. Пагоршылася становішча ў эканоміцы: узрасло беспрацоўе, падняліся ў дзясяткі разоў цэны на спажывецкія тавары, адчуваўся недахоп прадуктаў харчавання. У выніку расла незадаволенасць народа палітыкай Часовага ўрада.

Асабліва набалелым для Беларусі было пытанне аб міры. Насельніцтва краю пакутавала ад баявых дзеянняў і цяжару ўтрымання армій Заходняга фронту. Салдаты выказвалі незадаволенасць палітыкай вядзення вайны да канчатковай перамогі. У шэрагу гарадоў Беларусі прайшлі дэманстрацыі пад лозунгамі супраць Часовага ўрада. Але заставаліся сілы, што падтрымлівалі Часовы ўрад. Сярод іх была Беларуская сацыялістычная грамада. Пасля пераходу ўлады да Часовага ўрада БСГ падтрымала яго пры ўмове ажыццяўлення ім дэмакратычных пераўтварэнняў, заклікаўшы працоўны народ аказваць «арганізаваны націск» на гэты ўрад. БСГ быў узяты курс на мірнае рэфармаванне палітычнага ладу ў Беларусі.

**Беларускі нацыянальны рух.** Важную ролю ў развіцці беларускага нацыянальнага руху адыграў з’езд беларускіх нацыянальных арганізацый, які адбыўся ў сакавіку 1917 г. у Мінску. З’езд падтрымаў Часовы ўрад, а таксама выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі. На з’ездзе быў абраны Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) на чале з Р. Скірмунтам — буйным землеўласнікам Мінскай губерні, дэпутатам І Дзяржаўнай думы, лідарам Беларускага саюза зямельных уласнікаў.

Асноўнай сваёй задачай БНК абвясціў культурна-нацыянальнае адраджэнне беларускага народа. Дэлегацыя БНК накіравалася ў Петраград, каб падаць Часоваму ўраду прапановы наконт аўтаноміі Беларусі. Але расійскія буржуазныя палітыкі, якія не лічылі беларусаў асобным народам, адмовіліся весці перагаворы на гэтую тэму. Ідэя аўтаноміі Беларусі не знайшла ў іх падтрымкі.

У ліпені 1917 г. у Мінску адбыўся ІІ з’езд беларускіх нацыянальных арганізацый і партый. БСГ, якая складала тут большасць, вызначыла яго палітычную лінію. З’езд прыняў прапанову аб ажыццяўленні нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі — шырокага ўнутранага самакіравання для Беларусі ў складзе Расійскай дзяржавы і падкрэсліў неабходнасць дамагацца яе ад Часовага ўрада. Праграма БСГ прадугледжвала ўвядзенне сацыялістычнага ладу шляхам рэвалюцыі, прадастаўленне шырокіх дэмакратычных свабод, задавальненне інтарэсаў сялян праз перадачу царкоўнай і памешчыцкай зямлі ў карыстанне ўсяго працоўнага народа.

ІІ з’езд беларускіх нацыянальных арганізацый замест БНК стварыў Цэнтральную раду беларускіх арганізацый. Рада ставіла мэтай аб’яднаць усе беларускія нацыянальныя сілы як на тэрыторыі Беларусі, так і за яе межамі. Аднак, нягледзячы на яе намаганні, беларускі нацыянальны рух заставаўся раз’яднаным.

Прынцыповы характар мела пастаноўка Радай пытання аб стварэнні ў Беларусі органа мясцовай (беларускай краёвай) улады. Ён павінен быў выбірацца на Усебеларускім з’ездзе пасля склікання Усерасійскага Устаноўчага сходу. Але Часовы ўрад адхіліў такую прапанову.

**Падзеі карнілаўскага мяцяжу ў Беларусі.** У абставінах палітычнага і эканамічнага крызісу, калі Часовы ўрад страчваў кантроль за развіццём падзей, усё часцей чуліся заклікі да ўсталявання цвёрдай улады. Кіраўнік Часовага ўрада, прыхільнік буржуазна-дэмакратычнага развіцця краіны А. Ф. Керанскі ўжо не задавальняў буржуазна-памешчыцкія колы Расіі. На пасаду ваеннага дыктатара быў вылучаны энергічны Вярхоўны галоўнакамандуючы расійскай арміі генерал Лаўр Георгіевіч Карнілаў.

У канцы жніўня 1917 г. адданыя Карнілаву часці рушылі на Петраград, каб нейтралізаваць Часовы ўрад і ліквідаваць Саветы. Гэтыя падзеі ўвайшлі ў гісторыю як *карнілаўскі мяцеж*. Л. Г. Карнілаў надаваў важнае значэнне Беларусі, бо яе тэрыторыя звязвала Стаўку Вярхоўнага галоўнакамандуючага расійскай арміі ў Магілёве з франтамі, Масквой і Петраградам. Цэнтрам барацьбы з карнілаўшчынай у Беларусі стаў Мінск. Быў створаны Часовы рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі бальшавікоў, меншавікоў, эсэраў, Бунда. Дзеянні карнілаўцаў былі блакіраваны ў раёне Гомеля і Оршы. Рэвалюцыйныя сілы Заходняга фронту на чале з М. В. Фрунзэ парушылі сувязь карнілаўскіх войскаў са Стаўкай у Магілёве. Толькі на лініі Гомель — Жлобін было затрымана 30 воінскіх эшалонаў. Фактычна апынулася ў ізаляцыі і сама Стаўка ў Магілёве. У выніку рашучых дзеянняў рэвалюцыйных сіл змова Карнілава была ліквідавана бяскроўна, а сам генерал — арыштаваны.

У час барацьбы з карнілаўшчынай Часовы ўрад адмежаваўся ад Карнілава і таксама ўключыўся ў барацьбу з ім. Адкрылася магчымасць пагаднення ўсіх дэмакратычных сіл у краіне. Але пасля ліквідацыі карнілаўскага мяцяжу бальшавіцкая партыя, аўтарытэт якой значна вырас, стала на шлях падрыхтоўкі ўзброенага паўстання і захопу ўлады. Яна абапіралася на рабочых, сялянскую беднату, рэвалюцыйна настроеных салдат Заходняга фронту.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *мілітарызацыя, двоеўладдзе, карнілаўскі мяцеж.*

### Пытанні і заданні

**1.** Ахарактарызуйце становішча насельніцтва ўсходняй часткі Беларусі ва ўмовах вайны. **2.** Прывядзіце факты, якія сведчаць аб мілітарызацыі прамысловасці Беларусі ў час Першай сусветнай вайны. Выкарыстайце картасхему ў папярэднім параграфе ці адпаведную карту ў атласе. **3.** Пералічыце асноўныя падзеі Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у Беларусі. Выкарыстайце адпаведную картасхему ў параграфе. **4.** У чым заключалася асаблівасць палітычнага становішча, якое склалася ў Беларусі ва ўмовах двоеўладдзя? **5.** Складзіце ў сшытку табліцу «Палітычныя партыі ў Беларусі ў час Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.».

| Прыкметы для параўнання | Кадэты | Эсэры | Бунд | Меншавікі | Бальшавікі | БСГ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Адносіны да вайны | | | | | | |
| Шляхі вырашэння аграрнага пытання | | | | | | |
| Шляхі вырашэння нацыянальнага пытання | | | | | | |

**6.** Чаму пытанне аб міры было асабліва набалелым для Беларусі? **7.** Што азначала патрабаванне БСГ аб нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі Беларусі? Чаму Часовы ўрад адмовіўся весці перамовы з БНК наконт аўтаноміі Беларусі? **8.** Аб чым сведчыў карнілаўскі мяцеж і ў чым заключаліся яго наступствы? Выкарыстайце картасхему «Лютаўская рэвалюцыя ў Беларусі».

## § 28. УМОВЫ І АСАБЛІВАСЦІ ФАРМІРАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

***Успомніце.*** **1.** Што ўяўляла сабой беларуская нацыянальная ідэя? **2.** Калі выдавалася газета «Наша доля» і як склаўся яе лёс?

***Вучэбная задача.*** Ахарактарызаваць прыкметы і асаблівасці фарміравання беларускай нацыі.

**Этнічная тэрыторыя. Нацыянальны і сацыяльны склад насельніцтва Беларусі.** Нацыя ўяўляе сабой супольнасць людзей, якая гістарычна з'яўляецца пераемніцай народнасці. Калі для народнасці галоўнай прыкметай лічацца тэрытарыяльныя сувязі, то для нацыі — агульнасць гаспадарчага жыцця.

Таксама для нацыі характэрныя сталае пражыванне насельніцтва на адной тэрыторыі, літаратурная мова, агульныя рысы культуры і псіхічнага складу. Разам з тым у працэсе свайго фарміравання нацыя паступова ператвараецца ў палітычную супольнасць людзей, галоўнай прыкметай якой становіцца ўласная дзяржаўнасць. Беларуская нацыя фарміравалася ва ўмовах адсутнасці ўласнай дзяржаўнасці. Урад Расійскай імперыі быў зацікаўлены ў тэрытарыяльным адзінстве дзяржавы і аслабленні ў ёй нацыянальных рухаў.

Паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Расійскай імперыі беларускія землі ўваходзілі ў склад Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў.



*Беларуская сям'я ў святочным народным адзенні. Канец XIX — пачатак XX ст. Рэканструкцыя*



З прадмовы Ф. Багушэвіча да «Дудкі беларускай»: «Можа, хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільна да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчак і вёсак...»

Насельніцтва Беларусі, згодна з Усерасійскім перапісам 1897 г., налічвала 6,7 млн чалавек, што складала 5 % ад агульнай колькасці жыхароў Расійскай імперыі. Шчыльнасць насельніцтва краю была 31 чалавек на 1 км$^2$ (у Еўрапейскай Расіі — 22 чалавекі).

Па нацыянальным складзе 65,6 % насельніцтва Беларусі з'яўляліся беларусамі, 14,6 % — яўрэямі, 6 % — рускімі, 5,2 % — палякамі, 4,6 % — украінцамі. Увядзенне мяжы яўрэйскай аселасці абумовіла штучную перанаселенасць яўрэямі гарадоў і мястэчак Беларусі, колькасную перавагу іх сярод гарадскога пралетарыяту, рамеснікаў і гандлёва-прамысловай буржуазіі. Урадавая палітыка перасялення ў Беларусь рускіх памешчыкаў і чыноўнікаў у другой палове XIX ст. прывяла да павелічэння тут колькасці рускіх. Найбольш палякаў пражывала ў Гродзенскай і Віленскай губернях.

Па канфесіянальным складзе сярод насельніцтва беларускіх губерняў у 1897 г. пераважалі праваслаўныя, якіх налічвалася каля $^2/_3$.

У сацыяльную структуру беларускага грамадства ўваходзілі буржуазія, дваранства, інтэлігенцыя, рабочыя і сяляне. Буржуазія, што ва ўсім свеце, як правіла, выступала лідарам нацыянальных рухаў, адрознівалася ў Беларусі

сваёй слабасцю. Буржуазія ў беларускіх губернях па этнічнай прыналежнасці з'яўлялася рускай, польскай, яўрэйскай і толькі часткова беларускай. Асноўныя капіталы краю знаходзіліся ў польскіх і рускіх памешчыкаў, яўрэйскіх купцоў і прамыслоўцаў. Мясцовая нацыянальная буржуазія не ўсведамляла свайго адзінства і абыякава ці нават варожа ставілася да беларускага нацыянальнага руху.

У склад інтэлігенцыі ў Беларусі ўваходзілі дзеячы культуры, вучоныя, работнікі адукацыі, медыцыны і тэхнічнай сферы, а таксама чыноўнікі, служачыя, ваенныя, духавенства. Паводле нацыянальнага складу сярод інтэлігенцыі краю пераважалі рускія і беларусы, у меншай ступені былі прадстаўлены палякі. Уласна беларуская нацыянальная інтэлігенцыя з вялікімі цяжкасцямі фарміравалася ў 1880—1890-я гг. з асяроддзя пераважна каталіцкай шляхты, сялян, мяшчан. Яна была нешматлікая і недастаткова арганізаваная, фактычна не дайшла да асэнсавання самастойнасці свайго становішча.

Рабочы клас у Беларусі фарміраваўся з ліку беззямельнага збяднелага сялянства, яўрэйскай гарадской беднаты, рамеснікаў. У пачатку XX ст. колькасць пастаянных наёмных рабочых склала больш за 400 тыс. чалавек. Знайсці працу на прамысловых прадпрыемствах было вельмі складана. Таму беларусы шукалі лепшай долі за межамі свайго краю: у Расіі, Амерыцы. У 1897 г. у Мінску, Магілёве, Гродне, Гомелі, Віцебску пражывала 41 тыс. беларусаў, у той час як у Пецярбургу іх колькасць дасягала 66,5 тыс. чалавек, Адэсе — 16,9 тыс., Маскве — 15,9 тыс. чалавек.

У беларускім грамадстве колькасная большасць належала сялянству, якое складалася пераважна з прадстаўнікоў карэннага этнасу. Характэрнай асаблівасцю беларускага этнасу з'яўлялася тое, што больш за 90 % беларусаў жылі ў сельскай мясцовасці і займаліся сельскай гаспадаркай. Мільёны сялян ледзь зводзілі канцы з канцамі, каля 9 % іх не мела сваёй зямлі.

**Агульнасць гаспадарчага жыцця.** Агульнасць гаспадарчага жыцця з'яўляецца адной з прыкмет фарміравання нацыі. Павелічэнне колькасці фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў у прамысловасці, пераарыентацыя памешчыцкіх гаспадарак на продаж сваёй прадукцыі, развіццё гандлю і чыгуначнае будаўніцтва спрыялі стварэнню на тэрыторыі Беларусі адзінага эканамічнага рэгіёна. Пашырэнне гандлёва-эканамічных сувязей паміж рознымі часткамі Беларусі садзейнічала аб'яднанню прадстаўнікоў карэннага этнасу ў нацыю. Выезд беларусаў за межы радзімы на работу або вучобу дазваляў ім знаёміцца з побытам і культурай іншых народаў і дапамагаў усведамляць сваю этнічную адметнасць.

**Развіццё беларускай літаратурнай мовы.** Станаўленне новай беларускай літаратурнай мовы адбывалася ў другой палове XIX —пачатку XX ст. Старабеларуская мова, якая выкарыстоўвалася ў якасці мовы дзяржаўнага справа-

водства ў ВКЛ, фактычна перастала існаваць у XVIII ст. Шляхта і амаль уся інтэлігенцыя засвоілі польскую мову, што панавала ў грамадскім і культурным жыцці да паўстання 1863—1864 гг. Беларускай дыялектнай мовай карысталася толькі сялянства, частка збяднелай шляхты, працоўныя пласты гарадскога насельніцтва. Новая літаратурная пісьмовая мова складвалася на аснове шматдыялектнай гутарковай народнай мовы, перш за ўсё гаворак Цэнтральнай Беларусі.

Пры друкаванні беларускіх выданняў выкарыстоўвалася пераважна лацінка. Так выдаваліся творы В. Дуніна-Марцінкевіча, газета «Мужыцкая праўда». У канцы XIX ст. лацінку паступова пачала выцясняць кірыліца. У пачатку XX ст. з’явіліся легальныя беларускамоўныя выданні, у якіх выкарыстоўвалася беларуская літаратурная мова.

**Нацыянальная самасвядомасць.** Нацыя таксама характарызуецца *нацыянальнай самасвядомасцю* — сукупнасцю ідэй, уяўленняў, перакананняў, вераванняў, у якіх народ асэнсоўвае сябе як нацыю і ўсведамляе гістарычныя карані свайго паходжання. У XIX — пачатку XX ст. праваслаўныя ў сваёй большасці беларусы прызнавалі айчынай Расію, падтрымлівалі цара, слухаліся святароў, але ўсё ж адрознівалі сябе ад рускіх. Беларусы-католікі, у асноўным мясцовыя землеўладальнікі і шляхта, аддзяляючы сябе ад палякаў, называліся краёўцамі, або літвінамі.

Аб фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці сведчылі адносіны жыхароў Беларусі да мовы. Паводле перапісу 1897 г. беларускую мову прызналі роднай 60 % настаўнікаў, 40 % чыноўнікаў, 29 % паштова-тэлеграфных служачых, 20 % работнікаў медыцынскіх устаноў.

Знешняй формай праяўлення нацыянальнай самасвядомасці з’яўляецца назва народа. Яшчэ ў першай палове XIX ст. Цэнтральную і Заходнюю Беларусь нярэдка называлі Літвой, а яе насельніцтва — літвінамі. У канцы XIX — пачатку XX ст. частка насельніцтва Беларусі называла сябе *«тутэйшыя»*. У некаторых мясцовасцях існавалі рэгіянальныя назвы, якія адносіліся да значных тэрыторый: «палешукі» — для ўсяго Палесся, «пінчукі», «тураўцы» — для яго асобных частак. Перапіс 1897 г. засведчыў, што большасць жыхароў Беларусі ўжо засвоіла назву «беларусы» і трымалася яе. Тэрмін «Беларусь» і назва «беларусы» паступова замацаваліся за ўсёй тэрыторыяй пражывання беларускага народа.

**Роля газеты «Наша ніва» ў развіцці культуры Беларусі.** У 1906—1915 гг. у Вільні выходзіла легальная беларуская штотыднёвая грамадска-палітычная, навукова-асветніцкая, літаратурна-мастацкая газета «Наша ніва». Яе выданнем кіравалі лідары БСГ браты Антон і Іван Луцкевічы. Да 1912 г. газета друкавалася кірыліцай і лацінкай, пазней — толькі кірыліцай. «Наша




*Віленская інтэлігенцыя каля рэдакцыі «Нашай нівы»*



# Наша Ніва

Перщая Беларуская Газэта з Рысункамі

Выходзіць што тыдзень рускімі і польскімі літэрамі.

Адрас рэдакціі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вуліца, д. № 20.

Гэтымі днямі выйдзе з друку

Беларускі Календар

„НАШАЕ НІВЫ".

на 1910 г.

Цэна календара—15 кап., с перасылкай—20 кап.

Заказы на календар ужо прыймаюцца у кантоары „Нашае Нівы".

*Адзін з нумароў газеты «Наша ніва»*

ніва» арыентавалася пераважна на сялянства і сельскую інтэлігенцыю, дробных служачых і рабочых.



У артыкуле, які адкрываў першы нумар газеты, адзначалася: «Не думайце, што мы хочам служыць толькі ці панам, ці адным мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу...». Газета абвяшчала, што будзе «старацца, каб усе беларусы, што не ведаюць, хто яны ёсць, — зразумелі, што яны беларусы і людзі, каб пазналі сваё права...».



*Адзін з заснавальнікаў газеты «Наша ніва» І. Луцкевіч*

Сваю першачарговую і галоўную задачу «Наша ніва» бачыла ў барацьбе за прызнанне факта існавання беларускага народа, за яго раўнапраўнасць з іншымі народамі. Шмат увагі газета надавала тэарэтычнаму абгрунтаванню права беларускага народа на захаванне і развіццё сваёй мовы і нацыянальнай культуры. «Наша ніва» выступала супраць афіцыйнай царскай палітыкі, скіраванай на раскол беларускага народа паводле веравызнання на «рускіх» і «палякаў». Газета адыграла значную ролю ў абуджэнні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

**Афармленне беларускай нацыянальнай ідэі.** Разам з паступовым фарміраваннем беларускай нацыі зараджалася беларуская нацыянальная ідэя — уяўленні, у якіх прадстаўнікі інтэлігенцыі выражалі разуменне беларусаў як самастойнай і самабытнай супольнасці людзей і іх жыццёва важныя інтарэсы. У межах нацыянальнай ідэі фармуляваліся мэты і задачы беларускага народа на розных этапах гістарычнага развіцця. Сутнасцю беларускай нацыянальнай ідэі з'яўлялася дасягненне беларусамі самастойнага дзяржаўнага існавання.

Беларуская нацыянальная ідэя вырасла з усведамлення гістарычнай асобнасці і этнічнай своеасаблівасці нашых зямель. Гэта праяўлялася як у ліцвінскім патрыятызме, так і ў заходнерусізме. Прыхільнікі ліцвінскага патрыятызму звычайна не ўяўлялі будучыні свайго краю без Польшчы, а заходнерусізму — без Расіі. Тэарэтычнае абгрунтаванне самадастатковасці беларускага этнасу ўпершыню далі беларускія студэнты-гоманаўцы. Яны марылі пра аўтаномію ў складзе дэмакратычнай і федэратыўнай Расіі. У 1905 г. гоманаўскую ідэю працягнулі далей прыхільнікі БСГ, распрацаваўшы палажэнне аб нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай дзяржавы. Значную ролю ў фарміраванні беларускай нацыянальнай ідэі адыграла газета «Наша ніва».



Рэдактар «Нашай нівы» з 1914 г. Я. Купала спрыяў абуджэнню нацыянальнай свядомасці беларусаў у адным са сваіх вершаў так:

«А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы...
А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца».

Закладзеныя ў другой палове XIX — пачатку XX ст. асновы беларускай нацыянальнай ідэі і сёння служаць нам арыенцірам у жыцці і дзейнасці на карысць нашай Бацькаўшчыны.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *«тутэйшыя», нацыянальная самасвядомасць.*

## Пытанні і заданні

**1.** Складзіце кругавую дыяграму «Нацыянальны склад насельніцтва Беларусі ў 1897 г.». Вызначце асаблівасці нацыянальнага складу насельніцтва Беларусі і іх прычыны. **2.** Растлумачце, чаму ў XIX — пачатку XX ст. нацыяналь-

най інтэлігенцыі прыйшлося ствараць новую беларускую літаратурную мову. **3.** У чым заключаліся асаблівасці фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларусаў? **4.** Раскрыйце прычынна-выніковую сувязь паміж складваннем агульнасці гаспадарчага жыцця і самаўсведамленнем беларусамі сваёй этнічнай агульнасці. **5.** Чаму пачатак ХХ ст. у гісторыі Беларусі атрымаў назву «нашанiўскі перыяд»? Калі і з якімі мэтамі выходзіла газета «Наша ніва»? Пры адказе выкарыстайце змест артыкула, што адкрываў першы нумар газеты. **6.** Папрацуйце па метадзе ключавога слова з тэкстам абзаца, які пачынаецца словамі: «Афармленне беларускай нацыянальнай ідэі». **7.** Назавіце гістарычных асоб і дзеячаў культуры, якія ўнеслі ўклад у распрацоўку беларускай нацыянальнай ідэі. У чым заключаўся гэты ўклад? **8.** Дакажыце, што ў другой палове XIX — пачатку XX ст. адбываўся працэс фарміравання беларускай нацыі.

## § 29. АДУКАЦЫЯ І НАВУКА Ў 1860-х гг. — ПАЧАТКУ XX ст.

***Успомніце.*** Якія змены і па якіх прычынах адбыліся ў сістэме адукацыі ў Беларусі ў першай палове XIX ст.?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, на што былі скіраваны дзейнасць сістэмы адукацыі і навуковыя даследаванні пра беларусаў і Беларусь.

**Школьная рэформа.** Сярод шэрагу буржуазных рэформаў, праведзеных царскім урадам у 1860—1870-я гг., важнае месца займалі пераўтварэнні ў галіне адукацыі, якія пачаліся ў 1864 г. Школа абвяшчалася ўсесаслоўнай, уводзілася пераемнасць паміж рознымі ступенямі навучання. У адрозненне ад цэнтральных губерняў Расіі ў Беларусі не было земскіх школ. Да канца XIX ст. у Беларусі дзейнічалі «Часовыя правілы для народных школ», распрацаваныя ў 1863 г. пры віленскім генерал-губернатару М. М. Мураўёве. Згодна з імі ў кожнай губерні ствараліся дырэкцыі народных вучылішчаў. Чыноўнікі гэтых дырэкцый ажыццяўлялі нагляд за работай школ, прымалі на працу і звальнялі настаўнікаў. Гэта значыла, што грамадства не дапускалася да кіраўніцтва народнай адукацыяй. Падручнікі, якія рыхтаваліся для школ Паўночна-Заходняга краю, характарызаваліся сваім заходнярускім тлумачэннем гісторыі.

**Стан адукацыі.** Пачатковую адукацыю давалі народныя і гарадскія вучылішчы, якія адносіліся да Міністэрства народнай асветы, а таксама царкоўнапрыходскія школы і школы граматы. Найбольш прагрэсіўным тыпам школ з'яўляліся народныя вучылішчы. Яны былі адна- і двухкласныя. У праграму навучання ўваходзілі Закон Божы, руская мова, пачаткі арыфметыкі, царкоўныя спевы, рамёствы (для хлопчыкаў) і рукадзелле (для дзяўчынак).




*Адукацыя ў другой палове XIX — пачатку XX ст.*

*Царкоўнапрыходскія школы,* якія сталі адкрывацца ў беларускіх вёсках, належалі да Рускай праваслаўнай царквы. У пачатку XX ст. іх колькасць складала каля 5 тысяч. Настаўнікамі тут былі праваслаўныя святары, што не мелі спецыяльнай падрыхтоўкі. Дзяцей вучылі Закону Божаму, малітвам, асновам пісьма і ліку, кароткай царкоўнай і расійскай гісторыі. Царква лічыла галоўнай задачай выхаванне вернасці праваслаўю і цару, а не набыццё ведаў.



*Навучанне ў царкоўнапрыходскай школе*

Для адукацыі дзяцей дробнай буржуазіі, рамеснікаў, служачых, гандляроў, дробнай шляхты служылі 6-гадовыя гарадскія вучылішчы. Яны не давалі завершанай адукацыі. Толькі дзеці заможных бацькоў пасля дадатковай аплаты за падрыхтоўку па шэрагу прадметаў маглі паступіць у гімназіі ці настаўніцкія інстытуты.

Праблемай пачатковай адукацыі быў недахоп настаўнікаў. У 1864 г. у Маладзечне адчынілася першая на тэрыторыі Расійскай імперыі *настаўніцкая*



*Вучні 6-га класа Мінскай мужчынскай гімназіі. 1898 г.*

*семінарыя*. Навучэнцамі семінарый былі выключна праваслаўныя сялянскія хлопцы. Настаўніцкую семінарыю ў Нясвіжы скончыў і Я. Колас. У гэтых навучальных установах атрымлівалі адукацыю будучыя настаўнікі пачатковай школы. Але настаўнікаў для гарадскіх вучылішчаў і сярэдніх школ у Беларусі не рыхтавалі. Іх прысылалі з Масквы, Пецярбурга і Кіева.

Сярэднюю адукацыю ў другой палове XIX ст. давалі мужчынскія і жаночыя гімназіі, навучанне ў якіх было разлічана на 7 гадоў. Гімназіі падзяляліся на два тыпы: класічныя і рэальныя. Першыя спецыялізаваліся на гуманітарных навуках, другія — на прыродазнаўчых і тэхнічных. Выпускнікі класічных гімназій мелі права без экзаменаў паступаць ва ўніверсітэты, а рэальных гімназій — у тэхнічныя інстытуты. Пазней рэальныя гімназіі былі пераўтвораны ў рэальныя вучылішчы. У 1887 г. быў прыняты так званы ўказ «аб кухарчыных дзецях». У адпаведнасці з распараджэннем міністра асветы забаранялася



*Урок гімнастыкі ў зале Мінскай жаночай Марыінскай гімназіі. 1914 г.*

прымаць у гімназіі дзяцей кухарак, прачак, дробных гандляроў і іншых ніжэйшых саслоўяў. З-за высокай платы за навучанне да канца XIX ст. сярэдняя школа заставалася ўстановай для дзяцей прывілеяваных саслоўяў: шляхты, чыноўнікаў, духавенства, гарадской буржуазіі і заможных сялян. У канцы XIX ст. у беларускіх губернях пісьменныя складалі 25,7 % ад агульнай колькасці насельніцтва.

У пачатку XX ст. у Беларусі атрымала развіццё прафесійная адукацыя. Дзейнічалі чыгуначныя, сельскагаспадарчыя, рамесныя і іншыя школы і вучылішчы.

У 1864 г. за ўдзел студэнтаў і вучняў у паўстанні быў закрыты Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Пасля гэтага ў Беларусі не засталося вышэйшых навучальных устаноў, хоць патрэба ў іх была вялікая. У пачатку XX ст. адчыніліся настаўніцкія інстытуты ў Віцебску, Магілёве і Мінску. Аднак яны не з'яўляліся вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Выпускнікі настаўніцкіх інстытутаў не мелі права паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Вышэйшую адукацыю беларуская моладзь атрымлівала па-за межамі радзімы — у Маскве, Пецярбургу, Кіеве і іншых універсітэцкіх цэнтрах Расіі.

**Навуковыя даследаванні аб мове, этнаграфіі беларусаў, гісторыі Беларусі.** У другой палове XIX ст. беларусы сталі аб'ектам павышанай цікавасці расійскіх і замежных вучоных. Царскі ўрад адразу пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. мабілізаваў афіцыйную навуку на пошук доказаў таго, што Беларусь спрадвеку была часткай Расійскай імперыі, а беларусы ўяўлялі сабой заходнюю галіну «рускага племені».

У 1860—1910-я гг. былі сабраны і апублікаваны ўнікальныя матэрыялы пра мову і духоўную культуру беларускага народа. Яны насуперак афіцыйным установкам царскага ўрада засведчылі факт існавання самастойнага беларускага этнасу. У даследаваннях пераважаў кірунак, звязаны з развіццём беларусазнаўства. Так, ***Павел Шэйн*** у трохтомніку «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (1887—1902) сабраў вялікую колькасць фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў.

Адным з першых буйных даследчыкаў Беларусі быў мовазнаўца і этнограф ***Іван Насовіч***, ураджэнец Быхаўскага павета. Асноўнай яго працай стаў «Слоўнік беларускай мовы», выдадзены ў 1870 г., над якім вучоны працаваў 30 гадоў. У гэтым выданні змешчана больш за 30 тыс. слоў, якія адлюстроўваюць усё багацце беларускай мовы XIX ст., дадзены іх грунтоўныя тлумачэнні. Падобнай працы да таго часу не было ва ўсім славянскім мовазнаўстве. Слоўнік І. Насовіча не страціў сваіх вартасцей і цяпер, бо ён дазваляе адшукаць словы, якія зніклі.

Сцвярджэнню самабытнасці беларускага народа спрыяў вядомы беларускі вучоны-краязнавец, ураджэнец Гомельшчыны ***Еўдакім Раманаў***. Своеасаб-



*Я. Карскі*

лівай энцыклапедыяй побыту і культуры беларусаў стаў яго шматтомны «Беларускі зборнік» (1886—1912). Е. Раманаў сабраў звесткі пра вялікую колькасць гарадзішчаў і курганоў у Беларусі, працаваў над стварэннем археалагічных карт Магілёўскай, Віцебскай і Гродзенскай губерняў, выявіў Бердыжскую стаянку першабытных людзей, адкрыў Барысаў камень — помнік XII ст.

Вялікім укладам у даследаванне мовы беларусаў з'явіліся працы ***Яўхіма Карскага***. Першым сярод беларусаў ён атрымаў званне акадэміка Расійскай Акадэміі навук. Сусветную вядомасць вучонаму прынесла трохтомнае выданне «Беларусы» (1903—1922). Я. Карскі паказаў самастойнасць беларускай мовы ў сям'і іншых славянскіх моў, вызначыў тэрытарыяльныя межы яе распаўсюджання і склаў адпаведную карту. Даследчык навукова абгрунтаваў нацыянальную самабытнасць беларусаў як самастойнага славянскага народа, які стварыў сваю багатую і арыгінальную культуру і мае старажытныя традыцыі. Даследаванне Я. Карскага стала сапраўднай «энцыклапедыяй беларусазнаўства».




*Межы рассялення беларусаў. Сярэднебеларускія гаворкі*

У другой палове 1880-х гг. з ідэяй аб самабытнасці беларускага этнасу і яго праве на самастойную палітычную будучыню выступіў гісторык ***Мітрафан Доўнар-Запольскі***.



*М. Доўнар-Запольскі*



У адной са сваіх прац М. Доўнар-Запольскі адзначаў: «Народ, які пазбаўлены палітычнага жыцця... які часам на цэлыя стагоддзі сыходзіў з палітычнай арэны і як бы заміраў, такі народ, калі ён не страціў мовы сваёй, этнаграфічных асаблівасцей і інш., зноў выходзіць на арэну, калі не на палітычную, то, у крайнім выпадку, сацыяльнага і разумовага жыцця».

Глыбока перакананы ў тым, што ўсведамленне беларусамі сябе як самастойнай нацыі немагчымае без ведання мінуўшчыны, быў Вацлаў Ластоўскі. Ён стаў першым беларускім гісторыкам, які пісаў пра Беларусь і для беларусаў на беларускай мове. Новым у яго «Кароткай гісторыі Беларусі», выдадзенай у 1910 г. у Вільні, было імкненне адлюстраваць беларускі народ як творцу свайго лёсу (**1, 2).

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *царкоўнапрыходскія школы, настаўніцкія семінарыі.*

### Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** Шырокую вядомасць у Еўропе атрымала навуковая дзейнасць у прыродазнаўчай галіне ўраджэнца Міншчыны Якуба Наркевіча-Ёдкі (1847—1905). За ўласныя сродкі ён пабудаваў у сваім маёнтку метэаралагічную станцыю, адкрыў санаторый, дзе паспяхова выкарыстоўваў уласную методыку лячэння хвароб з дапамогай электратоку — электратэрапію і электрамасаж. Даследаваў атмасферную электрычнасць, вынайшаў громаадвод, а таксама тэлеграф — прыстасаванне для бяздротавай перадачы электрамагнітных сігналаў на адлегласць.



*Я. Наркевіч-Ёдка*

****2.** Сёння для нас звыкла, што сярод урачоў шмат жанчын. А вось у XIX ст. гэта было не так. Першай у Расіі атрымала вышэйшую медыцынскую адукацыю, што для жанчыны зрабіць было

няпроста, наша зямлячка Варвара Кашаварава-Руднева. У 1876 г. яна абараніла ў Медыка-хірургічнай акадэміі ў Санкт-Пецярбургу доктарскую дысертацыю па медыцыне. Такім чынам, ураджэнка Магілёўшчыны стала першай у Расіі жанчынай — доктарам медыцыны. Яе шматлікія навуковыя працы па акушэрстве і гінекалогіі былі шырока вядомы ў Расіі і за яе межамі. А першай у Еўропе жанчынай — прафесарам філасофіі стала ў 1909 г. ураджэнка Віцебшчыны Ганна Тумаркіна. З 1892 г. яна жыла ў Швейцарыі, дзе паступіла ў Бернскі ўніверсітэт і паспяхова абараніла дысертацыю па філасофіі. Сёння адна з вуліц у Берне названа імем нашай зямлячкі.

### Пытанні і заданні

**1.** Пералічыце мерапрыемствы царскага ўрада ў галіне адукацыі пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. і растлумачце іх характар. **2.** Складзіце схему, якая адлюстроўвае структуру сістэмы адукацыі ў Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. Выкарыстайце адпаведную картасхему ў параграфе. **3.** Параўнайце царкоўнапрыходскія школы і народныя вучылішчы, класічныя і рэальныя гімназіі. План параўнання складзіце самастойна. Аформіце параўнанне ў выглядзе табліцы. **4.** Растлумачце, чаму падручнікі для школ Паўночна-Заходняга краю характарызаваліся заходнярускім тлумачэннем гісторыі. **5.** Прывядзіце аргументы, якія выкарыстоўвалі І. Насовіч, М. Доўнар-Запольскі, Я. Карскі, В. Ластоўскі для доказу існавання самастойнага беларускага этнасу. Выкарыстайце картасхему «Межы рассялення беларусаў. Сярэднебеларускія гаворкі». **6.** Пачніце запаўненне ў сшытку табліцы «Дасягненні ў развіцці навукі і культуры Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.».

| Прозвішча дзеяча навукі і культуры | Уклад у развіццё навукі і культуры |
|---|---|
| | |

## § 30. БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРА І ТЭАТР У 1860-х гг. — ПАЧАТКУ XX ст.

***Успомніце.*** Каго з дзеячаў культуры лічаць першым класікам новай беларускай літаратуры?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, у чым заключаецца запавет дзеячаў беларускай літаратуры, якія жылі на мяжы XIX—XX стст., нам, беларусам XXI ст.

**Развіццё беларускай літаратуры.** Напярэдадні сялянскай рэформы 1861 г. і паўстання 1863—1864 гг. пашыраным жанрам у беларускай літаратуры была

ананімная (без вызначэння аўтарства) вершаваная гутарка. Такія творы напісаны жывой народнай мовай, у іх ставіліся набалелыя пытанні паўсядзённага жыцця народа ці грамадскай маралі. Найбольш вядомымі з'яўляліся «Гутарка Данілы са Сцяпанам», «Гутарка двух суседаў», «Гутарка старога дзеда».



*Ф. Багушэвіч*

Вяршыняй беларускай літаратуры другой паловы XIX ст. стала творчасць ***Францішка Багушэвіча***, які нарадзіўся ў фальварку Свіраны Віленскага павета. Ён — аўтар двух паэтычных зборнікаў: «Дудка беларуская» і «Смык беларускі», што выйшлі з друку ў канцы XIX ст. у Кракаве і Познані пад псеўданімамі Мацей Бурачок і Сымон Рэўка з-пад Барысава. Галоўны герой твораў паэта — беларускі селянін, якога абдзялілі пры скасаванні прыгону, абдзірае казна, крыўдзяць суд і царскія чыноўнікі, але ён не скарыўся, захаваў сваю чалавечую годнасць. Багушэвіч глядзеў на беларускую мову як на мову, «нам ад Бога дадзеную», «для нас святую», лічыў яе асновай існавання нацыі. Ён заклікаў шанаваць і любіць сваю родную мову, папярэджваў народ аб тым, што, страціўшы мову, ён знікне як этнас.



У прадмове да «Дудкі беларускай» Ф. Багушэвіч пісаў: «Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую... „мужыцкай" завуць, а завецца яна „беларускай". Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так, як той чалавек прад скананнем, катораму мову зойме, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!..»



*А. Пашкевіч (Цётка)*

Любоўю да сялян, да «роднай старонкі», імкненнем бачыць свой народ адукаваным і шчаслівым прасякнута паэзія ***Янкі Лучыны*** (Івана Неслухоўскага). Дзяцінства паэта прайшло ў Мінску. Беларускія вершы Лучыны ўвайшлі ў зборнік «Вязанка», які выйшаў пасля смерці паэта. Найбольш вядомы яго твор — верш «Роднай старонцы», у якім аўтар выказаў сваю любоў да радзімы.

Буйной постаццю ў беларускай паэзіі пачатку XX ст. з'ўлялася ***Алаіза Пашкевіч***, вядомая пад псеўданімам ***Цётка***. Яна ўдзельнічала ў заснаван-

ні БСГ. Першыя зборнікі паэтэсы «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская» выйшлі нелегальна. Цётка прапагандавала навучанне на роднай мове. Для дзяцей яна выдала падручнік-хрэстаматыю «Першае чытанне для дзетак беларусаў».



Радкі з публіцыстычных артыкулаў Цёткі «Як нам вучыцца» і «Шануйце роднае слова!» гучаць і сёння як заклік да нас з вамі: «Доўга мы, беларусы, цураліся сваёй мовы і, як кажуць, хаваліся з ёю за печ перад чужымі людзьмі. Вось і злажылася нейкая дурная пагаворка, што наша мова хамская, брыдкая, што на ёй не можна гаварыць з вучоным чалавекам, ані пісаць кніжак, як на іншых „далікатных“ мовах. Але гэта толькі выдумка...»

«...На вас — моладзі — ляжыць вялікая павіннасць: развіваць далей родную мову... Толькі не кідайце роднай мовы: бо запраўды для свайго народу тады вы ўмёрлі! Мейце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова. Мейце смеласць усюды голасна казаць па-свойму...»

У пачатку ХХ ст. раскрыліся паэтычныя таленты заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы Янкі Купалы і Якуба Коласа.

***Янка Купала*** (Іван Дамінікавіч Луцэвіч) нарадзіўся ў фальварку Вязынка Мінскага павета. Першы яго верш «Мужык» з’явіўся ў 1905 г. Ужо сваімі першымі паэтычнымі кнігамі «Жалейка» і «Гусляр» паэт прыцягнуў да сябе ўвагу чытачоў. Зборнік вершаў «Шляхам жыцця» фактычна стаў найвышэйшым дасягненнем тагачаснай беларускай літаратуры. Паэмы Я. Купалы «Курган», «Бандароўна» ўзнялі гэты жанр на якасна новую ступень. Яго п’есы «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» сталі вызначальнай з’явай беларускага тэатральнага жыцця ў пачатку ХХ ст.

Я. Купала імкнуўся абудзіць у чытачоў пачуццё годнасці і ўдзячнасці да продкаў, якія былі здольныя бараніць зямлю ад ворагаў, развіваць самабытную культуру. У час рэвалюцыі 1905—1907 гг. паэт падтрымаў народ у барацьбе супраць самадзяржаўя.



У адным са сваіх вершаў Я. Купала пісаў:

«...К свабодзе, роўнасці і знанню
Мы працярэбім сабе след!
І будзе ўнукаў панаванне
Там, дзе сягоння плача дзед!»



*Я. Купала*

Набыў папулярнасць сваімі творамі і ***Якуб Колас*** (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч), ураджэнец засценка Акінчыцы Мінскага павета (цяпер у межах горада Стоўбцы). У першым зборніку вершаў «Песні жальбы» Я. Колас апаэтызаваў вобраз беларуса-мужыка, які, нягледзячы на цяжкія ўмовы жыцця, застаецца аптымістам і верыць у адраджэнне роднага краю. У 1911 г. Колас пачаў працу над паэмамі «Новая зямля» і «Сымон-музыка».



*Я. Колас*

Значна ўзбагаціў беларускую паэзію і вывеў яе на еўрапейскі ўзровень ***Максім Багдановіч***. Ён нарадзіўся ў Мінску, у маленстве жыў у Гродне, але большую частку свайго нядоўгага 25-гадовага жыцця правёў за межамі радзімы. Адзіны прыжыццёвы зборнік паэта «Вянок», у які ўвайшлі вершы, напісаныя ім у 17—20-гадовым узросце, быў выдадзены ў Вільні ў 1913 г. Творчасць М. Багдановіча прасякнута любоўю да роднай зямлі, яе народа (**).



У вершы-гімне «Пагоня» М. Багдановіч выказаў трывогу за сваю Радзіму:

«Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах, —
Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях...
У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады...
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?..»



*М. Багдановіч*

**Станаўленне беларускага прафесійнага тэатра.** У пачатку XX ст. мясцовыя артысты праводзілі ў гарадах і вёсках так званыя *беларускія вечарынкі*. Гэта былі своеасаблівыя тэатральна-канцэртныя паказы, на якіх чыталіся ўголас творы беларускіх аўтараў, выконваліся народныя песні і танцы, ставіліся спектаклі.

На традыцыях беларускіх вечарынак у 1907 г. самадзейны мастацкі калектыў стварыў у сваім фальварку ***Ігнат Буйніцкі***, якога па праве называюць «бацькам беларускага тэатра». З групай аматараў ён пачаў наладжваць кан-



*І. Буйніцкі (у цэнтры) з акцёрамі свайго тэатра*

цэрты, якія прыцягвалі мноства гледачоў тым, што са сцэны гучала іх родная мова, чаго яны ніколі раней не чулі. Калектыў атрымаў назву «Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага». Яна была прафесійным нацыянальным тэатрам, што дзейнічаў у 1910—1913 гг. Трупа складалася з драматычных акцёраў, харыстаў, танцораў (каля 70 чалавек). У гэты тэатральны калектыў уваходзілі дочкі Буйніцкага, А. Пашкевіч і інш. Сам І. Буйніцкі быў і рэжысёрам, і акцёрам, і танцорам. Тэатр гастраляваў па гарадах Беларусі, у Вільні, Варшаве, Пецярбургу і ўсюды карыстаўся вялікім поспехам.



Пасля выступлення тэатра І. Буйніцкага ў Пецярбургу адзін з гледачоў адзначыў: «Як выйшаў... са сваімі танцорамі і сялянамі — дударом, цымбалістам і скрыпачом — беларусамі, — па-прастому паварочваючыся, дык гэта адразу прынялі ўсе з захапленнем... А калі... пайшоў „Лявоніху“, а за ім чарада хлопцаў з дзяўчатамі, як пачалі прытупваць, падскокваць, дык уся публіка, тысяч восем народу — як ударыла ў далонькі, як закрычала „брава, брава, беларусы“. Ніколі і нідзе не бачыў, каб гэтак што спадабалася... пецярбуржцам, як беларускія танцы... Потым публіка распытвалася... скуль і якія гэта беларусы з’явіліся? Бо раней іх не чуваць было!»

Аднак тэатр І. Буйніцкага працаваў у нялёгкіх умовах. Мясцовыя ўлады часта забаранялі яго выступленні. Трупу ўзялі пад паліцэйскі нагляд. У кожным слове Буйніцкага на сцэне і па-за ёй шукалі вальнадумства. Так, пасля пастаноўкі ў Слуцку камедыі К. Каганца «Модны шляхцюк», у якой высмейваліся і развенчваліся пагардлівыя адносіны шляхты да простых людзей, мясцовая шляхта, убачыўшы сябе ў п’есе як у люстэрку, дамаглася забароны гастроляў тэатра ў сваім павеце.

Пад уплывам трупы Буйніцкага набыў шырокі размах аматарскі тэатральны рух. Так, з 1910 г. у Вільні на аматарскіх пачатках дзейнічаў Беларускі музычна-драматычны гурток, якім кіраваў А. Бурбіс. Ён ажыццявіў першую пастаноўку камедыі Я. Купалы «Паўлінка». Створанае ў 1917 г. у Мінску Фларыянам Ждановічам пры ўдзеле І. Буйніцкага Першае беларускае таварыства драмы і камедыі ўпершыню паставіла на сцэне драму Я. Купалы «Раскіданае гняздо».

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *беларускія вечарынкі.*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

** У 1972 г. у Мінску быў узведзены помнік Я. Коласу на аднайменнай плошчы. Сядзіць на камені дзядька Якуб, задумаўся аб нечым, падпёр рукою галаву, а ў другой руцэ — кніга. Побач размешчаны дзве кампазіцыі — «Дзед Талаш» і «Сымон-музыка», у якіх увасоблены коласаўскія літаратурныя героі.

У тым жа годзе ў мінскім парку каля Свіслачы ўзвялі помнік Я. Купалу. На вялікім гранітным пастаменце стаіць манументальная фігура з сукаватай палкай у руцэ. Каля падножжа — крынічка і папараць-кветка.

У 1981 г. насупраць будынка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР у Мінску (цяпер Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь) паўстаў помнік М. Багдановічу. У 2008 г. помнік перанесены бліжэй да вуліцы, якая носіць імя М. Багдановіча. У бронзе адлюстраваны вобраз паэта — рамантыка і лірыка.

У 1998 г. у Шчучыне, на радзіме беларускай паэтэсы-рэвалюцыянеркі А. Пашкевіч (Цёткі), ёй пастаўлены помнік.

У 2009 г. у Дзень беларускага пісьменства ў Смаргоні быў адкрыты помнік Ф. Багушэвічу. Названыя помнікі — знак нашай памяці і ўдзячнасці дзеячам беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння пачатку XX ст.



*Помнік Ф. Багушэвічу ў Смаргоні*

## Пытанні і заданні

**1.** Як вы лічыце, чаму галоўным героем твораў Ф. Багушэвіча і Я. Коласа з'яўляўся селянін? **2.** Чаму прадстаўнікі беларускай літаратуры такую вялікую ўвагу надавалі пытанню захавання роднай мовы? **3.** Растлумачце, які сэнс мелі псеўданімы І. Неслухоўскага, І. Луцэвіча, К. Міцкевіча. **4.** Вы-

значце, якія літаратурныя творы і тэатральныя пастаноўкі садзейнічалі абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. **5.** Дакажыце, што творчасць М. Багдановіча прасякнута пачуццём патрыятызму. **6.** Растлумачце прычыны пытання жыхароў Пецярбурга «Скуль і якія гэта беларусы з'явіліся?» пасля выступлення трупы І. Буйніцкага. **7.** Прадоўжыце запаўненне ў сшытку табліцы «Дасягненні ў развіцці навукі і культуры Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.».

## § 31. ЖЫВАПІС І АРХІТЭКТУРА БЕЛАРУСІ Ў 1860-х гг. — ПАЧАТКУ XX ст.

***Успомніце.*** **1.** Што ўяўляў сабой рамантызм у культуры Беларусі першай паловы XIX ст.? **2.** Знайдзіце на старонках вучэбнага дапаможніка выявы малюнкаў Н. Орды, карцін М. Шагала, К. Альхімовіча, Ю. Пэна.

***Вучэбная задача.*** Вызначыць, якія падзеі і з'явы з гісторыі, прыроды, гаспадаркі Беларусі, а таксама асабістага жыцця сталі сюжэтамі для беларускіх мастакоў і знайшлі адлюстраванне ў помніках архітэктуры на мяжы XIX—XX стст.

**Жывапіс.** У другой палове XIX ст. сярод творчай інтэлігенцыі пашырылася цікавасць да гісторыі і побыту беларускага народа. У беларускім жывапісе запанаваў мастацкі стыль рэалізм, прадстаўнікі якога імкнуліся аб'ектыўна адлюстроўваць рэчаіснасць.

Адным з найбольш вядомых жывапісцаў Беларусі другой паловы XIX ст. быў ***Казімір Альхімовіч***. Яго карціна «Пахаванне Гедыміна» атрымала сусветную вядомасць. Мастак сімпатызаваў простаму народу. У шэрагу сваіх карцін, такіх як «Жніво», «Парабкава хата», «Найманне работнікаў», Альхімовіч паказаў пакутлівы лёс і цяжкую працу сялян. Мастак стварыў таксама серыю карцін па матывах творчасці А. Міцкевіча.

Імкненне адлюстраваць старонкі гісторыі выявілася ў творчасці мастака, піяніста і кампазітара ***Напалеона Орды***. Ён нарадзіўся ў Пінскім павеце. Завочны прысуд да смяротнага пакарання за ўдзел у паўстанні 1830—1831 гг. прымусіў яго выехаць у Францыю. Атрымаў мастацкую адукацыю ў Парыжы, вучыўся музыцы ў вядомага польскага кампазітара Фрыдэрыка Шапэна. Пры сумесных выступленнях у парыжскіх салонах Шапэн неаднойчы прапаноўваў публіцы здагадацца, калі яны іграюць сваю музыку, а калі выконваюць творы адзін аднаго. Амаль 25 гадоў Орда падарожнічаў па Беларусі, Украіне, Польшчы, Літве, зрабіў каля 1000 замалёвак мясцін, звязаных з жыццём вядомых людзей, і архітэктурных помнікаў, у тым ліку Камянецкай вежы, па-

лацаў і замкаў у Міры, Навагрудку, Нясвіжы, Гродне, Лідзе. Малюнкі Н. Орды вызначаюцца строгай дакументальнасцю і дакладнасцю.

Адной з цэнтральных тэм беларускага жывапісу другой паловы XIX — пачатку XX ст. стаў народ, яго цяжкі лёс і праца. Жыццё беларускіх сялян адлюстравана ў творчасці ***Нікадзіма Сілівановіча***. Яго карціны «Дзеці ў двары», «У школу», «Стары пастух» прасякнуты цеплынёй і любоўю да простага народа. Сілівановіч прымаў удзел у афармленні славутага Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу. Разам з пецярбургскімі мастакамі беларускі жывапісец удзельнічаў у стварэнні мазаічнага пано «Тайная вячэра» для галоўнага іканастаса сабора. За гэтую работу яму было прысвоена званне акадэміка.



*Н. Сілівановіч.*
*Стары пастух*

На мяжы XIX—XX стст. найбольш папулярным жанрам мастацтва стаў пейзаж. Выдатным пейзажыстам таго часу быў ***Апалінар Гараўскі***. Мастак апяваў у сваіх творах прыгажосць беларускай прыроды і народны побыт. Карціны «Вечар у Мінскай губерні», «На радзіме», «Рака Бярэзіна» і іншыя атрымалі высокую ацэнку спецыялістаў. Некаторыя з твораў мастака набыў для сваёй галерэі П. М. Траццякоў. Адной з лепшых прац жывапісца стала палатно «Старая моліцца», якое карысталася вялікім поспехам на выстаўках у Расіі і за мяжой. Карціну высока ацаніў вядомы рускі мастак ***Ілья Рэпін***. На працягу шэрагу гадоў І. Рэпін жыў у сваім маёнтку Здраўнёва пад Віцебскам, дзе напісаў адну з вядомых карцін — «Беларус» (**1). Па эцюдах, якія былі



*А. Гараўскі.*
*Вечар у Мінскай губерні.*
*1870-я гг.*



І. Рэпін. Беларус. 1892 г.

створаны ў Белавежскай пушчы, напісаў свае лепшыя палотны рускі пейзажыст І. Шышкін.

Яркай старонкай у гісторыі беларускага пейзажнага жывапісу стала творчасць ***Вітольда Бялыніцкага-Бірулі***. Вялікі ўплыў на яго станаўленне як мастака аказаў вядомы рускі жывапісец І. Левітан. Кожная карціна В. Бялыніцкага-Бірулі — роздум пра бясконца цудоўную родную прыроду. Мастак з замілаваннем увасабляў вобраз вясны, якой ён прысвяціў каля 200 сваіх палотнаў. Яго карціны карысталіся нязменным поспехам на міжнародных выстаўках, іх набывалі вядомыя калекцыянеры. Сам творца атрымаў званне акадэміка жывапісу.

Прыватную мастацкую школу стварыў у Віцебску ў канцы XIX ст. ***Юдаль Пэн***. Ён адлюстроўваў нацыянальныя рысы яўрэйскага побыту, стварыў цэлую галерэю вобразаў людзей з народа («Гадзіншчык», «Стары кравец», «Жабрак» і інш.). У школе Пэна займаўся ўраджэнец Віцебска ***Марк Шагал***, які пазней эміграваў у Францыю, дзе набыў сусветную вядомасць і стаў адным з буйнейшых мастакоў XX ст. (**2).



М. Шагал прысвяціў сваёй радзіме нямала карцін. Сярод іх — «Я і вёска», «Скрыпач», «Над Віцебскам». Будучы за мяжой, ён пісаў пра свой родны Ві-



В. Бялыніцкі-Біруля. Ізумруд вясны. 1915 г.

цебск: «Як даўно, мой горад любімы, я не бачыў цябе, не чуў, не размаўляў з аблокамі тваімі, не абапіраўся на агароджы твае. Падобна сумнаму вечнаму падарожніку, дыханне тваё я пераносіў з аднаго палатна на іншае, усе гэтыя гады я звяртаўся да цябе, ты мроіўся мне як ува сне».

**Развіццё архітэктуры.** У другой палове XIX ст. у беларускім дойлідстве спалучаліся элементы розных мастацкіх стыляў мінулага. Архітэктары захапляліся так званым псеўдарускім стылем, які быў арыентаваны на візантыйскія і старажытнарускія ўзоры. У гэтым стылі па ўсёй Беларусі разгарнулася будаўніцтва так званых *цэркваў-«мураўёвак»*, назва якіх пайшла ад прозвішча ініцыятара іх будаўніцтва віленскага генерал-губернатара М. М. Мураўёва. Выкарыстоўвалася таксама архітэктурная спадчына Заходняй Еўропы: готыка, рэнесанс, барока, класіцызм.

Адны архітэктары ішлі па шляху механічнага капіравання гістарычных формаў, другія імкнуліся да творчага спалучэння традыцый мінулага і новых з'яў. Будынкі банкаў і навучальных устаноў звычайна ўзводзіліся ў стылі класіцызму, тэатры — барока, касцёлы — неаготыкі, праваслаўныя храмы будаваліся ў псеўдарускім стылі. З сярэдзіны XIX ст. менавіта гэтыя збудаванні пачалі фарміраваць новае мастацкае аблічча гарадоў.

Для псеўдарускага стылю было характэрна традыцыйнае пяцікупалле, цыбулепадобныя купалы, высокія шатровыя званіцы, багаты дэкор у вы-



*Свята-Васкрасенскі сабор у Барысаве*



*Касцёл Святых Сымона і Алены ў Мінску*

глядзе какошнікаў. Прыкладамі выкарыстання псеўдарускага стылю сталі капліца князёў Паскевічаў у Гомелі, Пакроўскі сабор у Гродне, Свята-Васкрасенскі сабор у Барысаве, а таксама свецкая архітэктура Магілёва (будынкі тэатра, гарадской управы, жаночай гімназіі, рэальнага вучылішча).



*Касцёл Прасвятой Тройцы ў Відзах*

У другой палове XIX — пачатку XX ст. назіраўся росквіт неагатычнага стылю. У гэтым стылі былі ўзведзены касцёл Святога Роха ў Мінску, названы ў гонар святога, вядомага сярод каталікоў як абаронца людзей і жывёл ад розных эпідэмій, а таксама касцёлы ў Відзах, Вілейцы, Паставах. Касцёлы будаваліся пераважна з чырвонай цэглы, іх фасады звычайна не атынкоўваліся. Для ўнутранага ўбрання касцёлаў былі характэрны вітражы, фрэскі. Элементы раманскай і гатычнай архітэктуры спалучыліся ў касцёле Святых Сымона і Алены, узведзеным у пачатку XX ст. у Мінску (**3). Псеўдагатычныя формы ўжываліся таксама ў фабрычна-заводскіх будынках.

Многія архітэктары ў пошуках нацыянальнай адметнасці звярталіся да мясцовай спадчыны Сярэдневякоўя і спрабавалі яе творча пераасэнсаваць. Адной з яркіх асаблівасцей беларускай архітэктуры стала выкарыстанне прыроднага каменю. Найбольшай папулярнасцю гэты будаўнічы матэ-

рыял карыстаўся ў Заходняй і Цэнтральнай Беларусі (касцёлы ў вёсцы Ліпнішкі Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці, у вёсцы Гожа Гродзенскага раёна). Нацыянальная самабытнасць беларускай архітэктуры выявілася ў насычэнні помнікаў этнаграфічнымі дэталямі (Холмская брама ў Брэсцкай крэпасці, будынак Мінскай жаночай гімназіі), выкарыстанні мастацкага кавальства (дом купца Мураўёва ў Гродне), дэкаратыўнай керамікі (Мірская капліца).

На мяжы XIX—XX стст. узнік архітэктурны стыль мадэрн. Для яго было характэрна адмаўленне ад механічнага капіравання гістарычных архітэктурных формаў. Пашырыліся новыя тыпы пабудоў (чыгуначныя вакзалы, масты, прамысловыя збудаванні), новыя будаўнічыя матэрыялы і канструкцыі (цэмент, металічная арматура). Шырока выкарыстоўвалася шкло. У стылі мадэрн у Беларусі былі пабудаваны банк у Віцебску, жылыя дамы ў Мінску, Гродне, Гомелі, Магілёве, гасцініца «Еўропа» ў Мінску і інш. (**4).

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *цэрквы-«мураўёўкі».*

## Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** Сёння на месцы маёнтка Здраўнёва, набытага І. Рэпіным у 1892 г., адноўлены музей-сядзіба. Пакупка стала магчымай для мастака пасля персанальнай выставы, дзе паказвалася вядомая карціна «Запарожцы пішуць ліст да турэцкага султана», якую ў далейшым набыў імператар Аляксандр III за 35 тыс. рублёў. У Здраўнёве мастак напісаў каля 60 карцін, у тым ліку партрэты сваіх дзяцей, эцюд «Беларус», мадэллю для якога стаў звычайны селя-



*Музей-сядзіба І. Рэпіна ў Здраўнёве пад Віцебскам*

нін — жыхар суседняй вёскі. У пачатку XX ст. І. Рэпін прадаў большую частку зямель сваёй сядзібы сялянам на выгадных для іх умовах.

****2.** У 1908—1910 гг. М. Шагал быў адным з вучняў выдатнага тэатральнага мастака, ураджэнца Гродна Леона Бакста (Льва Самойлавіча Розенберга). Бакст праславіўся сваімі эскізамі дэкарацый і касцюмаў для артыстаў балета, у тым ліку дэкарацыямі да спектакляў «Рускіх сезонаў» — своеасаблівага фестывалю рускага мастацтва, які праходзіў у 1907—1914 гг. у Парыжы. Касцюмы мастака ўражвалі гледачоў сваёй фантазіяй, казачнай раскошай, вытанчанасцю, спалучэннямі фарбаў, раскрывалі малюнак танца і характар музыкі. У 1914 г. мастак быў абраны членам Імператарскай Санкт-Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў.

Еўрапейскую вядомасць набыў ураджэнец мястэчка Смілавічы Ігуменскага павета Мінскай губерні Хаім Суцін. Ён вучыўся ў мастацкай школе Я. Кругера ў Мінску. Потым прадоўжыў навучанне ў Вільні, а адтуль у 1913 г. у 19-гадовым узросце выехаў у Парыж. Тут ён пасяліўся ў адным доме з М. Шагалам. У Парыжы да Суціна прыйшлі вядомасць і папулярнасць. Героі яго карцін падобныя на яго — такія ж жабракі, якім ён быў першыя гады свайго жыцця ў Францыі. Калі ў 1943 г. Суцін памёр у акупіраваным фашыстамі Парыжы, за яго труной ішоў адзін чалавек. Гэта быў П. Пікаса.



*Х. Суцін. Аўтапартрэт каля мальберта. 1918 г.*

У цэнтры Парыжа пастаўлены помнік нашаму славутаму земляку. У пачатку 1990-х гг. яго карціны, выстаўленыя на аўкцыёнах, каштавалі мільёны долараў. На жаль, ніводнай карціны Х. Суціна ў Беларусі няма. Толькі зусім нядаўна імя мастака стала шырока вядомае на яго радзіме, дзе ствараецца музей.



*Э. Вайніловіч*

****3.** Касцёл Святых Сымона і Алены прапанаваў пабудаваць гаспадарчы і палітычны дзеяч Беларусі Эдвард Вайніловіч, адзін з буйнейшых землеўладальнікаў Мінскай губерні. Ён быў старшынёй Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі, тройчы абіраўся ў Дзяржаўную думу Расійскай імперыі. П. А. Сталыпін прапаноўваў яму месца міністра сельскай гаспадаркі і называў «мінскім Бісмаркам». На працягу 35 гадоў Э. Вайніловіч выконваў абавязкі міравога суддзі ў Слуцкім павеце.



*Гасцініца «Еўропа» ў Мінску. Пачатак XX ст.*

Касцёл быў пабудаваны ў 1905—1910 гг. у памяць аб памерлых дзецях Э. Вайніловіча. Спачатку ў 12-гадовым узросце памёр іх сын Сымон, а ў 1903 г., не дажыўшы толькі адзін дзень да свайго 19-годдзя, — дачка Алена. Перад смерцю яна папрасіла бацьку пабудаваць храм, выгляд якога ёй прысніўся і быў адлюстраваны на яе малюнку. У 2006 г. у касцёле быў перазахаваны прах Э. Вайніловіча.

****4.** Гасцініца «Еўропа» ў Мінску не саступала лепшым гатэлям Еўропы. Будынак быў шасціпавярховы. Кожны са 130 нумароў гасцініцы быў абсталяваны паводле апошняга слова тагачаснай тэхнікі. Тут было электрычнае асвятленне, тэлефон, ванна, вадзяное ацяпленне. У гасцініцы дзейнічаў адзіны ў горадзе ліфт, які называлі тады «пад'ёмнай машынай». Паглядзець на гэты цуд жыхары Мінска прыходзілі цэлымі сем'ямі. У 2008 г. адбылася рэканструкцыя будынка, у якім сёння размяшчаецца гатэль еўрапейскага класа.

## Пытанні і заданні

**1.** Якія сюжэты адлюстраваны на карцінах К. Альхімовіча і Н. Сілівановіча? **2.** Чаму замалёўкі Н. Орды маюць вялікую каштоўнасць для гісторыі? **3.** Якую асаблівасць жыцця гарадскіх жыхароў адлюстроўваюць карціны Ю. Пэна, М. Шагала? **4.** Аб якіх абставінах грамадска-палітычнага жыцця сведчыла будаўніцтва па ўсёй Беларусі так званых цэркваў-«мураўёвак»? **5.** Закончыце запаўненне ў сшытку табліцы «Дасягненні ў развіцці навукі і культуры Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.». **6.** Запоўніце ў сшытку табліцу «Мастацкія стылі ў помніках архітэктуры Беларусі».

| Назва мастацкага стылю | Прыклады помнікаў архітэктуры |
|---|---|
| | |

**Да ўрока «Наш край».** Падрыхтуйце кароткае паведамленне аб адным з архітэктурных помнікаў другой паловы XIX — пачатку XX ст. у вашай мясцовасці.

## § 32. БЕЛАРУСЬ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX — ПАЧАТКУ XX ст. УРОК АБАГУЛЬНЕННЯ

***Успомніце.*** У чым заключаліся рысы пераходу ад феадальнага да буржуазнага грамадства ў Беларусі ў 1860-х гг. — пачатку XX ст.?

***Вучэбная задача.*** Вызначыць вынікі фарміравання буржуазнага грамадства ў Беларусі на мяжы XIX—XX стст.

**Шляхі пераходу ад феадалізму да капіталізму.** Буржуазныя пераўтварэнні ў розных галінах жыцця беларускага грамадства ў другой палове XIX — пачатку XX ст. праходзілі двума шляхамі: рэфарматарскім і рэвалюцыйным. Першы з іх увасобіўся ў правядзенні буржуазных рэформаў. Сярод іх былі сялянская рэформа 1861 г., сталыпінская аграрная рэформа ў 1906—1917 гг., а таксама судовая, гарадская, школьная, земская рэформы. Рэформу 1861 г. гісторыкі называюць «спробай адкупіцца ад рэвалюцыі». Другі шлях быў звязаны з буржуазна-дэмакратычнымі рэвалюцыямі ў 1905—1907 гг. і лютым 1917 г. Іх прычынамі сталі нявырашанасць аграрнага, а таксама нацыянальнага пытанняў, існаванне самадзяржаўя. І калі самадзяржаўе, абмежаванае стварэннем Дзяржаўнай думы паводле Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г., было ў рэшце рэшт звергнута ў лютым 1917 г., то аграрнае і нацыянальнае пытанні патрабавалі свайго далейшага вырашэння.

**Сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні.** Пасля адмены прыгоннага права ў беларускіх губернях пачаўся працэс распаду дваранскай зямельнай уласнасці і яе ператварэння ў буржуазную. Абазначыўся пераход да прадпрымальніцкай гаспадаркі. Паглыбілася спецыялізацыя сельскай гаспадаркі. Сялянская рэформа 1861 г. абумовіла дастаткова працяглы і марудны «прускі» шлях развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы, звязаны з захаваннем памешчыцкай уласнасці на зямлю і сялянскімі адпрацоўкамі. У выніку сталыпінскай аграрнай рэформы была разбурана сельская абшчына, сяляне атрымалі магчымасць замацаваць свае зямельныя надзелы ва ўласнасць, пачаў фарміравацца пласт сельскай буржуазіі з ліку заможнага сялянства. У выніку ўзніклі ўмовы для развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы па «амерыканскім» шляху.

Працягваўся прамысловы пераварот, звязаны са станаўленнем фабрычнай вытворчасці. Па прымяненні сельскагаспадарчых машын Беларусь стая-

ла на адным з першых месцаў у Расійскай імперыі. У прамысловасці суіснавалі рамесныя майстэрні, мануфактуры, фабрыкі і заводы. Пераважная доля яўрэяў у насельніцтве беларускіх гарадоў паўплывала на працэс фарміравання гандлёва-прамысловай буржуазіі і пралетарыяту. У гады Першай сусветнай вайны, калі амаль палова тэрыторыі Беларусі апынулася пад германскай акупацыяй, адбыліся мілітарызацыя прамысловасці і заняпад сельскай гаспадаркі.

Паступова развівалася рыначная эканоміка. З будаўніцтвам адной з самых густых чыгуначных сетак у Расійскай імперыі Беларусь усё больш актыўна ўцягвалася ў агульнарасійскі і еўрапейскі рынкі. Развіццё таварна-грашовых адносін выклікала з'яўленне і развіццё банкаў.

Такім чынам, адбывалася паступовае фарміраванне буржуазнага грамадства на тэрыторыі Беларусі.

**Грамадска-палітычнае становішча.** Апошнім буйным выступленнем у межах шляхецкага перыяду грамадска-палітычнага руху стала паўстанне 1863—1864 гг., накіраванае на адраджэнне дзяржаўнасці на землях былой Рэчы Паспалітай. Яго рэвалюцыйна-дэмакратычная плынь на чале з К. Каліноўскім выступала супраць самадзяржаўя, саслоўнай і нацыянальнай няроўнасці.

Народніцкі і сацыял-дэмакратычны рухі, абвясціўшы мэтай дасягненне сацыялізму, выкарыстоўвалі ў сваёй дзейнасці розныя сродкі: ад «хаджэння ў народ» і палітычнага тэрору да арганізацыі палітычнай барацьбы рабочага класа.

Сродкам урэгулявання грамадскіх адносін сталі, нягледзячы на свой абмежаваны характар, буржуазныя рэформы 1860—1870-х гг., а таксама ўвядзенне земстваў у трох беларускіх губернях у 1911 г.

Напярэдадні і ў ходзе буржуазна-дэмакратычных рэвалюцый ствараліся і разгортвалі дзейнасць палітычныя партыі, былі абвешчаны дэмакратычныя правы і свабоды, Расія з феадальнай манархіі ператварылася ў буржуазную рэспубліку.

Першай беларускай нацыянальнай палітычнай партыяй стала Беларуская сацыялістычная грамада, якая сваёй мэтай абвясціла звяржэнне самадзяржаўя і знішчэнне капіталістычнага ладу.

**Нацыянальна-культурнае жыццё.** На мяжы XIX—XX стст. беларуская культура аказала велізарнае ўздзеянне на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці. Пасля паўстання 1863—1864 гг. самавызначэнне беларусаў адбывалася ў межах беларускага нацыянальнага руху, на сваёй уласнай этнічнай аснове. Гэтаму спрыяў працэс складвання беларускай нацыі, які ў межах Расійскай імперыі праходзіў ва ўмовах адсутнасці ў беларусаў уласнай дзяржаўнасці.

Пачаўся працэс афармлення беларускай нацыянальнай ідэі. Гэта адлюстравалася ў поглядах беларускіх студэнтаў-гоманаўцаў, якія заявілі аб самастойнасці беларускага народа і яго праве на нацыянальна-дзяржаўную будучыню. У пачатку XX ст. нацыянальная ідэя беларускага народа ўвасобілася ў палітычнай праграме БСГ па нацыянальным пытанні, звязанай з дасягненнем аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай дэмакратычнай рэспублікі. Ва ўмовах Першай сусветнай вайны прадстаўнікі беларускага нацыянальнага руху бачылі ажыццяўленне нацыянальнай ідэі ў адраджэнні Вялікага Княства Літоўскага. Пазней яны выступілі за асобную дзяржаўную незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць Беларусі ў яе этнаграфічных межах.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. працягваліся працэсы фарміравання новай беларускай мовы і літаратуры, станаўлення беларускага прафесійнага тэатра, якія адбываліся ў цесным узаемадзеянні з рускай культурай і культурамі іншых народаў Расіі.

**Паняцці і тэрміны, якім трэба даць вызначэнне:** *«Мужыцкая праўда», «Пісьмы з-пад шыбеніцы», «Гоман», «хаджэнне ў народ», тэрор, Бунд, Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ), «Курлоўскі расстрэл», кааліцыйныя камітэты, аўтанамісты, заходнерусізм, сацыялізм, стачка, мабілізацыя, «Свянцянскі прарыў», акупацыя, мілітарызацыя, двоеўладдзе, карнілаўскі мяцеж, выкупная аперацыя, выкупныя плацяжы, часоваабавязаныя сяляне, устаўныя граматы, цераспалосіца, адпрацоўкі, «прускі» шлях развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы, маёмасны цэнз, нацыяналізацыя, водруб, хутар, земствы, «амерыканскі» шлях развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы, нацыянальнае пытанне, «тутэйшыя», нацыянальная самасвядомасць, беларуская нацыянальная ідэя, царкоўнапрыходскія школы, настаўніцкія семінарыі, беларускія вечарынкі, цэрквы-«мураўёўкі».*

**Пытанні і заданні** (па выбары іх вучнямі ў кожнай з груп)

***1. Знайдзіце і растлумачце ключавыя словы:***

— у вытрымцы з «Мужыцкай праўды»:

«Дзецюкі! Доўга маўчаў я, не казаў вам нічога, бо хацеў разгледзецца добра ды разабраць, што гэта дзеецца на свеце, штоб ужо спавясціць вас па справядлівасці ды сказаць, як наказвае Бог ды сумленне, што нам цяпер трэба рабіць. Чакаць моўчкі больш ужо незмага! Памяркуйма толькі, што думаюць цяпер зрабіць з намі... Усе нас крыўдзілі ды ўсе абдзіралі, і біў нас сільнейшы, крыўдзіў багаты, — а на тое нідзе не было справядлівасці. Мы ўсе маўчалі ды слухалі, усім кланяліся, за ўсё плацілі, усё цярпелі, ждучы канца, бо спадзяваліся справядлівай вольнасці, спадзяваліся, што дадуць вольнай

зямелькі... Замест таго штоб аддаць нашу зямельку, ды якую ж зямельку? Гэту, што з дзядоў-прадзедаў кроўнай працай дзесяць раз ужо яе зарабілі да заплацілі. За гэту зямлю цар наказвае нам чыншы плаціць...»;

— у вытрымцы з маніфеста РСДРП 1898 г.:

«...На сваіх магутных плячах рускі рабочы клас павінен вынесці і вынесе справу заваявання палітычнай свабоды. Гэта неабходны, але толькі першы крок да ажыццяўлення вялікай гістарычнай місіі пралетарыяту: стварэнне такога грамадскага ладу, у якім не будзе месца эксплуатацыі чалавека чалавекам. Рускі пралетарыят скіне з сябе ярмо самадзяржаўя, каб з тым большай энергіяй працягваць барацьбу з капіталізмам і буржуазіяй да поўнай перамогі сацыялізму»;

— у вытрымцы з указа Мікалая II 1906 г.:

«Кожны гаспадар, што валодае надзельнай зямлёю на абшчынным праве, можа ў любы час патрабаваць замацавання за сабою ў асабістую ўласнасць належнай яму часткі з азначанай зямлі...

Кожны гаспадар, за якім замацаваны ўчасткі надзельнай зямлі... мае права ў любы час патрабаваць, каб грамадства выдзеліла яму ўзамен гэтых участкаў адпаведны ўчастак па магчымасці ў адным месцы...

Падворныя ўчасткі... складаюць асабістую ўласнасць гаспадароў...

Пераход цэлых грамадаў як з абшчынным, так і падворным землекарыстаннем да ўладання ў водрубных участках адбываецца па прыгаворах, прынятых большасцю ў дзве трэці сялян, якія маюць права голасу на сходзе»;

— у вытрымцы з артыкула Я. Купалы «Незалежнасць»:

«Беларускі народ самабытны — гэта прызнаюць ужо нават і нашы праціўнікі з польскага ці расейскага лагера. Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю...

А Беларусь, як кожная іншая дзяржава, мае права і даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі».

***2. Параўнайце:***

— умовы правядзення сялянскай рэформы 1861 г. у цэнтральных еўрапейскіх губернях Расійскай імперыі і ў Беларусі;

— перадумовы для ажыццяўлення «прускага» і «амерыканскага» шляхоў развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі;

— земскую рэформу ў цэнтральных еўрапейскіх губернях Расійскай імперыі і ў Беларусі;

— пазіцыі Беларускай сацыялістычнай грамады і Рускага ўскраіннага саюза па нацыянальным пытанні;

— беларусазнаўства і заходнерусізм.

***3. Прывядзіце гістарычныя факты, якія адлюстроўваюць:***

— асаблівасці прамысловага перавароту ў Беларусі;

— шляхі развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі пасля адмены прыгоннага права;

— вынікі рэвалюцыйных пераўтварэнняў у беларускім грамадстве ў пачатку XX ст.;

— становішча беларускага народа ў час Першай сусветнай вайны;

— працэс фарміравання беларускай нацыі.

***4. Раскрыйце прычынна-выніковыя сувязі паміж наступнымі гістарычнымі з'явамі (фактамі):***

— паўстанне 1863—1864 гг. → скасаванне часоваабавязанага становішча сялян у беларускіх губернях;

— адмена прыгоннага права → развіццё капіталізму ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці Беларусі;

— сталыпінская аграрная рэформа → стварэнне ўмоў для развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі па «амерыканскім» шляху;

— Маніфест 17 кастрычніка 1905 г. → пачатак дэмакратызацыі грамадства;

— фарміраванне беларускай нацыі → афармленне беларускай нацыянальнай ідэі.

***5. Дакажыце, што:***

— ажыццяўленне сялянскай рэформы 1861 г. у беларускіх губернях мела адначасова феадальныя і капіталістычныя рысы;

— судовая і земская рэформы мелі абмежаваны характар пры іх правядзенні ў беларускіх губернях;

— ажыццяўленне сталыпінскай аграрнай рэформы садзейнічала развіццю капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі;

— пачатак XX ст. можа лічыцца перыядам адраджэння нацыянальна-культурнага жыцця.

***6. Рашыце гістарычныя задачы:***

— аб якой падзеі і адносінах да яе згадваецца ў творы «Гутарка Данілы са Сцяпанам»:

*Гавораць па свеце, уголас талкуюць,*
*Ад ксяндзоў, ад рабінаў усе людзі чуюць,*
*Што вольнасць нам, бедным, дасць без адкладу,*
*Толькі што з панамі не дойдзема ладу.*
*Чаго адны хочуць, то другім не міла.*
*Як чорт перад д'яблам пражэцца іх сіла,*
*Цар ім патурае, а яны хітруюць...*;

— якую з'яву адлюстроўвае выказванне аднаго з беларускіх сялян у сувязі з пераглядам умоў сялянскай рэформы ў 1863 г.: «Дзякуем Вам, паночку,

і ўсяму панству, что Вы ўзбунтоваліся. Інакш бы нам такой ласкі от цара во век не дачакацца»;

— у чым заключаліся прычыны праблемы, якую закрануў К. Каліноўскі ў «Мужыцкай праўдзе», і прапанаваны ім шлях яе вырашэння: «Калі Бог стварыў усіх людзей вольнымі... так скуль жа гэта ўзялося, што адзін марнуе ды і над людзьмі збыткуе, а другі, бедны, паншчыну служыць альбо аброкі ў казну плаціць?.. Мужыкі... не павінны плаціць ані чыншу паном, ані аброку ў казну за зямлю, бо гэта зямля да нас належыць...»;

— растлумачце, чаму невядомы аўтар верша «Хто я?» не можа адказаць на пастаўленае пытанне:

*Пытаешся, браце, хто я, з якога краю?*
*З-за Віслы, з-за Нёмну ці з-за Дунаю?*
*Ёсць рэчка Свіслач, малая на свеце,*
*А там шмат збожжа і кветак расце ў леце.*
*Там дзяўчаты, як красныя кветкі,*
*А хлопцы — як пінскія дубы-сталеткі...*
*Хто я? — паляк, беларус ці ліцвін?*
*Бог толькі ведае праўду адзін.*
*Я ж хачу працаваць увесь век,*
*Каб заслужыць імя — чалавек*;

— вызначце прычыны пытання, зададзенага Я. Купалам у сваім вершы «Тутэйшы»:

*...А як завуць край гэты родны мой —*
*Забыўся ўжо праз свой прыгон і здзек;*
*Мабыць, забраны, ці тутэйшы ён,*
*Я ж сын яго — тутэйшы чалавек!*

***7. Вызначце ролю гістарычных асоб і дзеячаў культуры:***

— К. Каліноўскага ў развіцці ідэі народнай дзяржавы. Выкарыстайце думкі, выказаныя ім у «Мужыцкай праўдзе» і «Пісьмах з-пад шыбеніцы»: «І як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так добры ўрад глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіць так, як народу лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ўраду, а ўрад для народу»;

— Ф. Багушэвіча ў развіцці нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Выкарыстайце вытрымку з прадмовы Багушэвіча да зборніка «Дудка беларуская»: «...мова наша ёсць такая ж людская і панская, як французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая... Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога дадзена... Ці ж ужо нам канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю...»;

— дзеячаў БСГ у развіцці беларускай нацыянальнай ідэі. Выкарыстайце вытрымку з лістоўкі «Першы мужыцкі з’езд» ад 1905 г.:

«...Цяперашняе правіцельства трэба скінуць, дый пастарацца, каб намі правілі нашы выбарныя людзі... Гэтыя выбарныя ад усёй зямлі Беларускай павінны збірацца ў якім горадзе, прымерам у Вільні... Такі з’езд чы сход называецца сэйм.

Кожны народ павінен мець свой сэйм, каторы вёў бы яго справы, але ўсе народы, што жывуць у Расеі, маюць яшчэ і агульныя справы. Дзеля таго трэба, каб выбарныя ад нашай Беларусі і Літвы, ад Польшчы і Фінляндыі, Каўказа і ўсіх другіх народаў разам з рускімі збіраліся на агульны сэйм у Пецярбургу... і там разам пастанаўлялі аб сваіх агульных справах».

***8. Падрыхтуйце паведамленне па адной з наступных тэм.***

• Развіццё капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі: «амерыканскі» ці «прускі» шлях?

• К. Каліноўскі як носьбіт ідэі сацыяльнай справядлівасці і барацьбіт за сялянскую долю і волю.

• Роля беларускіх студэнтаў-гаманаўцаў у абгрунтаванні самастойнасці і самабытнасці беларускай нацыі.

• Дзеячы «Нашай нівы» як барацьбіты за абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

• І. Буйніцкі — «бацька» беларускага прафесійнага тэатра.

• Гістарычнае мінулае беларускіх зямель у творчасці беларускіх мастакоў (Н. Орды, К. Альхімовіча і інш.).

• Дойлідства Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. як прыклад спалучэння розных мастацкіх стыляў.

• Знакамітыя людзі нашага краю ў гістарычных падзеях на мяжы XIX—XX стст. (да ўрока «Наш край»).

## НАШ КРАЙ

**Заданне 1.** Якія гістарычныя працэсы і падзеі закранулі жыхароў вашай мясцовасці? Якім чынам яны адбіліся на жыццёвых лёсах вашых землякоў?

**Заданне 2.** Падрыхтуйце паведамленне пра славутых ураджэнцаў вашага краю, якія ўнеслі ўклад у развіццё прамысловасці і сельскай гаспадаркі, зрабілі вынаходніцтвы, садзейнічалі асвеце і ахове здароўя, удзельнічалі ў войнах і рэвалюцыях.

**Заданне 3.** Вызначце, карыстаючыся картасхемамі, адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку, у складзе якой знаходзіўся ваш населены пункт, і яго статус.

**Заданне 4.** Падрыхтуйце паведамленне пра паўсядзённае жыццё і побыт жыхароў вашага краю.

**Заданне 5.** Прывядзіце прыклады мясцовага фальклору і адзначэння народных свят жыхарамі вашага краю.

**Заданне 6.** Падрыхтуйце індывідуальна ці ў групе праект «Славутасці роднага краю». Ён заключаецца ў тым, што вам неабходна скласці экспазіцыю аднаго з залаў краязнаўчага музея. Для гэтага:

а) сфармулюйце мэту, з якой ствараецца музейная экспазіцыя;

б) вызначце тэму і назву экспазіцыі;

в) удакладніце храналагічны перыяд, што будзе асвятляцца;

г) канкрэтызуйце падзеі і з'явы, аспекты гісторыі, персаналіі, якія будуць адлюстраваны ў экспазіцыі;

д) пералічыце экспанаты, якія вы прапануеце выкарыстаць у экспазіцыі;

е) падрабязна апішыце найбольш важныя для асвятлення тэмы экспанаты;

ж) растлумачце, як працуюць дадзеныя экспанаты на дасягненне вызначанай вамі мэты;

з) раскрыйце, у чым заключаюцца характэрныя і арыгінальныя рысы прапанаваных вамі экспанатаў.

# ЗАКЛЮЧНАЕ СЛОВА

Гісторыя Беларусі XIX — пачатку XX ст. мела свае здабыткі і страты. Не ўсё беларускаму народу ўдалося здзейсніць, але ён дасягнуў самага важнага: згуртаваўся ў нацыю і сцвердзіў сваё права як роўнага сярод славянскай і еўрапейскай сем'яў народаў. Гэтае права беларусы заслужылі самаадданай працай на гаспадарчай і культурнай ніве, змаганнем за свае нацыянальныя, грамадскія і палітычныя ідэалы. Звернемся да спадчыны нашых вялікіх песняроў:

*...Дык хіба ж мы праў не маем,*
*Сілы шлях свой адзначаць*
*І сваім уласным краем*
*Край свой родны называць?*

**_Якуб Колас_**

*...Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,*
*Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;*
*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між народамі!..*

**_Янка Купала_**

*Беларусь, твой народ дачакаецца*
*Залацістага, яснага дня.*
*Паглядзі, як усход разгараецца.*
*Сколькі ў хмарках залётных агня...*

**_Максім Багдановіч_**

Наш народ разам з братнімі рускім, украінскім, а таксама іншымі народамі Расійскай імперыі падышоў да якасна новага рубяжа ў сваёй гісторыі. Паўстала задача стварэння ўласнага новага дзяржаўнага дома. Аб тым, як гэта ажыццяўлялася, вы даведаецеся пры вывучэнні гісторыі ў наступным класе. Плённай вандроўкі па старонках айчыннай гісторыі, юныя сябры!

# ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК

**Абро́к** — від сялянскай павіннасці за карыстанне зямлёй памешчыка, які ўяўляў сабой натуральную даніну прадуктамі або грашыма (чынш).

**Абшчы́на** — форма арганізацыі жыцця і дзейнасці сельскага насельніцтва, пры якой усе пытанні ўнутранага жыцця вырашаліся калектыўна.

**Агра́рнае пыта́нне** — пытанне пра ўласнасць на зямлю і яе размеркаванне, пра забеспячэнне ўмоў для паспяховага развіцця сельскай гаспадаркі і задавальнення патрабаванняў сялянства.

**Адпрацо́ўкі** — пасля адмены прыгоннага права праца сялян у панскай гаспадарцы за арэнду памешчыцкіх палёў, пашы, сенажацей ці за натуральныя або грашовыя пазыкі.

**Акупа́цыя** — захоп войскамі адной дзяржавы тэрыторыі (або часткі тэрыторыі) іншай дзяржавы з устанаўленнем уласных адміністрацыі і законаў.

**«Амерыка́нскі» шлях развіцця́ капіталі́зму ў се́льскай гаспада́рцы** — спосаб аграрнага гаспадарання, пры якім уласнасць на зямлю замацоўваецца за тымі, хто яе непасрэдна апрацоўвае. Пры правядзенні сталыпінскай аграрнай рэформы ствараліся ўмовы для рэалізацыі гэтага шляху: сялянам дазвалялася замацаваць свае зямельныя надзелы ва ўласнасць праз водруб або хутар.

**Арэ́нда** — часовае карыстанне маёмасцю за вызначаную плату.

**Аўтанамі́сты** — назва групы дэпутатаў ад нацыянальных ускраін у І Дзяржаўнай думе. Дэпутаты-аўтанамісты ад беларускіх губерняў выступалі за аўтаномію Беларускага краю і падкрэслівалі, што ім павінны кіраваць «карэнныя жыхары, а не прышлыя, чужыя і варожыя яму элементы».

**Аўтано́мія** — шырокае ўнутранае самакіраванне, якое надаецца асобнай тэрыторыі ці народу, што кампактна пражывае ў межах дзяржавы.

**Беларусазна́ўства** — навука, якая вывучае гісторыю, культуру, традыцыі, адметнасць і агульнасць беларусаў, іх узаемаадносіны з суседзямі і ролю ў міжнароднай супольнасці народаў.

**Белару́ская нацыяна́льная ідэ́я** — уяўленні, у якіх беларускі народ выражае разуменне сябе як нацыі і сэнс свайго гістарычнага існавання.

**Белару́ская сацыялісты́чная грамада́ (БСГ)** — першая беларуская палітычная партыя, якая канчаткова аформілася ў 1903 г. У сваёй праграме абвясціла мэтай звяржэнне самадзяржаўя і знішчэнне капіталістычнага ладу, выступала за раўнапраўе людзей незалежна ад полу, нацыянальнасці, веравызнання; усеагульнае роўнае выбарчае права з тайным галасаван-

нем, бясплатны суд, свабоду слова, друку, сходаў, перадачу зямлі з прыватнай у грамадскую ўласнасць. Па нацыянальным пытанні імкнулася да аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай дэмакратычнай рэспублікі.

**Белару́скія вечары́нкі** — вечары беларускай нацыянальнай культуры, што праводзіліся з пачатку XX ст. і да 1920-х гг. у Вільні, Пецярбургу, Маскве, Мінску, Гродне, Полацку, Слуцку і іншых гарадах. Уяўлялі сабой своеасаблівыя тэатральна-канцэртныя паказы, на якіх чыталіся ўголас творы беларускіх аўтараў, выконваліся народныя песні і танцы, ставіліся спектаклі.

**Бунд** (Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі) — нацыянальная сацыял-дэмакратычная арганізацыя яўрэйскіх рабочых, створаная ў 1897 г., якая абараняла інтарэсы дастаткова шматлікага ў Беларусі яўрэйскага рабочага класа.

**Вае́нныя пасяле́нні —** асобая арганізацыя войскаў у Расійскай імперыі ў 1810—1857 гг., у якіх ваенная служба спалучалася з сельскагаспадарчай працай.

**Во́друб** — адасоблены надзел зямлі, вылучаны з сельскага абшчыннага землекарыстання ў асабістую ўласнасць сялянскай сям'і.

**«Во́льныя се́льскія абыва́целі»** — найменне, што атрымалі ў царскім заканадаўстве дзяржаўныя (казённыя) сяляне.

**Выкупна́я апера́цыя** — дзяржаўная крэдытная аперацыя па выкупе сялянамі зямлі, састаўная частка сялянскай рэформы 1861 г.

**Выкупны́я плацяжы́** — штогадовыя на працягу 1861—1906 гг. пагашэнні сялянамі $^{1}/_{49}$ часткі грашовай сумы, выплачанай урадам за выкуп сялянскіх надзелаў у ходзе рэформы 1861 г.

**Гаспада́рчая спецыяліза́цыя** — засяроджванне дзейнасці на вытворчасці пэўнага віду прадукцыі.

**«Го́ман»** — нелегальная народніцкая арганізацыя, створаная ў 1884 г. у Пецярбургу студэнтамі — ураджэнцамі Беларусі, якія першымі з рэвалюцыянераў заявілі пра існаванне беларускай нацыі і паставілі пытанне пра яе самастойнасць.

**Двоеўла́ддзе** — палітычнае становішча, якое склалася пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. і характарызавалася існаваннем, з аднаго боку, рэвалюцыйна-дэмакратычнай улады ў выглядзе Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а з другога боку — органаў буржуазнага Часовага ўрада. Асаблівасцю палітычнага становішча ў Беларусі ва ўмовах двоеўладдзя была падтрымка Саветамі Часовага ўрада і з'яўленне ў якасці трэцяй палітычнай сілы беларускага нацыянальнага руху.

**Дзяржа́ва** — асноўны элемент палітычнай сістэмы грамадства; палітычная структура, якая арганізуе, накіроўвае і кантралюе сумесную дзейнасць, адносіны людзей, грамадскіх груп; тэрытарыяльны, суверэнны (самастойны) саюз грамадзян, утвораны з мэтай абароны іх правоў на жыццё, свабоду, маёмасць.

**Дэмакратыза́цыя** — распаўсюджванне і замацаванне формаў дзяржаўнага ладу, заснаваных на прызнанні прынцыпаў народаўладдзя, свабоды, роўнасці грамадзян.

**Заходнерусі́зм** — сістэма поглядаў, прыхільнікі якіх вывучалі асаблівасці беларусаў як часткі агульнарускага этнасу без прызнання за імі права на самастойнасць.

**Зе́мствы** — органы мясцовага самакіравання, уведзеныя ў Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях у 1911 г.

**Ідэало́гія** — сістэма прававых, палітычных, маральных, філасофскіх, рэлігійных, мастацкіх поглядаў і ідэй, якія належаць асобе ці групе людзей або палітычнай партыі.

**Інвента́рная рэфо́рма** — рэформа, якая пачала ажыццяўляцца з 1844 г. і прадугледжвала рэгуляванне памераў надзелаў і павіннасцей памешчыцкіх сялян, якія замацоўваліся ў інвентарах, абавязковых не толькі для сялян, але і для памешчыкаў. Рэформа выклікала супраціўленне памешчыкаў, якія не жадалі ўнармавання сялянскіх павіннасцей, і нараканні сялян там, дзе павіннасці аказаліся завышанымі. Перагляд і выпраўленне інвентароў цягнуліся да 1857 г.

**Інвентары́** — дакументы, якія ўтрымлівалі апісанне феадальных уладанняў, памераў сялянскіх павіннасцей у Беларусі, Літве, Украіне, Польшчы ў XVI — першай палове XIX ст.

**Кааліцы́йныя камітэ́ты** — аб'яднанне мясцовых арганізацый РСДРП (бальшавікоў і меншавікоў), ПСР (эсэраў), Бунда ў Беларусі для каардынацыі сваіх дзеянняў у час рэвалюцыі 1905—1907 гг., звязаных з дасягненнем агульных палітычных і эканамічных мэт.

**Канфе́сія** — рэлігійны кірунак, веравызнанне з уласцівай яму абраднасцю.

**Канфіска́цыя** — прымусовае і бязвыплатнае адабранне маёмасці, грашовых сродкаў ва ўласнасць дзяржавы.

**Капіталі́зм** — грамадскі лад, для якога характэрныя прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасці, выкарыстанне вольнанаёмнай рабочай сілы, развітыя таварна-грашовыя адносіны.

**Карні́лаўскі мяце́ж** — выступленне Вярхоўнага галоўнакамандуючага расійскай арміі Л. Г. Карнілава супраць Часовага ўрада ў жніўні 1917 г., звяза-

нае са спробай устанаўлення ваеннай дыктатуры і ліквідацыяй Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

**«Курло́ўскі расстрэ́л»** — расстрэл царскімі войскамі і паліцыяй мітынгу працоўных на плошчы каля Віленскага вакзала Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінску 18 кастрычніка 1905 г. Ахвярамі сталі каля 100 чалавек, каля 300 было паранена.

**Ланка́стэрская шко́ла** — школа ўзаемнага навучання, пачатковая навучальная ўстанова ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.

**Лібералі́зм** — ідэйна-палітычная плынь, прадстаўнікі якой выступалі за абмежаванне манархіі і ўстанаўленне парламенцкага ладу, роўнасць людзей перад законам, свабоду прыватнай уласнасці і прадпрымальніцтва, слова, сумлення, сходаў.

**Ліцві́нскі патрыяты́зм** — пачуццё гістарычнай асобнасці, любові да Бацькаўшчыны, уласцівае ў XVIII—XIX стст. прадстаўнікам мясцовай шляхты, якія бачылі свае карані ў Вялікім Княстве Літоўскім.

**Мабіліза́цыя** — масавы набор мужчын у армію падчас вайны; чарговы прызыў на вайсковую службу юнакоў адпаведнага ўзросту.

**Маёмасны цэнз** — устаноўленыя законам памеры і формы ўласнасці, валоданне якой з'яўляецца абавязковай умовай рэалізацыі чалавекам грамадзянскіх правоў, у прыватнасці, права выбіраць і быць выбраным у органы ўлады і кіравання.

**Маёнтак** — агульная назва памешчыцкага землеўладання з жылымі і гаспадарчымі пабудовамі, прадпрыемствамі і інш.

**Мана́рхія** — форма кіравання, пры якой вярхоўная дзяржаўная ўлада цалкам або часткова належыць аднаасобнаму кіраўніку і перадаецца ў спадчыну.

**Мануфакту́ра** — прадпрыемства, заснаванае на ручной працы і яе падзеле.

**Маркс́ізм** — філасофскае, эканамічнае і палітычнае вучэнне, створанае ў першай палове XIX ст. у Германіі К. Марксам і Ф. Энгельсам. Згодна з ім натуральны паступальны гістарычны ход грамадскага развіцця вызначаўся зменай грамадска-эканамічных фармацый, а класавая барацьба паміж пануючым і прыгнечаным класамі разглядалася ў якасці рухаючай сілы гісторыі; найвышэйшым праяўленнем класавай барацьбы лічылася сацыяльная (пралетарская, сацыялістычная) рэвалюцыя, што прывядзе да ўсталявання дыктатуры пралетарыяту.

**Мілітарыза́цыя** — падпарадкаванне эканамічнага, палітычнага і грамадскага жыцця ваенным мэтам.

**«Мужы́цкая пра́ўда»** (Mużyckaja praŭda) — нелегальная газета. Выдавалася ў выглядзе лістовак на працягу 1862—1863 гг. прадстаўнікамі рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні «чырвоных» у паўстанні 1863—1864 гг. К. Каліноўскім, В. Урублеўскім, Ф. Ражанскім. Выйшла 7 нумароў газеты, якая друкавалася на беларускай мове лацінскім шрыфтам. Большасць матэрыялаў напісаў Каліноўскі пад псеўданімам Яська-гаспадар з-пад Вільні.

**Мяжа́ яўрэ́йскай асе́ласці** — граніца часткі тэрыторыі Расійскай імперыі ў 1794—1917 гг., у межах якой дазвалялася жыць асобам яўрэйскай нацыянальнасці.

**Наёмная пра́ца** — праца па дамоўленасці з работадаўцам, за выкананне якой на працягу пэўнага рабочага часу прадугледжваецца пэўная аплата.

**Наро́дніцтва** — кірунак у рэвалюцыйным руху, прыхільнікі якога выступалі супраць прыгонніцтва, самадзяржаўя і падзялялі ідэю аб тым, што Расія можа, прамінуўшы капіталістычную стадыю развіцця, адразу перайсці праз сялянскую абшчыну да сацыялізму.

**Наста́ўніцкія семіна́рыі** — спецыяльныя педагагічныя навучальныя ўстановы ў XIX — пачатку XX ст., якія рыхтавалі настаўнікаў для пачатковых школ.

**На́цыя** — гістарычная супольнасць людзей, для якой характэрныя пражыванне на адной тэрыторыі, устойлівыя эканамічныя сувязі, літаратурная мова, агульныя рысы культуры і псіхалогіі, у тым ліку нацыянальная самасвядомасць і імкненне да ўласнай дзяржаўнасці.

**Нацыяналіза́цыя** — пераход, перадача маёмасці (зямлі, прадпрыемстваў, транспарту, банкаў і інш.) з прыватнай уласнасці ў дзяржаўную.

**Нацыяна́льнае пыта́нне** — пытанне аб рэалізацыі права народа на свабоднае, добраахвотнае этнічнае, дзяржаўнае, культурнае самавызначэнне.

**Нацыяна́льная самасвядо́масць** — сукупнасць ідэй, уяўленняў, перакананняў, вераванняў, у якіх народ асэнсоўвае сябе як нацыю.

**Па́ншчына** — від сялянскай павіннасці, які ўяўляў сабой дармавую, прымусовую адпрацоўку залежнымі сялянамі з выкарыстаннем уласных прылад працы пэўнай колькасці дзён у гаспадарцы памешчыка.

**«Пі́сьмы з-пад шы́бeніцы»** — тры развітальныя пісьмы, якія К. Каліноўскаму ўдалося перадаць з турмы на волю. Уяўляюць сабой яго духоўны запавет, які змяшчае ідэі сацыяльнай роўнасці і народнай дэмакратычнай дзяржавы.

**«План Агі́нскага»** — праект утварэння аўтаномнага Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Расійскай імперыі, прапанаваны ў 1811 г. расійскаму імператару Аляксандру I Міхалам Клеафасам Агінскім.

**По́лацкі царко́ўны сабо́р** — сабор, на якім у 1839 г. было прынята рашэнне пра далучэнне ўніяцкай царквы да Рускай праваслаўнай царквы.

**Пралетарыя́т** — клас (грамадская група людзей) наёмных рабочых, якія пазбаўлены ўласнасці на сродкі вытворчасці; адзінай крыніцай іх існавання з'яўляецца продаж сваёй рабочай сілы ўладальніку прадпрыемства за вызначаную плату.

**Прамысло́вы перавaро́т** — пераход ад мануфактурнай да фабрычна-заводскай вытворчасці, ад ручной да машыннай працы, звязаны з фарміраваннем прамысловай буржуазіі і вольнанаёмнага рабочага класа.

**«Пру́скі» шлях развіцця́ капіталі́зму ў се́льскай гаспада́рцы** — спосаб аграрнага гаспадарання, пры якім пасля адмены прыгоннага права захоўвалася памешчыцкая ўласнасць на зямлю.

**«Разбо́р» шля́хты** — палітыка самадзяржаўя, згодна з якой пераважна дробная шляхта выключалася з дваранства і пераводзілася ў падатковыя саслоўі.

**Раманты́зм** — кірунак у мастацкай культуры канца XVIII — першай паловы XIX ст., для якога былі характэрны ўвага да ўнутранага свету чалавека, ідэалізацыя прыроды і рэчаіснасці, паэтызацыя гераічных асоб.

**Рэалі́зм** — кірунак у мастацкай культуры, прадстаўнікі якога імкнуліся аб'ектыўна адлюстроўваць навакольную рэчаіснасць.

**Рэвалю́цыя** — рэзкі скачкападобны пераход ад адной грамадска-палітычнай сістэмы да іншай, які адбываецца, як правіла, у ходзе адкрытага сутыкнення супрацьлеглых сацыяльна-палітычных сіл.

**Рэквізі́цыя** — прымусовае адчужэнне маёмасці (уласнасці) на карысць іншых асоб або дзяржавы падчас вайны ці надзвычайных абставін.

**Рэ́круцкая паві́ннасць** — вайсковая павіннасць, уведзеная ў Беларусі пасля першых двух падзелаў Рэчы Паспалітай, згодна з якой асоб мужчынскага полу — прадстаўнікоў сялянскага і мяшчанскага саслоўяў прызывалі на вайсковую службу ў расійскую армію.

**Рэфо́рма П. Д. Кісялёва** — рэформа ў дзяржаўнай вёсцы ў 1840—1857 гг., у ходзе якой было праведзена апісанне дзяржаўных уладанняў, змяншаліся павіннасці дзяржаўных сялян і павялічваліся іх зямельныя надзелы. Сяляне казённых маёнткаў пераводзіліся з паншчыны на чынш (грашовы аброк). Спынялася здача казённых маёнткаў у арэнду. Прызнавалася «грамадзянская свабода» дзяржаўных сялян.

**Сасло́ўе** — грамадская група людзей, якая мае спадчынныя (тыя, што перадаюцца ў спадчыну ад бацькі да сына) правы і абавязкі.

**Сацыя́л-дэмакра́тыя** — палітычны рух, прыхільнікі якога абвясцілі сваёй мэтай барацьбу за пабудову сацыяльна справядлівага грамадства. Падзяляўся на два асноўныя кірункі: рэвалюцыйны і рэфармісцкі; рэвалюцыянеры прытрымліваліся ўзброеных метадаў барацьбы, а рэфармісты выступалі за мірныя паступовыя пераўтварэнні.

**Сацыялі́зм** — вучэнне, у якім у якасці мэты і ідэалу вылучаюцца прынцыпы сацыяльнай справядлівасці, свабоды і роўнасці, а таксама грамадскі лад, што будуецца на гэтых прынцыпах.

**«Свянця́нскі пра́рыў»** — назва наступальнай аперацыі германскай арміі ў 1915 г., у выніку якой яе войскі прарваліся ў раён Смаргоні і Смалявіч, што стварыла пагрозу захопу Мінска. Велізарным напружаннем сіл расійскім войскам удалося адкінуць праціўніка ў раён азёр Свір і Нарач і ліквідаваць прарыў. Пасля гэтага на расійска-германскім фронце бакі перайшлі да пазіцыйнай вайны.

**Ста́чка** — калектыўнае спыненне працы рабочымі з мэтай задавальнення сваіх эканамічных ці палітычных патрабаванняў.

**Сядзі́ба** — паселішча, комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў разам з двαром, агародам і садам, якія складаюць гаспадарку сельскага жыхара.

**Талера́нтнасць** — верацярпімасць, паважлівыя адносіны паміж вернікамі розных кірункаў — канфесій (каталіцкай, праваслаўнай і інш.).

**«Тутэ́йшыя»** — саманазва часткі жыхароў Беларусі ў XIX ст.

**Тэро́р паліты́чны** — форма ўзброенага прымусу ў палітычных мэтах.

**Уні́яцтва** — рэлігійная канфесія, якая ўзнікла ў Рэчы Паспалітай у выніку аб’яднання праваслаўнай і каталіцкай цэркваў паводле ўмоў Берасцейскай (Брэсцкай) царкоўнай уніі 1596 г.

**Уста́ўныя гра́маты** — акты, якія рэгулявалі пазямельныя адносіны часоваабавязаных сялян з памешчыкамі паводле сялянскай рэформы 1861 г.

**Фа́брыка** — прамысловае прадпрыемства, заснаванае на падзеле працы і выкарыстанні машын.

**Фальва́рак** — феадальная гаспадарка (двор феадала з комплексам пабудоў і зямельных угоддзяў), у якой выкарыстоўвалася праца прыгонных сялян, а вытворчасць прадукцыі была скіравана на продаж.

**Фальварко́ва-па́episodeшчынная сістэ́ма гаспада́рання** — сістэма, заснаваная на працы прыгонных сялян, пераважным відам павіннасці якой з’яўлялася паншчына, і арыентаваная на вытворчасць прадукцыі ў фальварках на продаж. Усталявалася ў выніку правядзення аграрнай рэформы 1557 г. — валочнай памеры. Пачала знікаць з правядзеннем рэформы П. Д. Кісялёва і канчаткова спыніла сваё існаванне пасля сялянскай рэформы 1861 г.

**Федэра́цыя** — форма дзяржаўнага ўтварэння, пры якой некалькі дзяржаў аб'ядноўваюцца і ўтвараюць адну саюзную дзяржаву; пры гэтым дзяржавы захоўваюць уласныя канстытуцыі, заканадаўчыя і судовыя органы; разам з імі ў федэрацыі дзейнічаюць адзіныя канстытуцыя, федэральныя органы ўлады, устанаўліваюцца адзіныя грамадзянства, грашовая адзінка.

**Філама́ты** — тайнае патрыятычнае студэнцкае таварыства ў Віленскім універсітэце ў 1817—1823 гг.

**Філарэ́ты** — таварыства студэнцкай моладзі ў Вільні ў 1820—1823 гг.

**«Хаджэ́нне ў наро́д»** — рух рэвалюцыйна-дэмакратычнай моладзі ў вёску вясной 1873 — летам 1874 г., звязаны з прапагандай сацыялістычных ідэй сярод сялянства і падрыхтоўкай паўстання супраць самадзяржаўя. Закончылася няўдачай, бо сяляне працягвалі верыць у «добрага цара».

**Ху́тар** — сельскае паселішча, адасоблены ўчастак зямлі, на які пераносілася сядзіба селяніна, а таксама сельскагаспадарчы інвентар, неабходны для апрацоўкі зямлі.

**Царкоўнапрыхо́дскія шко́лы** — адзін з тыпаў пачатковых царкоўных школ, якія існавалі ў XIX — пачатку XX ст. і давалі адукацыю ў духу праваслаўя.

**Цераспало́сіца** — раз'яднанасць і раздробленасць зямельнага надзелу на некалькі адасобленых частак.

**Цэ́рквы-«мураўёўкі»** — назва цэркваў, пабудаваных на тэрыторыі Беларусі ў другой палове XIX ст. пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. у так званым псеўдарускім стылі па ініцыятыве віленскага генерал-губернатара М. М. Мураўёва, ад прозвішча якога і пайшла сама назва.

**Часоваабавя́заныя сяля́не** — былыя памешчыцкія сяляне, вызваленыя ад прыгоннай залежнасці па ўмовах рэформы 1861 г., але абавязаныя адпрацоўваць ранейшыя павіннасці да поўнага выкупу зямлі.

**Чынш** — від сялянскай павіннасці за карыстанне зямлёй памешчыка, які ўяўляў сабой даніну грашыма.

**Шля́хта** — назва прывілеяванага саслоўя Польшчы (з XIII ст.) і Беларусі, Літвы, Украіны (з XV ст.).

**Э́кспарт** — вываз тавараў за мяжу.

**Эміграцыя** — выезд за межы краіны, выкліканы эканамічнымі, палітычнымі або асабістымі прычынамі, з мэтай часовага ці пастаяннага пасялення ў замежнай дзяржаве.

**Э́тнас** (народ) — гістарычна сфарміраваная супольнасць людзей з агульнай культурай, мовай і самасвядомасцю.

# ХРАНАЛАГІЧНАЯ ТАБЛІЦА

**1772, 1793, 1795 гг.** — далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імперыі.

**1794 г.** — устанаўленне мяжы яўрэйскай аселасці.

**1803 г.** — рэарганізацыя Галоўнай Віленскай школы ва ўніверсітэт.

**1812 г., чэрвень** — пераправа французскай арміі Напалеона праз Нёман.

**1812 г., лістапад** — бітва пры пераправе праз раку Бярэзіну каля в. Студзёнка.

**1817 г.** — стварэнне Таварыства філаматаў.

**1820 г.** — стварэнне Таварыства філарэтаў.

**1820-я гг.** — будаўніцтва першых фабрык на тэрыторыі Беларусі.

**1830—1831 гг.** — паўстанне ў Польшчы, Літве, Беларусі.

**1831 г.** — адмена дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. у Віцебскай і Магілёўскай губернях.

**1832 г.** — закрыццё Віленскага ўніверсітэта.

**1839 г.** — прынящце на Полацкім царкоўным саборы рашэння аб далучэнні ўніятаў да Рускай праваслаўнай царквы.

**1840 г.** — адмена дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. у Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губернях.

**1840—1857 гг.** — правядзенне рэформы П. Д. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы.

**1842 г.** — заснаванне ў Лагойску першага ў Беларусі гістарычнага музея.

**1844—1857 гг.** — правядзенне інвентарнай рэформы ў памешчыцкай вёсцы.

**1848 г.** — стварэнне Горы-Горацкага земляробчага інстытута.

**1861 г., 19 лютага** — Маніфест цара Аляксандра II аб вызваленні памешчыцкіх сялян ад прыгоннай залежнасці.

**1862 г.** — будаўніцтва першай чыгункі на тэрыторыі Беларусі.

**1862—1863 гг.** — выданне газеты «Мужыцкая праўда».

**1863—1864 гг.** — паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі.

**1863 г.** — указ Аляксандра II аб спыненні часоваабавязанага становішча сялян у беларускіх губернях.

**1872—1882 гг.** — правядзенне судовай рэформы ў Беларусі.

**1875 г.** — правядзенне гарадской рэформы ў Беларусі.

**1884 г.** — утварэнне беларускімі студэнтамі-народнікамі групы «Гоман».

**1897 г.** — утварэнне Усеагульнага яўрэйскага рабочага саюза ў Літве, Польшчы і Расіі (Бунд).

**1898 г.** — I з’езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП) у Мінску.

**1902 г.** — утварэнне партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў).

**1903 г.** — падзел РСДРП на бальшавікоў і меншавікоў.

**1903 г.** — канчатковае афармленне Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ).

**1905 г., 17 кастрычніка** — Маніфест цара Мікалая II аб увядзенні палітычных свабод і наданні Дзяржаўнай думе заканадаўчых паўнамоцтваў.

**1905 г., 18 кастрычніка** — «Курлоўскі расстрэл» у Мінску.

**1906 г.** — указ аб выхадзе сялян з абшчыны. Пачатак аграрнай рэформы П. А. Сталыпіна.

**1906—1915 гг.** — выданне ў Вільні газеты «Наша ніва».

**1907 г., 3 чэрвеня** — роспуск II Дзяржаўнай думы царом Мікалаем II. Завяршэнне першай расійскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

**1910—1913 гг.** — дзейнасць першага нацыянальнага прафесійнага тэатра пад кіраўніцтвам І. Буйніцкага.

**1911 г.** — увядзенне выбарных земстваў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях.

**1914 г., ліпень (жнівень)** — пачатак Першай сусветнай вайны. Увядзенне ваеннага становішча ў Беларусі.

**1917 г., люты** — звяржэнне самадзяржаўя. Перамога Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі.

**1917 г., сакавік, ліпень** — правядзенне з’ездаў беларускіх нацыянальных арганізацый.

## СІНХРАНІЧНАЯ ТАБЛІЦА

| Еўропа | Беларусь | Расія |
|---|---|---|
| **1772, 1793, 1795 гг.** Падзелы Рэчы Паспалітай | **1772, 1793, 1795 гг.** Падзелы Рэчы Паспалітай, далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імперыі | **1772, 1793, 1795 гг.** Далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імперыі |
| **1799—1815 гг.** Напалеонаўскія войны | **1794 г.** Устанаўленне мяжы яўрэйскай аселасці | |
| **1804 г.** Абвяшчэнне Напалеона Банапарта імператарам Францыі | **1801 г.** Устанаўленне новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ў Беларусі | **1803 г.** Указ Аляксандра I аб «вольных хлебаробах» |
| | **1812 г.** Утварэнне Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага; баявыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі | **1812 г.** Вайна напалеонаўскай Францыі супраць Расійскай імперыі |
| **1814—1815 гг.** Венскі кангрэс. Стварэнне Свяшчэннага саюза Расіі, Аўстрыі, Прусіі | | **1815 г.** Увядзенне Аляксандрам I Канстытуцыі Царства Польскага |
| | **1817, 1820 гг.** Утварэнне таварыстваў філаматаў і філарэтаў | |
| **1821—1829 гг.** Нацыянальна-вызваленчы рух у Грэцыі супраць Турцыі | | **1821—1825 гг.** Дзейнасць дзекабрысцкіх арганізацый |

| Еўропа | Беларусь | Расія |
|---|---|---|
| **1825, 1830 гг.**<br>Адкрыццё першай у свеце чыгункі ў Англіі і пачатак рэгулярнага руху па ёй<br>**1830 г.**<br>Ліпеньская буржуазная рэвалюцыя ў Францыі | | **1825 г.**<br>Паўстанне дзекабрыстаў у Санкт-Пецярбургу |
| **1830—1831 гг.**<br>Паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі | | |
| **1830—1850-я гг.**<br>Чартысцкі рух у Англіі | **1831, 1840 гг.**<br>Скасаванне дзеяння Статута ВКЛ у беларускіх губернях<br>**1839 г.**<br>Далучэнне ўніятаў да Рускай праваслаўнай царквы | **1837 г.**<br>Будаўніцтва першай чыгункі ў Расіі |
| | **1840—1857 гг.**<br>Рэформа П. Д. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы | |
| **1848—1849 гг.**<br>Рэвалюцыі ў Францыі, Італіі, Аўстрыйскай імперыі, Германіі | **1844—1857 гг.**<br>Інвентарная рэформа ў памешчыцкай вёсцы | **1853—1856 гг.**<br>Крымская вайна |
| **1861 г.**<br>Стварэнне адзінага Італьянскага каралеўства | **1861 г.**<br>Адмена прыгоннага права | |
| | **1862 г.**<br>Першая чыгунка ў Беларусі<br>**1862—1863 гг.**<br>Выданне «Мужыцкай праўды» | **1860—1870-я гг.**<br>Судовая, земская, гарадская, ваенная і іншыя буржуазныя рэформы |

<table>
<tr><th>Еўропа</th><th>Беларусь</th><th>Расія</th></tr>
<tr><td colspan="2">1863—1864 гг.<br>Паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі</td><td rowspan="2"></td></tr>
<tr><td rowspan="5">1864 г.<br>Стварэнне I Інтэрнацыянала<br><br>1870 г.<br>Завяршэнне аб’яднання Італіі<br>1870—1871 гг.<br>Аб’яднанне германскіх зямель у адзіную дзяржаву. Абвяшчэнне Германскай імперыі<br>1871 г.<br>Парыжская Камуна<br>1882 г.<br>Стварэнне Траістага саюза<br><br>1889 г.<br>Стварэнне II Інтэрнацыянала<br><br>1904—1907 гг.<br>Стварэнне Антанты</td><td>1863 г.<br>Скасаванне часоваабавязанага становішча беларускіх сялян</td></tr>
<tr><td colspan="2">1870-я гг.<br>Рух рэвалюцыйных народнікаў</td></tr>
<tr><td>1884 г.<br>Утварэнне беларускімі студэнтамі-народнікамі групы «Гоман»<br><br>1897 г.<br>Утварэнне Бунда<br>1898 г.<br>I з’езд РСДРП у Мінску<br>1903 г.<br>Утварэнне БСГ</td><td>1902 г.<br>Утварэнне партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў)<br>1903 г.<br>Падзел РСДРП на бальшавікоў і меншавікоў<br>1904—1905 гг.<br>Руска-японская вайна</td></tr>
<tr><td colspan="2">1905—1907 гг.<br>Першая буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Расійскай імперыі</td></tr>
<tr><td colspan="2">1906 г.<br>Пачатак сталыпінскай аграрнай рэформы</td></tr>
</table>

<table>
<tr><th>Еўропа</th><th>Беларусь</th><th>Расія</th></tr>
<tr><td></td><td>1906—1915 гг.<br>Выданне газеты «Наша ніва»<br>1911 г.<br>Увядзенне земстваў у Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай губернях</td><td></td></tr>
<tr><td colspan="3">1914—1918 гг. — Першая сусветная вайна</td></tr>
<tr><td rowspan="4"></td><td>1914 г.<br>Увядзенне ваеннага становішча ў Беларусі<br>1915 г.<br>Акупацыя германскімі войскамі заходняй часткі Беларусі</td><td></td></tr>
<tr><td colspan="2">Люты 1917 г.<br>Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя</td></tr>
<tr><td>Сакавік, ліпень 1917 г.<br>З’езды беларускіх нацыянальных арганізацый</td><td></td></tr>
<tr><td colspan="2">Жнівень 1917 г.<br>Карнілаўскі мяцеж</td></tr>
</table>

# МЕТАДЫЧНЫЯ ПАРАДЫ

**Як працаваць з тэкстам па метадзе ключавога слова**

1. Прачытайце тэкст і вызначце ў ім ключавое слова, якое з'яўляецца асноўным паняццем.

2. Знайдзіце ў тэксце або пераўтварыце з іншых слоў два прыметнікі, якія характарызуюць ключавое паняцце.

3. Потым адшукайце ў тэксце або пераўтварыце з іншых слоў тры дзеясловы, якія тлумачаць, што адбылося з ключавым паняццем.

4. Складзіце кароткую фразу (5—7 слоў), якая будзе служыць вывадам па змесце вывучаемага матэрыялу.

**Як параўноўваць гістарычныя падзеі**

1. Правесці параўнанне — гэта значыць знайсці адрозненні і вызначыць падабенства.

2. Вызначце прыкметы, па якіх будзеце параўноўваць гістарычныя падзеі, і складзіце план параўнання.

3. Падбярыце факты, якія характарызуюць гістарычныя падзеі па кожным пункце плана, і афарміце параўнанне ў выглядзе табліцы.

| **Прыкметы, па якіх параўноўваюцца падзеі** | **Гістарычныя падзеі** | |
|---|---|---|
| | | |
| | | |

4. Зрабіце вывад аб агульных рысах і адрозненнях гістарычных падзей, якія параўноўваюцца.

**Як праводзіць доказ**

1. Сфармулюйце тэзіс (палажэнне), які будзеце даказваць.

2. Падбярыце гістарычныя факты, з дапамогай якіх будзеце пацвярджаць тэзіс.

3. Лагічна звяжыце гістарычныя факты з тэзісам, які даказваеце.

4. Праверце, ці вычарпаны ўсе факты, неабходныя для доказу.

**Як раскрываць прычынна-выніковыя сувязі паміж гістарычнымі падзеямі**

1. Высветліце, да якога гістарычнага часу адносяцца гістарычныя падзеі і якую гістарычную з'яву яны адлюстроўваюць.

2. Вызначце прыкмету, на падставе якой звязваюцца паміж сабой гістарычныя падзеі. У якасці такой прыкметы можа быць храналагічная або лагічная паслядоўнасць падзей грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага, культурнага жыцця.

3. Лагічна звяжыце паміж сабой гістарычныя падзеі, вызначыўшы, якая з абазначаных гістарычных падзей з'яўляецца прычынай, а якая — вынікам.

**Як вызначаць ролю гістарычнай асобы**

1. Пазнаёмцеся з інфармацыяй аб гістарычнай асобе ў тэксце параграфа.

2. Вызначце, у якіх гістарычных умовах сфарміраваліся погляды і перакананні асобы.

3. Якія метады, сродкі выкарыстоўваліся асобай для дасягнення сваіх мэт?

4. Ахарактарызуйце ўклад, які асоба ўнесла ў гісторыю. Якую яе спадчыну мы выкарыстоўваем у сучасным жыцці?

5. Выкарыстайце рэкамендаваную літаратуру пра жыццёвы шлях і дасягненні гістарычнай асобы.

**Як працаваць з гістарычнай картай (картасхемай)**

1. Вызначце, якой вучэбнай тэме адпавядае назва карты, які гістарычны час яна ахоплівае, якія гістарычныя падзеі адлюстроўвае.

2. Пакажыце на карце месцазнаходжанне гістарычнага аб'екта, які вывучаецца, і свайго населенага пункта.

3. Пазнаёмцеся з легендай да карты, дзе тлумачацца ўмоўныя абазначэнні.

4. «Прачытайце» гістарычную карту з дапамогай легенды і адпаведнай вучэбнай інфармацыі ў вучэбным дапаможніку.

**Як працаваць з гістарычнай ілюстрацыяй, якая ўяўляе сабой загадкавую карцінку**

1. Вызначце, якая гістарычная падзея ці з'ява адлюстравана на малюнку (ілюстрацыі).

2. Адшукайце элементы ілюстрацыі, якія ўяўляюць сабой парадокс (пэўную неадпаведнасць, супрацьлегласць, двухсэнсоўнасць).

3. Растлумачце ўмовы і прычыны, якія прывялі да парадоксу, што адлюстраваны на гістарычнай ілюстрацыі.

4. Выкажыце асабістыя адносіны да гістарычных падзей і іх удзельнікаў, адлюстраваных на ілюстрацыі.

# СПІС РЭКАМЕНДАВАНАЙ ЛІТАРАТУРЫ


**Раздзел I**

Асветнікі зямлі Беларускай, X — пачатак XX ст. : энцыкл. давед.— Мінск, 2006. (Таксама па другім раздзеле.)

*Асіноўскі, С. М.* Поле памяці: Постаці і падзеі беларускай мінуўшчыны / С. М. Асіноўскі.— Мінск, 1999.

*Асіноўскі, С. М.* Там, дзе была Неўрыда / С. М. Асіноўскі.— Мінск, 1996.

*Букчин, С.* К мечам рванулись наши руки: докум. повести / Семен Букчин. — Минск, 1985.

*Букчин, С. В.* Последний год Дениса Фонвизина: повесть / С. В. Букчин. — Минск, 1981.

*Верамейчык, С. I.* Міхал Клеафас Агінскі, 1765—1833: продкі, жыццё ў Залессі, нашчадкі (спроба храналогіі) / С. I. Верамейчык. — Мінск, 2008.

Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах (дакастрычніцкі перыяд) / склад. М. Р. Гнеўка. — Мінск, 1979. (Таксама па другім раздзеле.)

*Грыцкевіч, В.* Шляхі вялі праз Беларусь: нарыс / Валянцін Грыцкевіч, Адам Мальдзіс. — Мінск, 1980.

*Каханоўскі, Г. А.* Адчыніся, таямніца часу: гіст.-літ. нарысы / Г. А. Каханоўскі. — Мінск, 1984.

*Каханоўскі, Г. А.* Руплівец нашай старасветчыны: Яўстах Тышкевіч / Г. А. Каханоўскі. — Мінск, 1992.

*Клаз, И. С.* Потомству в пример: очерки / И. С. Клаз. — Минск, 1978.

Кніга для чытання па гісторыі Беларусі (канец XVIII—1917 г.): 8-ы кл. / аўт.-склад. Н. Я. Новік. — Мінск, 2007. (Таксама па другім раздзеле.)

*Мазинг, Г. Ю.* Березина, год 1812-й / Г. Ю. Мазинг, Л. Ф. Иерусалимчик. — Минск, 1994.

*Марціновіч, А.* У часе прасветленыя твары: гіст. эсэ, нарысы / Алесь Марціновіч. — Мінск, 1999.

*Марціновіч, А.* Хто мы, адкуль мы...: гіст. эсэ, нарысы: у 3 кн. / Алесь Марціновіч. — Мінск, 2008. — Кн. 2, 3. (Таксама па другім раздзеле.)

*Мехаў, У.* Старадаўняя гравюра / У. Мехаў.— Мінск, 1974.

*Мікуліч, Б.* Адвечнае / Б. Мікуліч // Аповесці / Б. Мікуліч. — Мінск, 1985.

Славутыя імёны Бацькаўшчыны: зборнік / уклад. У. Гілепа [і інш.]. — Мінск, 2000.

*Трэпет, Л. В.* Там, дзе гучалі паланезы / Л. В. Трэпет. — Мінск, 1990.

*Шаблюк, В. У.* Двор у Туганавічах / В. У. Шаблюк. — Мінск, 1996.

*Швед, В. В.* Беларускія старонкі гісторыі дзекабрыстаў / В. В. Швед. — Мінск, 1998.

*Якімовіч, А.* Адкуль ліха на свеце / А. Якімовіч // Выбр. тв.: у 2 т. — Мінск, 1967. — Т. 2.

**Раздзел II**

*Віж, М.* Лабірынт / М. Віж. — Мінск, 1991.

*Гроднеў, М.* Пярэдадзень / Мікола Гроднеў // Што скажуць людзі: аповесці / М. Гроднеў. — Мінск, 1975.

*Далідовіч, Г. В.* Гаспадар-камень / Г. В. Далідовіч // Гаспадар-камень: зб. сучас. беларус. прозы. — Мінск, 2011.

*Далідовіч, Г.* Пабуджаныя: раман / Генрых Далідовіч. — Мінск, 1988.

*Караткевіч, У.* Зброя / У. Караткевіч // Зб. тв.: у 8 т. — Мінск, 1989. — Т. 5.

*Караткевіч, У.* Каласы пад сярпом тваім: раман / Уладзімір Караткевіч. — Мінск, 2008.

*Кісялёў, Г.* Паплечнік Каліноўскага / Генадзь Кісялёў. — Мінск, 1976.

*Мальдзіс, А.* Восень пасярод вясны: аповесць, сатканая з гістарычных матэрыялаў і мясцовых паданняў / Адам Мальдзіс // Як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі; Восень пасярод вясны / Адам Мальдзіс. — Мінск, 2009.

*Маўр, Я.* Шлях з цемры / Янка Маўр // Зб. тв.: у 4 т. — Мінск, 1975. — Т. 3.

*Мехаў, У.* Слухаецца справа аб замаху: дакум. нарысы / У. Мехаў. — Мінск, 1972.

*Мядзёлка, П.* Сцежкамі жыцця / Паўліна Мядзёлка. — Мінск, 1974.

*Перкин, Н.* Мальчик из местечка: повесть / Наум Перкин. — Минск, 1981.

*Улашчык, М.* Была такая вёска: гіст.-этнагр. нарыс / Мікола Улашчык. — Мінск, 1989.

*Шамякін, І.* Лёс майго земляка: аповесць / Іван Шамякін. — Мінск, 1970.

*Якімовіч, А.* Канец сервітуту: аповесць / Алесь Якімовіч. — Мінск, 1968.

*Якімовіч, А.* Кастусь Каліноўскі: дакум. аповесць / Алесь Якімовіч. — Мінск, 1971.

# ЗМЕСТ

**Марозава, С. В.**
М28 Гісторыя Беларусі, канец XVIII — пачатак XX ст. : вучэб. дапам. для 9-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / С. В. Марозава, У. А. Сосна, С. В. Паноў ; пад рэд. У. А. Сосны. — 2-е выд., дап. і перагледж. — Мінск : Выд. цэнтр БДУ, 2011. — 199 с. : іл.
ISBN 978-985-476-914-1.

Першае выданне выйшла пад назвай «Гісторыя Беларусі (XIX ст. — 1917 г.)» у 2005 г.

**УДК 94(476)"17/19"(075.3=161.3)**
**ББК 63.3(4Беи)5я721**

Вучэбнае выданне

**Марозава** Святлана Валянцінаўна
**Сосна** Уладзімір Аркадзевіч
**Паноў** Сяргей Веніямінавіч

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ**

**Канец XVIII — пачатак XX ст.**

Вучэбны дапаможнік для 9 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

2-е выданне, дапоўненае і перагледжанае

Галоўны рэдактар *Т. Я. Янчук*
Рэдактар *М. І. Рэмeніца*
Тэхнічны рэдактар *К. У. Раманчык*
Камп'ютарная вёрстка *Н. Я. Бацюковай*
Карэктары *В. М. Іваноў, Н. Б. Кучмель, Т. І. Рыбакова*

Падпісана ў друк XX.07.2011. Фармат 70×90 1/16. Папера афсетная № 1. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 14,62. Ул.-выд. арк. 12,0. Тыраж 27 000 экз. Заказ

У афармленні вокладкі выкарыстаны фрагмент карціны Я. Драздовіча «Мінск. Выгляд Верхняга рынку з Траецкай гары» (1919 г.).

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта».
ЛИ № 02330/0494361 ад 16.03.2009. Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, Мінск.

Вытворчае ўнітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.